# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

## № 3

1925

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

МЕНСК

# ПОЛЫМЯ

**БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ**

Пад рэдакцыяй З. ЖЫЛУНОВІЧА, Я. ЛІМАНОЎСКАГА і І. ШЫПІЛЫ

**№ 3**

**1925**





Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі
МЕНСК — 1925

## НАШЫ СУПРАЦОЎНІКІ:

Александровіч А., Арэшнікаў П., Байкоў М., Баліцкі А., Баравы М., Барашка Іл., Буйло К., Бядуля З. (Ясакар), Бываеўскі Н., Васілеўскі Д., Вольны А., Вольфсон С. проф., Гарбацэвіч В., Гартны Ц., Грамыка М., Гурло А., Гэрчыкаў І. проф., Дзяржынскі Ў., Друшчыц В., Дубоўка Ў., Журба Я., Замоцін І. проф., Зарэцкі М., Зімёнка А., Ігнатоўскі Ў. проф., Колас Я., Купала Я., Каранеўскі Я., Кацэнбогэн С. проф., Круталевіч А., Лёсік Я., Ліманоўскі Я., Маразоўскі М., Моркаўка А., Мялешка М., Някрашэвіч С., Неманскі Я., Нодэль В., Пічэта Ў. проф., Пушча Я., Пятровіч Я., Пятуховіч М. проф., Родзевіч Л., Сербаў І. проф., Смоліч А., Сянькевіч А., Трус П., Харэвіч А., Хэрсонскі Х., Хлябцэвіч Я., Хмарка, Цьвікевіч Я., Чарвякоў А., Чарот М., Чарнушэвіч Н., Чорны К., Шатэрнік М., Шукевіч-Трэцьцякоў Р. і інш.

# ПРОКУРОР

**Тарас Гушча**

I

Рабілася гэта тады, калі ня было ні дроў, ні газы, ні солі, а важныя чыноўнікі сядзелі бяз службы.

Зіма.

Тут можна было-б сказаць, як бушаваў на дварэ вецер, як на вокны з чыста маладняцкім задзёрам пёрся мароз,—ну, адным словам, зрабіць апісаньне на цэлых тры рублі шэсьцьдзесят чатыры капейкі. Але мне хочацца як найскарэй перайсьці да самага „стержня“ (шпяня) справы, а дзеля гэтага я кажу:

— Прападай мае 3 руб. 64 капейкі!

* * *

Міхайла Іванавіч Вядзёркін быў важнаю асобаю: ён быў прокурорам! Што ён быў за прокурор, аб гэтым добра ведаюць тыя, каго абвінавачваў Міхайла Іванавіч на судзе. Ня любіў Міхайла Іванавіч, калі людзі выходзілі з граніц закону, страх як ня любіў!

Пякучы быў прокурор!

Міхайла Іванавіч навальваўся на сваіх ахвяр з усім жарам, з усёю палкасьцю свайго прокурорскага краснамоўства.

„Забыты чэснасьць, забыты прынцыпы моралі, парушаны сьвяшчэнныя правы ўласнасьці!“ грымеў Міхайла Іванавіч.

Мароз прабягаў па скуры падсудных!

А раз адзін з падсудных сялян—судзіліся за аграрныя беспарадкі—тарракануў локцем свайго суседа і шапнуў:

— Гад ён, гад! Каб-жа людзі былі сьвятыя і ня судзіліся, то ты-ж першы з голаду здох-бы: табе-ж бы рабіць тады ня было чаго!

І вось цяпер надышоў на яго гэты час безрабоцьця.

Хіба-ж можна „чэснаму“ чалавеку служыць у гэтых расколаў? Гэта адно, а другое—„яны“ напэўна і на службу ня возьмуць... Да гэтага мала: могуць яшчэ і пасадзіць куды—хіба-ж будуць яны лічыцца з яго высокім станам прокурора.

— Эх, шантрапа

Значыць, самае лепшае, што можна цяпер прыдумаць,—сядзець ціш-ком. Міхайла Іванавіч так і зрабіў. Ён перабраўся ў глухі павятовы гарадок, наняў кватэру і жыве, жыве ў тэй надзеі, што ўся гэтая „каша“

скончыцца, і тады поле яго чыннасьці шырока рассуне свае граніцы, а голас яго, Міхайлы Іванавіча, змоўкшы на некаторы час, загрыміць дванаццацідзюймоваю гарматаю.

Яго можна было прыпадобіць цяпер да таго вандроўніка, якога захапіў у дарозе дождж і які зьвярнуў з дарогі пад куст, каб перачакаць непагоду. Міхайла Іванавіч сядзеў пад сваім кустом храбра і ўпарта, ня гледзячы нават на тое, што цяпер з яго жыцьця былі выкасаваны дваццатнікі, а запасы яго падыходзілі к канцу.

Ну, што-ж? трэба і пацярпець, на тое-ж ён—ахвяра рэволюцыі. Ды жыцьцё не бяз сьветлых момантаў. Нядаўна Міхайла Іванавіч дачуўся, што Карнілаў уцёк з Быхава на Дон з сваімі вернымі тэкінцамі. Гэта паддавала духу Міхайлу Іванавічу, і ён звысака пазіраў на тое жыцьцё, якое стварала рэволюцыя, і на тых, хто кіраваў гэтым жыцьцём, а ў душы пасьмейваўся і думаў:

— Пачакайце вы! Карнілаў на Дон пашоў ня так сабе: вернае прастолу казацтва яшчэ скажа сваё слова. А Карнілаў жартаваць ня любіць.

Міхайла Іванавіч пачынаў думаць аб Карнілавым...

Не, сам лёс прызначыў яго выканаць вялікае прызначэньне! Сьмелы, храбры, ён уцякае з аўстрыяцкага палону, куды папаў ранены, праходзіць пяхотай палавіну Аўстрыі, робіцца зноў баявым гэнэралам, камандуе корпусам, потым арміяй, потым становіцца на чале ўсяе арміі, ідзе за Керанскага, але гэты віхляй, бязвольнік, сабачы хвост, не падтрымаў сьмелага чалавека ў патрэбную часіну, сам зьляцеў—туды яму і дарога,—а Карнілаў пападае пад стражу ў Быхаў. І вось ён цяпер уцёк адтуль!..

Адным словам, Карнілаў—гэта той чалавек, якога чакае Расія, які і можа выратаваць яе з бальшавіцкай няволі.

Міхайлу Іванавічу ўспомніўся несьмяртэльны Пушкін і яго словы:

Он нам твердит о той године,
Когда народной веры глас
Воззвал к святой твоей седине:
„Иди спасай!" ты встал и спас!

У Міхайлы Іванавіча выступаюць сьлёзы ўміленьня. Яму робіцца цёпла на душы ад гэтых думак; яму хочацца з кім-небудзь падзяліцца гэтымі думкамі, пагаманіць аб значэньні гэтага факту. А жонцы ён нават сказаў:

— Эх, Аксаначка! шкода, што не салдат: пашоў-бы я ў рады Карнілава.

— Ну, дзе-ж гэта відана, Міша, каб прокурор з карабінам хадзіў?

— Не, каб я ўмеў ваяваць, то я няіменна пашоў-бы,—стаяў Міхайла Іванавіч на сваім, у той-жа час вельмі рады, што ён не салдат.

Міхайла Іванавіч ідзе на вуліцу, на самую глаўную вуліцу г. N.

Праходзіць праз плошчу.

Яна пустая.

Сям-там каля падвалаў стаяць сялянскія хурманкі. На вазох ляжаць мяшкі, ні то з бульбаю, ні то з зярном. Міхайла Іванавіч глядзіць на крамы—зачынены наглуха. Усё як-бы вымерла. Дзервяныя будачкі-крамкі абязьлюдзелі. Дзе-ні-дзе прашнуруе каля іх маркотная постаць спэкулянта і прыпыніцца. Як на дарагую магілу, прышоў ён сюды, каб пасмуткаваць аб сваёй гандлярскай долі і аддацца ўспамінкам аб мінулым росквіце свайго жыцьця.

Душа Міхайлы Іванавіча агортваецца нейкім лірычным настроем. Яму хочацца выказаць спачуваньне гэтаму чалавеку—і яго пакрыўдзілі ўсё тыя-ж бальшавікі. Але ён стрымлівае высокае парываньне свае душы. Ён у сваім часе адмеціць гэты штрышок у сваёй прамове, калі будзе граміць гэтых адшчапенцаў.

Мінуўшы плошчу, Міхайла Іванавіч выходзіць на вуліцу.

Будынак былага земства.

Цяпер у ім другія гаспадары. Тут месьцяцца розныя камісарыяты. Каля будынку таўкуцца людзі. Лузгаюць семячкі, спрытна выкідаюць лупінкі і ні на кога не зварачаюць увагі. Нехта нават ухітрыўся стрэльнуць лупінкаю ў нос Міхайлы Іванавіча. Але гэта вышлася проста так, бяз удзелу злой волі. Сьцены знадворку ўвешаны рознымі плякатамі, лёзунгамі, дэкрэтамі, прадпісаньнямі, загадамі. На гэтых сьценах рэволюцыя піша сваю волю.

Кідаецца ў вочы загад аб мобілізацыі.

„Эгэ,“ думае Міхайла Іванавіч: „ці не Карнілаў ужо вам холаду нагнаў?“

Міхайла Іванавіч ідзе далей, прыглядаецца сваім прокурорскім вокам на ўсё, што выходзіць з асадак законнасьці і парадку.

Перад ім доўгі хвост, загнуты адным канцом на вуліцу. Насустрэч адтуль ідзе стары. Профэсію яго вызначыць трудна. Ідзе ломанаю, нямоцнаю паходкаю, ногі пастаўлены праўцом, як-бы ім абрыдла згінацца за часы свае хады. У ваднэй руцэ хлеб, у другой кацялок з нейкаю страваю.

Стары робіць маленькія крочкі, чуць суне ногі. Ён аступаецца, хлеб вывальваецца на тротуар і рассыпаецца на дробныя кавалачкі. Стары спыняецца, пазірае на хлеб, нешта шамкае губамі, трасе галавою і сярдзіта сунецца далей.

Міхайла Іванавіч зварачае з тротуару, каб абыйсьці хвост. Гарадзкая галота зьбілася каля сталоўкі з кацялкамі, збанамі і вёдрамі.

„Вось яна, комуністычная кулінарыя!“ зьняважліва зазначае сам сабе Міхайла Іванавіч.

Дашоўшы да канца кварталу, Міхайла Іванавіч прыпыніўся. Тое, што ён тут убачыў, яго і пазабавіла і разьвесяліла.

На дашчанай агарожы было абабрана месца, дзе вывешвалі розныя абвесткі. Паміж другіх дэкрэтаў і загадаў таксама быў наклеен загад аб

мобілізацыі. З суседняга двара выходзіць каза і такім-жа ўважлівым поглядам, як і Міхайла Іванавіч, аглядае вуліцы. Яна зьнюхала клей, падышла да абвестак і, стаўшы „дубка“ і ўпёршыся пярэднімі нагамі ў агарожу, зьдзірае зубамі „мобілізацыю“ і есьць кускі паперы разам з клеем, есьць, відаць, з вялікім смакам, аж барада яе трасецца.

Міхайла Іванавіч пускае сьмех у свае пышныя прокурорскія вусы. Будзе яшчэ адна тэма для сьмеху. А як пасьмяецца а. Мікалай, калі расказаць яму пра казу і мобілізацыю!

У добрым гумары Міхайла Іванавіч павярнуў налева. Недалёка, каля цэркві прарока Ільлі, стаяў дом а. Мікалая.

Адзін толькі дробны выпадак папсаваў добры настрой Міхайлы Іванавіча. Каза так усьцешыла яго, што ён дастаў папяросу і закурыў. Але не пасьпеў зацягнуцца разоў пару, як да яго падышоў нейкі невядомы „пролетар“.

— Дазволь, таварыш, прыкурыць,—прамовіў ён і нарыхтаваўся прыкурваць.

Міхайла Іванавіч зьмерыў яго з ног да галавы грозным прокурорскім вокам.

— Я з табою красьці не хадзіў. Па якому праву называеш мяне таварышам?

Сустрэчны не спасаваў. Ён у сваю чаргу акінуў поглядам прокурора.

— А ты, што-ж? больш любіш красьці адзін? злодзей-ідывідуалісты?

Іш, ты, буржуяцкая морда!

На гэтым і скончылася іх спатканьне.

II

А. Мікалай сядзеў, як кажуць, павесіўшы нос на квінту. Невясёлая была і „матушка“ Кацярына Пятроўна. Можна было падумаць, што яны пасварыліся. Але ўсяму гораду было вядома, што жылі яны згодна.

У чым-жа прычына?

Прычына была такая.

Не далей, як тры гадзіны таму назад, да іх зашоў квартальны Сівалдайкін. З ім было яшчэ чалавек два невядомых асоб у шэрых шынэлях. Прышоў і рэквізаваў мяккую мэблю ў а. Мікалая.

Вось гэтая рэквізыцыя і была прычынаю засмучэньня а. Мікалая і „матушкі“ Кацярыны Пятроўны.

А. Мікалай сядзеў некаторы час у глыбокім разважаньні і ў смутку. Але ён успомніў многапакутніка Іова, запакоіўся і сказаў:

— Што тужыць, маці? Бог даў, бог і ўзяў.

— Даць то бог даў, а забраў Сівалдайкін,—паправіла яго матушка.

А. Мікалай не захацеў заставацца ў даўгу і заўважыў:

— Госпадзь і Сівалдайкіных абірае прыладаю свае кары.

Процій гэтага матушка не знашла чаго сказаць, дый казаць ня бы-

ло калі: у дзьверы нехта пастукаў. А. Мікалай пашоў адчыняць, але на ўсякі выпадак запытаўся.

— Хто?

— Міхайла Іванавіч, — пачулася з-за дзьвярэй. Твар а. Мікалая прасьвятлеўся.

— Ах, гэта вы!—і борзьдзенька адчыніў дзьверы.

Міхайла Іванавіч галантна пакланіўся. Здароўкаючыся з матушкаю, мяльнуў, як певень, нагою і пацалаваў у руку.

— Ах, Міхайла Іванавіч, я да таго знэрвавалася, што кожны стук у дзьверы змушае мяне трасьціся і дрыжаць.

— І ня дзіва, паважаная Кацярына Пятроўна: мы перажываем час находу гунаў, батыевай арды, Тамэрлана і ўсяго ў гэтым родзе. Расьперазаўся ніз, наверх усплыў Сахалін. Законнасьці няма. Капралам можа быць усякі, хто возьме палку, хто не палянуецца яе ўзяць.

— Праўду вы кажаце, Міхайла Іванавіч,—згадзілася матушка:—ня толькі законнасьці, сумленьня няма ў людзей, няма ў сэрцы бога.

— Божае папушчэньне, яго сьвятое праізваленьне: у гневе справядлівым карае ён народ,—панура і ў той-жа час пакорліва прамовіў а. Мікалай.

— Мой бацька за апошнія часы зусім галаву страціў: ён гатоў з усім і з усімі пагадзіцца,—з ноткаю нездаваленьня прамовіла матушка.

— Я толькі застаюся хрысьціянінам,—адказаў а. Мікалай:—„Ашчэ хто захошчат судзіціся з табою і ўзяць ад цябе верхнюю адзежу, аддай яму і ніжнюю“.

— Да ўжо-ж аддаў Сівалдайкіну мяккую мэблю, чаго-ж болей?

— Я не аддаваў: ён сам забраў яе... І кінь ты, маці, гаманіць аб гэтым! Людзі яшчэ і ня гэтае трацяць.

А. Мікалай забарабаніў пальцамі па стале і сядзеў панурыўшыся.

— Я дзіўлюся перамене вашых поглядаў, а. Мікалай,—сказаў Міхайла Іванавіч:—і няўжо-ж вы можаце пагадзіцца з цяперашняю ўладаю? Няўжо вы будзеце „возносіць“ за яе малітвы госпаду богу?

— Па доўгу і абавязку хрысьціяніна я павінен за яе маліцца, бо ў сьвятым пісаньні сказана: любеце ворагаў вашых, рабеце дабро тым, хто вас ненавідзіць. І далей: усякая ўлада ад бога, і няма ўлады, якая-б была не ад бога.

— Ну, а. Мікалай, вы проста сталі маладушным: як-жа можна маліцца за тых, хто „папірае“ нагамі сьвятыні? Маліцца за тых, хто ўрываецца ў ваш дом і забірае ваш набытак?.. А вы ведаеце, што Карнілаў са сваімі вернымі тэкінцамі на Дон уцёк? Вы ведаеце, што ён там зьбірае казацкія палкі? Вы ведаеце, што вакол яго гуртуюцца афіцэры?

А. Мікалай раптам павесялеў.

— Яно, разумеецца, маліцца за сваіх ворагаў цяжкавата: маліцца тады, калі не ляжыць да гэтага сэрца... І вы напэўна ведаеце, што Карнілаў на Доне?

— Да ўжо і бальшавікі ў сваіх газэтах паведамляюць аб гэтым. Мобілізацыю абвясьцілі!

А. Мікалай высока ўскінуў шырокім рукавом і моцна стукнуў сябе па калене.

— Вось маладзец! Вось гэрой! Агонь гэнэрал! За яго я з ахвоткаю памалюся.

А. Мікалай перахрысьціўся і благаславіў крыжам Карнілава, абярнуўшыся тварам у бок Дону, хоць гэты Дон быў за тысячу вёрст адгэтуль.

— Памажы табе божа і сьвятыя ўгоднікі! „Сим победиши!“

А потым, крута зьмяніўшы малітвенны тон, а. Мікалай павярнуўся ў другі бок, патрос кулаком і сказаў:

— А ты, Сівалдайкін, вернеш—сам прынясеш мне мяккія крэслы!

І весела зарагатаў...

Кароткі зімні дзень ахінаўся мрокам, саступаючы месца ночы. У дамох не хваталіся запальваць агні, бо паліць ня было чаго. Лямпы даўно стаялі без ужываньня, іх замянялі самадзелкавыя кураўкі рознай конструкцыі. А. Мікалай таксама змайстраваў сабе такую газовачку. Гэта была досыць прыгожая бутэлечка ад матушкіных духоў. У бутэлечку быў усунут корачак, а праз гэты корак прапушчана бляшаная трубка з кноцікам. Але трэба было сядзець вельмі спакойна, бо варт было толькі чуць-чуць чмыхнуць носам, каб патушыць гэтую газовачку. Звычайна-ж а. Мікалай карыстаўся асьвятленьнем пад абразамі. Гэта было таней і богу прыямней. Масла-ж можна было запазычыць у цэркві, пакрыўдзіўшы каго-небудзь з угоднікаў. Цяпер а. Мікалай успомніў, што Фядос Чарнігаўскі вось ужо з месяц, як пазірае ў пустую лампадку.

А. Мікалай падняўся.

— Возжэм сьвяцільнік госпаду богу,—прамовіў ён і запаліў лампадку.

Міхайла Іванавіч пры гэтым заўважыў:

— А ведаеце—прыемна гэтае асьвятленьне: яно ўлівае нейкі спакой і мір у тваю душу... Як гэта сказана ў поэтаў?

Міхайла Іванавіч так і ня прыпомніў, як казалі поэты: на парозе зьявілася новая фігура. Гэта быў настаўнік з прыходзкай школы. Школа яшчэ нядаўна была пад загадам а. Мікалая. Настаўнік быў яшчэ досыць малады чалавек, гадоў пад трыццаць, з доўгімі валасамі, у пільчаку з пацёртымі локцямі, у ботах з задзёртымі, як палазы, насамі. Ён увашоў незаметна праз кухню, спыніўся на парозе, момант пастаяў моўчкі, потым нізка пакланіўся гаспадаром і госьцю і сказаў громка, выразна і важна:

— Чмак!

Сказаў і не парушыўся з месца, чакаючы, якое ўражаньне зробіць яго „чмак“.

— Што вы сказалі, Андрэй Мартынавіч?—спытала яго матушка.

— Чмак!—паўтарыў Андрэй Мартынавіч, а потым растлумачыў:

— Чмак у перакладзе на мову сучаснасьці азначае: чэсьць маю кланяцца!

Матушка звонка засьмяялася, а бацька толькі зьлёгка расхіліў свае валасатыя губы.

— А ведаеце,—зьвярнуўся да ўсіх Андрэй Мартынавіч,—як называемся мы, школьныя работнікі?

— А як, як?—пацікавілася матушка.

— Шкрабы.

— Гэта нешта на манер „швабры“,—заўважыў Міхайла Іванавіч.

— Іменна „швабры“,—падхапіў а. Мікалай, і жывот яго закалыхаўся ад сьмеху.

— Вось камэдыянты!—зласьмешна прамовіў Міхайла Іванавіч:—ня ведаюць ужо, што рабіць, дык давай крывіць мову!

— О, не, Міхайла Іванавіч,—адказаў Андрэй Мартынавіч:—ведаюць яны, добра ведаюць, што робяць, і, трэба аддаць ім справядлівасьць, робяць начыстую і гладка.

— А як вы палагаеце: у гэтай рабоце ёсьць які-небудзь сэнс?—спытаў Міхайла Іванавіч.

— Вядома, ёсьць. Чым, напрыклад, кепска разьвязана зямельнае пытаньне? Царскія міністры думалі-думалі над гэтым, лысымі парабіліся ад гэтых думак, покі іх, як няздольных, вон павыганялі. А бальшавікі разьвязалі гэтае пытаньне адным махам і аддалі ўсю зямлю мужыком і баста. Пан на зямлі не працуе, а працуе мужык, дык няхай і будзе мужыцкая зямля. Проста і разумна. Затым—даўней былі ў дзяржаве прывілеі пэўных станаў, цяпер іх няма: усе станы роўны. А гэта чым кепска? А ўзяць хоць-бы школу: школа зроблена даступная для ўсіх, ліквідуецца няпісьменнасьць... Адным словам, пракладаецца шырокая дарога для вольнага жыцьця, а калі часамі гэтая дарога ня зусім гладкая, дык тут не яны, можа, вінаваты.

— Аднак, вы пачынаеце прасякацца ідэямі бальшавізму,—едка сказаў Міхайла Іванавіч.

— А гэта толькі сьведчыць аб тым, што ідэі бальшавізму маюць моцную жыцьцёвую сілу, бо імі прасякнут народ у сваёй большасьці—у гэтым іх сіла. І вы глядзеце: колькі ні рабілася патуг скінуць бальшавізм, нічога ня вышла—яны ўсё скідаюць з свае дарогі, ідуць далей, ідуць і мацнеюць.

— Ну, а як павашаму,—уставіла слова матушка:—добра яны робяць, што абразы выкідаюць са школы?

— А што-ж тут кепскага? Раз яны ім непатрэбны, дык і выкідаюць.

— Вы яшчэ не запісаліся ў бальшавікі?—спытаў настаўніка Міхайла Іванавіч.

— Не, не запісаўся.

— Чаму? вы-ж зусім развважаеце пабальшавіцку.

— Паразважалі-б вы ў мяне так год таму назад,—сказаў а. Мікалай, нахмурыўшы бровы.

— Год назад былі праклятыя буржуазныя часы,—агрызнуўся Андрэй Мартынавіч.

Ён любіў часамі падражніць а. Мікалая і прокурора. Ён гаварыў то жартліва, то сур'ёзна, але трудна было сказаць, наколькі ўсё гэта гаварылася шчыра.

— Вось мы тут судзім бальшавікоў,—кажа Андрэй Мартынавіч:— у нас тут ёсьць прокурор, ёсьць адвакат і судзьдзі, няма толькі самога падсуднага—няма бальшавіка сярод нас.

— Да вы-ж бальшавік,—кінула матушка:—на што-ж лепей. Вы знаходзіце, што яны разумна робяць, выкідаючы абразы са школы.

— І робяць грабества, якое яны называюць рэквізыцыяй,—буркнуў Міхайла Іванавіч.

— Не, я не бальшавік, я нават, калі хочаце, іх і не бараню: я самы звычайны рэгістратар фактаў і кажу, калі-б тут быў сапраўдны бальшавік, то ён давёў-бы нам, што не яго трэба судзіць, а вас, а так, таварышы, ні да чога мы не дагаворымся.

— Сівалдайкін вы і больш нічога,—сказаў а. Мікалай.

А Міхайла Іванавіч рукамі замахаў і вушы заткнуў.

— На міласьць бога, не кажэце мне гэтага ненавіснага слова!

— Да вы-ж самі, Міхайла Іванавіч, былі некалі таварышам... прокурора. І чым кепскае слова „таварыш?“ Не, таварышы: дарма вы накідаецеся на бальшавікоў. Яны энэргічны, упарты, паступовы. Іх толькі можна паважаць, у іх трэба вучыцца. І за гэта за ўсё я кажу:

— Няхай жывуць бальшавікі!

А. Мікалай нахмурыўся, але з хрысьціянскаю пакорлівасьцю, уздыхнуўшы, прамовіў:

— Няхай жывуць... покі жывецца.

Міхайла Іванавіч сярдзіта пакусваў вус.

— Ха-ха-ха!—зарагатаў настаўнік.— А. Мікалай! што-б вы мне на гэта сказалі, ну, год таму назад? А вы, Міхайла Іванавіч, якую стацьцю закону падвялі-бы мне? А цяпер, вось бачыце—я з вамі спакойна разважаю і нічога не баюся... Вось у чым моц бальшавікоў.

— І ў гэтым трагізм нашага полажэньня,—панура прамовіў Міхайла Іванавіч.

— А хто вам вінаваты ў гэтым трагізьме? Чаго-ж перціся проціў ражна? Ну, чаму-ж бы вам не перайсьці на службу да бальшавікоў. Прыймаюць-жа яны і непартыйных, абы толькі чэсна служылі. На вашым месцы

я напісаў-бы ліст да камісара юстыціі Стучкі. Так і так. Я быў прокурорам і хачу па сваёй спэцыяльнасьці юрыстага служыць у вас. І будзьце пэўны—прыняў-бы вас.

— Ну, свае дарады палажэцэ ў сваю кішэню,—сурова прамовіў Міхайла Іванавіч.

III

Міхайла Іванавіч ня ў гуморы.

Прычына—Андрэй Мартынавіч.

Тфу! каб што людзкае, а то—„шкраб!“

Хоць адно да добрае слова прыдумалі бальшавікі.

Слова „шкраб“ гэта—першы пункт, на якім Міхайла Іванавіч згадзіўся з бальшавікамі. І вось гэты самы „шкраб“ чытае яму нотацыю—яму, прокурору, перад якім яшчэ нядаўна дрыжала гэтая драбяза! І яшчэ дараду дае,—пісаць пісьмо да Стучкі!

Проста—нагласьць!

Міхайла Іванавіч прашоўся па пакоіку.

Холадна.

Цёмны вечар насоўваецца з усіх шчылін. Ён воража заглядае ў вокны, хоць праз іх нічога ня ўбачыш: шыбы густа-шчыльна засьнежаны марозам.

Холадна, няміласэрна холадна.

Міхайла Іванавіч падышоў да печы і прылажыў руку. Даўно прапаленая печ і прапаленая „лёгка“, настыла, як жалеза.

— Тфу ты, чорт! Мазгі скора замерзнуць,—прамовіў Міхайла Іванавіч і засунуў рукі ў рукавы пацёртага паліта.

А тут яшчэ жонка больш паддала стравы гэтаму і без таго няпрыемнаму настрою.

— Ты ведаеш, Мішанька, у нас вугалькі вышлі. Ужо ня ведаю, як і самавар наставіць.

Ксеня Паўлаўна, адзетая ў забракованую ёю кофту і ў хустцы, мела выгляд далёка ня тэй дамы, якая калісь вальсавала ў салі дваранскага сабраньня.

Міхайла Іванавіч маўчаў.

— Чым ты гэтак засмучаны, Міша?

— Да так, ведаеш... ня жыцьцё, а проста нейкае зоолёгічнае гібеньне.

— Ах, якое ты добрае, трапнае слова сказаў, Міша! іменна зоолёгічнае гібеньне!

Калі Міхайла Іванавіч быў ня ў гуморы, то Ксеня Паўлаўна прыймала ўсе меры, каб вярнуць мужу спакой душы і адагнаць яго ліхія думкі.

Міхайла Іванавіч ведаў гэтую асаблівасьць свае жонкі. Ён нават сумыслу паглыбляў свой пэсымізм, сваю панурасьць, проста пачынаў ку-

ражыцца, абы толькі жонка разважала яго, бо яму было прыемна паслухаць, што ён за чалавек.

— Вось вам плады захапленьня вольнадумствам: да чаго яны давялі!.. Праўду казаў а. Мікалай: мы пераходзім у зьвярыны стан, і можа настаць той час, калі мы на чатырох пабяжым у лес і начнём выць і гаўкаць. Бывала на сабраньнях, на банкетах вяліся гутаркі аб мастацтве, аб музыцы, поэзіі, літаратуры. А цяпер толькі й чуеш што пайкі, газа, дровы... Тфу ты, чорт вазьмі! Панастаяшчаму—пусьціць-бы сабе кулю ў лоб і—баста!

— Ну, што ты, Міша, гаворыш? хоць-бы ты мянё пажалеў. Ці прыстала табе так гаварыць, табе, прокурору Вядзёркіну, таму Вядзёркіну, пры паяўленьні якога шапталі дамы: „Вядзёркін! Вядзёркін! наш судовы златавусты!“

Ксеня Паўлаўна ўсьміхнулася хітра і многазначна.

Міхайла Іванавіч незаметна паставіў вышэй вус, але не крануўся гэтымі словамі.

— Я ведаю, Аксана, што я табе прычыняю боль, але-ж зразумей і ты мяне, зразумей маю кіпучую натуру: я не магу глядзець на ўсё спакойна, не магу спакойна перанасіць, як гіне вялікая Расія, і лепш самагубства, чым гэтае гіненьне дзяржавы, гэтае зоолёгічнае гібеньне. Лепш сыйсьці са сцэны, як сказана ў Лермантава:

Не кинувшы векам ни мысли плодовитой,
Ни гением начатого труда!

— Мне здаецца, Міша, рана яшчэ рабіць такія вывады: усё можа зьмяніцца, зьмяніцца ў лепшы бок.

— Ну, гэта, друг ты мой, віламі на вадзе пісана,—панура адказаў Міхайла Іванавіч, хоць сам і верыў у гэтую „добрую“ зьмену,—зараза бальшавізму глыбока пусьціла сваё карэньне. З кожным днём гэтая зараза шырыцца, захапляе ўсё больш і глыбей станы грамадзянства.

— Ну, Міша, ты ўсё перабаршчаеш. Зусім гэта ня так, як ты мысьліш: пераважная большасьць інтэлігэнцыі, гарадзкога насяленьня ды напэўна і большасьць сялянства не на іх старане... І я ня люблю, Міша, калі ты гаворыш тое, у што ты ня верыш. Я стараюся, з усіх сіл б'юся, каб перажыць гэтае ліхалецьце. Я адпусьціла прыслугу, сама ўходжваюся, мыю падлогу, сама хаджу на рынак. А ты ныеш, гаворыш нямаведама што і толькі растройваеш мяне.

Ксеня Паўлаўна ўзяла ды заплакала.

Гэта быў яе апошні козыр, свайго роду цяжкая артылерыя, якая звычайна разьбівала няпрыступныя позыцыі Міхайлы Іванавіча.

Так і цяпер. Фронт Міхайлы Іванавіча захістаўся.

Ролі мяняліся.

Міхайла Іванавіч уцяшаў жонку. Праўда, прыступаў ён да ролі суцяшальніка ня зразу. Даўшы Ксені Паўлаўне некаторы час паплакаць і

зрабіўшы некалькі паваротаў, ён ціха падыходзіў да жонкі і клаў на яе галаву руку.

— Аксаначка! ня плач, мілая... Ну кінь!

Ксеня Паўлаўна адхіляла руку Міхайлы Іванавіча і яшчэ плакала, плакала ціха, як плача праўдзівае гора.

Міхайла Іванавіч глыбока ўздыхаў, каб паказаць, як блізка прыймае ён да сэрца жончыны сьлёзы, і моўчкі рабіў яшчэ некалькі рэйсаў па пакоіку і потым зноў падыходзіў да Ксені Паўлаўны.

— Ну, ня плач, мілая. Ты-ж ведаеш мой характар... Ну, вядома, я многа чаго сказаў непатрэбнага. Я, разумеецца, ня веру ў сур'ёзнасьць таго, што я сказаў—ты правільна заўважыла; можа быць, тут проста адгукнулася мая прокурорская прывычка—даваць волю языку. І ты добра ведаеш, Аксаначка, што калі мой язык і ляпне што часамі, то гэта толькі справа языка, а ня сэрца... Ну—ня гневайся, Аксанюсенька мая!

Ксеня Паўлаўна ўжо не адхіляла рукі Міхайлы Іванавіча і шляхам пэўных сямейных мэтодаў непаразуменьне згладжвалася, адганялася.

Ксеня Паўлаўна і Міхайла Іванавіч больш рэальна пераходзяць да разгляду свае экономікі, і тое, што выявілася на гэтым разглядзе-рэвізіі іх дабрабыту, прышыбла Міхайлу Іванавіча. Нават Карнілаў з яго вернымі тэкінцамі адышоў цяпер на задні плян.

І невядома, па якіх ужо законах псыхолёгіі ў вушох Міхайлы Іванавіча завярцеўся мотыў рамансу:

„Забыты нежные лобзанья“.

Так, палажэньне было цяжкае. На дварэ крапілі маразы, а дроў ня было. Ня было ў запасе хлеба, мукі, солі. І самае важнае—ня было за што дастаць усяго гэтага. Затым—і дастаць было трудна. Трэба было мець, у дадатак да ўсяго, і пэўны спрыт, каб дастаць нават за грошы.

Да і грошы, трэба сказаць, у гэты час ня мелі цаны, і імі мала хто цікавіўся.

Усякія гандлёвыя справы засноўваліся на мене. Горад нёс у вёску адзежу, каб выменяць яе на бульбу або той ці іншы сялянскі продукт. Гэта быў той час, калі старыя дзяды ў сёлах, лежачы на печы і філёзофічна сынтэзуючы праявы жыцьця, казалі:

— Ага! прышоў такі бот пакланіцца нашаму лапцю.

Цяжкія былі часы!

— Як-жа быць?—упалым голасам спытаў Міхайла Іванавіч.

— Ужо і ня ведаю, Міша,—азвалася Ксеня Паўлаўна:—ты—мужчына, і ты гэта павінен лепей ведаць.

Міхайла Іванавіч успамінаў, што і праўда ён—мужчына. А калі так, то трэба-ж праявіць свой мужчынскі розум. Але як ні тужыўся Міхайла Іванавіч, нічога добрага прыдумаць ня мог. Урэшце ён сказаў:

— А ведаеш, Аксана: каб мне сказалі падвесьці пад стацьцю закону гэтага самага „шкраба“, то я гэта жыва зрабіў-бы, а вось тут нічога пуцёвага прыдумаць не магу.

Прашоўся па пакоіку і, павярнуўшыся назад, ён раптам стукнуў сябе па лбе і шпарка падышоў да Ксені Паўлаўны.

— Гэніяльная мысьль!—у захапленьні прамовіў Міхайла Іванавіч:— давай-ка разгледзім мой гардэроб. Здаецца, у мяне сёе-тое знойдзецца.

— Мысьль, палсжым, далёка не гэніяльная, і я аб гэтым і сама думала.

— Ты ня хочаш уступіць мне гонару пяршынства,—весела сказаў Міхайла Іванавіч:—ну, няхай будзе патвойму.

Запалілі сьвечку і сталі перабіраць гарнітуры Міхайлы Іванавіча. Запас іх аказаўся досыць вялікім, што паслужыла прычынаю вясёлага настрою Міхайлы Іванавіча, і ён нават пажартаваў:

— У Эўропе быў толькі адзін чалавек, што мог паспрачацца ў багацьці гарнітураў са мною: гэта—кароль Англіі, Эдуард VII.

Гэты перагляд гардэробу быў да некаторай ступені чытаньнем гісторыі самога Міхайлы Іванавіча, і гэтае „чытаньне“ зацікавіла яго і Ксеню Паўлаўну, бо яно жыва напомніла ім малюнак пражытага жыцьця.

— Ты глядзі, яшчэ захаваўся мой кандыдацкі пільчак!

Міхайла Іванавіч падняў за каўнер кандыдацкі пільчак, патрос яго і прадэклямаваў:

„Были когда то и мы рысаками!“

Так, студэнтам быў... Шчасьлівыя студэнцкія часы!

От зари до зари,
Лиш зажгут фонари,
Вереницей студенты
Шатаются!

А цяпер, мой друг, ты пойдзеш на базар жыцьцёвай суяты!

І, як ахвяру жыцьцёвай суяты, адкінуў яго ў бок.

— А гэта вот—„жылетка“ (камзэлька), калі я быў членам акружнага суда.

І „жылетка“ паляцела ў адну кучу з кандыдацкім пільчаком.

— А гэта... ну, гэта свайго роду музэйная рэдкасьць. У гэтым сурдуце я пазнаёміўся з табою, Аксаша. У Вільні гэта было; у магазыне Залкінда з Пятром Антонавічам набіралі. Добрая матэрыя, і лепшыя віленскія краўцы яго шылі.

Сурдут абудзіў у памяці Міхайлы Іванавіча і Ксені Паўлаўны лепшыя романтычныя ўспаміны, і калі Міхайла Іванавіч намерыўся кінуць сурдут у кампанію з кандыдацкім пільчаком і камзэлькаю, то Ксеня Паўлаўна запротэставала і палажыла яго ў болей пачэснае месца.

Гардэроб быў разгледжан, меней патрэбнае было адабрана.

Аставалася толькі рэалізаваць усё гэта ў продуктах.

Тэхнічную работу па гэтай рэалізацыі ўзяла на сябе Ксеня Паўлаўна; Міхайла Іванавіч абмежаваўся толькі тым, што даў дараду зьвярнуцца да матушкі Кацярыны Пятроўны. Такім парадкам, чорныя хмары, што былі зьвісьлі над іх галовамі, былі адагнаны, і толькі шпага Міхайлы Іванавіча выклікала пэўныя разважаньні. Тут ужо пытаньне стаяла ў другой плошчы, пытаньне больш этычнага, чым практычнага характару, бо за гэтую шпагу, калі цьвяроза паглядзець, у вёсцы не дадуць і гнілой бульбы

IV

Прашоў год часу, год напружанага змаганьня рэволюцыі з контррэволюцыяй. А Міхайла Іванавіч усё яшчэ сядзеў пад сваім кустом. Ён не хацеў зразумець тых праяў, якія адбываліся на яго вачох.

Карнілаў пакрасаваўся нядоўга: дзесь на Кубані ў баю з бальшавікамі ён быў забіт. Каледзін застрэліўся сам. Быў Скорападзкі, ды скора паў. Прыходзілі немцы—іх прагналі. Уцякалі з Адэсы французы. Біліся бальшавікі, біліся, ня маючы гэнэралаў, і мелі бясспрэчны пасьпех. Падымаліся бунты—іх зараз-жа ліквідавалі. Сяляне падзялілі землі, падзялілі спакойна і не пабіліся. А Міхайла Іванавіч, прызнацца, пакладаў надзеі на сялянскую калатню за панскія землі. Прыходзілася прызнаць, хоць і не хацелася прызнаваць гэтага, што „шкраб“ Андрэй Мартынавіч казаў праўду: ідэі бальшавізму пашлі шырока ў народ. Але некаторыя козыры былі яшчэ ў думках Міхайлы Іванавіча: дзесь на далёкім усходзе і на поўдні вынікалі крывавыя цені контр-рэволюцыі: Калчака, Дзянікіна. Міхайла Іванавіч ня траціў яшчэ надзеі. Новае жыцьцё білася навокала яго, чулася ўпартая воля гэтага жыцьця, але Міхайла Іванавіч закрываў вочы на яго і з вышыні ўсё яшчэ свайго прокурорства пазіраў на яго зьняважліва.

Прышла другая зіма, марозная, сьнежная.

Міхайла Іванавіч схаваў на ўсякі выпадак у больш патайное месца сваю шпагу. Сурдут, ня гледзячы на яго романтычную прошласьць, прышлося вынесьці „на базар жыцьцёвай суяты“. Жыць станавілася цяжэй. Дасьціпныя бальшавікі пралазілі ўсюды, а іх анкеты не давалі жыць спакойна. Не абмінулі анкеты і Міхайлы Іванавіча, хоць ён і на службеня быў.

Запаўняючы анкеты, Міхайла Іванавіч сьвядома пісаў няпраўду, тую няпраўду, за якую так заядла накідаўся калісь на сваіх ахвяр.

Як-бы там ні было, а Міхайла Іванавіч быў ужо далёка ня тым прокурорам, якім яшчэ быў год таму назад. Вусы яго павысякаліся, грознасьці бадай што зусім не заўважвалася, адным словам, Міхайла Іванавіч набываў від і постаць звычайнага „савецкага“ чалавека.

Кватэра Міхайлы Іванавіча была ў канцы вуліцы, тае самае вуліцы, што зараз-жа пераходзіла ў шлях. У кватэры быў страшны холад. Ногі качанелі; кроў, здавалася, застывала ў жылах. Апрануўшы колькі можна было апрануць адзежын, Міхайла Іванавіч тым ня меней дрыжаў ад холаду. Першы раз пазнаў Міхайла Іванавіч, што такое холад. І бяда была ў тым, што дастаць дроў было вельмі трудна.

Але ў адзін час павалілі сялянскія падводы, нагружаныя дубовымі круглякамі. Але гэта былі дровы для розных устаноў.

Раз, пасьля таго, як праехаў такі абоз, Міхайла Іванавіч, узяўшы вядро, пашоў па ваду. Калодзеж быў унізе каля рэчачкі. Параўняўшыся з мастком, Міхайла Іванавіч заўважыў досыць ёмкі дубовы кругляк; Кругляк скаціўся пад аткос дарогі і ляжаў у сьнезе. Міхайла Іванавіч азірнуўся. На яго шчасьце нікога ня было. Знахадка была важная. Міхайла Іванавіч прысыпаў кругляк сьнегам, а вечарком, калі ўжо сьцямнела, гэты кругляк стаўся поўнаю ўласнасьцю Міхайлы Іванавіча.

У гэты вечар Міхайла Іванавіч быў рад. Такую радасьць адчуваў ён толькі тады, калі яму далі „статского советника“.

Кругляк быў парэзан і паколат. Усё гэта зрабіў сам Міхайла Іванавіч. Работа яго захапіла. Калоў ён паленцы акуратныя, тонкія, каб яны лепей гарэлі. А праз некаторы час Міхайла Іванавіч сядзеў procіў групкі разам з Ксеняю Паўлаўнаю.

Сядзелі, грэліся.

Каб я не баяўся, што мяне палічуць чалавекам набожным, то я тут напэўна сказаў-бы, што гэты кругляк быў падсунут Міхайлу Іванавічу ні кім другім, як самым чортам, можа і ня зусім кваліфікаваным чортам, але ўсё-такі чортам, бо хто-ж, як ня чорт, мог так насьмяяцца з пракурора?

Міхайла Іванавіч сядзеў проціў агню і грэўся.

Калі вы хочаце правесьці некалькі прыемных мінут, то шчыра вам раю пасядзець каля групкі, калі ў ёй гарыць агонь. Не сядзеце толькі тады, калі ў групцы гараць дровы ад такога кругляка, які здабыў сабе Міхайла Іванавіч, бо я баюся, каб ня здарылася таго, што здарылася з Міхайлам Іванавічам.

Міхайлу Іванавічу было цёпла, настолькі цёпла, што ён скінуў з сябе некалькі адзежын і таксама скінуў і шапку. Апошнімі часамі Міхайла Іванавіч ня толькі хадзіў у шапцы, але і спаў у ёй, бо ў Міхайлы Іванавіча была досыць пачэсная лысіна (з некаторага часу я пачынаю гаварыць аб лысінах з пэўнаю павагаю). А як вядома, мароз ня любіць лысін, аб гэтым могуць пасьведчыць паважаныя лысыя галовы. Дазвольце ўжо мне крыху далей адхіліцца ад „сьцержня“ расказу і сказаць, што непрыязьнь паміж марозам і лысымі жыве ўжо з даўных часоў. І не дарма-ж, калі хочуць зьнішчыць мароз, то лічаць лысых. А з тае прычыны, што лысіны маюць тэндэнцыю няўхільна павялічвацца, можна спадзявацца, што наш клімат зробіцца болей мяккім, і нам ня прыдзецца езьдзіць на цёплыя воды.

Грэючыся, Міхайла Іванавіч разважаў, разважаў аб вяласьці славянскай натуры і яе слабай прыспасобленасьці да жыцьця. Трэба больш рухлівасьці, больш энэргіі, гэтай самай дынамікі, і тады шмат лягчэй можна будзе справіцца з нягодамі жыцьця.

Гэты дубовы кругляк, што гарэў цяпер у печы, разгортваў перад Міхайлам Іванавічам цэлыя старонкі мудрасьці і, урэшце, навёў яго на думкі аб большай актыўнасьці. Чаму, напрыклад, Міхайла Іванавіч мёрз, калі мог і ня мёрзнуць? Вось сёньня ён праявіў пэўную энэргію, і цяпер грэецца. Праўда, дубовы кругляк выпадкова скаціўся, выпадкова Міхайла Івановіч яго знашоў і скарыстаў, наогул дубовыя кругякі гэта ня тое, што манна нябесная, але...

Ну, як сабе хочаце, а тут без нячыстай сілы не абышлося, бо як толькі ў думках Міхайлы Іванавіча выплылі гэтыя два словы „манна нябесная", і не пасьпела, як мае быць, адбіцца гэтае „але", як у яго вачох зусім выяўна вырысаваўся вобраз агарожы павятовага камісарыяту асьветы.

Гэтую агарожу зрабілі манахі. Агарожа была вялікая, але ўжо запушчаная і мела шмат праломаў. Тут быў манастырскі сад. Цяпер-жа ў будынку манахаў заснаваўся камісарыят асьветы.

На гэтай агарожы і спыніліся думкі Міхайлы Іванавіча, але пэўных вывадаў з гэтых думак Міхайла Іванавіч не зрабіў.

Печ выпалілася, нагрэлася добра. У гэтую ноч Міхайла Іванавіч спаў смачна, а лысіна яго адчувала прыемную цяплыню і лёгкасьць. Толькі пад раніцу прысьнілася яму, што ў агарожы камісарыяту асьветы забівалі манахі дзіркі новымі дошкамі, а старыя аддзіралі і складалі ў кучу.

Тры вечары й тры ночы грэў і песьціў Міхайлу Іванавіча дубовы кругляк, тры вечары калыхаў яго мысьлі і сьпяваў яму песьні аб агарожы камісарыяту асьветы. Вынікам усяго гэтага была разьведка гэтай агарожы. Разьведка была зроблена тонка і незаметна. Але гэта яшчэ ня ўсё: той-жа дубовы кругляк вельмі спрытна выканаў ролю агітатара і ўзьняў Міхайлу Іванавіча на вышыню пэўнага пагляду, які не прызнае сьвяшчэннага права за прыватнаю ўласнасьцю.

На трэці вечар дубовы кругляк згарэў, распаўся на свае складаныя часткі, аб якіх ведае адна толькі хімія. А мароз, як на зло, насядаў і насядаў, і яшчэ большы холад запанаваў у кватэры Міхайлы Іванавіча.

Быў трэці вечар пасьля таго, як дагарэў дубовы кругляк. На дварэ гуляла мяцеліца, скавытаў вецер і біў акяніцамі аб сьцены. Міхайла Іванавіч адзеўся цяплей, абуў боты з доўгімі халявамі, глыбей насунуў на вушы цёплую шапку, а паўзьверх адзежы закруціў ёмкую вяроўку.

Было ўжо гадзін адзінаццаць ночы, калі Міхайла Іванавіч рушыў у паход. Яшчэ з вечара чакалі яго на дварэ санкі. Міхайла Іванавіч прыслухаўся--поўная глуш, толькі вецер бушаваў, падымаючы белыя слупы. Міхайла Іванавіч спусьціўся ўніз з свайго дворыка, перакінуў цераз плот санкі й пералез сам і апынуўся на лузе: луг падыходзіў адным сваім краем да самага гораду. У трох чвэрцях вярсты адгэтуль, на горцы, стаяў манастыр з яго будынкамі, дзе і зьмяшчаўся камісарыят народнае

асьветы. Міхайла Іванавіч некаторы час блукаў па выгане, намацваючы дарогу.

Мясцамі сьнег быў глыбокі, мясцамі пазьдзімаў яго вецер. Сяк-так Міхайла Іванавіч натрапіў на дарогу. Дарога, здавалася, не адважвалася адыходзіць у поле, а тулілася бліжэй да горкі, на якой раскінуўся гарадок. А можа гэта была і не дарога—хто яе тут разьбярэ. Пад горкаю было зацішней. Сьнег тут ляжаў белым роўным абрусам, і Міхайла Іванавіч падаваўся наперад досыць шпарка, дзержачы кірунак на манастыр і не адыходзячы далёка ад горкі. З няпрывычкі было трохі страшна. Зноў прыпомніўся Пушкін:

Еду, еду в чистом поле,
Колокольчик—дин-дин-дин!
Страшно, страшно поневоле
Средь неведомых равнин!

Так, было такі страшна. Але Міхайла Іванавіч загадзя злажыў плян свае экскурсіі, прыняўшы пад увагу розныя выпадкі. Калі, скажам, яго спытаў-бы хто, куды ён вандруе, то ён адказаў-бы, што проста адвозіць санкі інструктару фізычнай працы пры школе, як называліся тады старажы. Міхайла Іванавіч акінуў вокам сябе самога: у гэтым адзеньні ён і сам быў цяпер падобен да „інструктара фізычнай працы“.

Постаці панурага манастыра і манастырскага саду вырысоўваліся цёмнаю плямаю з перавітага сьнежным пылам мроку. Вецер шумеў агаленымі верхавінамі груш і яблынь, шумеў жудасна і злосна. Шум гэты зьліваўся часамі ў няпрыемны дзікі гуд, як-бы сьпяваючы нейкі пахавальны марш над закачанелаю прыродаю.

Міхайла Іванавіч параўняўся з манастыром. Манастыр стаяў на высокай гары над страшным ярам. Гэты яр рабіў яго няпрыступным з аднаго боку. Міхайла Іванавіч спыніўся. Цяпер яму стала яшчэ страшней. Зірнуў на манастыр—стаіць, глухі, зацяты, пануры. А вецер на гары калашмаціць палыселыя галовы дрэў і гудзе. Слухаць жудасна! Міхайла Іванавіч для храбрасьці злажыў губы трубкаю, але не засьвістаў, а так толькі ціхенька выводзіў:

— Ху-ху-ху-ху-ху-ху!

І ўсё-такі было страшна. Але тут зірнуў яму ў вочы дубовы кругляк—добра было сядзець і грэцца! Дубовы кругляк як-бы падмацаваў Міхайлу Іванавіча. Ён зрушыў з месца, агібаючы спуск з манастырскай горкі. Натрапіў на сьцежку і пашыбаваўся на горку. Вар'ят-вецер налягцеў на Міхайлу Іванавіча і чуць не сапхнуў яго назад. У вадказ на такое прывітаньне ветру, Міхайла Іванавіч прадэклямаваў у думках:

Смело, братья! ветром полный
Парус мой направил я,
Полетит на быстры волны
Легкокрылая ладья!

Але „ладья“ Міхайлы Іванавіча нікуды покі што не ляцела: стаяў ён, стаялі каля яго і санкі. Падумаў трохі Міхайла Іванавіч. Не: санкі трэба схаваць, пакінуць тут. Агарожа камісарыяту народнае асьветы— вось яна. Міхайла Іванавіч пашоў туды бяз санак. Выбраў найболей глухое месца. Вось і пралом. Міхайла Іванавіч пралез праз гэты пралом у сад.

Ух, як няпрыемна! Пачуцьці яго і адчуваньні перавіліся ў нейкі заблытаны клубок, але разьбірацца ўва ўсім гэтым ня было калі.

Міхайла Іванавіч азірнуўся на ўсе бакі.

Ну, што-ж? Каб хто і быў?

Ён проста ідзе садам. Быў у знаёмых і, каб скараціць дарогу, ідзе цераз сад.

Прыслухаўся...

Зноў вярнуўся да пралому, прасунуў галаву і азірнуўся.

Ну, што-ж тут такога нязвычайнага?

Проста—папрабаваў, ці моцна яшчэ агарожа.

І тут адразу наваліўся Міхайла Іванавіч плячом на дошку.

— Кррах!—затрашчала дошка і зламалася.

Міхайла Іванавіч адскочыў.

Гэтае „крах“, што пачулася ад зломанай дошкі, нейк дзіўна адбілася ў вушох і ў сьвядомасьці Міхайлы Іванавіча, прыняўшы вобраз пэўна акрэсьленага сэнсу. У гэтым „крах“ пачулася Міхайлу Іванавічу крушэньне яго старой, заскарузлай прокурорскай ідэолёгіі, крах яго маралі, надзей і чаканьняў.

Ад натужаньня і страху сэрца застукала моцна. І нават чуў Міхайла Іванавіч нейкі гук.

— Кях-кях-кях!

Нібы ў горле аддавалася.

Міхайла Іванавіч борзда адарваў зьнізу і зьверху канцы зломанай дошкі і кінуў на сьнег.

Прыслухаўся яшчэ...

Нікагутка. Толькі вецер гудзе ў садзе.

Другая дошка падалася яшчэ лягчэй.

Міхайла Іванавіч завіхаўся, нават пэўны спрыт набыў у сваёй зладзейскай рабоце.

Лезьлі ў галаву абрыўкі ўсякіх мысьляў. Але Міхайла Іванавіч стараўся не замячаць іх. Адна толькі думка надаедна вярцелася ў галаве, вымагала, каб Міхайла Іванавіч зьвярнуў на яе ўвагу.

„А ты, што-ж? больш любіш красьці адзін? Злодзей-індывідуалісты?“

І толькі калі Міхайла Іванавіч цягнуў на санках дошкі на сваю кватэру, то яму прыпомніліся некаторыя выразы з яго прокурорскай прамовы:

„Забыта чэснасьць, забыты прынцыпы маралі, парушаны сьвяшчэнныя правы ўласнасьці“.

Але Міхайла Іванавіч тут-жа і папраўку зрабіў да сваіх старых прамоў.

— „А якая цяпер уласнасьць? Яе няма: яе скасавалі“.

---

Прашоў яшчэ год.

Міхайла Іванавіч—„совслуж“.

На адным зьезьдзе, выступаючы з прамоваю, Міхайла Іванавіч казаў:

— „Таварышы! нам, непартыйным, патрэбен быў час, каб перарадзіцца ў сваёй псыхолёгіі, каб успрыняць, зразумець і ацаніць глыбокі сэнс Вялікай Акцябрскай рэволюцыі“.

# „ЧЫРВОНАЯ РАДЗІМА“

**Цішка Гартны**

## СЛУЧЧЫНА

*Пасьвячаецца Язэпу Дыле*

I.

Распасьцерлася раўнінаю,
Стройнаю распрасталася...
Беларускаю Ўкраінаю
Не здарма ўсё-ж назвалася.

Лугам-поплавам мурожнымі,
Полем-нівамі ўроднымі,
Як сялянкаю заможнаю
Пазіраеш ты, родная.

Паглядзець скрозь—неасяжная,
Вісьне неба—пазёмамі,
Шмат палеткі твае ўражая
Абсякала рука крэменем.

Йшлі грамадамі нязьлічнымі
Белапанскія коньнікі,
Руйнавалі нашчэнт, нішчылі
Хаты, поле і хвойнікі.

Дымам-полымем курылася
Праца цяжкая, чорная;
За свабоду шчыра білася
Вёска скрозь—непакорная.

І крываваю мяжынаю,
І крываваю стужкаю,
Пан граніцу ды раўнінаю
Пралажыў наўсьцяж Слуцкаю.

„Не загоіцца, не, шарая
Беларусь бальшавіцкая;
Пакараў яе бог карамі
За бунтоўнасьць мужыцкую“.

Гэтак думалі, так радзілі,
Але думка—дарэмная!
Зноў адыме, што пакрадзена
Наша Случчына зрэбная.

Працай цяжкаю сялянскаю,
Працай ўпартай—рабочаю,
Яна гоіць зьдзекі панскія,
Выжывае аброчанасьць.

Ўся садамі поўна, бэрамі,
Поўна жытам, пшаніцаю,
У наступнае йдзе з вераю,
Б'е адвага крыніцаю.

Не загіне, ды ня вечнае—
Што ўрэзана, адлучана.
Будуць, будуць яшчэ зьлечаны
Беларусь і ты, Случчына.

18/III 1925 г.
Слуцак.

## СЛУЦАК

### II

Прытуліўся, прылёг пад садамі,
Новых дзён—ды вякамі ждучы.
А цяпер вось старымі дамамі
Мову іншую кажа, Случы

Ад князёў, ад паноў, ад няволі
Успаміны—гіньце ў пустэчы!
Не, ня будзе, ня будзе ўжо болей
Аб пары тэй ягонае рэчы.

Над будынкамі шэрымі сьцягі
Сьвету новаму значаць—цуды;
Разьлятаюцца пекныя сагі,
Звоніць гымн працоўнаму люду.

Ядранее, як лес, жыта ціха,
Нахіліла калосьсе ўдала...
Старадаўняя можа ткачыха
Селяніну волю прыткала?

Хай гудзяць шчэ званы на званіцах
Ї спакусаю крыж у вочы;
Марсэльезе ужо ня зглушыцца,
Беларускай ужо не змаўчаць.

Ад усходу на захад далёкі
Яе вокліч звоніць завуча:
Сустракай, Слуцак, новыя векі,
Шумі радасьней рэчкай Случчу.

22/III-25 г.

# АДШУКАНЫ СКАРБ

*Апавяданьне*

(Канец)

**Я. Ліманоўскі**

На невялічкай палянцы, сярод глухога бору, адзінотна, сіратліва выглядала лясьнічоўка. Малая крытая гонтай хацінка, яшчэ меншы хлеўля яе, стог сена, на які з аднаго боку апёрліся жэрдкі і іншы лясны матэрыял, студня з нявысокім жоравам,—усё гэта абапал высокага цёмнага бору здавалася вельмі маленькім, быццам дзеля забавы збудаваным модэлем. Толькі адна дарожка-сьцежка вяла ў бліжэйшую вёску, якая знаходзілася за дзьве вярсты ад лясьнічоўкі. Дарожка выкручвалася каля дрэў, суччо якіх сплятался над ёй і тварыла зялёную страху. У іншыя бакі бор цягнуўся на дзесяткі вёрст. Раздольле было ў ім усялякай зьвярыне і птушкам. Было дзе схавацца ад чалавека—паляўнічага. І сьмелая была зьвярота, не баялася.

Лясьнік Левановіч, які амаль адзін вымераў уздоўж і поперак гэты бор, заўсёды хадзіў з сваёй стрэльбай і неадступным верным Рудкам: прыходзілася спатыкаць стады ваўкоў. А зімой ноччу дык боязна было выходзіць у цёмны бор.

Выходзіў лясьнік у абход больш раніцой; кожны раз у розныя бакі шоў, каб ведаць, што ўва ўсім бары дзеецца. Траплялася і ў вечары пайсьці ў абход, але далёка тады не адыходзіў; шоў ці ў бок вёскі, ці то ў той бок, дзе бор прарэзвае шлях на Горадзен. У гэтых мясцох больш бывае, што хто-небудзь зрубіць бярозку ці дубок на сталярскія патрэбы і больш грубую елку—на дошкі.

Лясьнічыха адна заставалася ў хаце. Трэба было дагледзіць сьвінак, напаіць і перавязаць у другое месца кароўку, выпалаць пасаджаную на палянцы бульбу, капусту і інш. гародніну. І толькі, калі стары няйшоў у вабход, яна магла адыйсьці з хаты, схадзіць у вёску ці пайсьці ў лес зьбіраць грыбы, ягады, якіх тутка было не абабраць. За летка насушыць грыбоў, а ўзімку вязе лясьнік прадаваць у горад; ды і сабе яны патрэбны.

Так ішлі адзін дзень за другім. Нічога не нарушала супакою гэтага глухога кутка.

У адзін вдзень лясьнік вярнуўся раней звычайнага з свайго вячэрняга абходу.

Лясьнічыха зьбірала для сьвінак траву і бачыла, як муж хутка бег да хаты, а потым зноў выбег і стаў клікаць: „Марыля! Марыля!“

Адазвалася, але не пашла ў хату, ня ведала, навошта той яе кліча. Калі толькі заўважыў бабу, хутка пабег да яе.

— Пойдзем, Марыля, зараз у лес... чалавек забіты,—вымавіў, стрымаўшы ўздых, бо запыхаўся ад хуткага бегу і быў узрушаны.

— Дзе? Зусім забіты—на сьмерць?

— Не, яшчэ крыху жыве. Мо‘ яшчэ можна ратаваць. Пойдзем хутчэй і прынясем яго сюды.

Больш ня пыталася, кінула ўсё і накіравалася з мужам у лес. Сьпяшаліся, амаль бегам беглі. Дарогай апавядаў жонцы, як гэта здарылася.

— Пашоў я сёньня ў бок шляху,—надоечы нехта бярозу ля шляху зрубіў. Папільную, думаю, як прыедзе па другую, злаўлю прахвоста. Падымаюся гэта я на ўзгорак, а Рудка, які бег уперад, затрымаўся, пачаў брахаць. Я падумаў, што дзікі кабан. Узяў стрэльбіну, іду і чакаю, калі і дзе ён выскачыць. Падыходжу... аж чалавек ляжыць. Бляды, вочы заплюшчаны, на вопратцы і на траве кроў. Пашчупаў... цёплы яшчэ... крыху дыхае. Трэба ратаваць, думаю, шкада чалавека да і грэх такому не дапамагчы. Падняў на рукі, каб несьці да хаты. Цяжка несьці, неспадручна: ня тая ўжо сіла, што калісьці. Паднясу крыху, затрымаюся, адпачну—і далей. Перанёс ка гэты бок балотца. Зусім прыстаў. І да хаты яшчэ ля вярсты. Усё роўна не данесьці, ды і яго затузаю. Вось і пабег паклікаць цябе...

— Але хто-б гэта меў быць?—прамовіў, калі кончыў апавядаць жонцы, якая маўчком уважліва слухала яго прыгоду,—і хто-б на яго напаў? Бандытаў у нас няма, гэта першае здарэньне. Хто-б мог быць?

Хутка адшукалі незнаёмца, палажылі яго на пасьцілку, узятую з сабой, і панесьлі ў хату. Сонца ўжо зашло, у бары цямнела. Удвох несьці было ўжо ня цяжка і на посьцілцы спадручней. Праз некалькі хвілін апынуліся ў хаце. Палажылі на лаўцы, каб акрываўленай вопраткай ня пэцкаць ложак.

— Ты, Марыля, даглядзі тутка яго, а я зьбегаю ў Заборцы і паклікаю сюды кума Піліпа. Ён-жа фэльчар. Хай агледзіць і параіць, што рабіць.

— Ну, зьбегай,—толькі каб ён хутка йшоў. А я тымчасам крыху абмыю яго і зьніму акрываўленую вопратку.

Шмат часу, здавалася Марылі, прашло, а мужа з фэльчарам ня было. Непакоілася, думала часам, што ўжо памёр ранены, бо ня ведала, наколькі сур‘ёзна, небясьпечна была рана ў грудзёх. Але той яшчэ жыў. Увесь час толькі быў няпрытомны. Вельмі жадала, але ня ведала, чым і як дапамагчы яму.

Нарэшце дачакалася мужа з фэльчарам.

— А я-ж ужо думала, што вы ня прыдзеце. Ці-ж можна так хадзіць, калі чалавек памірае і трэба дапамога!—дакарала Марыля фэльчара.

— Сьпяшаліся, кумачка, аж у грудзёх сьпёрла, але-ж кавалак дарогі! Зараз, што можна зрабіць, то і зробім.

Пачаў аглядаць раненага. Марыля дапамагала: давала начыньне, зьмяняла ваду да абмываньня, даставала патрэбны для перавязваньня матэрыял. Кроў цячы перастала. Піліп залажыў рану нейкай прынесенай з сабой мазьзю, марляй, аблажыў потым чыстай хусьцінай, абвязаў ручніком. Пераадзеў у чыстую вопратку, паправіў ложак, і палажылі туды раненага.

— Ну як, Піліпка, будзе ён жыць ці мо' да раніцы памрэ, і дарма будзе ўся бегатня?—спыталі фэльчара.

— Мо' будзе жыць, а мо' і памрэ. Цяпер яшчэ рана аб гэтым прарочыць. Вось калі я быў на японскай вайне, фэльчарам служыў, дык здараліся такія выпадкі: куля трапіць у бруха, у кішкі; калі чалавек галодны, то яшчэ можна ратаваць, будзе часам жыць, а калі пад'еўшы, дык адразу капут. А то й лёгкія часам зачэпіць, і таксама бывалі выпадкі, што жыве чалавек. Вострая куля не запэцканая зблізка праб'е дзюрку, а яна зараз зацягнецца пленкай, і выздаравее чалавек. Вось і тутка куля зачапіла лёгкія; калі ўжо зацягнула пленкай, дык мо' і будзе жыць. Невядома, які будзе яго лёс. Толькі, кума, перавязкі самі ня рухайце. Не адвязвайце.

— Вядома, ня буду рухаць, а ты, Піліпка, заўтра прыдзі: усё ведаеш, як трэба рабіць. Хто гэта мог-бы быць, і хто яго падстрэліў?

— Невядома, нельга разгадаць,—як з неба зваліўся чалавек; папер ніякіх ня мае.

— Мо' сам сябе падстрэліў, бывае і гэта.

— А ты, Рыгор, знашоў там якое-небудзь аружжа?

— Не, ніякага. Так і ляжаў у хвойках.

— Ну, бывайце. Мне пара дамоў,—заўтра падбягу. Калі прачнецца, дык вось гэтых капель—дзесяць на лыжку вады—дасьцё яму і пакуль што больш нічога. Будзем бачыць, што далей.

— Абавязкова падбяжы, Піліпка.

Усю ноч Марыля ня спала, сачыла за раненым. Той быў у аднальковым стане—бяз прытомнасьці. Раніцой, калі ўсходзіла сонца, пачаў нявыразна стагнаць, адчыніў вочы, парухаў губамі, як-бы хацеў нешта сказаць... і ня мог. Марыля дала яму кроплі. Праз нейкі час супакоіўся і быццым спаў.

Піліп нечакана прышоў раней.

— Ну, як хворы?

— Прачнуўся раніцой, дала яму кроплі выпіць. Цяпер зноў няпрытомны.

Нахіліўся да хворага, памацаў пульс, паглядзеў у твар.

— Не, цяпер ён сьпіць, гэта добрая адзнака. А дзе Рыгор? Пашоў у лес?

— Не, ля хаты недзе капаецца.

— Паклікай, кума, яго, каб той ішоў у хату, маю нешта сказаць.

Праз нейкі час прышла Марыля з мужам.

— Вось што, кума,—пачаў у паўголаса, быццам баяўся, каб хто не падслухаў, гаварыць Піліп,—сёньня раніцой у Заборцы прыехалі двое жандараў. Сабралі ўсіх вяскоўцаў і кажуць, што ўчора па Гарадзенскім шляху вялі купу арыштантаў. Былі на сьмерць асуджаны. Недалёка ад нас арыштанты далі лахі пад пахі наўцёк. Некалькі чалавек у часе здагону забілі, а рэшта ўцякла. Уцякло адзін ці два, якія былі ўжо раненыя.

— Вось яно што, значыцца!..—адазваўся Рыгор.

— Але пачакайце,—перабіў яго Піліп,—гэта ня ўсё. Жандары загадалі, каб злавіць уцекачоў і адшукаць раненых і паведаміць аб гэтым паліцэйскі пастарунак. Ці проста даставіць іх паліцыі. Абяцалі таму, хто гэта зробіць, нагароду. А калі загад ня будзе споўнены, і жандары самі знойдуць уцекачоў у вёсцы, дык спаляць вёску, а таго, у каго знойдуць, расстраляюць.

Рыгор і Марыля пры гэтым палахліва пераглянуліся.

— Вось яно што!..—зноў першы прамовіў Рыгор.—Гэта-ж відавочна, што ён уцякаў. Але што рабіць, каб бяды не нажыць?

— Я і прышоў да вас дзеля таго, каб бяду папярэдзіць.

— Ну, дык што-ж рабіць, парай, кумок?

— Прыдзецца, хіба, паведаміць паліцыю.

— А што паліцыя рабіць з ім будзе?—спыталася Марыля.

— Пэўна возьмуць і павязуць у горад.

— А потым?

— Потым расстраляюць хіба, калі прысуджаны да кары сьмерці.

— Як-жа гэта так?—спалохалася Марыля—будуць чалавека лячыць, а потым расстраляюць! За што? Хіба-ж не забойца ён і ня злодзей? Такіх, здаецца, ня судзяць да кары сьмерці.

— Жандары казалі, што гэта былі бальшавікі.

— Хай сабе бальшавікі: яны спагадны да нашага брата, нам ад іх ніякай бяды няма. Вось расстралялі Зьмітрука, сына маёй стрыечнай сястры. Каля Баранавіч. Таксама казалі, што бальшавік і бандыт, а які хлопец быў. Залаты малец!—разважала Марыля.

— Добрыя бальшавікі ці не, тутка мы не гаворым аб тым. Але як возьмуць і цябе расстраляюць жандары, будзе табе тады добрыя ці дрэнныя,—непакоіўся Рыгор.

— Так лепш чалавека патвойму аддаць гэтым крывапіўцам, каб разарвалі яго на кавалкі? Няма ў цябе ніякага сумленьня і пашкадаваньня!

— Чалавека, ведама-ж, шкода, кума, толькі боязна неяк, каб не знашлі часам,—уставіў Піліп.

— І я вось кажу ёй гэта; як знойдуць. што тады будзе?—сказаў здаецца ўжо пераконаны Рыгор.

На хвілінку размова спынілася. Кожны думаў аб тым, што далей рабіць: і нельга было аддаць раненага на пэўную пагібель, і была апаска хаваць яго. Як пагадзіць гэтыя супярэчнасьці, што выбраць?

— Ён мо' і так памрэ,—нарушыў маўчаньне Рыгор.

— Памрэ, дык памрэ, ня будзе на сумленьні, але гэтым катам у рукі не аддам,—рашуча, як-бы прышла да пэўнага выніку, прамовіла Марыля.—Хто тутка да нас у глуш пойдзе шукаць? Жывем мы, як ваўкі, ніхто ня ходзе сюды, ніхто ня ведае, што ў нас ёсьць. А калі і прыдзе, дык схаваць ёсьць дзе,—казала Марыля, і палахлівасьць яе зьнікла.

— Гэта-ж то праўда,—згадзіўся з жонкай Рыгор.—Прыдзецца хаваць, і я думаю,—вельмі шкода чалавека. Як, кумок, раіш?

— Як ведаеце самі, гэта ваша справа; схавайце, а я ўжо, чым мага, буду дапамагаць. Вельмі ўжо нас крыўдзяць паны! Цяжка жыць! Мо' з таго, што робяць бальшавікі, і добра выйдзе. Трэба ратаваць свайго чалавека,—згадзіўся і Піліп.

— Ты толькі, Піліп, у вёсцы нікому не кажы, што ў нас ёсьць нехта. Прабалтаюцца яшчэ, усякі народ бывае; і сачы за ўсім. Калі што будзе, папярадзі нас, каб можна было загадзя схаваць.

— Будзь спакойна, кума, ужо зраблю. Перад вячоркам буду наведвацца да вас, каб даглядаць хворага.

Лёс хворага быў вырашаны. Цяпер ужо ўсе неяк зразумелі, што йначай ніхто з іх ня мог рашыць. Сумняваліся толькі ў посьпеху справы.

І вось тутка цямлівая Марыля аблічыла абставіны і расьсеяла сумненьне. Усе ўтрох былі гатовы супольна ратаваць нейкага незнаёмага чалавека—„бальшавіка". Аб апасцы, небясьпечнасьці перасталі й думаць. Думку займаў хворы—незнаёмец.

* * *

Пад вечар таго дня хворы прачнуўся. Выпіў кроплі. Крыху пачакаўшы, пачаў варочаць вачыма, аглядаць месца, дзе знаходзіўся.

— Куды... я ...папаў?—спытаўся слабым голасам.

Марыля схілілася да хворага.

— Ня бойцеся. Мы вас знашлі ў лесе і будзем хаваць ад палякаў. Хатка нашая, лясьнічаўка, стаіць у бары, і ніхто вас ня знойдзе тут. Выздаравееце, паправіцеся і пойдзеце к сабе дамоў.

— Не... хіба... не папраўлюся... Дамоў... а... ці... далёка?

— Я-ж ня ведаю, дзе ваш дом. Да граніцы, кажуць, яшчэ далёка. Мы жывем пад Польшчай. А хто вы будзеце?

— Я... Міхась... Дуброўка.... папаў.. да палякаў... у палон... Гэта было ў 1919 годзе... у Мазыршчыне...

— Значыцца, вы ўцякалі па шляху; а за што вас прысудзілі да кары сьмерці?

— Я... бальшавік...

— Дык толькі за тое, што вы бальшавік, яны асудзілі на сьмерць! Ай, якія зьверы! Бяруць у палон, а потым прысуджаюць да расстрэлу.

Міхась адчуваў сабе вельмі слабым. Дыхаць было цяжка, у грудзёх балела, усе часткі цела—як-бы хто разьбіў, разлучыў так, што адна другую не адчувала, у вачох памутнела. Ён яшчэ смутна прадстаўляў сабе, дзе ён знаходзіцца.

Увечары, калі Марыля прыбірала пры сьвеце гарэўшага ў камінку смальняка хату, а Рыгор курыў, абапёршыся ля стала, люльку, Міхась пачуў, што нехта хутка ўбег у хату.

— У вёску прыехала многа палякаў. Кажуць, будуць рабіць аблаву ў вёсцы і ў лесе, шукаць уцёкшых арыштантаў, дык я са ўсіх ног праз лес і да вас. Хавайце!

Падбеглі ўсе трое да Міхася. Укуталі яго ў ватовую коўдру, у нейкія другія шматы і панесьлі.

— У стагу я ўжо зрабіў нару,—пачуў Міхась мужчынскі голас. Чуў, як уцягнулі яго ў нейкую нару, хаця ён і стагнаў ад болю, калі пачалі паварочваць яго, як запахла сенам, як ля ног яго запіхвалі сена, як абстаўлялі ў гэтым месцы стог, аж ён рухаўся, нейкімі ці-то падпорамі, ці-то бярвеньнямі,—а потым усё сьціхла. Праз нейкі час, доўгі ці не, Міхась ня ведаў, пачуў ён тупат коняй, гукі чалавечага голасу, чуў, як нехта скубаў сена... вось зусім... блізка яго ног... „Знашлі“—мільгнула думка. Больш нічога ня чуў Міхась ад болю і выцечкі крыві з патрывожанай раны—страціў прытомнасьць.

* * *

Старанна шукалі легіянэры ўцекачоў. Шукалі ў вёсцы Заборцы, шукалі ў лясьніка, куды ўвечары прыехала некалькі легіянэраў.

Раніцой зрабілі аблаву ў лесе. Сагналі ўсіх мужчын з вёскі, пагналі і Рыгора шукаць у лесе. Рэхам разьлеглася ў старым бары страляніна і камандваньне легіянэраў. Злосьціліся яны і спаганялі сваю злосьць на сялянах, якія нічога не маглі сказаць пра ўцекачоў. Сьцябалі нагайкай, хто толькі падвярнуўся пад руку. Шукалі ўвесь дзень без адпачынку, увесь бор уздоўж і поперак спаласавалі. Дарма, нічога не знашлі.

Рыгор з Пілiпам непакоіліся на аблаве: ня ведалі, што робіцца там, у лясьнічоўцы. Што будзе, калі знойдуць, мо‘ ўжо і знашлі. Страх і за сябе і за лёс Міхася не даваў ім супакою.

Марыля засталася ў хаце. Яна была больш спакойная. На лясьнічоўцы цяпер нікога ня было.

— Ты сачы за стогам,—казаў Рыгор, калі адыходзіў на аблаву.— Сена мо' будзе патрэбна для коняй, дык ты сама наскубі і палажы, каб ніхто не падыходзіў да стога.

Яна і сама гэта разумела. Як толькі ўсе пашлі ў лес і па гуках можна было лічыць, што ўжо далёка, Марыля яшчэ лепей замаскавала нару ў стагу, абставіла стог з гэтага боку ўсялякім драўляным хламам, а з другога-ж боку стога наскубла сена для легіянэрскіх коняй. Ня ведала толькі, што дзеецца з Міхасём, ці жыве ён, ці памёр там у стагу. Прыслухоўвалася—нічога ня было чутно. Гэта непакоіла Марылю, але адчыніць нару і пабачыць Міхася нельга было. Маглі наскочыць легіянэры. Позна ў вечары вярнуўся Рыгор. Ён прынёс вестку, што нікога не знашлі і што Міхася нельга будзе дастаць, пакуль Піліп не паведаміць, што з Заборцаў вышлі легіянэры. Іначай могуць зьнянацку наскочыць, і тады ўсё прапала.

Марыля лічыла кожную хвіліну, чакала Піліпа, хадзіла да стога слухаць. Ей здавалася, што час ідзе вельмі марудна, і калі легіянэры ня выядуць, то Міхася нельга будзе дастаць са стога, і ён памрэ. Болесна станавілася на душы пры гэтай думцы. Нарэшце, пасьля дванаццатай гадзіны ў ночы прышоў Піліп. Легіянэры, аказваецца, паехалі. А мо' яшчэ вернуцца?

Асталі няпрытомнага Міхася са стога, абмылі рану, перавязалі, палажылі яго на ложак.

Аднак, час быў трывожны. Каб не заскачылі легіянэры, рашылі вартаваць—Піліп тамака ў вёсцы, Рыгор ля лясьнічоўкі, а Марыля даглядаць ноччу хворага.

— Ты-ж, Рыгорка, глядзі, не засьні толькі, хоць і замарыўся за дзень,—заўтра пасьпіш,—асьцерагала Марыля.

— Не засну—Рудка са мной будзе вартаваць.

Усе чутка вартавалі. Ноч прашла, аднак, без перашкод. Міхась ачухаўся, але быў вельмі слабы. Марыля і ў дзень не адыходзіла ад яго. Хаваньне ў стагу, растрывожаньне раны пашкодзіла Міхасю: ён то прыходзіў да прытомнасьці, то зноў занепадаў у бяспрытомнасьць. Становішча яго было цяжкае, хоць Піліп цьвярдзіў, што будзе жыць. Некалькі начэй Рыгор і Піліп былі на варце, пакуль не пераканаліся, што легіянэры ня зьбіраліся зварачацца. Цяпер іх думкай было, каб хутчэй выздаравеў Міхась—здаровага, дык і схаваць лепей.

Але хуткае палепшаньне ў здароўі Міхася не наступала. Праз некалькі дзён, аднак, ён амаль не занепадаў у бяспрытомнасьць і пачаў больш яскрава разумець, што з ім здарылася і якое ў яго становішча.

Гэты пробліск розуму і пачуцьця быццам сьведчыў, што варочаецца да яго магутны дух і паможа перамагчы фізычны заняпад, хворасьць.

Праўда, цяпер, калі прытомнасьць не пакідала Міхася, ён больш адчуваў боль фізычнае раны, больш балюча адчуваў сваё бездапаможнае становішча тут, далёка ад сваіх сяброў-прыяцеляў, тут, дзе кожную хвіліну яго маглі адшукаць ворагі. Балела яму, захопленаму ў свой час барацьбой, што цяпер ён ня можа даць ворагам адпору.

Дні праходзілі ў цяжкіх цярпеньнях і, здавалася, ня было ім канца. Смутак пачаў агортваць Міхася, надзея пакідала яго.

Аднаго разу ўвечары Міхась неяк адчуваў сябе больш прытомным. Думкі варочаліся каля пытаньня, што будзе далей, калі будзе канец цярпеньню, і ці будзе ён. Вось столькі пражыта пакутніцкіх дзён: зьдзекі і катаваньні ў польскіх пастарунках і турмах, больш, здаецца, цяжкія духоўныя перажываньні, бяз проблiску надзеі ў магчымасьць звароту да сваіх. Звыш людзкіх сіл патугі к вызваленьню, спроба ўцёку, якая не ўдалася, дні без канца новых цярпеньняў і пакуты, няпэўнасьць становішча. А што чакае далей? Ізноў, як спачатку, зьдзекі, пакута, нязьмерны боль, праз нікога незразумелае не адчутае перажываньне душы. Ізноў калючы вянок пакут. Дзе-ж канец гэтаму, якая існуе мера для чалавечых цярпеньняў?

Сумленьні перажытых дзён сабраліся ў клубок. Абарваныя, абдзёртыя шматы надзеі зьніклі, як праз дзюравую вопратку пранікае да цела холад, нейкая ледзяная камлыга прыціснула Міхасёвае пачуцьцё.

Успаміны перажытага навялі інстынктыўны страх на ўсю Міхасёву істоту. Блыталіся думкі: „Досыць цярпеньня, досыць пакут! Пара кончыць з імі, адпачыць!“ Замест лёду на сэрцы ў гэту хвіліну адчуваў Міхась, як нейкі калючы абруч сьціскаў яго грудзі. Паліў нязьмерна грудзі і сьціскаў усё мацней і мацней. Не пазваляў удыхнуць паветра.

Парваць яго, аслабаніць грудзі, вырваць з іх тое, што так паліць, баліць... Вырваць балючае сэрца, супакоіцца... Тады будзе адпачынак... Бяз болю, без цярпеньняў... Досыць цярпець!

— Ох, як паліць,—вырваўся стогн з грудзей, а рукі моцна ўхапіліся за абруч, які паліў,—перавязку, каб абарваць яе і з ёю, здавалася, абарваць цярпеньне, абарваць жыцьцё...

— Баліць вам? Ведаю, што баліць, але трэба цярпець, трэба жыць. Цяжка цяпер, пацярпіце, будзе лягчэй.

Адчыніў вочы Міхась. Убачыў блізка над ім схілены твар лясьнічыхі. Глядзела на яго спачуваюча і трымала за рукі.

— Ня можна рухаць перавязкі, фэльчар казаў, каб пару дзён ня здымаць яе,—адвяла Міхасёвы рукі, палажыла на ложак.

— Трэба пацярпець,—казала далей ціхім голасам.—Папраўцеся і пойдзеце да сваіх, яны пэўна чакаюць дзень і ноч. Чакае матуля, чакаюць прыяцелі, мо' і каханая чакае. Вы чалавек малады. Вось будуць рады, як дачакаюць! Сумавалі, плакалі, лічылі забітым і раптам дачакаюцца. Трэба цярпець, змагацца з хваробай. Трэба цярпець і жыць дзеля іх.

Не заўсёды-ж цярпець, дачакаецеся і лепшага жыцьця. Выздаравець толькі хутчэй, а тады ўжо і лепшай будучыны дачакацца можна. Вось нам, напрыклад, з дзедам і цяжка жыць, і ад будучыны няма чаго чакаць, а жывём, бо трэба жыць.

Уздыхнула, прылажыла руку да ілба Міхася.

— Паліць моцна, і галоўка, пэўна, баліць? Зараз я хустачку намачу і прылажу—лягчэй будзе.

Кожнае слова кабеты простае, шчырае, спачуваючае, як-бы кроплі лякарства, праймала сэрца, супакойвала боль.

„Трэба жыць для іх, трэба жыць і цярцець“, паўтарала думка Міхася. Слухаў далей, лавіў кожнае слова, калі Марыля, прылажыўшы зімную хусьціну, пачала перапыненую гутарку.

— Вось і я шмат працярпела, пражыла. Дык хто-ж з нашага брата не цярпеў! Жыла я з Сямёнам калісь,—ці маім першым мужам у Баранавіцкім павеце. Хоць і не багата жылі, але ў згодзе, у ладзе. Хоць бацькі мае не хацелі аддаць мяне за Сямёна, багацейшага шукалі, але я яго пакахала і ўпёрлася, каб толькі за яго выйсьці. Ведама-ж, маладасьць! Было ў нас так дзесяцін пяць зямлі, дзьве каровы, конік і іншая гаспадарка. Хлеба свайго хапала, дый дзетак бог паслаў. Старшы хлопчык Юраська і дзяўчынка Алеся. Гадавалі, радаваліся, усю надзею ў іх паклалі: будзе пацеха і дапамога на старасьці год. Хутка ішлі гады. Калі ня дрэнна жывецца, дык тады і не заўважаеш, як яны праходзяць. Цяжка толькі ў няшчасьці пражыць.

— Вось так няпрыкметна надышла вайна ў 14 годзе, а ў 15 годзе ўзялі майго Сямёна на вайну. Потым прышлі і ў наш павет немцы. Мяне казакі выгналі з іншымі ўцекачамі. Хоць і дома бяз мужа было цяжка, але ўсё-ж як-небудзь было. Суседзі дапамаглі. А цяпер, калі выгналі з дзяцьмі з дому, пачалося пакутніцкае жыцьцё.

— Ох! і цяпер робіцца цяжка, калі ўспомніш пра гэта. Юраську тады было гадоў дванаццаць, Алесі—дзесяць. Ужо памагалі ў гаспадарцы, але ня суджана было вярнуцца ім да дому. Захварэлі—спачатку Алеся, а потым і Юраська. Ня было чым карміцца, жабравалі, елі што папала,—вось ім і пашкодзіла. Доктарскай дапамогі і іншай ня было. Памерлі абое... Пахавалі ў хвойнічку, каля шляху. Хто ведае пачуцьцё маці, той і зразумее, што я пражыла, Далей, галадала часта, дзе запрацоўвала яку-небудзь капейку, перабівалася сяк-так.

— Вам крыху лягчэй ад хусьціны?—спыталася, спыніўшы апавяданьне. Цяпер я пералажу яе з другога боку, бо той ужо нагрэўся. Палягчае.

— А ад Сямёна ня мела ніякай весткі, дзе ён, і што з ім дзеецца. Толькі нечакана спаткала аднаго суседа, які таксама служыў у войску. Той паведаміў мяне, што мой Сямён забіты на вайне. Апошняя надзея згінула. З Рыгорам спаткаліся мы, калі ўжо вайна скончылася. Ён так

сама ўцякаў з Горадзеншчыны. Сышліся мы з ім і жывем дагэтуль. Жыць у Расіі нам было цяжка. Быў тамака голад. Запрацаваць ня было дзе. Хто тамтэйшы і меў сваю гаспадарку ці стала працаваў дзе-небудзь, то і меў з чаго жыць; ну а нам, ведама, было цяжка. Пашлі мы перш у Баранавіцкі павет. На гаспадарку Сямёна. Але дзе там! Нельга было пазнаць нават, дзе была вёска: усюды акопы, калючы дрот, ямы ад снарадаў. У Рыгора гаспадаркі ня было. Пераехалі сюды, у Горадзеншчыну, да сястры Рыгора. Муж яе служыць у тутэйшага пана батраком і атрымлівае ардынарыю, а яна падзённа працуе ў двары. Хацелі і мы паступіць на службу ў двары, аднак, было ўжо досыць парабкоў. Ледзь нарэшце ўпрасілі пана і прыняў Рыгора за лясьніка. Жывем тутка ўжо трэці год. Цяжка жыць, сумна, але-ж трэба жыць. Няма будучыны, пра мінулае балюча ўспамінаць... цяжка...

Супакоіўся Міхась, калі слухаў апавяданьне Марылі. Пераносілася думка да таго патоку ўцекачоў, да іх цярпеньняў, да тых нязьлічаных крыжоў у хвойніках, якімі азначыўся шлях уцекачоў, да снарадаў, якія зьнішчылі не адну вёску Марылі, разрывалі на кавалкі не аднаго яе Сямёна. Вобразы нязьмернага людзкога гора, пакуты, разьбітага жыцьця, сьлёз—уваскрасалі перад ім.

Хто віноўнік усяго гэтага?

Запомніў пра сваё цярпеньне, малым яно здавалася ў тым вялізарным страшэнным, што перажылі тысячы, мільёны.

— Трэба жыць... для будучыны,—чуў ён словы, ці толькі меў іх у думцы.

Вось над ім худы, бледны твар кабеты, яшчэ не старой, але ўжо з прадчаснымі сьлядамі старасьці на твары ад перажытага. Спакойны, такі добры твар... Вочы глядзяць спагадліва... Словы пранікаюць у сэрца... Супакойваюць. Не, гэта не Марыля-лясьнічыха. Гэта—маці Міхася. Вось таксама яна сядзела ля яго ложка, калі ён быў хворы. Так даўно гэта было! Тады, калі Міхась хадзіў у школу, малым яшчэ быў хлапцом. Так, так—гэта яна... Не, гэта-ж ня можа быць... Твая маці памерла, як-бы кажа нехта Міхасю, і зноў ён бачыць твар лясьнічыхі. Чуе яе голас:—Жывем тутка ў глушы. Парадкі ў нас вельмі дрэнныя. Крыўдзяць нашых усе, хто захоча. І няма каму паскардзіцца. Вось майго пляменьніка Зьмітрука расстралялі. Ці-ж лёгка маці? А хлапец залаты быў. Каб жыў мой Юраська!.. Хто ведае!—Ізноў ня чуе нічога Міхась...—А вы свайго дачакаецеся. Будучыны...

Але хто гэта гавора? Не, не лясьнічыха... Такі знаёмы твар! Няма маршчынак і шчокі ружовыя. І вочы сьвецяцца, і твар—ня сумны, а вясёлы. Так прыемна робіцца на сэрцы, болю ня чуць. Чый гэта твар, што супакойвае боль?

Гэта-ж Галя!.. Адшукала яго, прышла. Яны ўдвох толькі; няма палякаў, няма й непакою за сваё жыцьцё. Няма раны ў грудзёх. Ня чуць

болю. Дзеля таго так весела ўсьміхаецца Галя. Дзеля таго так прыемна Міхасю.

— Добра жывецца толькі нашаму пану. Такія палацы, зямлі—куды ня кінь вокам—усё яго, а лесу і канца ня ўбачыш! У Расіі, кажуць, ад іх усё паадбіралі. Мо' і ўнас яны таго дачакаюцца! Хай пасмакуюць, як нам жывецца... А бальшавікоў расстрэльваюць... Зьвернецеся да дому...

Ізноў вобраз лясьнічыхі, яе худы твар, яе голас. І нікога ня бачыць Міхась. Ні аб чым ня думае.

А далей—ізноў ружовы з усьмехам твар. Твар Галі. Яе бліскучыя, цёмныя вочы.

Сапраўднасьць і мара зьмянялі адно другое, пакуль Міхась не заснуў.

Доўга яшчэ апавядала пра жыцьцё сваё Марыля.

* * *

Пасьля размовы з Марыляй у думках Міхася зрабіўся пералом. Сумныя думкі перасталі апаноўваць. Уступілі месца больш бадзёрым, варочаючыся да яго ўсё больш і больш рэдка. Калі яны і зьяўляліся ў хвіліны найбольшага цярпеньня, болю, дык цяпер ужо праганяліся латва. „Трэба цярпець, трэба жыць, жыць ня толькі для сябе“,—стался быццам бясспрэчным законам для Міхася. Мужна, бяз стогнаў пераносіў ён боль.

Варушылася думка, выклікала вобразы. Заўсёды з рытмічным чарґаваньнем, аднальковыя: яго тутэйшыя перажываньні, бездапаможнае становішча, апаска быць захопленым палякамі, боль-хвароба. А тамака, здавалася, недзе вельмі далёка—іншае жыцьцё: прыяцелі, родныя, блізкія... Галя.

Каля яе чамусьці не затрымліваў доўга думак Міхась. Ня мог цяпер стварыць яскравага вобразу яе. Памутнеў ён неяк. Часам здаваўся іншым. Але гэта толькі з надворнага боку: успамін аб Галі выклікаў заўсёды нейкае салодкае пачуцьцё. Успамінамі аб Галі канчалася кожная думка Міхася. Былі яны быццам кропкай у складзе, пакуль што-небудзь не абрывала іх, пакуль не пачынаўся новы склад.

Вярнуўся да Міхася моцны дух, уваскрасіў нястрыманае жаданьне звароту. Наведвалася часта і надзея, што зварот будзе магчымым. Паляпшаліся настроі. Зрабіла гэта ўплыў і на палепшаньне здароўя Міхася. Больш бадзёрым адчуваў сябе. Не западаў больш у бяспрытомнасьць. Настроі памагалі змагацца з хворасьцю, паступова перамагалі яе. Але процэс палепшаньня быў вельмі павольны, амаль прыметны. Рана была небясьпечна, становішча цяжкае. Дакучаў боль, ня ўступала гаручка.

Так прышла восень, наступіла зіма. Замяло сьнегам паляну, дарожку ў бары, прыбрала цёмны бор белай ватай сьнегу. Затрашчаў мороз, засыпала гэты глухі куток сьнегам, адрэзала, адгарадзіла, здавалася, яго засум гурбамі сьнегу ад рэшты сьвету. Цяпер было тут больш спакой-

на, бо каго-ж сюды ліха панясе, калі дарогі блізка няма. Няма блізка ніякіх дзялянак пад вырубку, куды сяляне пракладаюць звычайна новыя дарогі.

У даўгія зімовыя вечары ў лясьнічоўцы патрэсківаў смальняк на камінку, асьвятляў няроўным мільгаючым сьветам хату і сьнегавыя ўзоры на шыбах ваконцаў. Лясьнік плёў кошыкі і кашалі ці проста курыў люльку, абапёршыся на стол. Марыля вязала рукавіцу, панчоху, латала вопратку, прыбірала што-небудзь па хаце. Міхась ляжаў на ложку са сваймі думкамі, часам вёў размову з Марыляй, бо Рыгор быў ня вельмі размоўны: адкажа на пытаньне і маўчыць; уставіў сваё слоўца ў размову—і зноў маўчыць, слухае і дабрадушна ўсьміхаецца, калі да яго гавораць. Такая ўжо натура маўклівая. Ціхая, добрая. Хоць і супярэчыць калі, не згаджаецца, аднак, даецца пераканаць: „Хай сабе будзе так, пабачым, што выйдзе“,—скажа ў заключэньне.

А на двары сьвішча віхор, пануе завіруха, грозна, панура, быццам са стогнам, шуміць бор. Блізка каля хаткі выюць ваўкі. Брэша ў сенцах, пачуўшы іх, Рудка. А калі яны потым, як загасяць агонь у хаце, асьмеляцца бегаць каля сенцаў, шукаюць Рудку, дык ён струсіць і ўжо боязна брэша, енчыць.

Уважліва даглядала Марыля Міхася. Старанна лячыў яго Піліп. Паіў рознымі зёлкамі, прыкладваў да раны прымочкі. Даказваў, што Міхась абавязкова паправіцца. Часта і так прыходзіў пагутарыць з Міхасём. Піліп—чалавек бывалы. На выгляд яму можна было даць гадоў каля 50. Моцны яшчэ, рухлівы. Апавядаў ён Міхасю пра сваё жыцьцё, пра прыгоды на японскай вайне. Запытваў, як тамака ў Расіі будуюць бальшавікі жыцьцё. Выказваў свае пагляды. Наогул-жа згаджаўся з імі. Лаяў палякаў,—абуралі яго іхнія парадкі і ўціск. „Дачакаюцца і яны таго, што ў Расіі“, казаў, „і трэба, каб гэта здарылася: вельмі ўжо любяць камандваць“.

Прызвычаіліся ўсе трое да Міхася. За свайго, за блізкага лічылі. А дзеля таго, што ён быў хворы, дык кожны стараўся як-небудзь дапамагаць. Хутка бег час. І панаваньне зімы зблізжалася да канца. Ясьней пачало сьвяціць сонейка. Пацякла са стрэх вада ад растопленага сьнегу. Адчувалася прадвесьне. Весялей стала на палянцы і ў хаце лясьніка.

Адначасна з прыбліжэньнем вясны, пачало папраўляцца здароўе Міхася. Быццам з растопленым сьнегам, разводзьдзямі, цёплымі праменьнямі сонца ўліваліся нейкія сокі ў цела, і нейкае цяпло рабіла больш моцнымі й рухлівымі яго часткі.

Цяпер Міхась ужо мог, папраўляючыся, з палкай хадзіць па хаце. А ў цёплыя дні выходзіў пасядзець на прызьбе, пагрэцца ў сонечных праменьнях пасьля сьцюдзёнай зімы.

Надышла вясна. Усё ўваскросла да жыцьця. Ажыло, прачнулася пасьля доўгага зімовага сну. Зялёным дыванам, пасыпаным краскамі, па-

крылася палянка. У сьвежую зялёную вопратку прыбраўся цёмны бор. Напоўніўся ён сьпевам, гоманам птушак. Пчолкі, жучкі, мурашкі, усякая малая жывёлка мятушылася, рухалася, кудысьці сьпяшалася пад цёплымі ласкавымі праменьнямі вясеньняга сонейка.

Міхась цэлыя дні брадзіў па лесе з прызвычаеным да яго Рудкам. Хадзіў, грэўся ў сонечных праменьнях, адпачываў у цені дрэў. Адшукваў месца, дзе летась ён ляжаў і паміраў прастрэлены, і тое месца, на Горадзенскім шляху, адкуль уцякалі арыштанты.

Дзе яны цяпер, які іх лёс? Магілка каля шляху сьведчыла аб тым, што некаторыя таварышы забіты. Колькі іх тут у магілцы ляжыць, невядома.

Сядзеў часам у гэтых мясцох з успамінамі аб леташніх падзеях, як ён выпадкова толькі выратаваўся, з думкай аб законах жыцьця, яго таямніцах, аб сваім далейшым лёсе.

Пагулянкі па лесе, сьвежае пахучае веснавое паветра рабілі добры ўплыў на здароўе Міхася. З кожным днём папраўляўся, адчуваў сябе лепей. Прырода была добрым доктарам.

Але адыйсьці ня мог, адчуваў сябе яшчэ вельмі слабым, каб перанесьці труднасьці, якія трапяцца ў дарозе ўцекача,—прыгоды. Трэба было чакаць, пакуль узмацнее здароўе. На гэтым асабліва настойвала Марыля. Рашыў чакаць і далей займацца гулянкамі па лесе.

Адзінотна, сумна адчуваў сябе Міхась. Усё навокал жыло, бурліла, а ён адзін, як нейкі цень-зданьнё, хадзіў бяз дзела. Прабуджвалася ў крыві жаданьне жыць, тварыць, змагацца,—жаданьне таго жыцьця, якому Міхась аддаўся. А замест таго жыцьця—вымушаная бязьдзейнасьць! Рваўся душой і думкай да жыцьця. Пераносіўся ён да свайго павятовага гарадка, да сваіх таварышоў па працы.

Думаў аб Галі, услухоўваўся ў шум бору, у гоман птушак. Быццам у гэтым хоры гукаў хацеў пачуць яе голас. Няўжо не давядзецца знайсьці і ўбачыць яе? Маляваў вобразы спатканьня з ёй, кожны раз яны былі іншыя. Ня ведаў, як яна спаткае яго, якое мае адносна яго пачуцьцё.

Не пакідала думка і аб схованым скарбе. Быў пэўны, што без яго ніхто не адшукае.

Толькі каб дабрацца да сваіх! Там яго чакае супакой, шчасьце і нагарода за пражытыя цярпеньні.

* * *

Настаў час адыходу Міхася. Здароўе ўжо дазваляла на гэта. Чакаць ужо ня прыходзілася нічога. Трэба было спрабаваць прабрацца да сваіх.

Дасталі для Міхася „довод особісты“, быццам ён зьяўляецца жыхаром тутэйшае вёскі Заборцы. Пілін амаль да самае дзяржаўнае мяжы хадзіў, каб разведаць дарогу і распытацца, дзе стаяць салдаты ці паліцыя.

Прыгатаваньне было скончана.

Быў цёплы ліпнёвы дзень. Вецер не шапатаў лісьцямі дрэў. Сонца падымалася ўсё вышэй, абсушала капелькі расы на траве, але яшчэ не дакучала сьпекай. Прышоў і Піліп адвітацца з Міхасём. Усім было неяк сумна, быццам шкадавалі адходу Міхася. Непакоіліся за яго лёс.

— Ня ведаю ўжо я, чым і адплаціць вам, добрыя людзі,—казаў узрушаны Міхась. Вы так многа зрабілі для мяне, што кожная нагарода ці падзяка будзе вельмі малой. А я-ж нічога ня маю, акрамя сэрца, а ў ім—шчырай падзякі вам.

— Ды што вы, ці-ж можна было йначай,—адказала праз сьлёзы Марыля. Трэба было ратаваць бездапаможнага хворага чалавека. І ніякай падзякі ня трэба. Ці-ж можна было йначай!

— Калі мне прыдзецца дабрацца да сваіх, а вам тутка будзе цяжка жыць, прыходзьце туды да нас, будзем разам усе жыць. Там хопіць месца і для вас. І ніхто крыўдзіць ня будзе. Нікога баяцца ня прыдзецца. Будзем сваімі рукамі каваць сваё жыцьцё,—лепшую будучыну.

Захапіўся Міхась пры думцы аб сваім родным краі. Разбураны, зьнішчаны, з няўхільнымі нядолямі, але вольны да будаваньня лепшага, здаваўся тутка ён нейкім раем.

— Мо' і спаткаемся калі, усяго бывае,—гара з гарой не спатыкаецца, а чалавек з чалавекам можа спаткацца. Хай толькі бог дапамагае вам дабрацца да сваіх. Вось будуць рады, як убачаць. Сумавалі, плакалі, лічылі забітым і раптам убачаць. Ой, як будуць рады!

Выказаў яшчэ раз усім шчырую падзяку, адвітаўся, як з сваімі блізкімі, роднымі... адышоў у бок, дзе зьвілістая пуцінка вяла ў цёмны бор.

Аглянуўся, не даходзячы бору, на лясьнічоўку.

Усе асталіся на тым месцы, дзе адвітаўся, і глядзелі яму ўсьлед.

Марыля выцірала хвартухом сьлёзы. Рыгор трымаў у руцэ згасшую люльку, запомніў пра яе. Піліп стаяў, апусьціўшы галаву. І супольнік яго пагулянак—Рудка віляў хвастом і брахаў, быццам разумеў расстаньне з чалавекам, да якога прызвычаіўся, і хацеў выказаць разам з людзьмі сваё пашкадаваньне.

Сьціснуліся жалем грудзі, зашчаміла на сэрцы Міхася. Пакідаў мо' назаўсёды і гэтых добрых людзей, і гэтую мілую лясьнічоўку, палянку, гэты куток, дзе змагаўся з хваробай, прыгодамі, апаскай і перамог іх дзе ўваскрос да жыцьця, дзе ўваскросьлі жаданьні жыць, змагацца, дзе ўваскросла надзея зьвярнуцца ў свот край, дзе, спадзяваўся, скончылася нядоля, хоць і ня ведаў, што чакае наперадзе...

Аглянуўся яшчэ раз, зьняў шапку, адвітаўся зводдалі... Адышоў. Нізка нахіленае над дарогай суччо дрэў схавала ад яго вока пакінутую лясьнічоўку. Ішоў мо' на спатканьне новых прыгод—апаскі.

* * *

Пагода ўвесь час падарожжа Міхася стаяла цёплая, ясная. Пад цёплымі, лагоднымі сонечнымі праменьнямі хвалявалася мора высокага жыта.

Сенажаці выглядалі стракатым ад красак дыванам. На паплавох і ў жытнім полі ўжо касілі сена. Зьвінелі ад раніцы косы, чуўся гоман, а часам і песьня касцоў. Разносіўся вецярком прыемны пах скошанай у пракосах травы і красак, якія вянулі й сохлі. Калі ўжо спадала раса, варочалі пракосы сена бабы, дзяўчаты. Іх рознакаляровыя хусткі, хвартухі, спадніцы, прыхарашвалі, неяк ажыўлялі зялёныя сенажаці.

Вобраз гэтых родных палёў, ніў, іх нязьмерныя прасторы, непадробленая прыродная прыгожасьць стваралі і ў Міхася добры настрой. Адчуваў сябе, як птушка, вылецеўшая з клеткі. Распраўляў, здавалася, пробаваў да ўзьлёту паламаныя крыльлі. Узмацніўся духам, запомніў аб апасцы, пачуў сябе сапраўды на волі. Няволя, цярпеньне цёмнай марай адышлі ў мінулае. Наперадзе, адчуваў гэта, былі нязьмерныя прасторы родных ніў, сонечныя праменьні, воля... лепшая будучына. Шоў, як той вандроўнік у краіну сонца. Верыў, што прыдзе, колькі-б перашкод і цяжараў не траплялася на шляху.

Аднак, трэба было ісьці з асьцярогай. Разумеў гэта Міхась, хоць і добры быў настрой і моцная была надзея. Бо і пад гэтымі лагоднымі сонечнымі праменьнямі перажыў ён няволю і цярпеньні, бо і ў гэтых нязьмежных прасторах цесна людзям бывае! Ня выходзіў Міхась на шлях, шоў малымі бочнымі дарожкамі. У вёскі заходзіў, каб дастаць толькі чаго-небудзь паесьці. У поўдзень, калі пякло сонца, зыходзі ў з дарогі, шоў у лясок, гай, кусты і спаў, адпачываў у цяні. Адпачыў крыху—ізноў далей. Спатыкаецца часам з касцамі—пасядзіць, пагаворыць, распытае дарогу. Начаваць таксама часта прыходзілася ў полі, каб устаць разам з сонцам і йсьці далей. Па сваім выглядзе і вопратцы Міхась асабліва не адрозьніваўся ад тутэйшых жыхароў, дзеля чаго не затрымліваў на сабе нічыёй увагі.

Так бяз прыгод пасоўваўся Міхась наперад. Ужо недалёка была дзяржаўная мяжа. Хутка вырашыцца яго лёс. Забілася мацней сэрца пры гэтай думцы. Блізкасьць дзяржаўнае мяжы выклікала, з аднаго боку, радасьць магчымасьці хутка дабрацца да сваіх, узмацняла жаданьне звароту, з другога боку—нейкі страх ахапляў Міхася, апаска здавалася нямінучай, а цёмная мара мінулага, адышоўшая ня так даўно, стала вось зусім блізка каля яго.

Гэткі настрой абхапіў Міхася не надоўга. Перамог яго, супакоіўся, абадрыўся.

Да дзяржаўнае мяжы засталося некалькі вёрст. Сёньня так ці йначай Міхась спрабуе перайсьці яе.

Цяпер ён ужо не пашоў дарожкай. Зьвярнуў убок і пачаў прабірацца па кустох, а потым увашоў у лес і пашоў лесам. Вярсты са тры прашоў лесам і заўважыў, што ён канчаецца. Трэба было разглядзець дарогу далей, бо дзяржаўная мяжа была зусім блізка.

Пачаў асьцярожна Міхась прабірацца да ўскрайку лесу.

Затрымаўся каля ўскрайку і стаў разглядаць месца наперадзе.

Раптам пачуў збоку нейкі шум. Азірнуўся... крокаў ня больш дзесяці ад сябе ўбачыў двох жаўнераў. Шлі, незаўважаныя раней Міхасём, малой лясной дарожкай, якая блізка Міхася выходзіла з лесу,—відавочна на варту. Калі Міхась пачуў шум і азірнуўся, жаўнеры ўжо падыходзілі да яго...

Спыталіся пра дакуманты... Прачыталі паданы ім „довод особісты“, патрабавалі пропуск на права знаходзіцца ў прымежнай паласе.

Пра ўсё гэта запытваліся, здаецца, так сабе, для формальнасьці, бо відаць было, што рашылі затрымаць Міхася незалежна ад таго, якія ён пакажа дакуманты.

Са стрэльбамі ў руках павялі Міхася на заставу, а адтуль пасьля допыту—у штаб атраду, які на гэты раз знаходзіўся недалёка ад заставы.

У штабе атраду пачалі яшчэ дапытваць Міхася і капацца ў нейкіх паперах. Бралі адну кіпу папер, пералісталі, адкладвалі, пачыналі пералістваць другую.

На аднэй паперы затрымаліся. Прачытвалі адзін за другім. Па прачытаньні кожны ківаў упэўнена галавой. Павесялелі неяк. Уважліва разглядалі твар Міхася і адначасова нейкую фотографію.

— Міхась Дуброўка, бальшавіцкі камісар, які зьбег у 20 годзе на Горадзенскім шляху,—прамовіў адзін з пэўным тонам у голасе, зварачаючыся да Міхася.

Быццам агнём, як ад леташнее кулі, прашыла Міхася гэтая вестка.

Адкрылі яго, згінула надзея ўцёку, і цяпер ён прападзе.

Замітусілася ў вачох, паблядне ў. Не адказваў на пытаньні, маўчаў, бо нават і ня мог прамовіць нічога.

Зразумеў, што неадкладна рашылі яго кудысьці адаслаць, кагосьці паведаміць тэлеграмай. Комэндант толькі казаў нешта, быццам уся варта адасланая кудысьці і, здаецца, прапанаваў пакуль што Міхася не адсылаць, але яму далі наказ абавязкова адаслаць.

Праз поўгадзіны адзелі на рукі і ногі Міхасю кайданы, пасадзілі на звычайную вясковую фурманку. Наперадзе сеў селянін—фурманшчык, а разам з прывязаным да калёс вяроўкамі Міхасём сеў жаўнер са стрэльбай. Зразумеў цяпер Міхась, што яго адсылаюць у павятовы горад.

Па пясчаным шляху трушком паехалі... На спатканьне... новых для Міхася цярпеньняў. А ў выніку... запомніў Міхась пра гэта... выкананьне над ім прыгавору, кары сьмерці. Так многа перажываньняў на працягу аднаго дня.

Воля, магчымасьць хуткага спатканьня, і вось у час, калі сэрца, думкі рваліся туды, рэзкая адмена становішча.

Злоўлены, адкрыты, закуты ў ланцугі, скручаны вяроўкамі ён едзе... куды... дзеля чаго?

Усё гэта сталася так нсспадзявана, раптам! Толькі цяпер Міхась быццам прачнуўся, даў сабе адчот, пачаў раздумлівацца ў сваім становішчы. Яшчэ некалькі гадзін таму адчуваў сябё такім шчасьлівым нават тутка на чужыне, у адзіноце. Усё здавалася такім добрым, лагодным, усьміхалася да яго таму, што быў не на волі.

Не! толькі той адчуе, зразумее што такое воля, хто яе страціў. Толькі той зразумее і адчуе, што такое не дасягнуць мэты, да якое рвецца пачуцьцё сэрца, думкі, што вось, вось дасягаў, быў блізка ля яе і... страціў з вока.

Сядзеў на трасучай фурманцы з думкамі, пачуцьцямі, больш балюча скованымі, чымся цела.

„А беднае сэрца жадае так волі“!

Бегла на думку з чутай колісьці песьні. Ці прыдзецца яшчэ раз пабачыць яе, насалодзіцца? Уцячы? Усё роўна чакае сьмерць. Але як?

Тады, пад Горадняй, дык хоць рукі і ногі ня былі закутыя ў ланцугі ды і цела ня было балюча скручана вяроўкамі.

А цяпер, і рушыцца немагчыма. Уздыхнуў толькі цяжка пры думцы, што нават тады ён быў больш шчасьлівы, хоць і тады чакала яго сьмерць.

Ад‘ехалі больш 10 вёрст. Шляхам амаль што ніхто ня ехаў.

Усе былі заняты на сенажаці.

Сонца ўжо было нявысока.

Эх, каб не ланцугі, не вяроўкі! За ўсялякую цану спрабаваў-бы купіць сабе волю.

Пачаў Міхась разглядаць сваіх падарожных. Жаўнер сядзеў увесь час са стрэльбай у руках і ўважліва сачыў за кожным рухам Міхася. Селянін-фурманшчык паганяў каня, але той быў ня вельмі сільны і не хацеў бегчы па мяккай пяшчанай дарозе. Гаварыць з селянінам Міхасю не дазваляў жаўнер.

Цяпер селянін палажыў лейцы і пачаў скручваць папяросу.

Конь пачуў сябе вольным ад лейцаў і шукаючы, дзе лягчэй везьці калёсы, пашоў бокам шляху каля канавы. Вось ён зусім пашоў выдратаванай каля канавы сьцежкай. Колы з Міхасёвага боку спаўзьлі на скат канавы, дзеля чаго воз накраніўся.

Міхась, ня ведаючы сам, дзеля чаго ён гэта робіць, выцягнуўся колькі мог, схіліўся ўбок канавы, быццам хацеў паправіцца ад вяровак Воз страціў роўнавагу і абярнуўся ў канаву. Міхась амаль не зламаў шыі, апынуўшыся пад возам. Жаўнер і селянін таксама апынуліся ў канаве, прыціснутыя згары возам. А конь убачыў магчымасьць адпачыць і застанавіўся.

Першым выбраўся жаўнер. Вылаяўся на селяніна. Хацеў нават пабіць. Ледзь той адпрасіўся. Пачалі спрабаваць падняць воз. Але дзе там!— канава была глыбокая. Міхась быў прывязаны да возу і ня мог рушыцца. Селянін параіў перш адвязаць Міхася, а тады конь выцягне воз, бо йначай

нельга падняць, а калі рушыць каня, дык задушаць і паломяць бакі Міхася.

Згадзіўся жаўнер з гэтым.

Адвязалі Міхася, кранулі каня, той выцягнуў з канавы воз, а цяпер ужо селянін адзін яго адвярнуў. Жаўнер вартаваў Міхася. І калі воз стаяў на дарозе, прывёў яго да возу, каб зноў прывязаць.

„Цяпер ці ніколі! Калі памерці, дык у барацьбе“, падумаў Міхась. Азірнуўся—жаўнер быў блізка каля яго.

Нэрвовым, сільным, неспадзяваным рухам ускочыў Міхась і хапіў за стрэльбу. Той моцна яе трымаў. Счапілася, ухапіліся абое моцна за стрэльбу, потым адзін за другога. Зазьвінелі ланцугі Міхася, рабілі яму перашкоду, але ён натужыў усю моц, якую раптам пачуў у сабе. Барацьба завязался не на жыцьцё, а на сьмерць. Пакаціліся абое на зямлю. То Міхась, то жаўнер былі на гары. Раз неяк удатна Міхась апынуўся на жаўнеры. Пусьціў стрэльбу, схапіў жаўнера за горла і пачаў яго душыць; той выпусьціў з рук стрэльбу і, схапіўшы Міхася за рукі, пачаў абараняцца. Ізноў пакаціліся па зямлі, а стрэльба ўжо засталася на шляху. Аднак, жаўнер не паддаваўся і моцна трымаў Міхася.

Нарэшце, аслабаніўшы неяк правую руку, Міхась ударыў моцна ланцугом у твар жаўнеру каля вока. Той ад болю схапіўся за вока, а тымчасам Міхась вырваў левую руку, перш чым жаўнер пасьпеў схапіць яго. Адзін скок—і стрэльба ў Міхася. Жаўнер прымушан быў паддацца. Аддаў ключ ад кайданаў і ўсе паперы. З вязьня Міхась перарабіўся ў вартаўніка.

„Што рабіць з бяззбройным жаўнерам? Забіць яго і ўцякаць“, пачаў раздумліваццa Міхась.

Крыху падумаўшы, рашыў, аднак, не забіваць яго: шкада было неяк забіваць бяззбройнага, хаця і ворага: лепш выкарыстаць, як правадніка. Жаўнер баязьліва паглядаў цяпер на раскутага з кайданаў і са стрэльбай у руках Міхася й чакаў вырашэньня свайго лёсу, спадзяючыся, што той яго застрэліць.

— Вось што, шаноўны! Ты цяпер павінен мяне перавесьці праз дзяржаўную мяжу. І так перавесьці, каб ніякае людзкое вока ня бачыла. Разумееш. Калі наўмысьле ці нават зьнянацку навядзеш на варту, так для цябе будзе большая апаска, як для мяне, бо пакуль мяне,—ты будзеш забіты. Калі паспрабуеш уцякаць ці паклікаць каго, ці падаць які-небудзь умоўны знак, дык будзеш забіты покатам. Жартаваць я ня ўмею. А калі добра правядзеш, дык можаш разьлічваць на тое, што застанешся пры жыцьці. Зразумеў? Згаджаешся на гэта?—запытаўся Міхась у жаўнера і ўважліва сачыў за кожным яго рухам, выглядам твару. Жаўнер згадзіўся і, здавалася, што шчыра згадзіўся.

Даў загад селяніну, каб той зьвязаў на ўсякі выпадак жаўнеру рукі вяроўкай, бо кайданы будуць бранчаць і перашкаджаць захоўваць цішыню.

Селі йзноў на фурманку. Зьвярнулі са шляху па бакавой дарожцы, паехалі ў напрамку дзяржаўнай мяжы.

Міхась пачаў цяпер раздумліваць, ці добра ён зрабіў, што ўзяў з сабой жаўнера, ці выдасьць ён Міхася? Ці будзе жаданьне жыць мацнейшым ад жаданьня выдаць Міхася? Пайсьці аднаму? Можна зноў насунуцца на варту, бо няведама, дзе дзяржаўная мяжа і дзе стаіць гэта самая варта. Пайсьці з селянінам? Ён і сам ня ведае нічога, а куды дзець тады жаўнера?—Забіць толькі. Пакінуць зьвязаным—будзе крычаць, і тады ўсё прапала. А забіць шкада.

Не! Застаецца толькі выкарыстаць яго, бо ён за ўсіх лепш ведае, дзе стаіць варта.

Паставіць стаўку на яго жаданьне жыць,—самае моцнае чалавечае жаданьне.

Яшчэ раз выклажыў свой плян жаўнеру, сказаў, як ён павінен захоўвацца і г. д. Распытаўся, хто ён такі, і калі даведаўся, што той сам селянін, які да вайсковае службы працаваў на сваёй гаспадарцы, аж павесялеў Міхась. Пачаў больш дружна гаварыць з жаўнерам, пачаў апавядаць, што ён перацярпеў у паноў, чаму яго так ловяць,—апавядаць пра непарадкі і крыўды ў Польшчы, пра тое, як будуецца жыцьцё тамака, у Савецкай старонцы. Умяшаўся ў размову селянін, і яны не заўважылі, як хутка прабег час. Сонца ўжо зашло і пачынала цямнець; хоць конь амаль прыстаў, аднак па просьбе Міхася селянін увесь час паганяў яго, і яны шмат ад'ехалі.

Да дзяржаўнае мяжы асталося дванаццаць-пятнаццаць вёрст. Каб не папасьці на разьезд, рашылі далей пайсьці пехатой. Міхась папрасіў, каб і селянін падышоў з імі. Той спачатку адмаўляўся, але потым згадзіўся. Выбралі адпаведнае месца, дзе можна было-б схаваць пакуль што хурманку. Выпраглі каня. Прывязалі яго да калёс, спуталі яго, каб хтонебудзь не павёў, кайданамі і пашлі далей.

Трэба было да раніцы абавязкова перабрацца праз мяжу, бо йначай адкрыюць уцёк і зловяць.

Ноч была цёплая. Мільгалі на небе зоркі. Пад кустамі сьвяціліся купальскія чарвячкі. Гаварылі ў паўголаса, каб не зьвяртаць на сябе ўвагу ў цішыні ночы.

Так прашлі больш дзьвёх гадзін. Жаўнер паведаміў, што да дзяржаўнае мяжы ня больш 3 вёрст. Селянін пачаў прасіцца, каб яго адпусьціць, бо яму было рызыкоўна знаходзіцца тутка, а ў разе, каб захапілі, ён таксама прапаў-бы.

Прышлося згадзіцца з ім і адпусьціць. Застаўся Міхась адзін з жаўнерам. Які канец будзе?—думаў. Хоць цяпер неяк больш верыў жаўнеру, але бачна трымаў яго на воку. Сачыў за кожным яго рухам. Ісьці трэба было вельмі асьцярожна: ішлі лясочкамі, хмызьнякамі, затрымліваліся, прыслухоўваліся. Дагэтуль Міхась жаўнера ні ў чым не западозрыў.

— Ці далёка мяжа?—спытаўся шопатам Міхась, калі жаўнер, які шоў уперадзе, затрымаўся на гэты раз даўжэй.

— Да яе ня больш поўвярсты, але нам трэба нейкі час ісьці ўздоўж мяжы, бо ў гэтым месцы яна адкрыта і небясьпечна пераходзіць,—адказаў той.

Зьмянілі напрамак і пашлі ў той бок, дзе хмызьнякі зьліваліся з лесам. Прашлі толькі некалькі крокаў, як пачуўся конскі тупат. Хмызьнякі каля іх былі ня вельмі густыя. Кінуліся пад кусты, лягглі на зямлі. Тупат, здаецца, зблiжаўся да іх.

„Першая спроба“, падумаў Міхась і накіраваў убок жаўнера стрэльбу, каб напомніць яму наказ, бо гаварыць ужо было нельга, дзякуючы таму, што конныя былі зусім блізка... Вось... некалькі... крокаў... якраз на іх.

Яшчэ хвіліна, і некалькі конных праехалі за 10-15 крокаў наперадзе Міхася й жаўнера і паехалі ў напрамку дзяржаўнае мяжы.

Цішыня і кусты, аднак, ня выдалі ўцекача. Ляжалі праз нейкі час, пакуль не заціх уводдалі тупат.

— Гэта разьезд правярае чуйнасьць варты,—прашаптаў жаўнер.

Цяпер Міхась супакоіўся і больш упэўніўся, што жаўнер ня мае на думцы яго падвясьці.

Паляжалі крыху і пашлі далей у напрамку лясочку. Перашлі дарожку, па якой толькі што праехалі конныя. А далей кусты пашлі густыя і высокія, пакуль зусім ня зьліліся з лесам.

— Тут можна пераходзіць, але трэба яшчэ пачакаць, бо нядаўна праяжджаў разьезд, зараз будуць зьмяняць варту,—прамовіў жаўнер.

— Пачакаем крыху,—згадзіўся Міхась,—але трэба будзе пераходзіць пакуль не пачало віднець.

Селі сярод маладых хвоек і думалі кожны аб сабе, маўчком. Сядзелі так гадзіну, мо' й больш.

Перажытае за апошні дзень выклікала ў Міхася нязьмерную ўтомлівасьць, нават думкі кудысьці адбеглі.

Гадзіна, якую яны сядзелі, здавалася Міхасю цэлай вечнасьцю.

Трэба было рухацца, бо ўжо пачынала віднець. Пачалі прабірацца ў тойбок, дзе ў лесе, здавалася, было больш сьветла. Пасоўваліся вельмі павольна, асьцярожна, каб не зламаць пад нагой галінку. Часам, здавалася Міхасю, што шум іх пачулі, адкрылі. Рабілася неяк боязна, хацелася ўцякаць ад мяжы.

Скончыўся лес і зноў пашлі хмызьнякі.

— Цяпер трэба паўзьці на жываце,—сказаў жаўнер.

Ляглі на зямлю, Міхась цяпер разьвязаў жаўнеру рукі, каб лепей было паўзьці, і папаўзьлі.

На самай мяжы, як зразумеў Міхась, кусты былі выраблены, дзеля чаго было больш небясьпечна, ды і варта знаходзілася недалёка.

Жудасная хвіліна.

Падпоўз Міхась да жаўнера, калі той затрымаўся.

— Ці далёка яшчэ?—спытаўся.

— Вунь той хмызьняк ужо на савецкім баку.

Хацелася ўскочыць і бегчы, аднак было яшчэ далёка, трэба было паўзьці.

Вось бліжэй... бліжэй.

Нарэшце дасягнулі.

— Перашлі,—шэпча жаўнер, калі апынуліся ў кустох і ўсталі на ногі.—Бачыце, вось блізка межавыя слупы, а крыху далей—варта.

Ня верылася Міхасю, што ён перашоў, што ён нарэшце на сваёй зямлі. Быццам нейкая тамлыга спала. Так зрабілася лёгка на сэрцы, соладка. Хацелася цалаваць і гэтую зямлю, гэтыя кусты. Хацелася плакаць ад радасьці.

— Ну цяпер, браце, дзякую табе. Маеш сабе тваю стрэльбу і можаш ісьці. Цяпер ты мне непатрэбны больш,—сказаў, працягваючы жаўнеру стрэльбу, Міхась.

Той стаяў і ня рухаўся.

— Бяры стрэльбу, хіба не застрэліш мяне цяпер. Ідзі сабе да сваіх я цябе не хачу затрымліваць.

— Боязна нейк, каб мяне не расстралялі за тое, што ты ўцёк,— адказаў той, але стрэльбы ня браў.

— Не павінны расстраляць, бо ты не вінават. Я цябе перамог. Можаш таго селяніна паклікаць у сьведкі.

— А калі я пайду туды, да вас, дык там мяне ня будуць расстрэльваць?

— За што цябе расстрэльваць! Ты-ж нічога дрэннага нам не зрабіў. Што служыш у польскім войску, дык мы ведаем, што прымушаюць да гэтага. Калі хочаш, пойдзем да нас, ніхто цябе ня будзе крыўдзіць, устроім на працу і будзеш сабе жыць лепш, як у Польшчы,—сказаў, крыху падумаўшы, Міхась.

— Так я пайду да вас,—рашыў жаўнер.

— І добра зробіш.

Два нядаўніх ворагі накіраваліся туды, дзе чырвоная зара прадвяшчала ліпнёвай раніцы ўсход сонца, а ім—новае жыцьцё.

* * *

Было ўжо цёмна, калі Міхась зышоў з цягніка на станцыі свайго павятовага гораду і праз знаёмыя вуліцы накіраваўся у цэнтр гораду. Ня ведаў, куды пойдзе. Шоў, захоплены радаснымі думкамі. Прыпамінаў кожную асаблівасьць вуліцы, амаль кожны домік. Родным, блізкім, больш блізкім, як раней, здавалася яму ўсё гэта. Вышаў на галоўную вуліцу,— яна была больш асьветлена, больш было людзей. Мінуў дом, дзе мясьціўся Аддзел Народнае Асьветы. Ціха ў ім было і супакойна. Унутры

ня было сьвету. А тутка недалёка й дом, у якім жыў Міхась. Вунь там збоку двара ганак, на якім ён адвітаўся з Галяй.

„Дзе яна цяпер“, падумаў.

— Куды йсьці?—Затрымаўся і пачаў чытаць у асьветленым месцы афішы.

„Сёньня 11-га ліпня ў Нардоме адбудзецца ўрачыстае пасяджэньне, з прычыны гадавіны вызваленьня Савецкай Беларусі ад панскай улады... Запрашаюцца прадстаўнікі... і г. д.

„Вось чаму сёньня зачынены магазыны! Вялікае сьвята аказваецца. Трэба пайсьці ў Нардом. Там усіх спаткаю“, падумаў Міхась і накіраваў свае крокі на вуліцу, дзе быў Нардом.

Застукалася неяк мацней сэрца ў Міхася, калі падышоў ён да Нардому, быццам нешта, надта важнае ў яго жыцьці мела тут вырашыцца.

Хлопцы, што стаялі ў дзьверах, спачатку ня пусьцілі Міхася, спыталіся, ці мае ад саюзу білет, але потым пабачылі яго чырвоную вопратку й агульны выгляд і ўпусьцілі ў залю.

Народу было вельмі многа. Сядзелі на лаўках, а рэшта, каму не хапала месца, стаялі ў тыле лавак і па бакох.. Было душна, хоць праз адчыненыя вокны ўліваўся струмень паветра.

На сцэне аб чымсь гаварыў оратар. Праціснуўся Міхась бліжэй да лавак, каб пабачыць, хто на сцэне, і лепш пачуць, аб чым гавора оратар.

Хутка распазнаў усіх Міхась. Некалькі добра знаёмых таварышоў Міхася сядзелі ў прэзыдыуме. Старшыня Выканкому рабіў даклад аб значнасьці сьвята. Цяпер Міхась ужо добра чуў. Дакладчык гаварыў аб бойках на заходнім фронце, аб тым, што нам каштавалі гэтыя бойкі, аб тым, якой цаной мы купілі вызваленьне. Крыху спыніўся, як здавалася Міхасю, уздыхнуў і кажа далей: „Вы бачыце, якой вялікай цаной мы купілі волю нашае старонкі. Многа страт, многа ахвяр—не пералічыш. У тым агульным ліку ахвяр мы маем і свае. Мы страцілі адданага барацьбіта, лепшага таварыша-друга... Дуброўку Міхася. Прапаную ўшанаваць яго памяць“...

Усе ўсталі, паліліся балюча хапаючыя за сэрца гукі жалобнага маршу. Убачыў Міхась, як да апушчаных галоў, падымаліся хустачкі да носу—выцілралі сьлёзы.

— Не! не!—прамовіў Міхась і выцягнуў рукі ўбок сцэны.

Але ніхто яго не пачуў, не зьвярнуў увагі. Зашчыміла на сэрцы, радасьць і жаль неяк зьмяшаліся ў адно моцнае пачуцьцё, зрабіўся быццам няпрытомны. Хацеў голасна крыкнуць, што ён тут,—але нешта затрымалася ў горле і не дае слова прамовіць... Ня можа ніяк праглынуць тое, што перашкаджае гаварыць, пачаў праціскацца да сцэны. Чуў незда-

вальняючыя ўзгалосы, чаму ён штурхаецца. Не затрымліваўся—ціснуўся бліжэй.

Змоўклі жалобныя гукі. Міхась ужо быў недалёка сцэны. Спрабаваў прамовіць цяпер.

— Я... я...—ізноў абарвалася.

Але на сцэне заўважылі, што нейкі чалавек прасуваецца да іх, хоча нешта гаварыць. І выгляд у яго такі нязвычайны, узрушаны. Пачалі прыглядацца, нарэшце Міхась высунуўся з натаўпу на пустое месца між сцэнай і пярэднімі лаўкамі.

— Таварыш Дуброўка... Міхась...—крыкнулі са сцэны.

Пазналі. Зьбеглі са сцэны. Паўскаквалі з пярэдніх лавак. Некалькі рук схапілі Міхася і панясьлі на сцэну. У залі стварыўся нялад: усе паўскаквалі з месц і цісналіся да сцэны, бо ня ведалі, што там такое нязвычайнае зрабілася.

—Таварыш Дуброўка жыў,—крыкнуў са сцэны нехта.

Заля агаласілася гучнымі воплескамі і яшчэ больш ціснулася да сцэны. Міхася абступілі са ўсіх старон, абнімалі, гушкалі на руках, выкрыквалі прывітаньні. У залі ня моўклі гучныя воплескі. Агульны радасны настрой абхапіў усіх. Сьвяткаваньне вылілася ў овацыі так неспадзявана зьявіўшагася барацьбіта—таварыша.

Міхась адчуваў сябе быццам у нейкім сьне. Новых і новых усё бачыў таварышоў. Усіх здаецца. „А дзе-ж Галя? Ці-ж яе няма тут? Так хочацца пабачыць", падумаў Міхась. Калі стала крыху спакайней ад першага ўражаньня, азірнуўся навокал, зрабіў некалькі крокаў, каб прабрацца зноў у залю. Мо' там яе ўбачыць. Праціснуўся праз кальцо акружыўшых яго таварышоў.

Недалёка ад яго, на сцэне, абапершыся каля сьцяны, стаяла Галя. Была ўзрушана і відавочна ёй не хапала сіл, каб праціснуцца да абступленага Міхася; чакала калі будзе вальней. Хутка падбег ён да яе. Убачыла яго. Пачырванелі яшчэ ружовыя шчокі. Падняла павекі, лагодны вымоўны ўзрок затапіла ў ім. На куткох вачэй блішчалі і сьвяціліся брыльлянтамі яшчэ ня выцертыя сьлёзы. З такім выглядам у гэтую хвіліну была яшчэ болей прыгожай.

— Таварыш Дубр...—спынілася, зірнуўшы яму пытліва ў вочы.—Міхаська!..

— Галя, дарагая Галя!..

Бяз лішніх слоў адчулі, што яны кахаюць адзін другога, абняліся, пацалаваліся першы раз за ўвесь час знаёмства, за пачуцьцём, быццам даўно ўжо ведаюць, што толькі падзеі былі ім на перашкодзе, каб пайсьці супольна па жыцьцёвым шляху. Шчасьлівым адчуваў сябе Міхась. Для Галі-ж знураны, утомлены, худы, у парванай бруднай вопратцы Міхась быў у гэтую хвіліну даражэй усяго на сьвеце.

* * *

Праз некалькі дзён Міхась сядзеў на лаўцы, каля куста язьміну і апавядаў сваёй маладой жонцы Галі, як ён з прадстаўнікамі Грашовага Аддзелу і міліцыяй адшукаў у лясох Мазыршчыны схаваны скарб і як многа багацьця ў ім было.

— Але,—скончыў:—самае вялікае багацьце, якое я адшукаў, нават каб той скарб быў не дзяржаўным, а маім, гэта—ты, Галя.

— Доўга і цяжка прыходзілася табе, Міхася, шукаць, — адказала, уздыхнуўшы.—Цяпер-жа я буду табе дапамагаць у жыцьці, у барацьбе, і ніякі цяжар ня будзе нам не пад сілу.

Сьвяціла ліпнёвае сонца, шчабяталі птушкі, усё было сугалосна ў садзе каля дзіцячага дому. Сюды Міхась перашоў на кватэру, а зносіны з працай і горадам наогул патрымліваў сваім старым вэлёцыпэдам.

Дзеці зварачваліся з маршыроўкі. Яны шмат падрасьлі і арганізаваліся ў 1-ы піонэрскі атрад. Юраська ўжо запісаўся ў Комсамол і цяпер быў важаты сваіх таварышоў—піонэраў.

— Раз, два, тры! Раз, два, тры! Левай, левай,—чуўся цяпер яго гучны бадзёры голас.

Падышлі блізка. Юраська скамандаваў на прывітаньне.

— Стаць добрай, моцнай зьменай—будзьце гатовы!—прывітаў іх Міхась.

— Заўсёды гатовы!—льлецца хорам дзіцячы адказ.

# ДА ГУСЬЛЯЎ

**А. Гурло**

Іграйце гучна аб шчасьці, гусьлі,
Радзеце, струны, акорды песьні!
Жыцьцё зьвязала вас з Беларусьсю,
Яна-ж зьвязалась з сваёй прадвесьняй.

Што было ўчора няяснай марай,
Бяскрылым ўзьлётам, бязвольным ценем,
Сягоньня тое—уздым захмарны,
Сягоньня тое—парог хаценьня!

Травінкі шэлест і шэлест лісту
Ўжо баюць-кажуць другую казку,
Балота наша і луг квяцісты
Абняты сёньня павевам ласкі.

Адна прынада—прастор узорны
Пад ласкай сонца, пад сьпеў вясеньні!
Іграйце, гусьлі, напеў задорны,
Уклаўшы ў струны маё натхненьне!

Я з вамі, гусьлі, радзіўся, вырас,
Я з вамі, гусьлі, блудзіў па сьвеце,
Шукаў я з вамі жыцьцёвы вырай...
За гэта песьню вы мне складзеце...

Такую песьню, каб сэрца сьцешыць,
Каб стаўшы рана на постаць жніва,
Пусьціць па сьвеце адну дэпэшу:
Ўжо край мой родны жыве шчасьліва!

## ПЕСЬНЯ МАЛАТОЎ

### А. Гурло

Гук за гукам, звон за звонам
Раздаюцца там і тут...
Нібы іх хто ў далі гоніць...
Туку-туку, туку-ту!..

Гэтак звоняць... Перазвоны
Адбіваюць малаты,
І прастор ўзбуджаюць сонны
Іскры—зоры пекнаты.

Сонца толькі што устала,
Абудзіць каб к працы люд,
І ня рада, што праспала
На пацеху кавалю.

Сам сабою ён абуджан
Дзеля працы, для жыцьця.
О, каваль! Які ён дужы:
Ўдарыць—іскры паляцяць.

Не адзін ён: іх так многа
За ударам шлюць удар;
Нікне гора і трывога,
Калі грукне грамада.

Як прыгожа ўзьняты рукі,
Каб даць волю малату!
Гук за гукам родзіць гукі:
Туку-туку, туку-ту!

І пад гэтай ёмкай сілай,
Як саломка, гнецца сталь.
Эх, каваль, каваль-асілак:
Ўзмах адзін—прабіта цаль.

Ўзмах другі—усаджан шворан,
Трэці ўзмах—акута вось,
А на шыну дзьмецца горан,
Каб ня злазіла з калёс.

Вось каса там сьсе тачыла;
А вунь горбіцца і серп,
Што вада на гарт змачыла,
Каб ня здаўся на расе.

І ад досьвітку да змроку
Ў кузьні чутны галасы;
І нясуць іх ў даль далёка
Іскры вогненнай красы.

Малаты сьпяваюць песьню
Пад магутнасьць ўздыму рук,
Яха ўторыць ім прадвесьняй:
Туку-туку, туку-ту!

## ЁЙ СЕМНАЦЦАЦЬ...

**Аркадзь Моркаўка**

Вераб'і зачырыкалі ў скверы,
Вераб'і пачынаюць вясну,
І вясна адчыніла ўжо дзьверы,
Раскавала прыроду ад сну.

Шкло вітрын не глядзіць ужо вокам
Дзеда сівага, быццам вякі.
А за шклом мільгануў незнарокам
Вырыс кволай дзявочай рукі.

Вырыс рук... я пытаюся: вочы
Адгадайце, якія ў яе?
Мо', як цёмна-паўднёвыя ночы,
Можа, летняе неба, твае?

І здаецца, што жыцьцем нясьцяты
Гэта квет, толькі ўстаўшы ад сну...
Ёй семнаццаць, а мне дваццаць пяты,—
Выйдзі-ж—разам сустрэнем вясну!

## УСХОД

**Аркадзь Моркаўка**

Усьміхнулася сонца расіцаю,
Калясом узьнялося ў блакіт,
Залацістаю тонкаю сьпіцаю
Пранізаўшы спляценьні ракіт.

Пакацілася потым на ўзгорачкі,
Між лясных сьлізганула вяршын,
Дзе, шукаючы згасшыя зорачкі,
Калягіны паклала ад шын.

А затым, пасварыўшыся з хмаркамі,
Падражнілася сьлёзкай далоў,
І далей, паваротамі шпаркімі
Зясягала над цемем галоў.

# Я ВЕДАЮ ГЭТА

**Аркадзь Моркаўка**

Ня „выкляты богам“—юнацкі, бадзёры,
У вопратцы з шоўку ўваскрослы мой край.
Аб гэтым мне сьведчаць палі і вазёры,
Й прынадна аблутаны ценямі гай.

Аб гэтым мне кажуць і думкі-стагодкі,
Што зьвеку лунаюць пад стрэхамі хат,
Аб гэтым мне шэпчуць і хвоі-малодкі,
І дуб моцналісты—поэтавы брат.

Я ведаю гэта, працуючы ў полі,
Ў хвіліну аддыхі ў пуху-мураве,—
Бо сэрца ня ўмоўчыць аб знойдзенай долі,
Бо сэрца стукоча: край родны жыве!

## ХМЕЛЬ

**Аркадзь Моркаўка**

Ну й натура! Як толькі зямля
Усьміхнулася вокам праталін,
Калі бель толькі ёсьць ля камля,
Дык душу не скаваць сілай сталі.

Дык душу не скаваць! Го-го-го!
Здаццa-б з ветрам сягаці лугамі!
Гэты дзень, гэты сьвет для каго,—
Ці ня нашымі ўзьвернут плугамі?

Ці ня наша магутнасьць заве,—
Ды ці-ж гэта нас сёньня здаволіць,
Калі хмель веснавы ў галаве,
Калі сэрца пашло комсамоліць!

# МАРКСЫЗМ, ЛЕНІН І СУЧАСНАЯ КУЛЬТУРА [1]

**А. Дэбарын**

III

Матэрыялістычная дыалектыка вучыць нас таму, што старая грамадзкая формацыя, з якое родзіцца новае, накладае на першым часе на апошнюю сваю пячатку. Маркс, а за ім і Ленін, правілова разглядаюць загэтым „комунізм, як нешта тое, што разьвінаецца з капіталізму“, і ўстанаўляюць шэраг ступнёў экономічнае сьпеласьці комунізму.

„У першай сваёй фазе,—піша Ленін:—на першай ступні комунізм ня можа яшчэ быць экономічна зусім сьпелым, зусім вольным ад традыцый ці сьлядоў капіталізму. Адгэтуль сьледуе гэткае цікавае зьявішча, як захаваньне „вузкага пазему буржуазнага права“—пры комунізьме ў яго першай фазе. Буржуазнае права ў адносінах да разьмеркаваньня продуктаў *спажываньня* дапускае, зразумела, нямінуча і *буржуазную дзяржаву*, бо права—нічога без апарату, які-б быў здольным *прымушаць* да захаваньня норм права.

„Выходзіць, што ня толькі пры комунізьме застаецца на працягу вядомага часу буржуазнае права, але нават і буржуазная дзяржава—без буржуазіі.

„Гэта можа здавацца парадоксам, ці проста дыалектычнай ігрою розуму, у чым часта вінавацяць марксызм тыя людзі, якія не патурбаваліся ні капелькі над тым, каб вывучыць яго надзвычайна глыбокі зьмест.

„Сапраўды, астаткі старога ў новым паказваюць нам жыцьцё на кожным кроку: і ў натуры, і ў грамадзянстве. І Маркс не знарок уткнуў кавалачак „буржуазнага“ права ў комунізм, а ўзяў тое, што экономічна і палітычна нямінуча ў грамадзянстве, якое выходзіць з *нэтраў* капіталізму“ [2]).

Дзяржава наогул ёсьць організацыя сыстэматычнага гвалту аднае клясы над другою. У гэтых адносінах ня існуе розьніцы паміж буржуазнаю дэмократычнаю дзяржаваю і дыктатураю пролетарыяту, паміж рознастайнымі формамі дзяржаўнае організацыі наогул. Але ў сутнасьці паміж імі існуе агромністая розьніца, якая знаходзіцца ў тым, што буржу-

---

[1]) Глядзі „Полымя“ № 4 (12), 1924 г.—„*Пад сьцягам комунізму*“ № 6-7 1924 г. Масква.

[2]) Ленін—Збор твораў, т. XIV, стар. 377-378.

азная дзяржава, нават вышэйшая яе форма, маюць сваёю задачаю зацьвердзіць панаваньне буржуазіі; пролетарыят-жа робіць сваю дзяржаву, каб яна служыла арудзьдзем адкіданьня, зьнішчэньня ўсякае дзяржавы. Чыннасьць пролетарскае дзяржавы сыходзіць у тое, каб зрабіць яе лішняй. Пролетарская дзяржава мае сваім заданьнем зламаць перашкоды буржуазіі, і водлуг таго, як гэты процэс зьдзяйсьняецца, пролетарская дзяржава адмірае.

„Мы становім для сябе канечную мэту,—кажа Ленін:—зьнішчэньне дзяржавы, бач, усякага організаванага і сыстэматычнага гвалту, усякага гвалту над людзьмі наогул. Мы не чакаем наступу гэткага грамадзянскага парадку, калі-б не захоўваўся прынцып падляганьня меншасьці большасьці Але, імкнучыся да соцыялізму, мы пераконаны, што яны будуць перарастаць у комунізм, а ў сувязі з гэтым будзе гінуць усякая патрэбнасьць гвалту над людзьмі наогул, *у падляганьні* аднаго чалавека другому, аднэй часткі жыхарства другой яго частцы, бо людзі *прывыкнуць* да захаваньня элемэнтарных умоў грамадзкасьці бяз *гвалту і без падляганьня*“ [1]).

Ленін у многіх мясцох свае кнігі пра „дзяржаву і рэволюцыю“ падкрэсьлівае значэньне „*элемэнтарных правіл* і ўмоў *агульнага жыцьця*“. Гэтак даводзячы нязгоднасьць *свабоды з дзяржаваю*, падкрэсьліваючы, што толькі ў комуністычным вобчастве, дзе няма кляс, дзе існуе фактычная *роўнасьць* паміж сябрамі вобчаства ў адносінах да сродкаў вытворчасьці і спажываньня, існуе сапраўдная *свабода* і ня мае месца *дзяржава*, ён кажа далей: „І толькі тады дэмократыя пачне *адміраць* у моц тых простых абставін, што пазбаўленыя ад капіталістычнага прыгону, ад нязьлічаных жахаў, дзікасьцяй, бессансоўнасьцяй, гнусу капіталістычнай эксплёатацыі, людзі паступова *прывыкнуць* да захаваньня элемэнтарных, вякі вядомых, тысячагодзьдзі пераказваных ва ўсіх рукапісах правіл сужыцьця, да захаваньня іх бяз гвалту, бяз прымусу, без падляганьня, без *асобнага апарату* дзеля прынукі, які называецца дзяржаваю“ [2]).

Комуністычнае вобчаства ня ёсьць што-кольвечы застыгшае, нейкае скончанае грамадзкае становішча. Надварот, соцыялізм—гэта *рэальны рух*, а не *застойнасьць*, кажа Маркс. У сучасным вобчастве гушчы забітыя, прыгнечаныя і прыціснутыя... Хуткі рух наперад ва ўсіх галінах прыватнага і грамадзкага жыцьця пачнецца толькі з часу соцыялізму, бо ў гэтым руху будзе прымаць удзел спачатку большасьць жыхарства, а затым і ўсё жыхарства, кажа Ленін.

Першая фаза комуністычнага вобчаства—соцыялізм—мае яшчэ на сабе адбітак таго вобчаства, з нетраў якога гэта фаза вышла. Гэта соцыялістычная фаза акрэсьліваецца тым, што сродкі вытворчасьці перасталі быць прыватнаю ўласьнасьцю і перасталі належаць усяму вобчаству. Рэ-

---

1) Ленін, там-жа, стар. 364.

2) Тамака-ж, стар. 370.

чы спажывы на гэтай ступні грамадзкага разьвіцьця разьмяркоўваюцца водлуг працы.

На гэтай ступні разьвіцьця яшчэ ня зьдзейсьнены роўнасьць і справядлівасьць, бо *роўныя правы* адзначаюць несправядлівасьць, парушэньне роўнасьці, бо правы дапускаюць мажлівасьць ужыць аднакавую мерку да рознастайных людзей, якія неаднакавыя, няроўныя. У гэткім выпадку соцыялізм робіць ледзь першы крок: ён зьнішчае эксплёатацыю чалавека чалавекам. „Справядлівасьці і роўнасьці, значыцца, першая фаза комунізму яшчэ ня можа даць рознастайнасьці: рознастайнасьці ў багацьці застануцца і рознастайнасьці несправядлівыя, але немажліва будзе *эксплёатацыя* чалавека чалавекам, бо нельга захапіць *сродкі вытворчасьці*, *фабрыкі*, *машыны*, *зямлю і інш. ў прыватную ўласнасьць* [1]). Разгорнуты комунізм дапускае разьмеркаваньне рэчаў спажывы паводле *патрэб*. У меру разьвіцьця экономічных асноў комунізму зьдзяйсьняюцца для Леніна, як для кожнага марксыстага, элемэнтарныя правілы сужыцьця—роўнасьць, вольнасьць і справядлівасьць. Ідэалістыя-філёзофы, як і буржуазныя ідэолёгі, агалашалі роўнасьць, братэрства, вольнасьць і справядлівасьць, як „вечныя каштоўнасьці“, якія, вачавідкі, застаюцца вечнымі каштоўнасьцямі, ідэаламі. што носяцца, як бясьцельныя духі, над грэшнаю эмпірычнаю зямлёю, дзе і далей царуюць грабествы, гвалт і ўсякія зьверствы. Але яны здавальняліся тым, што ў паверх эмпірычным, патымбаковым сьвеце існуюць гэткія прыгожыя рэчы, як роўнасьць, свабода і справядлівасьць. Марксызм упяршыню ў гісторыі падыходзіць да гэтых „высокіх“ моральных ідэалаў і не з моральнага, а з гісторыка-матэрыялістычнага пункту гледжаньня. Уся папярэдняя філёзофія і ідэолёгія буржуазіі апіралася на грунт формальнае роўнасьці, формальнае свабоды і інш., або сама філёзофія зьяўляецца толькі абстрактным выказам грамадзянскіх адносін. Марксызм даводзіць, што *формальная роўнасьць* у сучасным вобчастве ёсьць выказ *рэальнай няроўнасьці*, *формальная свабода*—выказ *рэальнае несвабоды* і г. д. Марксыцкая этыка ня бачыць у „ідэале“ чагосьці такога, што чужа рачаіснасьці і што ёй супярэчыць, як нейкая *павіннасьць*. Для марксызму ня існуе разрыву паміж рачаіснасьцю і ідэалам. Комунізм—пісаў Маркс— не ідэал, з якім павінна згоджвацца рачаіснасьць“. Тыя, хто глядзяць збоку *ідэалізму*, збоку *ідэалу*, з якім павінна гадзіцца рачаіснасьць, звычайна забываюць пра гэту рачаіснасьць, застаючыся каля адцягнутага ідэалу. Дыялектычны матэрыялізм адрозьніваецца ад ідэалізму тым, што адзначаныя „ідэалы“ ён тлумачыць і выводзіць з рэальных умоў рачаіснасьці. Роўнасьць, ня формальная, а фактычная роўнасьць, ня выказвае сабою адцягненае ісьціны, нейкае адвечнае катэгорыі, аднакова ісьціннае для ўсіх часоў, а рэальны рух адзначае клясы сучаснага вобчаства, які выцякае з даных умоў жыцьця гэтае клясы. Маркс — кажа Ленін — не

[1]) Ленін, там-жа, стар. 373.

займаўся утопіямі. Маркс становіць пытаньне пра комунізм, як прыродаведчы паставіў-бы пытаньне аб разьвіцьці новае, скажам, біолёгічнае рознавыгляднасьці, калі мы ведаем, што яна гэтак вынікла і ў гэткім адзначаным кірунку мяняецца". Разам з разьвіцьцём комунізму мяняюцца выглядам і разьвінаюцца ідэі аб моральным, прыгожым іісьцінным

Адарванасьць паміж рачаіснасьцю і ідэалам, паміж тэорыяй і практыкай складае адно з самых вялікшых ліх і бядот, якія асталіся ад капіталістычнага вобчаства, правілова кажа Ленін. У тэорыі, у кніжках пісалі пра высокія матэрыі, а ў чыннасьці сваёй, у жыцьці—кіраваліся процілежнымі прынцыпамі. Матэрыялізм-жа ёсьць філёзофія змаганьня. Тэорыя і практыка зьдзяйсьняюць сваю еднасьць, свой сынтэз у *змаганьні*, у змаганьні за комунізм у практычнай зьмене рачаіснасьці.

Што-ж уяўляе з сябе мораль? І ці існуе наогул комуністычная мораль? На гэтыя запытаньні Ленін адказвае так: комуністыя адкідаюць мораль у тым сэнсе, у якім яе агалашала буржуазія. Буржуазія казала што правілы абычаю, моралі існуюць па божым вяленьні або па вяленьні адцягненага абычаю, ідэалістычных выслоўяў. Марксызм адкідае, словам, абычайнасьць, якая ўзята з паміма-чалавечнага, з паміма-клясавага разуменьня. Для комуністага ўвесь абычай складаецца з сьвядомага змаганьня мас супроціў эксплёататараў. „Абычай служыць для таго, каб людзкому вобчаству можна было падняцца вышэй, выбавіцца ад эксплёатацыі працы" [1]). Абычай падлягае, гэткім, чынам, інтарэсам клясавага змаганьня пролетарыяту. Да таго часу, пакуль цягнецца клясавае змаганьне, комуністычная абычайнасьць павінна служыць гэтаму змаганьню. „Абычайнасьць—гэта тое, што дапамагае разбурваньню старога, эксплёататарскага вобчаства і аб'яднаньню ўсіх працоўных гушчаў вакол пролетарыяту, які стварае новае вобчаства комуністых".

Дык вось, разьвіцьцё капіталізму стварае рэальныя матэрыяльныя ўмовы для зьдзейсьненьня роўнасьці свабоды і справядлівасьці. Пролетарыят змагаецца за фактычную роўнасьць і фактычную свабоду. Гэтыя лёзунгі ці ідэалы маюць агромністае значэньне. Процэс разьвіцьця сучаснага вобчаства йдзе ад формальнае роўнасьці і формальнае свабоды, ад дэмократыі праз дыктатуру пролетарыяту да соцыялізму і комунізму. „Фабрычная" дысцыпліна, якую, перамогшы капіталістых, скінуўшы эксплёататараў, пролетарыят распаўсюдзіць на ўсё вобчаства, кажа Ленін, ніякім чынам не зьяўляецца ні нашым ідэалам, ні нашаю канечнаю мэтаю, а толькі *ступенькаю*, якая неабходна дзеля таго, каб радыкальна ачысьціць вобчаства ад гнусу і брыдоты капіталістычнае эксплёатацыі і для далейшага руху наперад". „Фабрычная" дысцыпліна будзе зашчыльняць і аб'яднаць людзей, будзе іх *выхоўваць* згодна духу інтарэсаў грамады. Людзі навучацца свае прыватныя інтарэсы падлягаць інтарэсам грамадз-

---

[1]) Ленін—Збор твораў, т. XVII, стар. 324.

кім. „Стане прывычкаю—кажа Ленін—*неабходнасьць* ахоўваць нясkладныя асноўныя правілы ўсякага людзкога сужыцьця“. Людзі паступова навучацца працаваць на грамаду *бяз усякіх норм права.* І таму, што дзяржава ёсьць выказ няроўнасьці й прыціску, то тады, калі ажыцьцявіцца роўнасьць і свабода, дзяржава павінна памерці. Спачатку будзе зьдзейсьнена роўнасьць усіх сяброў вобчаства ў адносінах да валаданьня срodкамі вытворчасьці; далейшае разьвіцьцё вобчаства нямінуча прывядзе да фактычнае роўнасьці, да зьдзяйсьненьня правіла: „Кожны водлуг здольнасяцяй, кожнаму водлуг патрэб“. „Дзяржава магчыме поўнасьцю адмерці толькі тады—кажа Ленін,—калі вобчаства зьдзейсьніць правіла: „кожны водлуг здольнасьцяй, кожнаму водлуг патрэб“, бач калі людзі нагэтулькі прывыкнуць ахоўваць асноўныя правілы сужыцьця і калі іх праца будзе нагэтулькі вытворчаю, што яны добрахоць будуць працаваць *паводле здольнасьцяй* [1]).

Гэтак усе бакі грамадзянскага жыцьця зьвязаны ў адно конкрэтнае цэлае. Поўная роўнасьць і свабода будуць зьдзейсьнены ў комуністычным вобчастве, дзе інтарэсы індывідуума будуць супадаць з інтарэсамі вобчаства. У гэткім вобчастве няма ўжо месца дзяржаве. Усе людзі будуць кіраваць грамадзянскімі справамі, а там, дзе ўсе кіруюць, там няма месца для спэцыяльнай організацыі, якая-б стаяла *над* вобчаствам. У комуністычным вобчастве об'ектам управы будуць ня *людзі, а рэчы.*

Улада, абычайныя ідэі і рэлігійныя прадстаўленьні выцякаюць з крыніцы не паверхлюдзкага сьвету, а грамадзянскіх адносін. Грамадзянскія-ж адносіны, бач грамадзянскі лад, мяняюцца і адзначаюцца адносінамі, якія мае людзкі колектыў да натуры. Калі глядзець вачамі ідэалістых, то *абычайныя ідэі*, як і пазнавальная *ісьціна*, ляжаць па той бок *гістарычнага*, бач мянючага, адчулага матэрыяльнага сьвету. Таксама як у гносэолёгіі яны выходзяць з вечных, нярухомых ідэй, гэтак і ў моралі яны апэлююць да вечных разуменьняў. Побач яны зацьвярджаюць, што рэальны сьвет, конкрэтная рачаіснасьць, дзякуючы свайму праходнаму характару, ня можа даць об'ектыўнае ісьціны. Лёгізм і рацыяналізм у этыцы зацьвярджаюць, што мораль існуе ў сабе, як і ісьціны ў сабе, гэта значыць, мэтафізычнага моральнага закону, які ўзвышваецца над мянючаю, гістарычнаю рачіснасьцю. Але за гэтымі мэтафізычнымі выкрутасамі хаваецца жаданьне і імкненьне пануючае клясы „замарозіць“ даную рачаіснасьць, перавярнуўшы яе ў нязьменную гістарычную катэгорыю, якая адкідае *гістарычнае разьвіцьцё*. Гэткая сапраўдная дыялектыка грамадзянскае эволюцыі. Хто імкнецца да таго, каб *зьнішчыць клясу*, той ня можа заняць у сучасным вобчастве паверхклясавую ці надклясавую позыцыю, а павінен аддаць у падляганьне ўсё клясавае змаганьне пролетарыяту, бо праз *клясавае змаганьне* гісторыя вядзе да *бязклясавага*

[1]) Ленін—Збор твораў, т. XIV, стар. 376.

вобчаства, да грамадзянскае солідарнасьці людзей. Праз „фабрычную“ дысцыпліну, кажучы словамі Леніна, чалавецтва прыходзіць да гэткага грамадзкага ладу, калі людзі будуць глядзець на працу, як на асалоду і будуць добраахвотна працаваць дзеля дабра грамады. Але шлях, які вядзе да канечнае мэты, да ідэалу (кожны водлуг здольнасьцяй, кожнаму водлуг патрэб), як кажа Ленін, вядзе праз размаітыя ступні і пераходныя формы, зьвязаныя са строгаю дысцыплінаю, з гвалтоўнаю організацыяй. На гэтым шляху, які ня ўсаджаны кветкамі, а часамі—калючкамі, на шляху, які зьвязаны з вялікімі пакутамі ў асобных людзей, *вобчаства ўцалку* рухае нямінуча і няўхільна ў сувязі з неабходным экономічным разьвіцьцём наперад шляхам поступу. Толькі праз супярэчнасьці вобчаства йдзе да *солідарнасьці*, праз строгую організацыю і падляганьне—да грамадзкай організацыі, якая ня ведае гвалту, падляганьня і прынукі. Дзеля таго, каб людзі *прывыклі*, як кажа Ленін, ахоўваць элемэнтарныя правілы сужыцьця, ня трэба агалашаць моральных ідэй, *а самавыхаваньне і зьмену чалавека* водлуг неабходных экономічных перабудаваньняў вобчаства. Сусьветная гісторыя вядзе чалавецтва ад няроўнасьці да роўнасьці, ад прынукі да свабоды, ад клясавага вобчаства да бясклясавага і безьдзяржаўнага вобчаства. Усякая абычайная тэорыя да гэтага часу, кажа Энгэльс, зьяўлялася нарэшце вынікам данага экономічнага становішча вобчаства. „А таму што вобчаства да гэтага часу разьвівалася шляхам клясавых супярэчак, то абычайнасьць заўсёды была клясаваю абычайнасьцю: альбо яна апраўдвала панаваньне і інтарэсы пануючых кляс, альбо, калі кляса станавілася досыць моцнаю, яна абуралася супроціў гэтага панаваньня і бараніла наступныя інтарэсы прыгнечаных. Што помеж з гэтым, наогул, у абычайнасьці, як і ўва ўсіх іншых галінах людзкіх вед, адбываўся поступ,—у гэтым нельга сумнявацца. Але яшчэ і зараз мы ня вышлі за межы клясавае абычайнасьці. Абычайнасьць, якая стаіць вышэй клясавых супярэчак і ўсякіх аб іх успамінах, стане мажліваю пры гэткай ступні разьвіцьця вобчаства, калі ня толькі будзе адкінута супроцьлежнасьць кляс, але, разам з тым, згладзіцца яе сьлед з практычнага жыцьця“[1]) Прадстаўленьні пра роўнасьць і свабоду, справядлівасьць і братнюю злучнасьць усіх людзей зьяўляюцца продуктам гістарычнага процэсу, вынікам адзначаных матэрыяльных умоў, ад якіх іх нельга аддзяліць. Буржуазнае патрабаваньне роўнасьці мела ў воку адмену прывілей і ўстанову роўнасьці ў сфэры політычнай, у сфэры дзяржаўных адносін. Тое-ж самае йдзе і ў адносінах патрабаваньня свабоды. Пролетарскае-ж патрабаваньне роўнасьці сыходзіць да таго, каб зьнішчыць клясы і ўвясьці роўнасьць у рэальных умовах экономічнага і грамадзянскага жыцьця, як кажа Энгэльс. Абсолютнае абычайнасьці ня існуе, але з усіх існуючых зараз абычайных тэорый *пролетарская мораль наступнага* „валадае невялікім

[1]) Энгэльс—Анты-Дюрынг, расійск. выд. 1918 г., ст. 84. У мэтах большае дакладнасьці мною зроблены ў перакладзе прыведзенага сказу некаторыя папраўкі.

лікам элемэнтаў, якія абяцаюць ёй доўгую ўстойнасьць, што ў даную эпоху выказвае пункт гледжаньня наступнага“ (Энгэльс).

Пролетарскае *сьветаразуменьне і практычнае змаганьне* за зьдзяйсьненьне комунізму, што выходзіць з гэтага сьветаразуменьня, адчыняе гэткім чынам, перад усім чалавецтвам вялікасныя пэрспэктывы. Ніводная навука ня можа йсьці з ім параўнаўча ні ў адносінах навуковасьці, ні ў сэнсе яго практычнай каштоўнасьці. Буржуазныя філёзофы звычайна, хваляцца тым, што „мораль“ складае іх монополію, што марксызм і матэрыялізм адкідаюць усякую абычайнасьць. Калі прыняць на ўвагу выказанае намі, то, вядома, што яны хлусяць. І цікава, што як толькі справа даходзіць да таго, каб практычна зьдзейсьніць „вялікія прынцыпы моралі“, аб якіх гэтак клапоцяцца мысьліцелі-ідэалістыя, яны зараз-жа крычаць гвалт і даводзяць нявытрыманасьць і ненавуковасьць на *словах* тых прынцыпаў моралі, якія яны агалашаюць. Адзін ад крытыкаў марксызму, нейкі Гэрліх [1]) глуміцца з Леніна за тое, што ён чакае ад комуністычнага вобчаства нараджэньня новага чалавека, што ён аддае гэткае вагромнае значэньне *прывычцы* і інш. І разам з гэтым, аўтар раўнае марксызм, з яго „вераю“ ў наступны рай на зямлі, з яго „ўбагаўленьнем“ пролетарыяту, з хрысьціянствам. Вядома, гэты Гэрліх ня мае разуменьня аб тым прадмеце, аб якім ён напісаў цэлую кніжку [2]). Калі гэтак раўнаць, то выяўляецца, вядома, уся „перавага“ хрысьціянства, ня гледзячы на тое, што і марксызм, згодна буржуазнай традыцыі, абвяшчаецца імі за рэлігію. Перавага хрысьціянства складаецца, ці бачыце, з таго, што яно патрабуе зьмены асобнага індывідууму у той час, як рэволюцыйны марксызм і асабіста Ленін „патрабуюць“ зьмены ўсяго грамадзкага ладу. Хрысьціянства вучыць пра царства божае, а гэтыя зьненавісныя „утопістыя комуністыя“ мараць аб раі на зямлі, змагаюцца за яго і інш. Каб даказаць гэта, аўтар зварачаецца да Маркса і Энгэльса, Леніна і Троцкага. Хрысьціянства прызнае „спасіцелем“ адну асобу, а марксызм у якасьці „спасіцеля“ чалавецтва прызнае цэлую клясу—пролетарыят. Хрысьціянства вучыць, што вера спасае, а марксызм агалашае нешта зусім іншае. Як-жа не згадзіцца з гэтым пышным аўтарам, што дзеля „нямецкае душы“ нястарчыць „новага“ сьветапогляду, які-б апіраўся на хрысьціянства! Вось якая бязглуздасьць становіцца ў супярэч марксызму.

Дык вось, прызвычайка, згодна Леніну, вялікі чалавечы выхаўнік, кажа Гэрліх. Вядома, у гэткай агульнай форме—гэта зацьверджаньне аднабокае і няпраўдзівае. Але справа ў тым, што ў гэткім выглядзе гэта зацьверджаньне належыць ня Леніну, а Гэрліху.

---

[1]) Гл. яго кніжку—Fritz Gerlich; „Der Kommunismus als Sehre vom Tausendjährigen Reich, München 1920.

[2]) Пра комунізм і ў асабістасьці пра Леніна заграніцаю зьявіўся цэлы шэраг кніжак.

Маркс пісаў яшчэ ў саракавых гадох мінулага стагодзьдзя, што матэрыялізм складае аснову комунізму і соцыялізму. Калі чалавек чарпае свае адчуваньні, веды і інш. з надворнага сьвету ды з вопыту, які дастаецца ад гэтага сьвету, то трэба, вядома, гэтак наладзіць, каб чалавек атрымоўваў з гэтага сьвету вартыя яго ўражаньні, каб ён адчуваў сябе чалавекам. Калі правілова зразумелую прыватную цікавасьць прыняць за аснову ўсякае абычайнасьці, то трэба, вядома, паклапаціцца і аб тым, каб цікавасьць асобнага чалавека супадала з цікавасьцю чалавецтва. Калі людзкі характар ствараецца абставінамі, то трэба, вядома, гэтыя абставіны зрабіць такімі, каб яны былі варты чалавека. Калі прырода суліла чалавека да грамадзкага жыцьця, то, вядома, толькі ў грамадзе ён выяўляе сваю сапраўдную прыроду. Ленін, сьледам за Марксам, гаворачы аб *прызвычаі*, мае ў воку зьмену чалавека пад уплывам усёй агульнасьці грамадзкіх умоў таго месца, якое яго акольвае. Вобчаства зьяўляецца вялікім і адзіным *выхоўнікам* чалавека. Гэткія лемантарныя ісьціны даводзіцца ўбіваць у галовы буржуазных ідэолёгаў. І калі праўдзіва, а з пункту гледжаньня матэрыялізму гэта бязумоўна праўдзіва, што чалавек мяняецца замест мены месца і ўмоў грамадзкае організацыі, то ў комуністычным вобчастве чалавек, г. зн. уся агульнасьць яго выабражэньняў і ідэй, уся яго псыхіка, увесь яго характар і прызвычайкі крута мяняюцца. Загэтым і Маркс і Энгэльс кажуць пра *новага чалавека*, новае пакаленьне, якое вырасьце ў новых, свабодных, грамадзкіх умовах і ўжыве, зразумела, новыя „прызвычайкі“. І таму што вышэйшая фаза комунізму дапускае новага чалавека, таму што ў комуністычным вобчастве чалавек, як кажа Ленін, будзе глядзець на працу, як на першую патрэбу ў жыцьці, то прыстасаваньне чалавека да новых умоў жыцьця адбудзецца праз папярэднюю ніжэйшую фазу, дзе будзе зьдзейсьнены найстрогі контроль збоку вобчаства і збоку дзяржавы над асобным індывідуумам—„над мераю працы і мераю спажываньня“. „Новы чалавек“ родзіцца ня зразу, а формуецца ў цягу хады грамадзкага разьвіцьця і змаганьня колектыву аб‘яднанымі і організаванымі сіламі з надворнаю прыродаю.

З расійскае мовы пературмачыў **Дож**.

# ІМПЭРЫЯЛІЗМ

## І. В. Герчыкаў

Што такое імпэрыялізм?

На думку адных—гэта зьява зусім новая, „вынайдзеная здольным ангельскім жыдам Біконсфільдам у 1876 годзе". Гэта ён на 70-ым годзе жыцьця, стаўшы на чале ангельскага габінэту, у 1876 годзе абвесьціў ангельскую каралеву Вікторыю імпэратаркай Індыі, а на працягу свайго пяцігадовага, з 1874 да 1880 году, прабываньня на чале ангельскага габінэту далучыў да Англіі востраў Фіджы, зьнішчыў панаваньне Расіі на Чорным моры, вёў вайну ў Афганістане, абвесьціў Трансвааль колёніяй Англіі і г. д., і г. д., распачаўшы гэтай сваёй чыннасьцю эпоху захопніцкае політыкі эўропэйскіх дзяржаў. Гэтая вынаходка Біконсфільда мела вялізарны пасьпех, ўвашла ў моду і пасьля цэлага шэрагу міжнародных воен прывяла да вялізарнай вайны-катастрофы 1914—18 г. г.

На думку другіх, напр., нямецкага гісторыка Гэнрыха Фрыд'юнга, які выдаў у 1924 годзе апошні том свае вялікае працы пад гучным назовам „Эпоха імпэрыялізму",—імпэрыялізм—гэта вынік бязьмежных імкненьняў людзкое душы, заўсёднай нездаволенасьці яго сэрца. Да імпэрыялізму над усёй гісторыяй чалавецтва панавала ў XIX стагодзьдзі ідэя нацыянальная. Але вось, пасьля шэрагу рэволюцый і войн, струменяў пралітае крыві ды напружнае барацьбы, мэта дасягнута,—вырасьлі магутныя нацыянальныя дзяржавы, але заўжды непакойны дух людзкі ня можа заспакоіцца, народамі цалком апаноўвае новая туга, з абмежаваных абшар нацыянальнае бацькаўшчыны іх цягне да ўсясьветных заваёў, і для гэтага новага, але спрадвеку старога імкненьня яны знаходзяць гучную назову—імпэрыялізм. Бясконца ствараюць сабе пакаленьні новых багоў і новыя ідэалы [1]).

Калі Фрыд'юнг бачыць у імпэрыялізьме ўсё-ткі новую для нашых часоў зьяву, дык другі выдатны нямецкі гісторык Альбрэхт Вірт, які перавыдаў у 1924 годзе сваю „Гісторыю нашых часоў" (A. Wirt—„Weltgeschichte der gegenwart"), ня бачыць у імпэрыялізьме нічога новага. Ён бачыць імпэрыялістага ў старым грэцкім Фэмістокле, да імпэрыялістых

---

[1]) Nie aber ist das menschliche Herz befriedigt und gesäligt. Der ausbau der neugebildeten und der schon bestehenden Nationalstaaten füllte den ruhelosen geist nicht aus. Fine neue Leiclenschaft ergrift die Völker: sie streben aus der Heimat in die Weltweite und erfanden für diese alte, aber niemals gleichmächtige Begierde den tönenden Namen Imperialismus.

залічае рымскіх заваёўцаў Помпея і Сулу, ня кажучы ўжо аб параўнаўча маладым Наполеоне І.

Некаторыя гісторыкі нібы зусім не прыкмячаюць імпэрыялізму. Такім зьяўляецца трэці нямецкі гісторык Эгэльгаф, які таксама ў 1924 годзе перавыдаў сваю двухтомную „Гісторыю найноўшых часоў“ (Gottlob Egelhaft—„Geschichte der neuerten Zeit“—24 г.). Калі Фрыд'юнг і Вірт шмат гавораць аб імпэрыялізьме, выдзяляюць спэцыяльныя разьдзелы для яго тлумачэньня, дык Эгэльгаф толькі павярхоўна колькі раз успамінае аб імпэрыялізьме, проста як аб модным слоўцы, як аб нявыразным паняцьці.

Гістарычнаму падыходу да пытаньня аб імпэрыялізьме адпавядае і соцыялёгічны падыход да гэтага пытаньня ў буржуазнай навуцы. Тут пануючую ролю грае школа францускага соцыялёга Сэйера. „З пункту погляду Сэйера, імпэрыялізм такі самы стары, як органічнае жыцьцё, як пахаджэньне першае каморачкі (клетачкі), і гэты тэрмін абазначае ня больш, як імкненьне кожнае жывое істоты карміцца, разьвівацца, павялічвацца за кошт таго, што наўкола яе“. „*Імпэрыялізм—гэта асноўная тэндэнцыя людзкой натуры*, якая прымушае як індывідаў, гэтак і соцыяльныя групоўкі ствараць свой дабрабыт, магчымасьць карыстаць цяпер і ў будучыне з усяго добрага, што ёсьць у жыцьці праз памацненьне свае магутнасьці, праз павялічэньне свае сілы за кошт таго, што маецца наўкола“ [1]).

„Сэйер у наступных словах вызначае істоту імпэрыялізму: „Галоўная крыніца усіх людзкіх дзеяньняў знаходзіцца ў асноўнай тэндэнцыі кожнае істоты пашырацца па-за межы самой сябе. Гэтую тэндэнцыю хрысьціянская тэолёгія называе часамі *духам панаваньня*, гардасьцю. Гобс называе гэту тэндэнцыю „прагненьнем да ўлады“, Ніцшэ—імкненьнем да моцы. Мы прапануем абазначаць гэтую тэндэнцыю аднэй назвай—„імпэрыялізм“, назвай, усё значэньне якое досыць выявілі падзеі нашых часоў“ [2]).

Адным словам—старая песьня з новае прычыны. Імпэрыялізм—закон прыроды, паходзіць з нязьменных асноў людзкой прыроды, заўсёды быў і заўсёды будзе. Соцыялёгія, якая касуе гісторыю. Якіх толькі злачынстваў буржуазнае грамадзкасьці ня выпраўдвала і не сьцьвярджала назаўсёды такім самым чынам буржуазная навука.

Тады што-ж усё-ткі прымушае так многа гаварыць аб імпэрыялізьме, чаму нават такі стары, рэакцыйны гісторык, як Фрыд'юнг, абазначае гэтым тэрмінам цэлую і нібы новую гістарычную эпоху? Няўжо толькі гучнасьць і моднасьць гэтага тэрміну ці іншыя, больш глыбокія зьявы, якія зьвязваюцца з гэтым тэрмінам і не даюць спакою чалавеку, здольнаму мысьліць, да якое-б групы, клясы або стану сучаснага грамадзянства ён не належаў?

[1]) Unaufhörlich formen Ahnen und Enkel neue Götter, neue Leleale.

[2]) Міхайла Паўловіч—„Империализм“. Выд. „Красная Новь“. Масква, 23 г., стар. 18.

І сапраўды, імпэрыялізм бесьперарыўна зьвязаны з прадстаўленьнем аб войнах, войнах, якія зрабіліся найвялікшым няшчасьцем чалавецтва, войнах, якія бязупынку дзесяцёхгодзьдзямі ўзрушаюць грамадзянства канца 19 і пачатку 20 стагодзьдзя, войнах, якія не даюць паратунку, якія ня могуць скончыцца такой згодай, якая дала-б магчымасьць уздыхнуць і сказаць: ну, цяпер хоць можна напэўна сказаць, што год з дваццаць вайны ня будзе. Не: кожная згода—толькі часовая, толькі перапачынак дзеля перагрупоўкі ваюючых сіл. Ніхто, нават дзеля фальшывасьці, ня кажа аб моцнай і доўгай згодзе—гэта было-б сьмешнай, прастадушнай фальшывасьцю. Не. Ніхто ня тоіць таго, што згода гэта—падрыхтоўка да вайны, якая можа ўзбурыцца кожную хвілю. А лютасьць вайны і зробленай згоды! Самыя дзікія і страшныя легэнды мінулых часоў ня можна раўнаваць з лютасьцю сучасных воен. Умовы зробленае згоды гэта—імкненьне да канчатковага пазбаўленьня магчымасьці далейшага разьвіцьця пераможанае краіны. Сучаснай гісторыі вядомы войны эўропэйцаў у колёніях, якія даводзілі да поўнага, канчатковага і самага лютага зьнішчэньня цэлых пляменьняў. Аднак, яшчэ нядаўна буржуазія хвалілася тым, што яна, у параўнаньні з папярэднімі стагодзьдзямі, у 19 веку стварыла мірныя абставіны. І яна сапраўды мела нейкі грунт, каб хваліцца. Пачынаючы ад канца Наполеонаўскіх воен і Венскага кангрэсу 1814-1815 г. г. аж да Крымскай кампаніі 1853—56 г. г. у Эўропе на працягу амаль што чатырох дзесяцёхгодзьдзяў панавала згода,—зьява сапраўды рэдкая ў гісторыі. Войны, якія пачаліся пасьля гэтага часу, нават самыя вялікія, зьдзіўляюць сваім кароткім тэрмінам. Некаторыя з іх цягнуліся некалькі месяцаў, а другія абмяжоўваюцца годам ці крыху больш году. Крымская кампанія фактычна абмяжоўваецца датай 1854-55 г. г. Аўстра-Пруская вайна—1866 г., Франка-Германская вайна—1870-71 г. г. Расійска-Турэцкая вайна—1877-78 г. г., Расійска-Японская вайна—1904-1905 г. г. Гэта даты не фіктыўныя. Войны сапраўды пачыналіся і канчаліся, ахоплівалі азначаны абшар і, пераважна, дзьве-тры дзяржавы. Якія пэрыоды паміж войнамі? Ад 1855 да 1866 г. працяг у 10 год і ад 1878 да 1904 г. адлегласьць у 15 год. Згода, якая рабілася пасьля гэтых воен, была доўгай і трывалай. Трактаты Венскага конгрэсу праіснавалі аж да 60-х гадоў, Бэрлінскага 1878 г., Франкфурцкага 1871 г.—аж да сусьветнае вайны. Згода, зробленая пасьля Аўстра-Прускае вайны, на шмат год злучыла ў саюз гэтыя краіны. Цяжкія ўмовы згоды пасьля Пруска-Францускай вайны зьмяшчалі ў сабе такую контрыбуцыю, якую Францыя аддала на працягу двох год, замест назначаных подлуг умовы пяцёх год. Звычайна гавораць аб тым, што буржуазія, якая рабіла ўсе гэтыя ўмовы, выяўляла досыць розуму, часамі паблажлівасьці і цярплівасьці ў стасунку да пераможанага ворага,—таго розуму і мяккасэрцасьці, якой яна чамусь ужо ня мае цяпер. Бязумоўна, прычыны лагоднасьці (адноснай), раней і лютасьці (абсолютнай) цяпер тлумачацца прычынамі вельмі глы-

бокімі. Раней супярэчнасьці буржуазіі розных нацыянальнасьцяй яшчэ ня былі такімі вострымі, каб яны не маглі знаходзіць на значны тэрмін часу прыміраючай агульнай лініі. З таго часу буржуазныя адносіны так зьмяніліся, што гэтыя агульныя лініі страчаны. Да таго-ж трэба яшчэ адзначыць, што, побач з параўнаўча згоднымі ў гэты час адносінамі, у Эўропе што раз то больш павялічваюцца так званыя войны, а фактычна напады эўропэйскіх дзяржаў на па-заэўропэйскія краіны.

Апошнюю імпэрыялістычную вайну фіктыўна адзначаюць датай 1914—1918 г. г., хоць гэтая дата досыць вялікая, але сапраўдная-ж дата—1911—1923 г. г. Вайна пачалася са спрэчкі Турцыі з Італіяй у пытаньні наконт Трыполі, перакінулася ў 1912 г. на Баўканскі паўвостраў, а ў 1914 г. абхапіла ўсю Эўропу. Усякія спробы знайсьці больш-менш сталы грунт для згоды не далі ніякіх вынікаў, ня прынесьлі гэтае згоды трактаты Вэрсальскага і зьвязанага з ім конгрэсаў, і Грэка-Турэцкая вайна, якая скончылася згодай у Лёзане 24 ліпня 1923 году, ёсьць фактычна апошні этап сусьветнае вайны. Калі ўзяць пад увагу, што Грэцыя была ў саюзе з Англіяй, а Турэччына—у саюзе з Францыяй, якія давалі ваюючым дзяржавам і грашовыя сродкі і зброю, дык, подлуг унутранага зьместу, маштаб Грэка-Турэцкай вайны вельмі вялікі. Гэтая вайна скасавала дасягненьні Сэврскае згоды (жнівень 1920 г.), беспасрэднага адростку Вэрсальскае згоды (28 чэрвеня 1919 г.), і выявіла распад Антанты, лішні раз паказала нятрываласьць усіх, маючых зьвязак з Вэрсальскай згодай, мірных умоў. Гэтая вайна і конфэрэнцыя ў Лёзане, якая цягнулася шмат часу, востра выявілі няўхільнасьць воен у будучыне. Аб няўхільнасьці будучае вайны гаворыцца цяпер адкрыта і з парляманцкіх трыбун і ў дыплёматычных дакумантах. Яшчэ нядаўна адзін амэрыканскі сэнатар, каб прымусіць Францыю аддаць даўгі Амэрыцы, заявіў, што калі Францыя адмовіцца зрабіць усе крокі, каб як найхутчэй аддаць Амэрыцы належачыя ёй даўгі, дык Амэрыка адмовіцца даць Францыі пазыку ў хуткай вайне, а дзякуючы таму, што няўхільнасьць вайны для ўсіх зразумела, дык пагроза Амэрыкі дасягнула надзвычайна паважных рэзультатаў і выклікала ў Францыі вялікі неспакой у ўрадавых колах.

А подлуг паведамленьня „Праўды“ ад 15 лютага бягучага году, Лёнданскі „Таймс“—Таймс, які ў часе сусьветнае вайны галасьней за ўсіх крычаў, што гэта—апошняя вайна, якая згладжвае супярэчнасьці кляс і дзяржаў, вострасьць супярэчнасьцяй розных буржуазных груп у сусьветнай палітыцы—у нумары ад 2 лютага бягучага году вымушаны згадзіцца, што „вайна ці небясьпека вайны значна бліжэй, чымся нам, звычайна, здаецца“.

Ніхто ня пэўны ў трываласьці існуючых дагавораў. Супярэчнасьці інтарэсаў буржуазіі розных дзяржаў і груп дзяржаў такія вострыя, што пагадняючай лініі знайсьці нельга. Словы нямецкага палітычнага пісьменьніка „Die innere Politik denkt aber die äussere lenkt“, г. зн., унутраная

політыка мяркуе, а знадворная перамяркоўвае,—вельмі ўдала выяўляюць адну самую характэрную рысу нашых часоў, а таму ніводны чалавек ня можа без заміраньня сэрца сачыць за поступам знадворнае політыкі і ня можа ня думаць аб тым лёсе, які чакае яго ў выніку гэтае політыкі— вайны, якая разбурае ўсе ўстоі сучаснага грамадзянства. А гэта вядзе да вывучэньня стымулюючых гэтую знадворную політыку ўзаемаадносін паміж дзяржавамі, або да вывучэньня імпэрыялізму.

Калі, з аднаго боку, ня знойдзецца чалавека, здольнага мысьліць, які не задумваўся-б над цяжарам мінулых і будучых няўхільных воен, дык, з другога боку—старая концэпцыя марксызму, злучыўшая вайну з рэволюцыяй, вайсковую чыннасьць з чыннасьцю соцыяльнай, здабыла ў апошнія часы вялізную перамогу. Калі эпоху рэформ у Расіі 60-х гадоў другой палове першага дзесяцёхгодзьдзя 20 веку зьвязвалі з выніка- мі—у першым выпадку Крымскае кампаніі, а ў другім—Японскай вайны, дык соцыяльная рэволюцыя ў Расіі і цэлы шэраг соцыяльна-рэволюцыйных рухаў у Эўропе і па-за яе межамі пасьля апошняй імпэрыялістычнай вайны зрабілі марксысцкую концэпцыю вайны і соцыяльнай рэволюцыі гістарычным фактам. Калі цяпер гэтая концэпцыя так добра сябе спраўдзіла, дык якраз таму, што ў пачатку разьвіцьця марксызму яна нарадзілася ў выніку рэволюцыйнае практыкі і ўважлівага вывучэньня гісторыі, а не паўтарэньня гістарычнае азбукі, як гэта здаецца шмат якім ворагам марксызму.

З пункту погляду гэтых living рознастайных супраціўнікаў марксызму, марксызму ўласьцівы асабісты „рэволюцыйны шовінізм“, поўны ваяўнічага духу, прагненьня да вайны і асабліва да сусьветнай вайны. Марксызм штогадзіну кліча яе і яе з відочнай радасьцю чакае. Азначаючы такім спосабам ваяўнічую псыхолёгію марксызму, яны лёгка знаходзяць і крыніцы гэтае псыхолёгіі.

Велічны вобраз конвэнту Вялікае Францускае Рэволюцыі і цені конвэнту з непераможнай сілай сталі прад вачыма марксыстых. Супроць рэволюцыйнай Францыі стварылася коаліцыя дзяржаў, і напружнасьць знадворнае вайны спраўдзіла тэрор у самой Францыі і натуральным ходам рэчаў і падзей перадала ўладу крайняй групе рэволюцыйнай дэмократыі (якобінцам), якая рэволюцыйную самаабарону абярнула ў пропаганду рэволюцыі чыннасьцю і пранесла вялікія рэволюцыйныя ідэі на вострым канцы мяча праз усю Эўропу. Гэты поступ падзей, абернуты марксыстымі ў трафарэт рэволюцыйнага процэсу, а таму на бок усе мудрыя гістарычныя і соцыялёгічныя выкладкі—меч вырашае ўсе пытаньні. Не дарма-ж Маркс так энэргічна заклікаў да вайны ў рэволюцыю 48 году, не дарма-ж Энгельс так сур'ёзна вывучаў вайсковую стратэгію, выявіўшы ў гэтай справе ўсімі прызнаную здольнасьць. Глыбока разумеючы гэты дух марксызму, пытаньнямі вайны, вайсковай стратэгіі і вайсковай гісторыі займаўся адзін з апошніх вялікіх марксыстых—

Франц Мэрынг. Не выпадкова першая соцыялістычная дзяржава—Савецкая Расія—здолела так хутка зорганізаваць армію і высунуць нязвычайных вайсковых стратэгаў і політыкаў.

Рэволюцыя 48 году не спарадзіла эўропэйскае вайны; надзеі на тое, што рэволюцыя зробіцца пэрманэнтнай, адцьвілі ўжо к самаму пачатку 50-х гадоў, але кожная вайна, што адбывалася ў Эўропе, хавала ў сабе магчымасьць эўропэйскае вайны, і тады трафарэт стаўся перавернутым: Калі рэволюцыя не спарадзіла вайны, дык вайна народзіць рэволюцыю, і марксысцкія літаўры грымяць адным тонам з усімі вайсковымі бубнамі.

Паданая звычайная схэма ворагаў марксызму вельмі ўпрошчана і пры дапамозе мэтоду гіпостэзаваньня разьвязвае надзвычайна складаную проблему вайны й рэволюцыі ў марксызьме. Але ў стасунку да гэтае тэорыі вельмі паказальна тое, што рэволюцыйная тактыка марксызму выпрацоўвалася з самага пачатку 40-х гадоў. Практыка Вялікае Француcкае Рэволюцыі якраз з гэтага часу і да 48 году павінна была граць і напэўна грала вельмі выдатную ролю, бязумоўна больш выдатную, чымся ў той пэрыод, калі марксызм ужо браў пад увагу практыку рэволюцыі 48 году. І разам з тым, концэпцыя вайны і рэволюцыі вырасла якраз у час і пасьля рэволюцыі 48 году, а не да гэтага часу. Да лета 48 году мотываў вайны ў рэволюцыйнай тактыцы марксызму зусім ня чутно, і вобраз конвэнту ў гэтым сэнсе ня робіць уплыву. Зусім іншы вобраз, зусім непадобны да вобразу конвэнту, выклікае ваяўнічыя заклікі з рэволюцыйных грудзей марксызму. У чэрвені 48 году ў „Новай Рэйнскай Газэце“ мы чуем папераджальны заклік Маркса: „Цар (рускі) ля варот Торну“ (меж рэволюцыйнай Нямеччыны), і якраз з гэтага моманту для нямецкіх рэволюцыянэраў робіцца зразумелым, што пераможная рэволюцыя ў Нямеччыне няўхільна стыкнецца з узброенай рэакцыяй у Эўропе, і вайна, не як пажаданы ідэал, але як няўхільная, якой нельга папярэдзіць агідная неабходнасьць, гвалтам уваходзіць у рэволюцыйную тактыку марксызму. У 1860 годзе—гэта час бязумоўнага рэволюцыйнага напружаньня ў Эўропе і вайсковай Франка-Аўстрыйскай стычкі—Энгэльс з радасьцю адрываецца ад вайсковых падзей і, зьвяртаючы ўсю ўвагу на сялянскія бунты ў Расіі, урачыста піша Марксу: „Мы атрымалі саюзьніка ў асобе расійскіх прыгонных“. Каб такія словы магчымы былі ў 1848 г., і ўнутранае становішча Расіі рабіла-б немагчымым напад прыгоннай, рэакцыйнай Расіі на эўропэйскую рэволюцыю, дык вайна, бязумоўна, не займала-б такога пачэснага месца ў шэрагу пытаньняў, якія абгаварваліся ў рэволюцыі. Якраз нездавальняючае разьвіцьцё, у эўропэйскім маштабе, рэволюцыі прымушала трывожна біцца сэрца няўхільнасьцю вайны, прымушала прыглядацца да дыплёматычных адносін дзяржаў, бо вывучэньне клясавых адносін унутры дзяржаў паказвала, што дыплёматычныя захады эўропэйскіх урадаў, каб папярэдзіць вайну, ня будуць зьніш-

чаны рэволюцыйным рухам. Калі Маркс у 48 годзе казаў: вывучайце чужаземную політыку, прыглядайцеся да яе,—дык гэта быў трывожны заклік—паказаньне, што неабходна вывучыць адбіцьцё клясавай барацьбы на тым шэрагу гістарычных фактаў, якія ахопліваюцца знадворнай політыкай і востра выяўляюцца ў вайсковых стычках.

Ня з ружовых псыхолёгічных захапленьняў, а з праўдзівае, цяжкое практыкі нарадзілася думка, што неабходна падлічыць вайсковыя стычкі, як найважнейшы рэволюцыйна-політычны факт. Калі рэакцыя з усякай пераможнай рэволюцыі робіць вайну, дык кожная вайна хавае ў сабе магчымасьць рэволюцыі; дзеля таго самым рашучым сродкам барацьбы з вайной зьяўляецца неабходнасьць абярнуць яе ў рэволюцыю. Адсюль тыя ўважлівыя адносіны, якія выяўляюць марксыстыя да вайсковых стычак, што з часам усё больш ды больш разьвіваюцца, уваскрошаньне рэволюцыйных надзей і памацненьне рэволюцыйнае чыннасьці ў часы вайны, а адсюль вельмі далёка да захапленьня вайной, да таго, каб несьці новую пролетарскую праўду на вострым канцы мяча. Коратка гістарычная формула марксызму ў стасунку да вайны заўсёды казала аднолькава: „Прэч вайну—няхай жыве рэволюцыя!“ Але гэтая формула не адпіхае марксыстых у бок прынцыповага пацыфізму. Тады, калі рэакцыя імкнецца задушыць рэволюцыю вайной, тады гучыць формула: „Няхай жыве рэволюцыйная вайна!“

Боязьнь соцыяльнага, пераважна пролетарскага руху не пакідала эўропэйскую буржуазію з часу чэрвенскіх барыкад у Парыжы ў 1848 г., і часта ў тых выпадках, калі ўнутры буржуазных дзяржаў адбываліся непарадкі, яны паскаралі ўнешнія вайсковыя стычкі, дзеля таго, каб адцягнуць увагу мас ад унутранай політыкі да знадворнай,—у такой меры вайна ня толькі не выклікала боязьні рэволюцыі, але лічылася сродкам супроць рэволюцыі, а марксыцкая концэпцыя вайны і рэволюцыі здавалася сьмешнай утопіяй. Але цяпер усе політыкі, ад крайніх лібэралаў да крайніх консэрватараў і рэакцыянэраў, лічаць магчымым, што бліжэйшая вайна абернецца ў соцыяльную рэволюцыю, якая зусім перакроіць карту ды зынакшыць твар сучаснага грамадзянства. З марксыцкай концэпцыяй усе згадзіліся. Вера ў адвечную непарушную сталасьць капіталістычнага грамадзянства зьнікае ня толькі сярод шырокіх мас жыхарства, але сярод значных колаў камандуючых кляс, і гэтая боязьнь для адных і чаканьне рэволюцыі—для другіх прымушае яшчэ больш уважліва адносіцца да ўнешніх выяўленьняў марксызму.

---

Напады эўропэйскіх дзяржаў на па-заэўропэйскія краіны былі звычайнай зьявай у політычным жыцьці Эўропы, асабліва пачынаючы з 40-х гадоў 19 стагодзьдзя. Але гэтыя колёніяльныя войны так мала зачаплялі жыцьцё эўропэйскага жыхарства, што зусім няпрыкметна, нават для перадавых элемэнтаў эўропэйскага грамадзянства, перадавыя эўропэйскія

краіны паглыналі вялізарныя краіны па-за Эўропай. Мала хто мог здагадацца, да чаго нарэшце прывядзе гэтая экспансія, калі ў канцы 19 стагодзьдзя якраз гэтая экспансія зьявілася прычынай грозных конфліктаў паміж эўропэйскімі дзяржавамі. Зусім неспадзявана для вялізнай большасьці эўропэйскага насельніцтва гэтыя чужыя, дальнія, заморскія краіны зрабіліся цэнтральнымі об'ектамі эўропэйскай міжнароднай політыкі. Да стычак, об'ектам якіх быў бліжні ўсход, у Эўропе прызвычаіліся, дый датычыліся яны эўропэйскіх вобласьцяй, але вось выбухнула вайна на дальнім, дальнім усходзе, і перамога ў 1895 годзе Японіі над Кітаем узварушыла ўсе эўропэйскія дзяржавы. Кітай зрабіўся найважнейшым об'ектам міжнароднай політыкі, а пытаньне аб захопе Японіяй Порт-Артуру, аб становішчы Корэі паміж Кітаем і Японіяй стала пытаньнем дня. Ня мінула і трох год, як само па сабе нязначнае паўстаньне жыхароў вострава Кубы супроць іспанцаў зьявілася прычынай для Іспана-Амэрыканскай вайны, і ні для кога ня было сакрэтам, што, нібы змагаючыся за свабоду жыхароў вострава, П.-А. Злучаныя Штаты адваёўвалі гэты востраў сабе, і гэты дальні востраў зрабіўся новым цэнтрам увагі эўропэйцаў. А менш, чымся праз год, увага эўропэйцаў была накіравана на паўднёвую Афрыку, дзе адбывалася дзікая Англа-Бурская вайна, і волат Англія з нячуванай жорсткасьцю і несправядлівасьцю, якая не магла ня выклікаць узбурэньня эўропэйскіх абываталяў, давіла і нішчыла рэспубліку бураў. Гэтая вайна, якая здавалася ня толькі лютай і несправядлівай, але і бязглуздна-дзікай, сьведчыла аб тым, што ў жыцьцё сучаснае Эўропы ўварваліся нейкія новыя фактары, унутраны зьмест якіх яшчэ трэба выясьніць. У эўропэйскай політыцы і літаратуры зьявілася шмат разваг аб гэтай захопніцкай політыцы, і слова „імпэрыялізм“, панаваўшае ў Англіі з 70-х гадоў, набыло з гэтага часу правы грамадзянства ўва ўсёй Эўропе. Яшчэ ня скончылася Англа-Бурская вайна, як Кітай зрабіўся арэнай боксэрскага паўстаньня, якое нішчыць коаліцыя эўропэйскіх дзяржаў пад кіраўніцтвам нямецкага гэнэрала. Вось так дальнія заморскія краіны пачыналі займаць што раз то больш месца ў міжнароднай політыцы. У 1904 годзе Англія ваявала супроць Тыбэту, а Нямеччына, пад выглядам вайны, самым няміласэрным спосабам нішчыла няшчаснае афрыканскае племя гэрэро голадам і смагай, прагнаўшы яго ў пустыню. Гэтая нячуваная жорсткасьць выклікала ўзбурэньне ўсяе Эўропы і досыць значны рух узбурэньня ў масе нямецкага насельніцтва. І вось тады-ж, у 1904 годзе, увесь гэты клубок заморскіх і дальняўсходніх стычак і бязьлітаснага гвалту над кітайцамі, арабамі, нэгрыцянскімі пляменьнямі канчаецца Руска-Японскай вайной у водах Ціхага акіяну і на абшарах дальняй Манчжурыі, але разам з тым вайной, вагу якое цяжка пераацаніць, у якой былі зацікаўлены на адным ці другім баку ўсе эўропэйскія дзяржавы. Перад вачыма эўропэйца паўстаў грозны малюнак барацьбы за падзел сьвету, яго ўвага накіроўвалася з аднаго сухазем'я

на другое, у розныя пункты стычкі двух ці трох левіяфанаў, якія гатовы біцца да апошняга зьнясіленьня за які-небудзь востраў на Ціхім акіяне ці кавалачак зямлі ў нетрах Афрыкі. Усё гэта было так далёка, а разам з тым усё гэта ўрывалася ў беспасрэдныя жыцьцёвыя адносіны і ў усім гэтым дзейнічала нейкая страшэнная незразумелая сіла—імпэрыялізм.

Гэтыя заморскія захопы клаліся вялізарным цяжарам на бюджэты дзяржаў. Бяз меры пашыраючы і раскідаючы межы дзяржаў, гэтая політыка захопаў вымагала надзвычайна вялікіх выдаткаў на ўзброеньне—перш для захопаў, а потым для абароны захопленага. Прыбытак Нямецкае імпэрыі ў 1906 г. па ўсіх артыкулах складаў 2434 мільёны марак.

З гэтага ліку выдавалася:

| | |
|---|---|
| Подлуг каштарысу звычайных выдаткаў | |
| армія і разам вайсковыя судны . . | 17 міл. мар. |
| флёт . . . . . . . | 113 „ „ |
| Подлуг каштарысу надзвычайных выдаткаў | |
| колёніі . . . . . . | 19 „ „ |
| армія . . . . . . . | 87 „ „ |
| флёт і дадатковая сума на Кіотча (порт, захоплены Нямеччынай у Кітаі) . | 102 „ „ |
| Разам . . . . | 936 міл. мар. |

Значыцца, амаль што мільярд на год.

Француская колёнія Алжыр каштавала францускай дзяржаве з 1830 да 1900 г.

| | |
|---|---|
| Агулам . . . | 6669 міл. мар. |
| Выдаткі на кіраваньне колёніяй . . . | 1893 „ „ |
| На выдаткі вайсковыя . . . . . | 4070 „ „ |
| Гарантыі і субсыдыі чыгункам. . . . | 706 „ „ |

І нават Расіі яе дальняўсходняя політыка к канцу 90-х гадоў ужо каштавала сотні мільёнаў руб.

Кіраўнікі колёніяльнай політыкай эўропэйскіх дзяржаў дакляравалі ў будычыне вялізарныя багацьці, якія дадуць гэтыя колёніі, але цяпер гэтая політыка вымагала толькі бясконцных выдаткаў, кладучы непамерны цяжар падаткаў на жыхароў і не даючы нічога ў замену. Дзяржавы грэзьлі ў даўгох. Ужо ў 1906 г. Нямеччына плаціла процантаў па даўгох 604 міл. марак.

Яшчэ ў трэцяй чвэрці 19 стагодзьдзя манчэсьцерства—свабода гандлёвых адносін паміж дзяржавамі і соцыяльнай эксплёатацыяй унутры дзяржавы—зьяўлялася эвангэльлем перадавое эўропэйскае буржуазіі. Ад сярэдзіны 40-х гадоў 19 ст. з таго часу, калі скасаваны былі хлебныя законы ў Англіі (1846 г.) манчэсьцерства ўрачыста сьвяткавала сваю перамогу і марыла, маючы на тое сталы грунт, аб тым, што хутка сьцяг яго будзе разьвявацца над усім сьветам. Нават у адсталай Нямеччыне 40-х год як асьцярожна ды з якімі засьцярогамі падносіў нямецкай бур-

жуазіі тэорыю протэкцыонізму Фрыдрых Ліст, і вось з пачатку 70-х гадоў, манчэсьцерства пачынае хутка здаваць свае позыцыі нават у Англіі. Кожная дзяржава імкнецца, каб больш дакладна адзначыць свае граніцы ў межах Эўропы й па-за ёю і акружыць сябе мытніцамі. З канца 80-х гадоў гэтае імкненьне надзвычайна павялічваецца, мытныя тарыфы павялічваюцца аднэй дзяржавай супроць другое, тымчасам як усё больш ды больш разьвіваюцца шляхі зносін, а тэхніка вытворчасьці ўзрастае вялізарнымі крокамі, і ўсё гэта зьвязвае дзяржавы ў што раз то больш цесныя і складаныя зносіны друг з другам, а дзяржавы імкнуцца сьвядома аддзяліцца, замкнуцца ў сабе і разам з тым, імкнучыся закрыць свой рынак для другіх дзяржаў, самі імкнуцца зьнішчыць мытныя перашкоды ў гэтых дзяржавах і зрабіць сваім рынкам... сьвет.

Надыходзіць шэраг мытных воен. Вось іх няпоўны сьпіс:

З 1886—1890 г.г.—Баўгарыі з Турцыяй, Аўстра-Вэнгрыі з Румыніяй;
„ 1887—1897 „ Францыі з Італіяй;
„ 1892—1894 „ Расіі з Нямеччынай;
„ 1893—1895 „ Францыі з Гішпаніяй і Швайцарыяй;
„ 1894—1899 „ Нямеччыны з Гішпаніяй;
„ 1903—1910 „ Нямеччыны з Канадай;
„ 1906—1911 „ Аўстра-Вэнгрыі з Сэрбіяй;
„ 1908—1911 „ Аўстра-Вэнгрыі з Чорнагорыяй.

Гандлёвыя ўмовы, што рабіліся ў выніку гэтых воен, не давалі здавальняючага разьвязаньня. Гэтак, нават Руска-Нямецкая ўмова 1904 г., зробленая пад уплывам Нямеччыны, тады як Расія знаходзілася ў надзвычайна цяжкім становішчы, ня зьменшыла рускага мыта на нямецкія продукты, а пабольшыла іх. Умова паміж Аўстрыяй і Нямеччынай таксама ня зьменшыла мыта напр., аўстрыйскі мыт на нямецкія анілінавыя хварбы быў пабольшаны з 3,6 крон да 24 крон на 100 кілёграмаў.

Аб гэтых мытных войнах менш гавораць, чымся аб звычайных вайсковых стычках, бо тут ня рвуцца знарады і ня відаць, як тысячы людзей робяцца ахвярамі гэтых воен, а разам з тым тысячы і тысячы людзей шмат пакутуюць і робяцца ахвярамі мытных воен, бо яны зьяўляюцца аднэй з галоўных прычын што раз то больш узрастаючай дарагоўлі рэчаў шырокага ўжытку і рэчаў харчаваньня.

Наступная табліца паказвае ўзрост цэн найбольш важных рэчаў на сусьветным рынку ў пачатку 20 ст.

| | |
|---|---|
| Канец сьнежня 1901 г. | 1948 |
| „ „ 1902 „ | 2003 |
| „ „ 1903 „ | 2197 |
| „ „ 1904 „ | 2136 |
| „ „ 1905 „ | 2342 [1] |

[1]) Парвус—„Колониальная политика и крушение капитал. строя“.

Гэтае павышэньне цэн надзвычайна адбіваецца на масах насельніцтва, пагаршае жыцьцё, робіць яго цяжкім, адбіваецца на здароўі, скарачае жыцьцё, зьяўляецца прычынай значнай колькасьці трагэдый, якія часта канчаюцца забойствамі і самагубствамі. Гэты жорсткі протэкцыонізм, гэтае імкненьне захапіць як-мага больш замкнутай тэрыторыі сабе і як-мага менш пакінуць другому, а асабліва надзвычайны ўзрост дарагоўлі яшчэ раз казаў аб тым, што нешта новае ўвашло ў жыцьцё, і гэта было яшчэ аднэй праявай імпэрыялізму.

Апрача імкненьня капіталістычных дзяржаў стварыць як-мага больш вялікую тэрыторыю і адгарадзіць гэтую тэрыторыю ад чужаземнай конкурэнцыі мытнымі сьценамі,—імкненьня, якое павялічвала падаткі на масы насельнасьці і рабіла жыцьцё больш дарагім, гэтыя масы, як спажыўцы, апынуліся перад новым прыгнятаючым фактам,—комплётамі (змовамі) вытворцаў і гандляроў супроць спажыўцоў для яшчэ большага павышэньня цэн праз зьнішчэньне конкурэнцыі сярод гандляроў і прамыслоўцаў. Гэтыя комплёты пад назвай трэстаў, картэляў, сындыкатаў—у прамысловасьці, корнэраў і рынгаў—у сельскай гаспадарцы, расьлі надзвычайна хутка. Які-небудзь вялізарны сталёвы сындыкат Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў вырас на працягу трох год, з 1898 па 1901. У выніку організованай экэсплёатацыі спажыўца цэны на рынках пачалі ўзрастаць з яшчэ большай надзвычайнай хуткасьцю, чымся ў выніку протэкцыянізму.

Гэтая бяссорамная эксплёатацыя спажывецкае масы выклікала цэлы шэраг непарадкаў, якія колькі раз паўтараліся ў розных дзяржавах Эўропы і Амэрыкі. У законадаўстве сучасных дзяржаў маецца цэлы шэраг законаў, накірованых супроць трэстаў і дзеля абароны спажыўцаў, але гэта было ў большасьці законадаўства фальшывае або зусім ня маючае моцы паралiжаваць драпежніцкія апэтыты капіталістых, і трэсты ўсё больш ды больш захаплялі экономічнае жыцьцё, робячыся монополістычнымі організацыямі для эксплёатацыі дзяржаў, якія разрасьліся, ці цэлага шэрагу дзяржаў. Калі неперамагальную сілу гэтых трэстаў адчуваў спажывец, дык яшчэ больш адчуў яе на сябе рабочы, эксплёатацыя якога аб'яднанымі капіталістымі перавысіла ўсякую меру. Трэсты распачалі барацьбу з профэсыянальнымі саюзамі і партыямі рабочае клясы, захапілі прэсу, падпарадкавалі сабе дзяржаўны апарат, праз подкуп галасоў і розныя іншыя махінацыі скасавалі значэньне выборчага права, зрабілі нічога нявартым соцыяльнае законадаўства дзеля абароны рабочых, абярнулі ў міт усе гарантыі дэмократычнага кіраваньня. І гэтая новая зьява, што з страшэннай сілай звалілася на масу сялянскай і рабочай насельнасьці Эўропы і Амэрыкі, была яшчэ аднэй праявай імпэрыялізму.

Вось так многагранна і ўсебакова выяўляўся і жорстка адчуваўся імпэрыялізм. Хоцькі-ня-хоцькі мусілі аб ім гаварыць і думаць.

Буржуазная навука відавочна і азначана думала ўтоіць значэньне імпэрыялізму, бо ня імкнулася разабрацца ў яго сапраўднай існасьці, але абмяжоўвала ўсё выўчэньне больш-менш удалымі па форме, але нічога не даючымі па існасьці, анолёгіямі з мінулай гісторыі чалавецтва. Тое, што сталае выўчэньне імпэрыялізму пачынае займаць усё большае ды большае месца ў сучаснай гістарычнай, экономічнай і соцыялёгічнай навуцы, зьяўляецца бязумоўным і вельмі значным дасягненьнем марксызму, які сапраўды навукова абаснаваў імпэрыялізм, як новую зьяву ў гісторыі чалавецтва. Назва кнігі Фрыд'юнга—гэта заваёва марксызму, ня гледзячы на тое, што Фрыд'юнг не пранік у самы істотны зьмест новае эпохі.

Першая істотная і каштоўная кніга аб імпэрыялізьме была напісана марксыстым Дж. А. Гобсонам і вышла ў Лёндоне і Нью-Ёрку ў 1902 годзе. У 1907 годзе вышла кніга соц.-дэм. Парвуса (А. Гэльфонда)—„Колониальная политика и крушение капиталистического строя". У 1910 годзе вышла самая кардынальная праца аб імпэрыялізьме соц.-дэм. Рудольфа Гільфэрдынга—„Финансовый капитал". У 1915 годзе напісана і ў 1917 г. вышла з друку праца Леніна—„Империализм, как новейший этап капитализма". Да прац Гобсона, Гільфэрдынга і Леніна далучаюцца працы і артыкулы аб імпэрыялізьме Н. Бухарына і Міхайлы Паўловіча. Гэтыя працы і ствараюць складную і абаснованую тэорыю імпэрыялізму. Збоку іх стаіць праца Розы Люксэмбург—„Накопление капитала" з падзагалоўкам (К вопросу об экономическом об'яснении империализма). Зусім адрозьніваецца ад іх тэорыя Карла Каўцкага і блізкіх да яго нямецкіх соцыял-дэмократаў. Пакідаем без разгляду іншыя тэорыі і спынімся на тэорыі Гобсона—Гільфэрдынга—Леніна.

Сярод шматлікіх супярэчнасьцяй, што хавае ў сабе капіталістычная організацыя прамысловасьці, асаблівую ўвагу зьвяртаюць на сябе дзьве: 1) Суб'ектыўнай мэтай вытворчай чыннасьці для кожнага капіталістага зьяўляецца асабісты прыбытак, максымальная нажыва, об'ектыўна гэтая мэта можа быць дасягнута праз выраб карысных грамадзянству продуктаў. 2) Кожнае асобнае капіталістычнае прадпрыемства зьяўляецца строга організаванай сыстэмай, увесь-жа процэс капіталістычнае вытворчасьці цалком не організован і вызначаецца надзвычайнай хаотычнасьцю. Маючы на мэце прыбытак, капіталісты імкнецца да вырабу найбольш патрэбных у кожны даны момант грамадзянству продуктаў, а патрэба гэта вызначаецца попытам на рынку. Гэты попыт зьяўляецца адзіным рэгулятарам вытворчасьці і дыктуе перамяшчэньне капіталу з аднае галіны прамысловасьці ў другую. За такім перамяшчэньнем ідзе збытак вырабу то ў адных, то ў другіх галінах прамысловасьці, які сьведчыць аб патрэбе перамяшчэньня капіталу з аднае галіны прамысловасьці ў другую. Конкурэнцыя стымулюе палепшаньні ў вытворчасьці праз набыцьцё новых і ўсё больш складаных і дарагіх машын, каб падзешавіць вытворчасьць. Конкурэнцыя абумоўлівае тэхнічны прогрэс у капіталізьме. Капітал скла-

даецца з двох частак: капіталу сталага—будынкаў, машын, сыр'я і інш., і пераменнага—рабочых рук, жывое сілы. Стасунак паміж сталым капіталам і часовым азначае органічную будову капіталу. „Тэхнічны прогрэс у капіталізьме зьвязаны з што раз то больш узрастаючай органічнай будовай яго, г. зн., з што раз то больш узрастаючай часткай сталага капіталу ў стасунку да пераменнага“. „Асноўная тэндэнцыя капіталізму цалком—замена рабочых машынай. Тэхнічны прогрэс, павялічваючы вытворчасьць працы і, значыцца, памяншаючы патрэбнасьць капіталу ў рабочай сіле, тым самым зьмяняе будову капіталу: сталая частка ўзрастае параўнаўча з пераменнай, органічны склад падвышаецца“[1]). Прадпрыемствы больш дасканалае органічнае будовы выціскаюць прадпрыемствы менш дасканалае будовы; такім чынам, адбываецца процэс концэнтрацыі капіталу і скарачэньня колькасьці прадпрыемстваў. К апошняй чвэрці 19 ст. концэнтрацыя вытворчасьці ў перадавых індустрыяльных краінах дасягнула такіх разьмераў, што ў пераважнай часьці галін вытворчасьці, якія граюць пануючую ролю ў сучасным гаспадарчым жыцьці, вялізарныя, з вялізарным абсталяваньнем вытворчасьці сталі граць пануючую ролю ў экономічным жыцьці. Побач з гэтым, выявіліся два факты: 1) Дзякуючы таму, што для ўтварэньня сучасных капіталістычных прадпрыемстваў патрэбны вялізныя грошы, зьяўленьне новых прадпрыемстваў стала зьявай надзвычайна цяжкой і рэдкай. 2) Колькасьць самых прадпрыемстваў у кожнай галіне прамысловасьці нязначная, і лік іх паволі зьмяняецца. 3) Конкурэнцыя, маючая зьвязак з заменай вялізнага сталага капіталу (абсталяваньня) цалком або часткова новым, зрабілася надзвычайна дарагой і складанай, а вынікі конкурэнцыі ў сэнсе павялічэньня прыбытку—надзвычайна няпэўнымі. Дарагоўля конкурэнцыі і абмежаванасьць прадпрыемстваў мелі вынікам замену конкурэнцыі паміж прадпрыемствамі згодай паміж імі. „Капіталістычнай гаспадарцы“, кажа Р. Гільфэрдынг, „вядомы два мэтоды павялічэньня сваіх прыбыткаў праз концэнтрацыю капіталу: перамога над больш слабым супраціўнікам у конкурэнцыйнай барацьбе ці аб'яднаньне моцных у супольнасьці інтарэсаў. Чым больш прогрэсыўны капіталізм, тым вышэй ступень вытворчасьці, чым больш значны ўдзел сталага капіталу, тым даражэй конкурэнцыя, тым менш вядомы яе поступ і вынікі. І таму тым большае месца конкурэнцыі займае згода, спроба перамагчы анархію організацыяй. Мэта павялічэньня прыбыткаў застаецца тэй-жа самай, але мэтоды зьмяняюцца“. Зрабіўшыя згоду прадпрыемствы перамагаюць конкуруючыя і застаюцца монополістымі на рынку. „*Гэтая замена конкурэнцыі монополіяй зьяўляецца аднэй з важнейшых зьяў—калі не найважнейшай—у экономіцы найноўшага капіталізму*“, кажа Ленін[2]). Гэтыя суполкі і складаюць тыя трэсты, картэры ды сындыкаты, якія падпарадкавалі сабе сучаснае экономічнае жыцьцё ўсяго сьвету.

---

[1]) А. Багданаў—„Курс политической экономии“, т. II, вып. 4, изд. 2, стр. 56.

[2]) Н. Ленін—„Империализм, как новейший этап капитализма“.

Побач з концэтрацыяй прамысловага капіталу, апошняя чвэрць 19 ст. і пачатак 20 зьяўляюцца эпохай концэнтрацыі ў вялізарным разьмеры капіталаў банкаўскіх. У Нямеччыне значная большасьць банкаў, уладаючых вялізнай большасьцю банкаўскага капіталу краіны, кіруецца пяцьма цэнтральнымі банкамі. У Злучаных Штатах Паўночнае Амэрыкі два банкі Рокфэльлера і Моргана трымаюць у залежнасьці ад сябе 6507 розных іншых банкаў Нямеччыны [1]). Але банкаўскі капітал ня толькі концэнтраваўся, але і зьмяняў характар свае чыннасьці. У добрыя старыя часы банк выконваў функцыі зборшчыка і перадатчыка капіталу. Банк зьбіраў у асоб вольныя вялікія і дробныя грашовыя сродкі і перадаваў іх асобам, якія мелі патрэбу ў сродках для вытворчасьці і гандлю. Банк атрымліваў процанты і ніякага беспасрэднага дачыненьня ні да гандлю ні да вытворчасьці ня меў. Даўнейшае законадаўства дазваляла банку выключна займацца пазычковай справай, а гандлёвую і вытворчую чыннасьць забараняла. Цяпер банкі пачалі ўкладаць свае грошы ў гандлёвыя і вытворчыя прадпрыемствы, купляючы акцыі; банкі робяцца ўладарамі і супольнікамі гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў і багацеюць ужо ня толькі ад процантаў з пазыкі, але і ад прыбыткаў з гандлю і прамысловасьці. Моц гэтага банкаўскага капіталу надзвычайна вялікая; ён робіць вялізарны ўплыў на прамысловасьць. Даючы і не даючы крэдыт, ён дапамагае ўтварэньню тых ці іншых прамысловых аб'яднаньняў і перамозе адных аб'яднаньняў над другімі,—бязумоўна тых, у якіх ён сам прымае ўдзел. Банкаўскі капітал, які пранік у прамысловасьць,—гэта фінансавы капітал. „Фінансавы капітал—гэта банкаўскі капітал, які пранік у прамысловасьць, кіруе гэтай прамысловасьцю і контролюе яе. Фінансавы капітал—гэта банкаўскі капітал, які ўжо не абмяжоўваецца роляй ліхвяра, не абмяжоўваецца тым, што пазычае грошы за процанты ці бярэ гэтыя грошы на схоў. Ён ужо кіруе прамысловасьцю, зьяўляецца сапраўдным гаспадаром прамысловасьці" [2]).

Вялізарнае ўжываньне машын у прамысловасьці, як беспасрэдна ў вытворчасьці, так і ў транспарце з вялізарнымі лініямі чыгунак і будаваных з жалеза рэчных і морскіх суднаў, выклікала вялізарны попыт на жалеза і вугаль як дзеля вырабу жалеза, так і на апал рухавікоў. Аж да апошняй чвэрці 19 ст. пануючую ролю ў вытворчасьці перадавых індустрыяльных краін граў выраб рэчаў шырокага ўжытку. Перадавыя індустрыяльныя краіны ўвозілі сыр'ё і вывозілі фабрычныя вырабы ў больш адсталыя краіны. Цяпер сыр'ё ўсё больш ды больш апрацоўваецца на мясцох, а ў перадавых індустрыяльных краінах галоўную ролю грае выраб машын,—*прылад вытворчасьці* і вываз гэтых машын у індустрыяльна больш адсталыя краіны. Машынабудаўнічая прамысловасьць зьяўляецца

---

[1]) М. Паўловіч—„Империализм".

[2]) М. Паўловіч—„Империализм".

галоўнай гаспадарчай чыннасьцю сучасных перадавых індустрыяльных краін, а гэта яшчэ больш павялічвае значэньне вугалю, жалеза,—мэталюргічнай прамысловасьці.

„У 1860 годзе тапілі чыгуну на ўсім сьвеце 7 мільёнаў тон, у 1910 г.—70 мільёнаў тон. За 50 год выраб павялічыўся ў дзесяць раз [1]). Тыя краіны ідуць сьпераду, якія маюць найбольш спрыяючыя ўмовы для разьвіцьця мэталюргічнае прамысловасьці. Надзвычайна хуткі, асьляпляючы рост індустрыі Нямеччыны і яе палітычнае й экономічнае вагі з 70-х гадоў 19 ст. цалком тлумачыцца тым, што, маючы ў сваім складзе Эльзас-Лётарынгію, яна як ня трэба лепш злучыла ў сябе жалезную руду з каменным вугалем.

*Монополістычны капіталізм, фінансавы капіталізм і пераважнае значэньне вырабу прылад вытворчасьці над рэчамі шырокага ўжытку,—гэта тыя грунтоўныя зьмены, якія адбыліся ў капіталістычным грамадзянстве і азначаюць новую эпоху імпэрыялізму.*

Монополія вытворчасьці зьяўляецца грунтоўнай пасланкай да монополізацыі рынку збыту на магчыма больш вялікім гаспадарчым абшары, адмежаваным ад чужаземнай конкурэнцыі мытамі. Калі ў часе да-імпэрыялістычнага ўзросту капіталізму, мытная палітыка мела на мэце протэктарства над найбольш слабымі галінамі нацыянальнае прамысловасьці, ахоўваючы іх ад перамогі над імі адпаведнай чужаземнай продукцыі, дык цяпер, наадварот, мыты ахопліваюць найбольш вялікія галіны вытворчасьці, ужо не дзеля таго, каб дапамагчы іхнаму разьвіцьцю ці захаваць ад гібелі, але каб павялічыць прыбыткі прамыслоўцаў. Праз штучнае павялічэньне прыбытку на ўнутраным рынку забясьпечваецца збыт продукцыі па больш таннай цане на ўнешнім рынку і павялічваюцца конкурэнцкія магчымасьці нацыянальнае прамысловасьці.

Але самым сталым сродкам забясьпечыць монополію вытворчасьці зьяўляецца монополізаваньне сыравіны, захват яе ўсюды, дзе гэта толькі магчыма і чаго-б гэта ні каштавала. Калі і ў да-імпэрыялістычную эпоху колёніяльная палітыка кіравалася жаданьнем апанаваць крыніцамі сыравіны, дык усё-ткі імкненьні гэтыя абмяжоўваліся патрэбамі продукцыі. Паколькі гэтыя патрэбы на больш ці менш доўгі час забясьпечваліся, пастолькі слабнулі агрэсыўныя імкненьні і стычкі, якія зьяўляліся ў выніку шуканьняў крыніц сыравіны, канчаліся больш-менш доўгай згодай. Малюнак зусім мяняецца пры монополістычным капіталізьме, калі неабмежаваныя патрэбы вытворчасьці, а неабмежаванае імкненьне да монополіі дыктуе захват сыравіны. Калі сыравіна захопліваецца не пастолькі, паколькі яна патрэбна для свае вытворчасьці, а паколькі яна не павінна трапіць да другога. Тут няма мяжы для захопніцкіх імкненьняў, тут няма тых абмяжоўваючых ліній, якія маглі-б легчы ў аснову больш-менш доўгатэрміновае згоды.

[1]) М. Паўловіч—„Империализм".

Не *паглынаць* у процэсе вытворчасьці, але *захопліваць* дзеля забясьпечаньня монопольнага становішча,—вось якаво сучаснае заданьне колёніяльнае політыкі. Сучасная экспансія—гэта ня імкненьне да забясьпечаньня ўсім патрэбным галоўнае прамысловасьці, але захопніцкае імкненьне прагавітае хцівасьці да прыбыткаў, залежачых ад монополіі вытворчасьці і збыту. Вось чым тлумачыцца тое, што сьвет так хутка стаў цесным для сучаснага капіталізму, нібы ён стаў цесны для сучаснага чалавецтва. Калі-б хто-небудзь, бачачы заўзятыя войны нашага часу за крыніцы сыравіны, падумаў-бы, што гэтае сыравіны ня старчыць для прамысловасьці, дык ён вельмі памыліўся-б. Англія ды Амэрыка не таму захопліваюць каменны вугаль у Кітаі, што ім цяпер ня старчыць каменнага вугалю з тых крыніц, што яны ўжо маюць, ці нават прадбачаць недахват яго ў бліжэйшай ці больш аддаленай будучыні. Не, ня гэтыя мотывы кіруюць ангельскімі ды амэрыканскімі трэстамі. Яны захопліваюць кітайскі вугаль не для сябе, а дзеля таго, каб ён не дастаўся японскай ці якой-небудзь іншай ці нават самой кітайскай прамысловасьці. Капіталістым, якія ацэньваюць сьвет з пункту погляду сягонешняга прыбытку, стала цесна, і яны рвуць адзін ад аднаго кавалкі абшараў, павялічваючы прыбытак адных, памяншаючы, такім чынам, прыбытак другіх. Сапраўды-ж чалавецтва зусім яшчэ не перарасло тых магчымасьцяй, якія дае яму зямля. Разьвіцьцё сусьветных вытворчых сіл яшчэ мае неабмежаваныя магчымасьці для свайго далейшага разьвіцьця і забясьпечаньня ўсім патрэбным. Вялізарныя абшары зямлі, што знаходзяцца паміж зваротнікамі, яшчэ зусім не закрануты сучаснай культурай. А тымчасам гэта найбагатшыя краіны. І калі каменны вугаль, нафта і інш. гэта ёсьць успрынятая зямлёй, концэнтраваная сонечная энэргія, дык-жа пераважная колькасьць сонечнае энэргіі прыпадае якраз на зваротнікавыя краіны. І якая веліч багацьця захавана ў нетрах гэтых месцаў! Вялізарныя лясныя і рэчныя абшары, нявычарпальныя крыніцы воднае энэргіі, найбагатшая размаітасьць жывёльнага й расьліннага сьвету. Калі да гэтага часу гэтыя краіны, дзякуючы кліматычным варункам, былі недаступны эўропэйскай культуры, дык цяпер гэтыя перашкоды параўнаўча лягчэй перамагчы. Яшчэ тады, калі французы пачалі капаць Панамскі канал, здавалася, што ў гэтай зваротнікавай краіне эўропэйцу зусім немагчыма жыць: памірала 177 чалавек на тысячу за год. На працягу некалькіх год загінула 22.000 рабочых. Але вось калі над прарыцьцём каналу пачалі працаваць амэрыканцы, дык яны ўбачылі, што справа не ў страшных зьвярох, кракодылах, гадзюках і інш., і не ў самым клімаце й сьпякоце, але ў безьлічы камароў. „Амэрыканцы“, апавядае аўтар выдатнае працы „Тихоокеанская проблема“ Доліва-Добравольскі, „накіравалі сюды масу дактароў, якія пачалі вывучаць справу мясцовае санітарыі, рабіць досьледы і вышукваць мэтоды барацьбы з трасцай. Пасьля таго, як былі знойдзены спосабы атручваць ваду, дзе жывуць лічынкі камароў, асобнай „ляўрацыд-

наю жыжкай“ і пакрываць ваду нафтай,—выпадкі хваробы адразу зьменшыліся. Апрача таго, амэрыканцы нарабілі ўсюдых водаправодаў з добрай вадой для піцьця, правялі вельмі энэргічную кампанію, каб зьнішчыць пацукоў і блох ды асушылі балоты. Вынікі былі вельмі ўдалыя. Ужо ў 1909 г. амэрыканцаў ад хвароб у зоне пратокі памірала 4,06 чалавек на тысячу, а ў Нью-Ёрку ў тым самым годзе памірала ад хвароб амаль 15 чалавек на тысячу. Цяпер у Панаме жыць непрызвычаеным амэрыканцам зусім магчыма, і пытаньне аб зваротнікавых хваробах можна лічыць вырашаным канчаткова“. Такім чынам, апошнія дасягненьні навукі даюць поўную магчымасьць апанаваць вялізарнымі зваротнікавымі краінамі і нават абярнуць у заселеныя краіны бязьмежныя абшары пустынь. Калі багацьці зваротнікаў стварыліся ў выніку злучэньня сіл сонца і вільгаці, дык вялізарная сіла сонца ў пустынях, пры сучасным уменьні даставаць вільгаць з зямлі, даюць магчымасьць скарыстаць пустыню. Горш стаіць справа з тымі краінамі, дзе замала сонца, як, напр., полярныя краіны.

Каб тыя вялізарныя сродкі, што былі выдадзены на імпэрыялістычныя войны, былі страчаны, каб апанаваць зваротнікамі, дык з агульналюдзкога пункту погляду былі-б дасягнуты вялізарныя вынікі. Але такое справы нельга ажыцьцёвіць там, дзе ёсьць імкненьне зараз-жа нажыцца. Адзначаныя заданьні стаяць перад чалавецтвам і будуць ажыцьцёўлены тады, калі грамадзянскія ўзаемаадносіны і вытворчыя сілы грамадзянства ня будуць падпарадкаваны інтарэсам капіталістычнае нажывы, але агульналюдзкога прогрэсу. У кожным разе, разьвіцьцё вытворчых сіл сучаснага чалавецтва зусім яшчэ ня вышла за межы сусьветных магчымасьцяй іхнага прыстасаваньня. І калі сучаснае грамадзянства з агульна-людзкога пункту погляду дарма й бяз сэнсу стогне пад цяжарам воен і міжнародных стычак, якія марнатравяць і губяць вытворчыя сілы чалавецтва, дык таму, што падпарадкаваньне вытворчых сіл сучаснай капіталістычнай форме іхнай організацыі не адпавядае далейшаму прогрэсу чалавецтва. Ня тым, што цесна людзям на зямлі, тлумачыцца барацьба за абшары ў эўропэйскіх і па-заэўропэйскіх краінах, але тымі асобнымі мэтамі, якім падпарадкавана капіталістычная вытворчасьць. Ня так захапіць тэрыторыю, як выцесьніць супраціўніка,—вось, пераважна, тое заданьне, якое стаіць перад сучаснай колёніяльнай палітыкай. Гэта яскрава выяўляецца ў падзеле сьвету на сфэры ўплыву, або на краіны, куды адна капіталістычная група не дазваляе пранікнуць другой.

---

Праз меру доўгі час у вялізнай большасьці ня толькі чалавецтва, але нават і самай цывілізованай яго часткі жывуць старыя паняцьці й прадстаўленьні. Гэтак, мы дагэтуль пераважна і ў будзёным жыцьці і ў навуцы карыстаемся старымі прадстаўленьнямі аб самастойных нацыянальных дзяржавах, ня гледзячы на тое, што для большасьці гэтых дзяр-

жаў гэтае паняцьце ўжо страціла свой зьмест. Вялізнае разьвіцьцё сродкаў зносін і шляхаў, якое абумовіла магчымасьць экономічнага зьвязку паміж рознымі элемэнтамі сучаснае вытворчасьці—вугалем, рудой, медзьдзю, шэрсьцю, бавоўнай, нафтай і інш.,—раскіданымі ў розных, вельмі аддаленых друг ад друга частках сьвету, зьвязала ўсю экономіку чалавецтва ў адну сусьветную гаспадарку. Побач з гэтым, як перажытак XIX ст. ў XX, яшчэ захавалася даўнейшая політычная падзеленасьць, і далейшы поступ гісторыі павінен разьвязаць супярэчнасьць паміж экономічнай узаемазалежнасьцю, гаспадарчым адзінствам і політычнай падзеленасьцю. Але гэтая знадворная вялікая падзеленасьць не адпавядае сапраўднаму стану рэчаў. „Якавы *рэальна* існуючыя цяпер політычныя адзінкі?"—пытаецца ангельскі комуністы Дэнон Хорабін у сваёй надзвычайна здольнай працы „Нарыс гісторыка-экономічнай географіі ўсяго сьвету". — „Ці зьяўляюцца такімі ўсе семдзесят з лішкам „сувэрэнных" дзяржаў, якія маюцца ў „Календары дзяржаўнага чалавека", дзе, побач з Рэспублікай Злучаных Штатаў фігуруе Рэспубліка Нікарагуа, а побач з Брытанскай імпэрыяй—Абісінская імпэрыя?"

*Рэальныя політычныя адзінкі пасьля вайсковага часу—гэта зусім не нацыянальныя дзяржавы, але групы нацыянальных дзяржаў, і на чале кожнай з іх стаіць тая ці іншая магутная прамысловая дзяржава і ўключае ў сябе цэлы шэраг менш значных дзяржаў ці колёній.* Некаторыя з гэтых дзяржаў карыстаюцца афіцыяльнай (de jure) незалежнасьцю, але экономічна (г. зн. de facto) усе яны аднолькава залежаць ад больш дужых дзяржаў". „Так, Португальская імпэрыя формальна не ўваходзіць у склад Брытанскае імпэрыі, але, аднак, фактычна яна зьяўляецца васальнай дзяржавай брытанскае групы, як і цэлы шэраг іншых краін, што залежаць ад ангельскага вугалю ці капіталу, ангельскае фабрычнае вытворчасьці ці суднаходзтва".

*Рэальны факт нашага часу—гэта не асобная „сувэрэнная" дзяржава, але група такіх дзяржаў.* На чале кожнае групы стаіць дужая сувэрэнная дзяржава, у стасунку да якое іншыя зьяўляюцца колёніямі і напоўколёніямі.

Подлуг схэмы Хорабіна, такіх груп пяць: 1) Амэрыка, 2) Брытанская імпэрыя, 3) Далёкі Ўсход (Кітай ды Японія), 4) Расія, 5) Францыя, Сярэдняя Эўропа і Паўночная Афрыка.

„Міжнародная політыка кожнай з гэтых груп",—кажа далей Хорабін,— „палягае ў тым, што кожная з гэтых груп імкнецца ўзмацніць сябе ды аслабіць усе іншыя". Узаемная барацьба паміж гэтымі групамі, якая ахоплівае вялізарныя географічныя абшары, прымушае ствараць вялізарныя стратэгічныя лініі, маючыя вялізарныя ўзброеныя сілы—сухаземныя, паветраныя і морскія, з усімі прыстасаваньнямі да іх, як, напр., прыстанямі, докамі, вугальнымі станцыямі, крэпасьцямі і аэродромамі.

Стратэгічна ўзмацаваная, акружаная сьцяной мытніц, такая група імкнецца стварыць „самодовлеющую“, усё ў сабе, для сябе маючую краіну (аўтаркіі). І сьвет падзяляецца нібы на пяць вялікіх імпэрый, заўсёды гатовых да захопаў і воен.

Калі ў межах асобных нацыянальных дзяржаў палітычная ўлада фактычна знаходзіцца ў руках капіталістычных трэстаў, якія монополізавалі гаспадарчае жыцьцё, дык у паказаных групах паўтараецца тое самае, яшчэ ў большым маштабе.

„Рэальным урадам кожнае з гэтых дзяржаўных груповак, апрача Расіі, зьяўляецца група капіталістых, не заўсёды адна й тая самая, але заўжды тая або іншая капіталістычная група, якая карыстаецца ў даны момант найвялікшым уплывам на ўрадовы мэханізм (далучаючы сюды і політыкаў, якія афіцыяльна трымаюць у сваіх руках справы кіраваньня). Такім чынам, калі мы кажам аб „Вашынгтоне“ ці „урадзе Злучаных Штатаў“, дык сапраўды маем на ўвазе нафтавую кампанію „Стандарт-Ойль“ або групу П‘ерпонта Моргана. Кажучы аб „Францыі“—ва ўсякім разе ў стасунку да яе знадворнае політыкі—мы, сапраўды, скажам аб комітэце жалезавыробнікаў (Comité de Forges), а пад брытанскім ці ангельскім урадам магчыма разумець то аб‘яднаньне буйных жалезапрамыслоўцаў, то нафтавую кампанію, то концэрн пяцёх галоўных банкаў і іншых фінансыстых“ (Хорабін).

Утварэньне кожнай з гэтых сфэр уплыву мае сваю крывавую гісторыю.

Калі к канцу XVIII ст. Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты вызваліліся ад ангельскай эксплёатацыі, дык яны хутка пачалі разьвіваць сваю прамысловасьць і гандаль, а ў 1823 г. вуснамі прэзыдэнта Монроэ агаласілі прынцып—„Амэрыка для амэрыканцаў“, манячыся падпарадкаваць свайму ўплыву ўвесь вялізны абшар Паўночнай і Паўднёвай Амэрыкі. Кіраўнікі політыкай Паўн. Ам. Злучаных Штатаў ці, праўдзівей, кіраўнікі яе капіталістычнага разьвіцьця трымаліся гэтае доктрыны ды стараліся адмежавацца ад умяшацельства ў эўропэйскія міжнародныя адносіны, перашкаджаючы ўсякаму ўмяшацельству эўропэйскіх дзяржаў у адносіны паміж дзяржавамі Паўночнай і Паўднёвай Амэрыкі, абы толькі Злучаныя Штаты зьяўляліся адзіным гэгэмонам над гэтымі дзяржавамі. Гісторыя барацьбы Злучаных Штатаў за аўладаньне Асяродкавай Амэрыкай можа зьявіцца належнай ілюстрацыяй да таго, як ажыцьцяўлялі яны сваю гэгэмонію ў межах Амэрыкі. Найважнейшай задачай пры аўладаньні ўсёй Амэрыкай зьявілася для Злучаных Штатаў прарыцьцё Панамскага каналу, у шмат раз скараціўшага шлях між рознымі найгалоўнейшымі пунктамі Паўднёвай і Паўночнай Амэрыкі. Ідэя злучыць Вялікі і Атлянтычны акіяны, прарыўшы вузкі Панамскі пярэсмык, сама напрашвалася і зьявілася праз невялікі час пасьля адкрыцьця Амэрыкі, але толькі XX ст. ўбачыла ажыцьцяўленьне гэтае ідэі. У XX ст. Злуча-

ныя Штаты, якія марылі аб тым, каб захапіць ды забясьпечыць за сабой гэты найважнейшы шлях, імкнуліся захапіць, узалежніць ад сябе, пад тым або іншым выглядам, дзяржавы Асяродкавае Амэрыкі, што знаходзіліся паміж Панамскім каналам і паўднёвай мяжой Штатаў: Мэксыкай, Гватэмалай, Гондурасам, Сан-Сальвадорам, Нікорагуа, Костарыко. Цэлыя томы можна напісаць аб тых гвалтах, шальмоўствах, патаемных забойствах, падстроеных паўстаньнях, якія скарысталі Штаты, каб дасягнуць гэтага, асабліва ў стасунку да багатай на прыродныя сілы Мэксыкі. Але захват Асяродкавай Амэрыкі яшчэ ня зусім забясьпечваў панаваньне Злучаных Штатаў над Панамскім каналам; для гэтага трэба было аўладаць узмоцненымі базамі на Вэст-Індзкіх астравох, якія належалі да Гішпаніі і іншых эўропэйскіх дзяржаў. І гэтае давяло Злучаныя Штаты да беспасрэднае стычкі з эўропэйскімі дзяржавамі, не разьвязанае яшчэ да сягонешняга дня. Першая стычка адбылася з Гішпаніяй у 1898 г. за востр. Кубу. У выніку гэтай-жа Гішпана-Амэрыканскай вайны 1898 г., сьцяг Зluч. Шт. закрасаваў над 7.083 Філіпінскімі астравамі, закрасаваў нібы часова, з тае прычыны, пакуль вызваленыя ад Гішпаніі Філіпіны наладзяць у сябе досыць сталы дзяржаўны парадак. І гэтае „часовае“ цягнецца аж дагэтуль, хаця ў траўні 1923 г. гэнэрал-губарнатар Філіпінскіх астравоў, гэнэрал Леонард Вуд пісаў, што „Філіпіны хутка набліжаюцца да ўстанаўленьня сталага дзяржаўнага ладу, як разумею гэта я, *і. зн. да такога ладу, пры якім чужаземнаму капіталу забясьпечаны звычайны процант прыбытку*“ (Хорабін, стар. 83). „А ў часе сусьветнай вайны, пакуль прэзыдэнт Вільсон зьвяртаўся да ваюючых дзяржаў з нотамі аб дэмократыі й вольнасьці, войскі Зл. Шт. разагналі парлямант Гаіці (Нэгрыцянскай рэспублікі, якая знаходзіцца на другім па вялічыні востраве Вэст-Індыі) і завялі там, каб „папярэдзіць непарадкі“, вайсковую адміністрацыю самага звычайнага імпэрыялістычнага гатунку“. (Хорабін, стар. 84). З 1889 г. Злуч. Шт. беспасрэдна захапілі 270.000 кв. міль, ня кажучы ўжо аб тых абшарах у Паўночнай і Паўднёвай Амэрыцы й па-за Амэрыкай, якія падпалі пад уплыў іхніх капіталаў. Але на гэтым захопніцкая палітыка Злучаных Штатаў ня спыняецца. Яны лічаць, што, пакуль Антыльскія астравы, што ляжаць супроць Панамскага каналу, не знаходзяцца поўнасьцю ў іх руках, канал стратэгічна ня зусім забясьпечаны, і вымагаюць ад Англіі ды Францыі, робячы на іх усялякі націск і ўступкі ім, належачых Францыі ды Англіі астравоў.

Пытаньне аб Антыльскіх астравох — самая галоўная прычына неладоў паміж Злуч. Шт. і сучаснымі гэгэмонамі Эўропы. Гэтак, захопліваючы вялізарныя абшары ў сфэру свайго ўплыву, Злуч. Шт., замацаваўшыся на Філіпінскіх астравох, праз цэлы шэраг прамежных астравоў працягнулі стратэгічную лінію праз увесь Вялікі акіян да берагоў Амэрыкі, замацоўваючыся ў Караібскім моры, Мэксыканскай затоцы, на Антыльскіх астравох, ствараюць апорныя стратэгічныя пункты на Атлянтычным

акіяне. Замацаваўшыся на Філіпінскіх а-вох, Злуч. Шт., разам з тым, стварылі базу, якая дае ім магчымасьць перакінуцца на Азыяцкі контынэнт.

Па велічыні захопленых абшараў ня ўступае Амэрыцы Брытанская сфэра ўплыву. Сюды належаць: Паўднёвая Афрыка, Аўстралія, Канада, Нью-Фаўндлэнд, Новая Зэляндыя, Індыя, Месопотамія, Усходняя Афрыка, Анг. Гвінэя, Гондурас і цэлы шэраг іншых мясцовасьцяй. Сюды-ж фактычна ўваходзяць: Португалія з колёніямі, Голяндыя са сваймі вялізарнымі Ост-Індзкімі колёніямі, Эгіпэт, Судан, Пэрсыя, Тыбэт. Пад ангельскім уплывам таксама знаходзяцца: Норвэгія, Грэцыя, Эстонія, Літва, Латвія. Досыць пабачыць у гэтым сьпісе Індыю, Ірляндыю, Эгіпэт, Судан, каб усім вядомыя малюнкі крывавага гвалту і бязьлітасных адносін і эксплёатацыі паўсталі прад вачыма. Для абароны гэтае сфэры, раскіданай на пяцёх контынэнтах і сямёх морах, працягнуліся вялізарныя стратэгічныя лініі. Досыць назваць адну сярод іх: ад Плімуту ў Вялікабрытаніі, праз Гібралтар, Порт-Саід (Суэцкі канал), Адэн (Баб-эль-Мандэбская пратока), праз Індыйскі акіян, Сынгапур, да Гонконгу на беразе Паўднёвага Кітаю.

У францускую сфэру ўплыву ўваходзяць: Сырыя, Туніс, Алжыр, Мароко, Зах. Экватор, Афрыка і Мадагаскар, Індакітай і г. д. Залежны ад яе: Бэльгія, Нямеччына, Польшча, Румынія, Чэха-Славаччына, Юга-Славія. Для аховы сваёй сфэры Францыя ўзброена з ног да галавы, цяжка згінаецца і стогне пад цяжарам свайго ўзброеньня і, разам з тым, робіць вялізныя выдаткі на ўзброеньне сваіх, залежачых ад яе саюзьнікаў.

Далёкаўсходняя група, на чале якое стаіць поўная маладой імпэрыялістычнай заўзятасьці Японія і ў якую ўваходзіць разьдзіраемы на кавалкі Кітай, не зьяўляецца такой азначанай сфэрай, як тры папярэднія. У сэнсе ўплыву на Кітай, Японія мае праз меру дужых супрацiўнікаў у асобе Паўн-Амэр. Злуч. Штатаў і Англіі. Гэта—тая сфэра, што больш за ўсё выклікае нязгоды, і барацьба за якую зьявіцца аднэй з галоўных прычын надыходзячай вялікай імпэрыялістычнай вайны. Вялікай—таму што ў параўнаньні з надыходзячай вайной, праз меру гучна званая „сусьветнай“ вайной, вайна 1914-18 г.г., была маленькай. Фактычна яна ахоплівала толькі эўропэйскія дзяржавы.

Амэрыка далучылася да вайны ўжо пад самы яе канец. Чыннасьць Японіі ў гэтай вайне была вельмі абмежаванай. Надыходзячая вайна сапраўды будзе сусьветнай; ахопіць усе контынэнты. Вялізная Амэрыка ад самаго пачатку будзе галоўным вінавайцам вайны. Кітай разам з Японіяй рынецца на сваіх супраціўнікаў усёй сваёй вялізарнай масай жывое сілы, падтрыманай запазычанай ад эўропэйцаў тэхнікай. Каляровыя арміі ў вайне 1914-18 г.г. толькі ствараліся, цяпер яны выраслі да вялізарных армій. Хутка пракладаюць чыгункі праз пяскі, пустыні й балоты Афрыкі, каб магчыма было адразу кінуць на фронты гэтыя вяліз-

ныя каляровыя арміі. Той скачок, што з часу сканчэньня вайны 1914-18 г.г. да сягонешняга дня зрабіла і да будучае вайны зробіць вайсковая тэхніка, кідае ў жах абсолютна ўвесь сьвет, які з надзвычайным болем смакуе страшныя разбуральныя сілы, якія рынуцца на чалавецтва і ўсю культуру.

Вось чаму цяпер ніхто ня можа ня думаць і не гаварыць аб імпэрыялізьме.

Пераклаў **А. Раманоўскі.**

## СЯЛЯНСКІ РУХ НА ЗАХАДЗЕ.

*(Да 400-годзьдзя сялянскага паўстаньня ў Нямеччыне—1525—1925 г.)*

**С. З. Кацэнбогэн.**

Шматвяковая і доўгая эпоха гандлёвага капіталу зьяўляецца, з аднаго боку, эпохай награмаджэньня буйных капіталаў, з другога—пэрыодам стварэньня ўсіх неабходных умоў для ўтварэньня ў горадзе і вёсцы Vorproletariat'у (прадпролетарыяту). Гісторыя працы і капіталу—крывавая эпопэя, поўная глыбокага трагізму, чалавечых ахвяр, надужыцьцяў і крыві. На шляхох міжнароднай мены і эксплёатацыі колёній, гандлёвы капітал карыстаўся мэтодамі грабежніцтва, морскага разбою. У „Капітале“ Маркс даў нам яскравую характарыстыку эпохі першапачатковага награмаджэньня капіталу. Вялізарнае і хуткае збагачэньне піонэраў капіталу—конквістатараў таварышыла са зьнішчэньнем і выміраньнем цэлых пляменьняў-народаў Амэрыкі (Банда, Ямайка і інш.) і Афрыкі. Эўропэйскія культуртрэгэры, увозячы ў колёніі непатрэбныя тубыльцам брындзюлькі, разам з золатам і дыямэнтамі адбіралі ад іх жыцьцё. Награмаджэньне капіталу пашло натужным, хуткім тэмпам у другі пэрыод эпохі гандлёвага капіталу, у эпоху вялікіх адкрыцьцяў акіянскіх шляхоў у Індыю й Амэрыку і масавага адліву адтуль золата ў Эўропу. Процэс награмаджэньня капіталаў, натужнае выцяганьне дадатковай вартасьці адбывалася, аднак, ня толькі шляхам міжнароднай мены. Гандлёвы капітал пахаджэньнем сваім абавязаны фэўдальным спосабам вытворчасьці; будучы, асабліва ў першы пэрыод, непасрэдна зьвязаны з мэтодамі фэўдальнага прысваеньня дадатковай вартасьці, ён вядзе да надзвычайнага ўзмацненьня фэўдальнай эксплёатацыі, да замены фэўдальных адносін прыгоннымі. Гандлёвы капітал у патрыархальныя адносіны фэўдальнага ладу ў вёсцы і ў рамесьніцка-цэхавым ладзе ў горадзе прабіў шчыліну, выявіўшы і ўзмацніўшы да вастрыні насьпеўшыя клясавыя супярэчнасьці. Пэрыод гандлёвага капіталу характарызуецца ўзростам соцыяльных антагонізмаў у горадзе і вёсцы.

Селянін да азначанага пэрыоду—узросту ўплыву грашовае гаспадаркі (у Францыі да XIV в., у Англіі да XIV в., у Нямеччыне да XVI в.)—нясе на карысьць сэньёра павіннасьць больш-менш вызначаную звычаем—падаток, паншчыну, дзесяціну. Ламаньне асабістае натуральнае гаспадаркі, міжкраёвая і міжнародная мена, стычнасьць з багатымі краінамі Ўсходу, паўстаньне рынку, як месца продажы і куплі—павялічвае да апошняга запатрабаваньні сэньёра. Патрэба ў грошах вызначае сабою зьмену ў вёсцы

соцыяльных адносін. Памешчык перакладае амаль што ўсе павіннасьці селяніна на грошы, павялічваючы разьмер падатку і паншчыны. Неабходнасьць вынаходзіць грошы для пана і для зборшчыка падаткаў робіць селяніна залежным ад ліхвяра скупшчыка, у асобе таго-ж сэньёра або духавенства, або ад гандляра, які дыфэрэнцыраваўся ад фэўдала. Гандлёвы капітал, асабліва ў першы пэрыод, не ставарае новых спосабаў вытворчасьці і пры награмаджэньні капіталаў не базуецца на вытворчасьці адносна дадатковай вартасьці, а вышуквае спосабы ўзмацнёнай вытворчасьці абсолютнай дадатковай вартасьці. Прыгнечаньне, якое зносіць селянін, становіцца ўсё больш і больш не пад сілу, родзіць глухую злосьць супроць памешчыкаў, духавенства, князёў, гандляроў, яно прарываецца то тут, то там у форме крывавых паўстаньняў, бунтаў. Спэцыфічныя асаблівасьці сярэднявякоўя ствараюць яшчэ больш цяжкае становішча ніжэйшых мас сельскага і гарадзкога жыхарства. Экстэнсыўны, драпежніцкі спосаб зямлякарыстаньня, партыкулярызм, згушчанасьць жыхарства прыводзіць да хранічных, амаль што не бязупынных на працягу ўсяго сярэднявякоўя жудасных галадовак. Побач з голадам, неспадзявана паявілася ўва ўсёй Эўропе прынесеная з берагоў Чорнага мора чума (чорная сьмерць), якая ў 1348 г. з нябачанай сілай спусташала жыхарства шмат мясцовасьцяй да $^1/_{10}$ (у некаторых месцах засталося ня больш 8 проц. насельніцтва); гэта прычынілася да яшчэ большага ўзросту цэн і ўзмацніла недахват рабочых рук. Патрабаваньні аб зьмене аплаты працы збоку працоўных спатыкалі яшчэ больш злосную эксплёатацыю збоку памешчыка ў вёсцы і майстра ў горадзе. Урады, што стаялі на варце інтарэсаў памешчыка і гандляра, трымаліся асаблівай этыкі і гандлярскага капіталу, уводзілі „справядлівыя цэны" на тавары, разам з тым фіксавалі старыя нізкія стаўкі і нормы аплаты працы ў горадзе і вёсцы.

„Рэволюцыя цэн", выкліканая з аднэй стараны наплывам каштоўных мэталяў у Эўропу і яшчэ большым зьмяншэньнем кошту іх здабываньня, зьменшыўшы пакупную сілу грошай, выклікала нячуваную дарагоўлю, зваліўшыся ўсім цяжарам зноў-такі на таго-ж селяніна і беднага жыхара гораду.

А неабходнасьць павялічэньня дадатковай вартасьці, у зьвязку з рэволюцыяй цэн, узмацніла яшчэ больш эксплёатацыю ў горадзе і вёсцы.

Грашовая гаспадарка, шырокі менавы рынак абярнулі і зямлю ў тавар, выклікаўшы ў памешчыка моцнае імкненьне да яе, імкненьне, якое дасягнула свайго апогэю ў XV-XIV в.в. у Англіі пры так званым „абгараджваньні". Але гэты процэс сэкулярызацыі, грабежніцтва сялянскіх зямель—працяжны і балючы—вынікае і ў Францыі, і ў Нямеччыне, і інш. краінах. Legen-process, які прымушае сялян марнець, выкіданьне іх з зямлі прыслугоўвае нарастаньню Vorproletariat'у ў горадзе і вёсцы. Аднак-жа, інтарэсы збыту продуктаў сельскай гаспадаркі на рынак прыводзілі вельмі часта к іншым характэрным вынікам.

Недастача працоўных рук прыводзіла к тэндэнцыі замяняць аброк, ужо скасаваны, прыгонам, узмацніўшы яго шырокай эксплёатацыяй.

Гандлёвы капітал паступова разбурвае краёвы партыкулярызм, фэўдальна-рамесьніцкую абмяжованасьць, дэцэнтралізацыю, усё больш высоўваючы на месца чужаеднага, трацячага свае грамадзка-карысныя функцыі фэўдала пачаткі дзяржаўнай цэнтралізацыі, экономічнага і палітычнага адзінства, прыводзіць да ўсё большага і большага росту наёмных войск і бюрократыі, а значыць, і да ўзмацнёнай падатковай палітыкі, да ўзмацнёнай эксплёатацыі таго-ж селяніна і беднага жыхара вёскі.

Калі сфэрай непасрэднай эксплёатацыі гандлёвага капіталу былі, галоўным чынам, горад і колёніі, і толькі, як-бы шляхам збоку, гандлёвы капітал уплываў на фэўдала для ўзмацненьня эксплёатацыі селяніна, то аж да рэформацыі, а ў Францыі і да Рэв. 1789 г., духавенства ўвасабляла сабою яскравы, колёрытны сынтэз *памешчыка і ліхвяра*, уладаючага нязьлічонымі зямельнымі і грашовымі багацьцямі. Гэтыя абставіны і зьяўляюцца лепшым соцыялёгічным, а не схолястычна-багаслоўскім угрунтаваньнем рэформацыі, тлумчачы вузел скрыжаваных і супярэчных соцыяльных інтарэсаў і прэтэнзій, якія знашлі ў ім свой выраз. Духавенства, у асобе папы—ідэолёгічны выраз фэўдалізму, фокус яго,—якое становіцца, падобна фэўдалам, усё больш і больш эксплёатарам і якое вядзе багатае і беспрацоўнае жыцьцё ў сваіх манастырох—выклікае і концэнтруе на сабе злосьць розных кляс, нават чужых паміж сабою.

Князі і гарады, нападаючы на „ўсю шайку рымскага Содому“ мелі навідоку вялізарныя землі духавенства. Да таго-ж імкнуліся і зьбяднеўшыя, даўно перастаўшыя несьці дзяржаўную службу рыцары. Але найбольш напружанымі, поўнымі злосьці, нездаваленьня і чаканьня, былі адносіны да духавенства збоку сялянства. Гандлёвы капітал, выявіўшы завостраныя соцыяльныя супярэчнасьці ў горадзе й вёсцы, прывёў да рэакцыі ў Францыі і да паўстаньня Яна Тэйлора ў Англіі. Аналіз гэтых паўстаньняў будзе дан намі крыху ніжэй. Позьні пэрыод гандлёвага капіталу характарызуецца, з аднаго боку, узмацнёным награмаджэньнем капіталаў у колёніях і награмаджэньнем працоўнай сілы—Vorproletariat'у шляхам „абгараджваньня“ зямель, з другога боку—прасякненьнем гандлёвага капіталу ў сфэру вытворчасьці. Гэты пэрыод мае адносіны к пачатку XVI в. Вось дзеля чаго к гэтаму часу соцыяльныя супярэчнасьці становяцца найбольш выпуклымі, значнымі, яскравымі. Вось дзеля чаго к гэтаму часу сутычкі кляс набываюць асабліва ўпарты, напружаны характар, распаўсюджваючы пры гэтым сфэру свайго ўплыву ня толькі на тую ці іншую абмяжованую мясцовасьць, але захопліваюць вялізарныя раёны, адбываючыся часамі ў нацыянальных рамках. К гэтаму часу гандлёвы капітал пранік у горную, суконна-ткацкаю і хлебную справу (паўднёвая і сярэдняя Нямеччына), завастрыў там да немагчымасьці соцыяльныя супярэчнасьці, якія давялі, з аднаго боку, да выбуху буржуазна-дэмократычных рэволю-

цый, да нямецкай рэформацыі, з другога боку—да сялянскага паўстаньня 1525 г. і да прароцкай увэртуры сучасных рэволюцый.

Прысутнасьць пролетарыяту, выхаванага ў атмосфэры масавай працы, дысцыпліны, таварыства—ахварбавала сялянскія паўстаньні Нямеччыны ў асаблівы комуністычны колёрыт. Несьвядомасьць выявіла існаваньне. Ні Ян Жыжка або Пракоп Вялікі стварылі ў 1432 г. табор—комуністычную грамаду з бедных сялян, рамесьнікаў і рабочых, а ўзмацнёная з XIV в. распрацоўка срэбных капалень у Чэхіі стварыла неабходныя для гэтага абставіны. І ня Т. Мюнцэр у Мюльгаўзэне і І. Лэйдэнскі ў Мюнцэстэры стварылі комуністычныя тэорыі, выходзячы выключна з сваіх добрых жаданьняў,—іх радзілі Горная Саксонія й Цьвікау і Мансфэльдзкія капальні.

Вялізарная грамадзянская роля духавенства і царквы ў жыцьці сярэднявякоўя прывялі да таго, што рэлігійныя думкі ў працягу шмат стагодзьдзяў трымалі ў сваім палоне розум людзей. Рэволюцыя і гуманізм пахіснулі і зьвялі на нішто рэлігійна-аўторытэтнае мысьленьне, даўшы месца ўсемагутнаму розуму; „гэта быў час—кажа Каўцкі,—калі вялікія супярэчнасьці дзяржавы і грамадзянства выступалі пад рэлігійнай абалонкай“.

Натуральна, дзеля гэтага тагочасныя комуністычныя тэорыі апраналіся ў рэлігійныя формы, бо жадаючыя вызваленьня ад прыгнечаньня памешчыкаў, духавенства, князёў і гандляроў зьвярталі свае погляды да рэспубліканска-дэмократычнага старога завету; шукалі ў запраўдным разуменьні эвангэльля і васкрошаньні ідэалаў першапачатковага хрысьціянства ключ да разуменьня і разьвязаньня цяжкіх соцыяльных проблем. Рэформацыя—рэлігійны бунт супроць папы і духавенства—была, у асобе нарастаючай буржуазіі, прыладзьдзем буржуазнай рэволюцыі ў барацьбе гандлёвага капіталу з фэўдальным магнацтвам; яна была прыладзьдзем соцыяльнага абурэньня для бяздольных, прыгнечаных сялянскіх і гарадзкіх мас. Вынікам рэформацыі было тое, што буржуазія перастала лічыцца з рэлігійным і дзяржаўным соцыяльна-політычным аўторытэтам фэўдальнага духавенства.

Калі сялянства і пролетарыят перасталі лічыцца з буржуазнай лютэраўскай рэформацыяй, гэта прывяло да гарэтычнага комунізму Мюнцэра і І. Лэйдэнскага.

Тое адмоўе адмоўя, дыалектычныя супярэчнасьці паўстаючай буржуазнай рэформацыі прывялі да адмоўя апошняй, да барацьбы з ёю—да сялянскіх паўстаньняў пад штандарам адмоўя духоўных і сьвецкіх князёў царквы.

Грамадзянскія войны эпохі гандлёвага капіталу, выліўшыяся пераважна ў формы сялянскіх паўстаньняў, караняцца, галоўным чынам, у ўмовах аджываючага фэўдалізму, які не хацеў бяз бою ўступіць свае позыцыі, позыцыі ўзмацняючайся буржуазіі, жорстка павялічваючай эксплёатацыі сялянства.

Вось дзеля чаго галоўным лёзунгам сялянскіх паўстаньняў зьяўляецца зямля і воля—адбіраньне зямель у памешчыкаў і духавенства, вызваленьне ад цяжкіх падаткаў, прыгону і шматлікіх іншых павіннасьцяй, вызваленьне ад прыгону.

Удзел гарадзкіх поўпролетарскіх і пролетарскіх элемэнтаў у гэтых паўстаньнях не зацямняе галоўнага зьместу, мэт гэтых паўстаньняў. Гарады ў асобе поўпролетарскіх і пролетарскіх элемэнтаў зьяўляюцца часта толькі ідэёвымі выканаўцамі жаданьняў сялянства; яны твораць програмы, адозвы да паўстаўшых сялян, сатыры на князёў, рыцараў і духавенства, ілюстраваныя мастакамі лісткі і г. д. Так, адзін малюнак выяўляе нарыс сьвету наадварот: ратай стаіць каля аўтара, як-бы нагароджаны гэтым за сваю цяжкую працу, а поп, не прызвычаены да працы, пляцецца за плугам.

Комуністычныя ідэі сярэднявякоўя, якія прыдавалі асаблівую форму сялянскаму руху, ня зволеныя яшчэ ад рэлігійных уплываў. Гэтыя комуністычныя ідэі, ня маючыя дакладнага і яснага разуменьня аб будаўніцтве будучага грамадзянства, царства божыя ня зямлі, якія не апіраліся на масавы рух пролетарыяту буйных гарадоў, не маглі па істоце сваёй разьлічаць на сур'ёзны і працяжны практычны посьпех. „Ні адна грамадзянская формацыя—кажа К. Маркс („Да крытыкі палітычнай экономіі“)—ня згіне раней, чымся разаўюцца ўсе вытворчыя сілы, для якіх яна дасьць досыць прасторы, і новыя вышэйшыя вытворчыя адносіны; яна ніколі не зьяўляецца на сьвет раней, чымся дасьпеюць матэрыяльныя ўмовы іх існаваньня на ўлоньні старога грамадзянства“.

Буржуазная капіталістычная форма грамадзянства толькі нараджаецца, яна балюча, але настойліва разьбівала скаваўшы яе фэўдальны абруч, яе вытворчыя сілы шукалі больш шырокай сфэры дзейнасьці. Буржуазія сьмела і адкрыта глядзела ў будучыну. Былі ўсе падставы для яе росквіту і ня было яшчэ ніякіх падстаў для яе гібелі. Не караніўшыся ў экономічных тэндэнцыях часу гарэтычны комунізм эпохі гандлёвага капіталу, адбіваючы натуральна-спажывецкі характар фэўдальнага грамадзянства і па-завытворчую сутнасьць гандлёвага капіталу, быў комунізмам нявытворчага, а спажывецкага характару. Не грамадзянскія сродкі вытворчасьці былі яго ідэалам, а агульнасьць і зраўнанае карыстаньне маемасьцю.

Комуністычныя ідэі, у форме рэлігійных гарэзій, вельмі часта дапамагаўшыя сялянскім паўстаньням, складаюць доўгі ланцуг на працягу стагодзьдзяў, зьвеньні якога, у залежнасьці ад часу і месца, носяць розны характар.

У першай палове XII в. з Усходу з далёкай Арменіі пранікае ў Эўропу гарэзія катараў, распаўсюджваючыся па Паўночнай Італіі і Паўднёвай Францыі. Для перамогі над чортам, катары прапануюць эвангэльскі ідэал беднасьці і агульнасьць маемасьці.

У канцы XII в. зьяўляецца ў Італіі казаньне калабрыйскага абата Іохама з Ф'ёрэ, які ў сваім казаньні прапануе роўнасьць апостальскага жыцьця, даводзячы, што цяперашні фэўдальны лад павінен згінуць і замяніцца братэрскім дэмократычным панаваньнем духа сьвятога.

Ідэі Іохама імкнуўся практычна зьдзейсьніць у пачатку XIII в. (у Рыме), шляхам масавага руху Арнольд Брэтанскі, стварыўшы гарэзію арнольдыстых, але быў пераможан аружнай сілай.

У XIII в. у Паўночнай Італіі пусьціла глыбокія карэньні сэкта апостальскіх братоў, закладчыкам якой быў Джэрард Сэгарэлі, які меў многа пасьлядоўнікаў, жыўшых на пачатках братэрства і агульнай маемасьці. У 1303 г. ў Лёмбардыі здарыўся буйны сялянскі рух, на чале якога стаў знаходзіўшыся пад нясумненным уплывам апостальскіх братоў манах Фра Дольчыно, які надаў руху яскравы, баявы характар. Ён заклікаў да зьніштажэньня манастыроў, да замены ладу першых апостальскіх грамадзянстваў з іх роўнасьцю ў сусьветную ўстанову. Згуртаваўшыся з 5-6 тысячамі чалавек у П'емонцкіх горах, ён доўга адбіваў фэўдальнае апалчэньне. Памешчыкі, пашоўшы на некаторыя ўступкі, якія вымагала сялянства, адцягнулі іх ад Дольчыно. Дольчыно быў у 1307 г. ўзяты ў палон; з яго злупілі скуру, крышылі цела на часткі, калолі пікамі, рвалі цела шчыпцамі, а потым спалілі. Паўстаньне, якім кіраваў Дольчыно, насіла мясцовы характар і не магло мець посьпеху ў умовах разьвіваючайся гандлёвай Італіі, зьніштожыўшай у сябе ўжо да XIV в. прыгонныя адносіны. У XIV-жа веку (у 1324 г.) вынікла паўстаньне сялян Фляндрыі, у цэнтры суконнай прамысловасьці. Спробы баронаў павялічыць падаткі выклікалі паўстаньне сялян, да якіх далучыліся і бедныя гарадзкія жыхары. Толькі праз 4 гады, у 1328 г., графу Фляндарскаму ўдалося ў крыві загасіць паўстаньне.

Грашовая гаспадарка, якая вяла да ўзмацненьня эксплёатацыі сялян ува ўсіх краінах, падтрыманая ўсімі жорсткімі вынікамі чорнай сьмерці, давяла да паўстаньня і французскае сялянства. У XIV в. ў Францыі, пад уплывам ужо вядомых нам экономічных умоў, вынікае процэс прымусовага аслабаджэньня сялян без зямлі, якое кідае іх на галодную сьмерць. У 1315 годзе Людовік X, у імкненьні за грашыма, выдае ордонанс, аслабаняючы за выкуп сваіх сялян. У 1385 годзе вынікла ў Францыі вядомая рэакцыя, аб жорсткасьці якой буржуазныя гісторыкі напісалі шмат томаў. Францыя, жадаючы заняць месца Англіі на сусьветным рынку, уцягнулася ў Сталетнюю вайну, якая ўсім цяжарам навалілася на сялян і бедных гарадзкіх насельнікаў.

Сялянства прымусова ўцягвалася ў армію, абкладалася цяжкімі павіннасьцямі, падлягала надужыцьцям і грабежніцтву рыцараў. У пагоні за сродкамі на вайну, бароны вынішчалі да апошняга сялянскую гаспадарку, разбураваючы яе дашчэнту. Грубыя і жорсткія адносіны да сялян знашлі сабе адбіцьцё ў прыказках таго часу: „У Жака-Прастака сьпіна добрая,

усё вытрымае“ або „прылашчыце селяніна—ён вас ударыць, пабіце яго—ён будзе да вас лашчыцца“. Паўстаньне атрымала назву Жакерыя, па прозьвішчы, даным у той час сялянам,—Жак-Bonhomme (Жак-Прастак). Момант для паўстаньня быў выбраны ўдала. Супроць каралеўскай улады паўстала гандлёвая буржуазія Парыжу, пад кіраўніцтам Этьена Марсэля. Сялянскае паўстаньне пачалося ў акрузе Бовэ. Налічваючы некалькі тысяч чалавек пад кіраўніцтвам практычнага ў вайсковай справе Вільляна Гілёма Каля, яно хутка распаўсюдзілася па Пікардыі, Шампані і прыбліжалася да Парыжу. Ужо ў гэтым паўстаньні прымаюць удзел і гарадзкія нізы. Але пікардыйскія памешчыкі, мобілізаваўшы ўсе сілы, з дапамогаю караля Наварскага Кароля Злога, задушылі паўстаньне. Каль быў замучаны. На галаву яго быў адзеты разгартаваны трыножнік „карона“, затым яму адсеклі галаву. Задушыўшы Жакерыю, французская шляхта, забіўшы і павесіўшы некалькі тысяч сялян, яшчэ больш узмацніла эксплёатацыю, пакідаючы сялянства на поўгалоднае існаваньне.

---

У XIII і XIV вяках гандлёвы капітал у Англіі пашырае свой уплыў ужо знаёмымі нам шляхамі, узмацняе прыгнечаньне й патрэбу сялян і рамесьнікаў, родзіць нездаваленьне, злосьць і паўстаньні.

Узрост цэн на шэрсьць, выклікаўшы разьвіцьцё шарсьцянай ангельскай прамысловасьці, прывёў да таго, што Англія стала клясычнай краінай першапачатковага награмаджэньня рабочай сілы, згону сялян з зямлі; у якіх таксама адбіраліся і абшчынныя землі—„абгараджваньне“. Разам з гэтым, вялікае значэньне набываюць безьзямельныя сяляне, капцеры, бо ў гэты час рабочыя рукі патрэбны памешчыку, які абярнуў нівы ў выганы і зьвязаў сябе з шырокім рынкам. Недахват рабочых рук, узмацнёны чорнай сьмерцю, рэволюцыя цэн, мэтоды скарыстаньня дадатковай вартасьці, прысвоеныя сабе гандлёвым капіталам, прымусілі ўрад на барацьбу з імкненьнямі гарадзкіх і сельска-гаспадарчых рабочых да павышэньня заработнай платы. Праца ўраду прывяла толькі да стварэньня моцных саюзаў сельска-гаспадарчых рабочых, якія потым вельмі дапамаглі паўстаўшым сялянам. У часе паўстаньня Уотта Тэйлора і захопленьня ў 1381 г. Лёндану, гарадзкія пролетарскія элемэнты адыгралі значную ролю. Сярод іх асабліва прышчапіліся ідэі лоллардызму, пасьлядоўцаў Вікліфа, патрабаваўшага адабраньня ў царквы маемасьці і раздачы яе бяднейшаму жыхарству. Гнеў сялян і рабочых прасьледваў больш усяго дармаедаў-манахаў, верных паслугачоў памешчыкаў, і гандляроў-судзьдзяў, юрыстых, зборшчыкаў падаткаў, банкіраў і флямандзкіх майстраў, якія займаліся вырабам тканін.

І так, незадаваленьня сярод сельскага і гарадзкога жыхарства было досыць. Пастанова парляманту аб спагнаньні падушнага падатку з жыхарства паслужыла сыгналам, прычынаю да паўстаньня. Пачаўшыся ў Эсэксе, а затым у Кэнце, яно з гэтых абодвух пунктаў накіравалася на Лёндан. У Мэдстоне на чале паўстаўшых быў Уотт Тэйлор. Гнеў паўстаў-

шых абрушыўся на памешчыкаў, манастыры, чыноўнікаў. Характэрным момантам, уласьцівым усім сялянскім паўстаньням, зьяўляецца бязьміласэрнае зьніштажэньне ўсіх арэндных умоў, даўгавых абавязкаў і іншых юрыдычных актаў. Далучыўшыся да паўстаўшых, „сьвяшчэньнік з Кэнту“ Джон Боль паўставаў супроць *социяльнай няроўнасьці*, пытаючыся: „Калі Адам працаваў на ральлі, а Эва прала, хто быў джэнтльмэнам (панам)?“ „Калі вялікія гэтага сьвету будуць зьніштожаны,—гаворыць ён,—усе людзі будуць карыстацца адзінакавай свабодай, адзінакавай вяльможнасьцю, выгодай і ўладай“.

Не спаткаўшы збоку ангельскага караля Рычарда асаблівага супраціўленьня, сяляне, з дапамогаю гарадзян, занялі Лёндан. У перагаворах з каралём Уотт Тэйлор патрабаваў—зьніштажэньня няфэўдальных абавязкаў, зьніштажэньня абмежаваньня свабоды куплі і продажы; запатрабаваў конфіскацыі царкоўных зямель і поўнага зруйнаваньня ўсіх станаў. У часе перамоў з каралём, здрадніцкім ударам прыдворнага Тэйлор быў забіты, а сяляне, падманутыя абяцаньнем караля здавольніць усе іх запатрабаваньні, рассыпаліся. Потым быў выданы ўказ аб тым, што ўсе каралеўскія абяцанкі, не падмацованыя парлямантам, ня маюць моцы. Парлямант-жа, сабраўшыся ў 1381 г., не зацьвердзіў абяцанак караля, і прыгон застаўся ў поўнай моцы. Прыгон-жа, зламаны паўстаньнем сялян, прапаў толькі пад уплывам патрэб і інтарэсаў узрастаючага гандлёвага капіталу.

Патрэба ў грошах прыводзіць фэўдала да роспуску дружын, павялічваючы гэтым шэрагі „Worproletariat‘у“. Прасякненьне грашовай гаспадаркі ў вёску прыводзіць да пераворачваньня зямлі ў тавар, падбівае памешчыкаў да павялічэньня і акругленьня сваіх уладаньняў. Legen-prozess (прыгон сялян) прымае ў XVI в. ў Нямеччыне масавыя разьмеры. Асаблівую дапамогу ў запрыгоненьні сялян зрабілі памешчыкам юрыстыя, судзьдзі, якіх так зьненавідзелі паўстаўшыя сяляне. „Juristen sind bose Christen“ гаворыць прыслоўе таго часу. Адносіны паміж памешчыкамі і сялянамі яскрава адбіваюцца ў прыслоўях: „Сяляне найлепшыя тады, калі яны плачуць, кепскія тады, калі яны радуюцца“ (Ruttica gens optima fleus, pessima gaudens). „Селянін—той-жа бык, але толькі ў яго няма рог“ (Nur dass er keine Hörner hat, der Bauer ist ein oshsenstat“).

Сялянскае паўстаньне 1525 г. ў Нямеччыне папераджаў цэлы шэраг дробных паўстаньняў, якія адбываліся на працягу амаль што стагодзьдзя.

Рэформацыя, падняўшы адразу цэлыя масы народу і аб‘яднаўшы іх у нацыянальным імпэце, стварыла ўмовы для паўстаньня, якія прынялі характар не мясцовы, а абхапілі ўсю краіну. Ужо ў 1476 г. комуністычныя вучэньні з Богэміі пранікаюць у Франконію і ўва ўладаньні Вюрцбургскага біскупства зьяўляецца Ганс з Нікласгаузэна („Ганс Дудар“), вакол якога ў сьвяточныя дні зьбіраюцца тлумы слухачоў—да 40.000 чалавек. Ён заклікае заснаваць новую дзяржаву, царства божае, дзе „кожны

няхай будзе братам другога, здабывае свой хлеб працай уласных рук сваіх, і няхай ніхто ня мае больш другога". Ад казаньняў ён пераходзіць да падрыхтоўкі аружнага паўстаньня, але быў схоплены біскупам і спалены. Чарговым было Кэпцкае паўстаньне, накіраванае супроць абата, але і яно было задушана швабскім саюзам гарадоў і панующымі князямі. У 1493 г. ў Эльзасе згуртаваўся патаемны саюз сялян і нездаволеных гарадзян. Іх патрабаваньнем было зьніштажэньне мыта (пошлін), увядзеньне юбілейнага году, калі ўсе даўгі і інш. дараваліся, зьніштажэньня імпэрскага і духоўнага суду і т. п. Штандарам іх быў „чаравік". Змова была задушана з страшэннай жорсткасьцю. У Вюртэнбэрзе „чаравік" паўстаў пад імем „Бедны Конрад", але і гэта паўстаньне скончылася няўдачай. Потым з страшнай сілай усхапілася паўстаньне ў Вэнгрыі, якім кіраваў Рыгор Дожэм, пад штандарам якога сабралася да 60.000 чалавек. Але і яно было задушана, а Дожэм, узяты ў палон, быў пасаджаны на разгартаваны жалезны пасад, на яго была адзета жалезная разгартаваная карона і сунуты ў рукі разгартаваны жалезны скіпэтр. Так і ён загінуў...

„Вялікая барацьба эўропэйскай буржуазіі супруць фэўдалізму—гаворыць Ф. Энгэльс („Гістар. матэр.")—дасягла свайго кульмінацыйнага пункту ў трох рашучых бітвах. Першая—гэта тое, што мы ў Нямеччыне называем рэформацыяй... Лютэранская рэформацыя абярнулася, зразумела, у новую рэформацыю і якраз у рэлігію, карысную для абсолютнай монархіі". У першыя часы буржуазія і яе ідэёвы правадыр Лютэр выступаюць надзвычайна рашуча і рэволюцыйна. Толькі тады, калі выяўляецца ўся глыбіня социяльных супярэчнасьцяй, якая пагражае ня толькі духавенству і фэўдалам, але і буржуазіі, рэформацыя, часамі, ахвяруе некаторымі сваімі палітычнымі прывілеямі на карысьць дваранства, уваходзіць у суполку з ім і творыць „рэакцыйную масу" супроць паўстаўшых сялян і рабочых. М. Лютэр выступіў у 1521 годзе супроць галоўнага кіраўніка гандлю індульгэнцыямі ў Нямеччыне-архібіскупа Майнцскага; пасьля Вормскага рэйхстагу гэта яго выступленьне прымусіла караля Карла V выдаць Вормскі эдыкт, які накладаў на Лютэра няласку; у сваёй адозьве Лютэр заклікае ўсіх „кінуцца з аружжам на распусьнікаў-кардыналаў і пап, на ўсю шайку рымскага Содому і ўмыць рукі ў іх крыві". Лютэр нападае на царкву, манахаў, гаворыць аб неабходнасьці „прыціснуць купцоў" і абараніць інтарэсы селяніна. Але насьпяваючыя паўстаньні і комуністычныя ідэі Мюнцэра выклікаюць перамену ў Лютэры, прадстаўніку буржуазіі, і ён з запалам і гневам накідаецца на паўстаўшых сялян, „якіх трэба душыць і забіваць патаемна і відавочна, бо паўстаньне гарэй, чымся простае забойства"... „Асла трэба біць, галотаю, трэба кіраваць пры дапамозе надужыцьцяў". „Калі, бі, душы хто можа". „Асыпайце іх градам куль"... „Запраўды, хто бачыў Мюнцэра, той бачыў д'ябла ў час яго найвялікшай злосьці".

Мы знаёмы ўжо з процэсам уплыву гандлёвага капіталу на вёску й горад, мы ўбачылі, як узрост соц. антагонізмаў, награмаджаючы нездаваленьне ў прыгнечаных кляс з няўхільнасьцю прыводзіць іх да паўстаньня. Той-жа процэс, папярэдні сялянскаму паўстаньню 1525 г., мы наглядаем у Нямеччыне. Руйнаваньне сялян да гэтага часу становіцца нявытрыманым. Выціскаьне падаткаў, рэволюцыя цэн, павіннасьці—цяжкім бярэмям душаць сялян. Згубіўшы к XV стагодзьдзю сваю самастойнасьць, гарады, у асобе пануючых кляс, таксама шукаюць спосабаў эксплёатацыі селяніна раней. Гарады, у якіх можна было раней жыць і сялянам, зачыняюцца для іх. Рамесьніцкія цэхі ўсімі спосабамі перашкаджаюць прасякненьню ў горад новых работнікаў. Тым мацней становіцца прыгнечаньне збоку памешчыка.

---

На сялянскія паўстаньні ў Нямеччыне і ў значнай ступені на ідэёвага правадыра паўстаньня Т. Мюнцэра зрабілі ўплыў комуністычныя ідэі таборытаў. У Чэхіі рэформацыя, рэлігійным лёзунгам якой было прычашчэньне пад абодвума відамі, зьяднала ўсе клясы насельніцтва ў іх нянавісьці да духавенства, уладаўшага амаль што $^1/_4$ усяе тэрыторыі каралеўства. Пасьля доўгай барацьбы, натугамі ўсіх кляс зямля духавенства была сэкулярызавана, але дасталася памешчыкам, а не чакаўшаму яе сялянству. Пачаўшыся ўжо ў Чэхіі, процэс адбіраньня зямлі ад сялянства яшчэ больш узмацніўся. Павялічаная-ж распрацоўка срэбных капаленъ у Чэхіі ў XIV в. паслужыла моцным мотывам да ўзвышэньня цэн, росту дарагоўлі, эксплёатацыі. Імкненьні майстраў капалень перашкодзіць павышэньню заработнай платы і натуга памешчыкаў павысіць падатак выклікалі злосьць і нездаваленьне сярод сялян і бедных гарадзкіх жыхароў. Тут у прамысловай Чэхіі бедным сялянам, дробным рамесьнікам і рабочым удалося залажыць комуністычную грамаду, якая замацавала г. Табор. Ідэалам таборыстых была грамада „бяз бедных і багатых, дзе ніхто не валадае ўласнасьцю, дзе ня будзе ні падаткаў, ні памешчыкаў“. Правадыру таборыстых—Яну Жыжку пашанцавала зорганізаваць лепшае ў Эўропе войска з сялян, бедных рамесьнікаў і рабочых. Табор пратрымаўся 20 год і быў зломлены толькі ў 1452 г.

---

Мы паказвалі ўжо на тое, што рэформацыя ў Нямеччыне, з аднаго боку, азначала сабою барацьбу за зьніштажэньне клясавых прывілей, адчыняла эру росту ўплыву буржуазіі, з другога боку—яна прыслугоўвала першапачатковым пунктам сялянскага руху ў Нямеччыне. Нямеччына ў XV і XVI в., уцягнутая ў сфэру найвялікшага ўплыву грашовай гаспадаркі, балюча адчувала адліў каштоўнасьцяй у Рым, да папы. Гандаль індульгэнцыямі (адпушчэньне грахоў) абярнуўся для папы ў нявычэрпную крыніцу здабытку; гандаль гэты мінаў нямецкіх князёў і гандляроў і гэтым выклікаў незадаваленьне апошніх. Вялізарныя ўладаньні царквы цягнулі да сябе

ўсе клясы Нямеччыны, яднаючы іх у агульнай нянавісьці да „апранутай у пурпур малпы“.

Сялянскае паўстаньне ў Нямеччыне падняло на ногі ня толькі сялянства, але і гарадзкую беднату, і выбухла яно з найбольшай сілай у Саксоніі, дзе была к таму часу моцна разьвітая горная, суконна-ткацкая і збожжавая прамысловасьць, аб'яднаўшая шмат рабочых. Асяродкам суконна-ткацкага і збожжавага гандлю зрабіўся Цвікау, ляжаўшы на дарозе з раўніннай Саксоніі ў горную. Тут былі асабліва высокія цэны на зямлю, а таксама—імкненьне памешчыкаў уладаць ёю. Тут асабліва вызначаліся моцныя супярэчнасьці паміж клясавымі інтарэсамі ў вёсцы. У гарадох-жа ўзрост цэн прыводзіў да заўзятай барацьбы за заработную плату.

Дзеля гэтага асаблівае значэньне набывае комуністычны рух у Цвікау, пачатак якога адносіцца да 1520 г. На чале яго стаў ткач Мікалай Штарх. Значэньне Цвікау ўзмацнілася суседзтвам капалень Гінесбурга. Цвікаускія комуністыя, ткачы і гарнякі, стварылі організаваную грамаду, кіраўнікі якой зваліся апосталамі. Па іх думцы, тысячалетняе царства павінна было прыйсьці шляхам гвалтоўнай рэволюцыі. Выдатным кіраўніком цвікаускіх комуністых быў Томас Мюнцэр—правадыр, ідэолёг і натхненьнік сялянскага паўстаньня. Мюнцэр сваю дзейнасьць пачаў у Цвікау, дзе быў казальнікам у царкве Катарыны, у якой зьбіраліся падмайстры суконшчыкаў. Выгнаны адсюль, ён ідзе спачатку ў Прагу—краіну таборыстых, а потым зноў вяртаецца ў Саксонію—Альштэт, які знаходзіўся блізка вялікіх монсфэльдскіх медных, срэбных і залатых капалень. Мюнцэр кліча князёў стаць на чале паўстаньня, бо йначай „меч будзе адабраны ад іх“. „Нашыя багатыры, грахоўным чынам—піша ён,—зрабілі так, што бога лічаць за маленькага чалавечка, намаляванага на дошцы“. „Князі—гэта бізун, якім бог у сваім гневе карае сьвет. Дзеля таго яны проста жывадзёры і каты, і ў гэтым складаецца іх усё рамяство“. „Так,—гаворыць ён,—гэта высокая вера, і яна яшчэ прынясе з сабою шмат дабра. Яна створыць дзіўны народ, аб якім марыў філёзаф Плятон“. Мюнцэр гаварыў казаньні аб поўным роўнапраўі, зьніштажэньні прыватнай уласьнасьці і аб агульным уладаньні маемасьцю. Адпаведна паказаным намі асаблівасьцям таго часу, Мюнцэр свае ідэі ўкладаў у містычна-рэволюцыйную форму. І ў той-жа час Т. Мюнцэр, як кажа Энгэльс хутчэй ідэолёг рабочай клясы, чымся сялянства.

З Альштэта Мюнцэр накіроўваецца ў Мюнгаузэн, места, дзе было да 6.000 жыхароў, дзе цьвіла ткацкая і суконная продукцыя. Разьвіцьцё суконна-ткацкай продукцыі было найбольш спрыяючым грунтам для комуністычных ідэй. У горадзе ішла барацьба з гарадзкой арыстократычнай радай. Правадыром барацьбы быў Гэнрых Пфэйфэр. Выгнаны адсюль, ён накіроўваецца праз Нюрэнбэрг у Паўднёвую Нямеччыну. У Нюрэнбэрзе ён выпускае сваю найбольш рэволюцыйную „абаронную прамову“.

„Глядзі—кажа ён:—паскробкі ліхвярства, грабежніцтва і разбою—вось вашыя цары і князі, яны робяць сваёю ўласнасьцю ўсё створанае богам".

К пачатку паўстаньня Мюнцэр зноў у Тюрынгэне—у Мюнгаузэне. 12 сакавіка, дзякуючы ўдаламу паўстаньню, ён і яго таварышы заўладалі горадам (у той-жа дзень, калі ў 1848 г. бэрлінскі і ў 1871 г. парыскі народ пачаў паўстаньне). У Мюнгаузэне—на падвор'і іонатаў—Мюнцэр залажыў комуністычную грамаду. Панаваньне комуны Мюнгаузэна цягнулася ня больш 2-х месяцаў (як і Парыская Комуна). Для Мюнцэра Мюнгаузэнская перамога была не канцом, а толькі пачаткам барацьбы за бязумоўнае зьніштажэньне тыраніі і эксплёатацыі, а ня чыста мясцовым здарэньнем. Цэнтрам тюрынгэнскага паўстаньня стаў багаты па здабычы солі Франкенгаузэн, у якім было вельмі многа рабочых. Не спаткаўшы падтрыманьня ні збоку мюнгаузцаў, ні збоку эрфуртцаў, Франкенгаузэн хутка быў узяты Піліпам Гэсэнскім. Потым з страшэнай жорсткасьцю быў задушаны і Мюнгаузэн. Тюрынгскае паўстаньне, затопленае ў крыві, было задушана.

Прычынай няўдачы паўстаньня зьяўляецца надзвычайны партыкулярызм сялян і дробных гарадоў, навісаўшая над розумамі фэўдальная абмяжованасьць прыводзіла да агранічэньня вынікаў паўстаньня данай мясцовасьці, ня выклікала падтрыманьня са стараны іншых мясцовасьцяй. Апрача таго, сяляне вельмі часта паддаваліся хібным абяцанкам князёў і пападаліся ў пастку. Галоўнай-жа прычынай перамогі князёў была профэсыянальная, добра ўзброеная армія—дзіця нарадзіўшайся буржуазіі.

Сялянскае паўстаньне завяршылася толькі праз 10 год організацыяй комуністычнай грамады ў Вэстфаліі ў Мюнстэры, на чале якой стаяў кравец Ян Бэкэльзон Лэйдэнскі і пекар Ян Люціс (анабаптыстыя).

У Мюнстэры, гаворыць Каўцкі, комунізм у першы раз на працягу ўсёй гісторыі выступае як самастойная, пануючая рэволюцыйная сіла. Буржуазныя гісторыкі, каб ахаіць ідэю комунізму, робяць паклёп на парадкі, якія былі ў новым Ерузаліме—у Мюнстэры.

Мюнстэр, які знаходзіўся ўвесь час абложаны, ня мог ня ўжываць сродкаў, якія ўжываюцца пры аблозе. Гэта было для яго пытаньнем самазахаваньня, самаабароны. „На жаль—піша Каўцкі,—комунізм ня мог і да гэтага часу адкрыць цудоўны элексір, які-б мог зьніштожыць вынікі аблогі".

Сялянскае паўстаньне, хрышчанае ідэяй комунізму, было задушана па ўсёй Нямеччыне. Разьюшаныя князі, памешчыкі і буржуазія вынішчылі да 10.000 чалавек.

Робячы падрахунак і даючы агульную ацэнку сялянскім паўстаньням, як грамадзянскім войнам эпохі гандлёвага капіталу, мы перш за ўсё павінны падкрэсьліць асаблівасьці гэтых воен, адрозьніваючыя іх ад рэволюцый. Рэволюцыі часьцей усяго таварышылі з грамадзянскімі войнамі. Але ня ўсякая грамадзянская вайна ёсьць рэволюцыя. Спроба ўсякае аружнае паўстаньне тых ці іншых соцыяльных групаваньняў падвесьці

пад разуменьне рэволюцыі вельмі прастацкае паняцьце аб ёй. Мы падкрэсьліваем, што галоўнай асаблівасьцю рэволюцыі зьяўляецца не элемэнт надужыцьця, а глыбіня і шырокасьць зьмен, зробленых ёю ў грамадзянскім организьме. Толькі тыя грамадзянскія войны, якія рухам сваім абхопліваюць усё прыгнечанае да гэтага часу грамадзянства прыводзяць яго да захвату палітычнае ўлады, якая робіцца з мэтаю радыкальнай зьмены вытворчых адносін, галоўным чынам, адносін да ўласнасьці, толькі такія войны могуць называцца рэволюцыяй. Спроба проф. Віпэра, Джывільлегаў і інш. назваць сялянскае паўстаньне рэволюцыяй, таксама, як і названьне рэволюцыяй эпохі „Смутного Времені" ў Расіі проф. Тэофілам Гот'е—ня мае ніякіх лёгічных падстаў.

Грамадзянскія войны старажытных часоў і сярэднявякоўя, шляхам захопленьня палітычнай улады прыгнечанай да гэтага часу клясай, па рачаістасьці сваёй не маглі прыводзіць да радыкальнай зьмены вытворчых адносін.

Партыкулярызм, мясцовая абмяжованасьць, дэцэнтралізацыя прыводзілі да таго, што паўстаньні заусёды насілі характар мясцовы, які ніколі не даваў рэзультатаў, радыкальна мяняючых соцыяльную структуру ўсяго грамадзянства.

Пераклаў **Ул. Міхалевіч**.

# ВЯЛІКІ СУН[1])

## Л. Каган

Мэта гэтага нарысу—даць сьціслы агляд найважнейшых падзей у Кітаі за апошні час і ролі ў іх Сун-Ят-Сэна і яго партыі Го-Мін-Дан. Цяпер, калі працоўныя ўсяго СССР уважліва прыслухоўваюцца да нацыянальна-вызваленчага руху ў Кітаі, і рабочы СССР, гэтак сама як і пролетары і сяляне-кітайцы, глыбака адчуваючы сьмерць правадыра кітайскай рэволюцыі Сун-Ят-Сэна, задае сабе трывожнае пытаньне: як адаб'ецца гэтая сьмерць на лёсе маладой рэспублікі ў Кітаі? Зусім зразумела ўзвышаная зацікаўленасьць да вялікай азыяцкай краіны з паўтарамільярдным лікам жыхарства, адносна якой большасьць разважае ўсяго толькі па ўбогіх газэтных паведамленьнях. Памагчымасьці гэтую зацікаўленасьць мы пастараемся задаволіць у наступным невялічкім нарысе.

### I. Капіталістычнае разьвіцьцё сучаснага Кітаю.

З гэтага мы пачынаем таму, што прычыны вялікай рэволюцыі 1911 г. захоўваюцца ў капіталістычным разьвіцьці Кітаю.

Пра Кітай існуе пашыраная думка, як пра краіну, ня толькі культурна, але й экономічна надзвычайна адсталую, якая жыве ў умовах эўропэйскага сярэднявякоўя. Няма нічога больш памылковага, як такая думка. Кітай даўно ўжо вышаў з да-капіталістычнага пэрыоду разьвіцьця; капіталізацыя краіны ідзе і нават надзвычайна хуткім тэмпам.

Першую скрыпку яшчэ й цяпер грае ў краіне замежны капітал. Ён прасачыўся сюды гадоў 70—80 таму назад і глыбака пусьціў тут свае карэньні. Большасьць прадпрыемстваў у Кітаі мае Японія. Іх налічваецца 4878 па вестках 1920 г. Сконцэнтрованы гэтыя прадпрыемствы ў большасьці ў Манчжурыі, Шаньдуне і часткова ў Ханькоу. За Японіяй ідзе Расія—1780 прадпрыемстваў; затым Англія—644; Амэрыка—413; Францыя—87, і іншыя дзяржавы—па некалькі дзесяткаў. Але побач з разьвіцьцём чужаземнага капіталу, у Кітаі йдзе, і мясцамі ўжо адбыўся, процэс першапачатковага складаньня ўласнага капіталу; нарадзілася ўжо й пасьпела вырасьці і ўласная кітайская буржуазія, якая з усіх сіл імкнецца да кітаізацыі прамысловасьці. Склалася яна пераважна з разбагацеўшых пасярэднікаў, без дапамогі якіх ня мог абыйсьціся чужаземны капітал, з разбагацеўшых „дудзюнаў"—губарнатараў провінцыі і інш. Узрост гэтае

[1]) Гэтым артыкулам пачынаецца сэрыя артыкулаў аб нацыянальна-рэволюцыйным руху на Ўсходзе, якія будуць зьмяшчацца ў наступных нумарох „Полымя". *Рэдакцыя.*



**СУН-ЯТ-СЭН**
1866—1925

буржуазіі надзвычайна шпаркі. За адны 1918 і 1919 г. г. ў провінцыі Чжы-Аі вынікла 32 кітайскіх прамысловых прадпрыемствы з капіталам у 45 мільёнаў доляраў, у провінцыі Цзян-Су—53 прадпрыемствы з капіталам у 18 мільёнаў доляраў, у Гіранскай провінцыі—13 прадпрыемстваў з капіталам у 24 мільёны доляраў, у іншых 12 провінцыях—71 прадпрыемства з капіталам у 17 мільёнаў доляраў[1]).

Асяродак уласна кітайскай прамысловасьці—провінцыя Цзян-Су са сваім экономічным цэнтрам Шанхаем. Цяпер у Шанхаі прыналежыць кітайскаму капіталу 48 ткацка-прадзільных фабрык, абсталяваных па апошнім слове тэхнікі, 16 надзвычайна добра абсталяваных млыноў, 6 маслабойных заводаў, 6 друкарань, 7 фабрык гатовага ўбраньня, 15 паравых пралень, 5 электрычных заводаў, 5 карабельна-будаўнічых заводаў, 3 гарбарскіх заводы і шэраг іншых заводаў і фабрык, у большасьці такіх, дзе пад адным дахам працуе 3-5 тысяч рабочых. Шанхай абкружаны шэрагам прамысловых гарадоў: У-сі, Нань-тун-чжоу, Су-чжоу. Цзян-Су—не адзіная ў Кітаі прамысловая провінцыя. Провінцыя Ху-нань—цэнтр мэталюргічнай прамысловасьці краіны, надзвычайна буйнай зьяўляецца прамысловасьць у Манчжурыі і іншых провінцыях Кітаю.

Пад кітайскай прамысловасьцю цьвёрдым базысам зьяўляюцца выкапальныя багацьці: запасы вугалю ў Кітаі даходзяць па вырахунках амэрыканскіх інжынэраў—1.429.535.000.000 пудоў, штогодная яго дабыча—20 мільёнаў тон. У дастатачнай колькасьці маецца ў Кітаі і жалеза: запасы жалезных руд у 10 провінцыях вылічаюцца ў 41.300.000.000 пудоў пры 45% утрыманьня ў іх жалеза. Бавоўны ў Кітаі ў 1918 г. было сабрана 30 мільёнаў пудоў.

Відавочна, што „адсюль усе якасьці“: тут экономічныя прадпасылкі рэволюцыі 1911 г., тут і матэрыялістычнае тлумачэньне ўсіх наогул фактаў з політычнага жыцьця апошніх год у Кітаі. У Кітаі расьце ўласны капіталізм,—гэта выгадоўвае тэндэнцыю да вызваленьня з-пад апекі чужаземнага капіталу; у Кітаі ўжо маюцца дзесяткі мільёнаў (а концэнтрацыя капіталу гэтую лічбу няўхільна цягне ўверх) пролетараў і напоўубогіх сялян, якія зрабілі рэволюцыю ў 1911 г. і цяпер, пад кіраўніцтвам стаўшай на рэволюцыйны шлях партыі Го-Мін-Дан, бясспрэчна давядуць да канца.

## II. Кітайская рэволюцыя і яе „бацька“ Сун-Ят-Сэн.

Імя Сун-Ят-Сэна так цесна пераблытваецца з рэволюцыяй у Кітаі, што апісаньне найгалоўнейшых яе этапаў само сабою становіцца біографіяй яе „бацькі“.

З 1644 году аж па 1911—год вялікай рэволюцыі—кіравала Кітаем Цынская (інакш Данцынская) дынастыя, якая вышла з Манчжурыі і якая

[1]) Л. Е. Ходоров—Мировой империализм и Китай. Шанхай, 1922 г.

мела ўсяго 10 кітайскіх імпэратараў—астатнія ўсе былі манчжуры. За ўсе амаль што 300 год кіраўніцтва гэтай дынастыі нізрынутая дынастыя Мін марыць пра рэстаўрацыю сваёй улады, дзеля чаго організоўвае вобчаствы Хун-Мэнь, якія карысталіся вялікай популярнасьцю сярод нацыянальна-настроеных сярэдніх слаёў кітайскага народу, грунтоўная мэта якіх—выгнаць чужаземную дынастыю з Кітаю. Але з 1885 г.—году паяўленьня Суна на арэне рэволюцыйнай барацьбы ў Кітаі—найбольш популярным сярод дзесяткаў мільёнаў кітайскай „беднаты“ і лібэральнай буржуазіі становіцца лёзунг: „Ні Цын, ні Мін“ (а, значыць, рэспубліка ў Кітаі).

Вялікі кітайскі рэволюцыянэр радзіўся ў 1866 г. ў провінцыі Гуандун, недалёка ля Кантона. Ён атрымоўвае мэдычную асьвету ў Гонконгскім Мэдычным Інстытуце, які скончыў у 1892 г. „Дакторскае штукарства— кажа Сун у сваіх „Запісках пра кітайскую рэволюцыю“—я абраў у відзе цёткі, якая вывела-б мяне на шырокі сьвет грамадзкасьці, а школу, як першае месца для сваёй пропаганды“.

Гэта падлегласьць усіх выключна крокаў у асабістым жыцьці інтарэсам рэволюцыі—адна з найбольш характэрных рыс Сун-Ят-Сэна. У школе Сун завярбоўвае сабе першых саратнікаў: Чжэн-Шы-Лян'а, Чэн-Шао-Бо, Лу-Ко-Дун'а і інш. У 1894 г. яны накіроўваюцца на Філіпінскія выспы з мэтай організоўваць эміграцкія элементы і скласьці „Вобчаства адраджэньня Кітаю“. Аднак, на Філіпінах пропаганда сунаўцаў асаблівага посьпеху ня мела і яны варочаюцца зноў у Кітай. Комітэт „Вобчаства“ абаснаваўся ў Гонконгу, бюро—у Ян-Чэн'е. У той час арміі імпэратара цярпелі няўдачу за няўдачай на японскім фронце, і рэволюцыянэры-сунаўцы парашылі, што момант гэты якраз падыходзіць для організацыі выступленьня і ўпускаць яго ня варта. Сунаўцы тады яшчэ на шырокія колы жыхарства не апіраліся, але іх было ўжо да 1000 чалавак, меліся ў іх шэрагах і некалькі амэрыканскіх інструктароў і гэнэралаў. Усё было падрыхтована для выступленьня, але выпадкова ўлада ўгледзела перавезенае бунтарамі аружжа (500 рэвольвэраў), і плян выступленьня праваліўся. Лу-Ко-Дун тады паплаціўся жыцьцём (разам з Цэ-Сы і Чжу-Гуем). Гэта было 9-га верасьня 1895 г., і гэты дзень Сун лічыць днём сваёй першай няўдачы. Семдзесят зьюшаных сяброў організацыі было арыштавана, сярод іх—контонскі адмірал Цын-Куй-Гуан.

На трэці дзень пасьля гэтае няўдачы Сун-Ят-Сен зьняў касу, перапрануўся ў эўропэйскае адзеньне і ўцёк у Іокагаму (Японія). Адбудова організацыі Сунам была даручана найменш скомпромэтаванаму з сваіх сяброў Чжэн-Шы-Ляну. Сам-жа Сун накіроўваецца, з мэтай вярбоўкі ў сваю організацыю новых сяброў, да філіпінскіх і амэрыканскіх эмігрантаў— кітайцаў. Гэтая пропаганда дае нязначны лік новых сяброў таму, што ў той час сярод эмігрантаў апрацаваўся погляд на нярухомасьць становішча абрыдзеўшай дынастыі, і Сун едзе ў Эўропу, каб у ёй выўчыць мэтоды яе палітычнага ўкладу і кіраўніцтва. Аб уражаньні, якое зрабілі на

Суна дэмократычныя краіны Эўропы лёгка казаць па ніжэйшым месцы з яго „Запісак аб кітайскай рэволюцыі“. „У Эўропе я зразумеў—піша Сун,—што хаця эўропэйскія дзяржавы і дашлі да магутнасьці й кіраўніцтва народам, аднак ня здолелі даць шчасьця сваім народам. З гэтае прычыны кітайскія рэволюцыянэры імкнуцца да соцыяльнае рэволюцыі, і я паставіў задачу адначасовага вырашэньня шляхам рэволюцыі пытаньняў народнай экономікі, нацыянальных задач, народакіраўніцтва, адкуль і склалася ў мяне сань-мінь-чжу, ці інакш, дэмократычная ідэя, пабудаваная на трох прынцыпах“. Адгэтуль бачым, што Сун „свабодамі“ ў дэмократычных краінах ня быў здаволены, а меў свой уласны проэкт рэспубліканскага ўкладу, які выказваецца ім у відзе формулы, пабудованай на трох прынцыпах. Што гэта за формула, мы ўбачым ніжэй, калі пяройдзем да апісаньня Го-Мін-Дан'у—партыі Сун-Ят-Сэна, а пакуль што будзем працягваць наш агляд падрыхтоўкі кітайскае рэволюцыі. Кругаход з 1895 па 1900 г. быў аддады зьбіраньню сіл пасьля першае лютае перамогі. Сун часьць гэтага часу праводзіць у Японіі, яго бліжэйшыя прыхільнікі—Чэн-Шао-Бо ў Гонконгу, Лі-Цзянь-Жо ў провінцыі Чэн-Цзянь—зьбіраюць сілы для новага выступленьня. Момант для выступленьня зноў насьпявае спагадны: у Кітаі разварачваецца інспыраванае манжчурскай дынастыяй боксэрскае паўстаньне. У рэзультаце яго—ганьбавая капітуляцыя дынастыі перад замежнікамі, увядзеньне ў Кітай узброеных армій 8-ма эўропэйскімі дзяржавамі, вялікая контрыбуцыя, накладзеная на Кітай. Сун разумеў, што аўторытэт дынастыі цяпер моцна надорван, і калі дзейнічаць рашуча і борзда—магчым посьпех. Ён загадвае Чжэн-Шы-Лян'у, які стаяў на чале буйных сялянскіх атрадаў у провінцыі Сінь-Ан, атакаваць цынскіх салдат, што апошні з посьпехам выпаўняе. Разьвіваючы посьпех Чжэн-Шы-Лянь захоплівае ўсю прыморскую паласу ад Сінь-Ана да Гуйчжоу. Але немагчымасьць для Суна асабіста кіраваць барацьбой прывяла да адхіленьня Чжэна ад распрацованага Сунам пляну дзей і да канчатковага паражэньня.

Гэта было ў 1900 г., і Сун лічыць гэты правал другім па ліку.

Паступова рух усе пачынае станавіцца справай ня вузкай групы сунаўцаў, а ўсяго прыгнечанага Кітаю: да яго далучаюцца сяляне (сялянская армія Чжэна ў 1900 г.), лібэральная буржуазія (студэнцкі рух пачаўся прыблізна з 1903 г.).

Сун амаль што ўвесь час па-за Кітаем, дзе яму жыць законна нельга, у пастаянных разьездах з мэтамі пропаганды, зьбіраньня сіл, зьбіраньня грашовых сродкаў. Два разы за кругаход 1900-1911 г. ён робіць кругасьветную вандроўку. Але, як-бы далека ён ад Кітаю не знаходзіўся, трэба яму пачуць, што ў Кітаі здарылася выступленьне рэволюцыянэраў,—ён раптам кідаецца бліжэй да сваёй змагаючайся бацькаўшчыны, звычайна ў Японію, для кіраўніцтва рухам. У 1905 г. ў радох „Саюзнае Лігі“ Суна—ядры будучага Го-Мін-Дан'у—ужо наліч-

ваецца звыш 10.000 грамадзян. Заводзяцца ў „Лігі“ сувязі і з замежнікамі, галоўным чынам, з Францыяй, якая спагадвала ў 1905-1907 г. рэспубліканскаму руху ў Кітаі. „Ліга“ пачынае выдаваць шматлікавую пэрыодычную літаратуру: газэты, журналы і інш. Але, ня гледзячы на вялікі размах руху, перамогі наступаюць за перамогамі: трэцяя—у Пон-Лі і Чоо-Чжоу; чацьвертая—у Шы-Ван-Дашан'у, калі імпэратарскай дзяржаве ўдалося затрымаць транспарт са зброяй для $2^1/_2$ тысячнае арміі рэволюцыянэраў; быў момант, калі Сун з таварышамі Хаунь-Кэ-Цян'ам, Ху-Хань-Мін'ам і некалькімі францускімі афіцэрамі нечаканай атакай адабраў 3 форты ў праціўніка, маючы ўсяго 200 салдат. Потым, пад напорам ў шмат раз большага праціўніка прышлося адступіць, затое сем дзён 100 гэрояў трымалі фронт супроць шматтысячнае арміі Лу-Цзі-Гуана і Лу-Ін-Гіно. Асабліва цяжкае ўражаньне стварыла на кітайскіх рэволюцыянэраў перамога паўстанцаў у Гуань-Дуні ў 1910 г. Гэта паўстаньне—адна з самых яскравых старонак у гісторыі кітайскае рэволюцыі. „Там выступалі ўсе найбольш адважныя рэволюцыянэры, і хоць мы зноў тут пацярпелі паражэньне, але слаўны ўчынак 72-х гэрояў прагрымеў на ўвесь сьвет“—піша Сун. Паражэньне ў Гуань-Дуні зьбежна з правалам комітэту ў другой рэволюцыйнай провінцыі—Учані. Аднак, рух ужо разросься настолькі, што яго не маглі застанавіць ніякія правалы, ніякія рэпрэсіі. Пачалася барацьба ў Учані, дзе да паўстанцаў далучылася імпэрскае войска і дыплёматычны корпус пастанавіў трымацца політыкі незалежнасьці, а адтуль борзда перакінулася і ў другія провінцыі. Сун-Ят-Сэн па тэлеграфе кіраваў з-за мяжы вайсковым рухам, здабываў сярод кітайцаў-эмігрантаў сродкі для рэволюцыйнага руху і перасылаў іх у Кітай. Калі рэволюцыя перамагла, Сун-Ят-Сэн завочна быў выбран прэзыдэнтам Кітайскае рэспублікі; ён не паехаў у Кітай, як гэта зрабіў-бы ўсякі іншы на яго месцы, а паперш за ўсё адправіўся ў Англію разьвязваць шэраг дыплёматычных пытаньняў, зьвязаных з перамогай рэволюцыі. Толькі пасьля паездкі ў Лёндан Сун, учарашні бязьвінны эмігрант і сёньня прэзыдэнт Кітайскае рэспублікі, едзе ў сваю свабодную ад векавога дынастычнага ўціску бацькаўшчыну. На гэтакую вытрываласьць і дальнабачнасьць здольны толькі такія вынятковыя асобы, як Сун-Ят-Сэн.

### III. Сун-Ят-Сэн і грамадзянская вайна ў Кітаі.

Пасьля рэволюцыі 1911 году Кітай зрабіўся рэспублікай. Рэволюцыянэры перамаглі амаль што ўва ўсім Кітаі, і ў студзені 1912 г. ў Нанкіне ўтвараецца першы рэспубліканскі ўрад пад старшынствам д-ра Сун-Ят-Сэна. Праўда, у Пекіне яшчэ застаюцца Манчжуры, але дні іх відавочна зьлічаны. Прэзыдэнцкае крэсла Сун уступае з політычнага абмеркаваньня Юан-Шы-Каю, былому лідэру буйнай вайсковай групоўкі, пры дапа-

мозе якой Сун разьлічваў скінуць манчжурскую дынастыю. Гэты крок Суна быў для яго прызначаным: прагнаўшы Манчжураў, Юан-Шы-Кай сам выяўляе бонапартысцкія тэндэнцыі, і толькі сьмерць не дае гэтым тэндэнцыям ажыцьцявіцца. Яшчэ адзін промах кітайскіх рэволюцыянэраў: ліквідуючы монархію, яны заставілі непарушны Мондатанат—выходны пункт рэстаўрацыйных спроб ва ўвесь пасьля-рэволюцыйны кругаход у Кітаі. Становішча складаецца ў Кітаі такое, што Поўнач для рэволюцыі становіцца страчанай: яна робіцца гняздом рэакцыі і барацьбы за ўладу між рознымі групоўкамі мілітарызаванага Мандарынату: „фын-цзян“, „чжымітцаў“, „клубу Ан-фу“ і інш. Сун атрымоўвае пасаду старшыні па чыгуначнадарожным буданіцтве ў Кітаі, асяляецца ў Шанхаі і жыве тут, як староньні сьведка гульбы рэакцыі ў краіне. Відочна, доўга мірыцца з такою роляю „бацька кітайскае рэволюцыі“ ня можа. Сун пачынае зьбіраць партыю Го-Мін-Дан, якая распылілася ў гады рэакцыйнага кіраваньня Юан-Шы-Кая, і арэнай для сваёй дзейнасьці абірае Поўдзень, які ў працягу ўсяе рэволюцыі вёў барацьбу з Поўначчу, баронячыся ад утаржэньня з Сярэдняга Кітаю буйнага капіталу. У супрацоўніцтве з гэнэралам Чэн-Цзю-Мінам, Сун у 1920 г. захоплівае провінцыю Гуан-Дун з галоўным местам Кантонам. Паступова да провінцыі Гуан-Дун далучаюцца пяць другіх паўднёвых провінцый—Гуансі, Юнан, Гуйчжоў, Сычуан і Хунан—з жыхарствам у агульнай складанасьці звыш 100 мільёнаў чалавек. Надзвычайная сэсія парляманту гэтых провінцый абірае д-ра Сун-Ят-Сэна прэзыдэнтам Паўднёвага Кітаю. Сун, на часіну адышоўшы ад рэволюцыйнае барацьбы, цяпер ізноў у асяродку руху, які загарэўся з новай сілай у Кітаі. Значыцца, ён ня можа здаволіцца роляю прэзыдэнта аднаго толькі Паўднёвнага Кітаю. Яго мара—увесь Кітай ачысьціць ад мілітарыстычнай і рэстаўрацкай нечысьці, стварыць адзіны свабодны рэспубліканскі Кітай. Адгэтуль—славутая супроцьпаўночная экспэдыцыя, утвораная самым Сунам. Гэта экспэдыцыя скончылася для Суна няўдачай: у самы разгар яе кантонскія компрадоры, інспыраваныя ангалійскімі імпэрыялістымі, будуюць вайсковы пераварот у Кітаі, прымусіўшы Суна бегчы на вайсковы карабель. Адначасна выступіўшы супроць Поўначы манчжурскі дыктатар Чжан-Цзо-Лін быў разьбіт войскамі Поўначы, што выклікала здраду ў арміі самога Суна: Чэн-Цзю-Мін, прыхільнік і сябра Суна, заявіў яму аб здрадзе. Становішча на Поўдні йзноў пагоршала для Суна: ізноў грамадзянская вайна, на гэты раз ужо не з рэакцыйнай Поўначчу, а за зьбіраньне Поўдню, старую задачу, як быццам цьвёрда разьвязаную толькі што вялікім рэволюцыянэрам. Але Сун чужды быў смуты нават у самыя кепскія мінуты. Ужо пасьля перавароту ў Кітаі яго запыталі: „Што вы намерыліся рабіць у выпадку няўдачы на Поўдні?“ Сун адказаў: „Буду змагацца да канца, перавярнуся ў агітатара, буду вясьці барацьбу за тыя ідэі, якія я выказваў да гэтае пары“. Што-ж гэта за ідэі? У чым сутнасьць сун-ят-сэнізму, якая палітычная фізыономія яго партыі—Го-Мін-Дан'у?

## IV. Го-Мін-Дан і сун-ят-сэнізм.

Го-Мін-Дан (Гэмінэ-дан) азначае „Замяняючае нябесны ўрад“, інакш кажучы „Сілкова зьмяшчаючая існуючы ўрад“. Вынікла гэтая партыя з „Саюзнай Лігі“, організованай яшчэ ў 1901 г. Закладчыкамі „Лігі“ былі Сун-Ят-Сэн і Хаун-Сін. Пасьля Учанскага паўстаньня ў 1911 г. „Ліга“ аказалася найбольш організованай політычнай сілай у краіне і ня дзіўна, што ў першы габінэт Кітайскай рэспублікі ўвашло 5 сяброў „Лігі“,—тады „Саюзная Ліга“ і рэорганізавалася ў політычную партыю Гун-Мэн-Ху з рэспубліканскай програмай. Але партыя Гун-Мэн-Ху наткнулася на конкурэнцыю дзьвёх другіх партый—Гун-Хэ-Дан (рэспубліканская партыя) і Гун-І-Гун-Хэ-Дан (коаліцыйная рэспубліканская партыя), якія атрымалі над Гун-Мэн-Ху лікавую перавагу ў нацыянальнай нарадзе (Го-Ху). Па ініцыятыве Гун-Мэн-Ху адбылася конфэрэнцыя з лідэраў усіх рэспубліканскіх партый (апрача пералічаных ужо партый, на конфэрэнцыі былі яшчэ прадстаўлены Го-Мін-Гун-Цзін-Ху, Го-Мін-Гу-Дан, Гун-Хэ-Сэ-Цзін-Ху). Рэзультатам конфэрэнцыі было ўтварэньне новае партыі Го-Мін-Дан, у якую ўліліся ўсе вышэйпамянёныя партыі.

Політычная пляцформа Го-Мін-Дан‘у азначалася наступнымі пунктамі: 1) падтрыманьне саюзу Поўдня з Поўначчу, 2) падтрыманьне мясцовых самакіраваньняў, 3) адмена нацыянальных і расавых розныасьцяй, 4) рэформы экономічнага жыцьця кітайскага народу, 5) падтрыманьне міжнароднага спакою. Распрацоўкай дэталяў згоды займалася спэцыяльная комісія ў складзе Сун-Ят-Сэна[1]), Хуан-Сон‘а, Сун-Чжао-Жэн‘а, Цзай-Ао, Чжэн-Цзін-Лоо, У-Чэн-Лян, Ван-Чжун-Ху, Цзен, Чжун-Сюан, Чжан-Фын-Ху. Зьліяньне ўтварылася ў жніўні 1912 г., і з гэтага часу пачынаецца існаваньне партыі Го-Мін-Дан. Мотывіроўка аб‘яднаньня 5-х рэспубліканскіх партый тая (гэта мотывіроўка вызначаецца ў першым маніфэсьце Го-Мін-Дан‘у), што ўрад рэспублікі павінен мець моцную політычную партыю, а моцнай можа быць толькі партыя шматлікавая й моцная адзінствам ідэй сваіх сяброў; дзеля чаго партыі родныя па сваіх програмах зьліліся ў адну партыю Го-Мін-Дан.

У сваім новым відзе партыя Го-Мін-Дан‘у праіснавала, аднак, нядоўга: Юан-Шы-Кай бачыў у го-мін-дан‘цах перашкоду для ажыцьцяўленьня сваіх бонапартысцкіх плянаў і загадам ад 4-га лістапада 1913 году абвяшчае Го-Мін-Дан распушчаным. Партыя пераходзіць на незаконнае становішча і ізноў адраджаецца, як урадавая партыя, на поўдні Кітаю ледзь у 1919-20 г. г., калі Сун-Ят-Сэн умацаваўся ў Ган-Дуні і выкінуў там сьцяг рэволюцыйнае барацьбы. Якія важнейшыя становішчы програмы Го-Мін-Дан‘у?

Апошняя програма была прынята партыяй у 1920 г. Мы прыводзім некаторыя выняткі з яе.

---

[1]) Па матэрыялах кніжкі В. Сібіракова „Сун-Ят-Сэн—бацька кітайскае рэволюцыі“.

§ 1. Кіруючая ідэя партыі—рэалізацыя „Сан-Мін-Чжу“.

§ 2. Галоўная мэта партыі—ажыцьцяўленьне констытуцыі 5-х сіл.

§ 3. Грамадзяне Кітайскае рэспублікі як мужчыны, так і жанкі, згодныя з прынцыпамі, кіруючымі гэтай партыяй, і жадаючыя ўступіць у яе, павінны прадставіць рэкомэндацыі двух сяброў партыі і *падпісаць бажбу вернасьці партыі*, пасьля чаго яны ўносяцца ў сьпіс сяброў партыі і атрымоўваюць сяброўскія білеты.

Далей ідуць пункты, датыкаючыя кіраўніцтва й організацыі ў партыі. Схэма пабудавана досыць цікавая—на цэнтралісцкіх пачатках. Характэрны наступныя пункты з гэтае часткі програмы:

§ 12. Партыя мае старшыню, які прадстаўляе партыю і кіруе ёю.

§ 18. Сакратары ўсіх падкомісій партыі (па агульных справах, па партыйных справах, па грашовых справах і па пропагандзе) кіруюць справамі адпаведнага аддзелу згодна загаду старшыні.

§ 21. Пэрыод працы сакратара і яго памочніка ўстанаўляецца на два гады. Гэтыя пункты паказваюць, што цэнтралізм у Го-Мін-Дан‘е зусім не дэмократычны. Выклікаецца гэта акалічнасьць, роўна як і пункт аб клятве і адсутнасьць дакладнага клясавага стымулю пры прыёме ў партыю, асабістымі ўмовамі барацьбы ў Кітаі. Лібэральнай буржуазіі пакуль яшчэ па шляху з працоўнай клясай, бо аб‘яднае абедзьве клясы, папершае, нянавісьць да абсолютызму да-рэволюцыйнага пэрыоду і, падругое—нянавісьць да замежнага імпэрыялізму; дзеля гэтага дзьверы Го-Мін-Дан‘у адчынены для розных кляс барацьбітоў за нацыянальна-рэволюцыйнае самаазначэньне Кітаю; пункт аб клятве таксама асабісты Couleur locale для Кітаю, які яшчэ ня ступіў так далёка, каб стаць на шлях навукова-соцыялістычнае барацьбы. Клятва мае яшчэ магічнае значэньне нават для найбольш передавых людзей Кітаю, нават для самога Суна.

Каб уяўленьне аб сун-ят-сэнізьме ў нас атрымалася поўнае, неабходна застанавіцца на сутнасьці „Сан-Мін-Чу“ (трох прынцыпаў) і „констытуцыі пяці відаў“, якія складаюць аснову програмы Го-Мін-Дан‘у.

### „Сан Мін-Чжу“ [1]).

Гэтыя тры прынцыпы—нацыяналізм, дэмократыя і соцыялізм. Па прычыне кожнага з іх дамо слова самому Суну.

„Нацыяналізм.

Што разумеецца пад паняцьцем „нацыяналізму“? З усяленьнем у Кітаі манчжурскае дынастыі, народ знаходзіўся пад неймаверным уціскам у працягу больш 200 год. Цяпер гэта дынастыя скінута, і народ быццам павінен упівацца поўнай свабодай. Але хіба кітайскі народ упіваецца ўсім дабром свабоды? У чым-жа прычына? А ў тым, што наша партыя

---

[1]) Аб істоце „Сан-Мін-Чжу“ матэрыял скарыстоўваўся з прамовы Сун-Ят-Сэна ад 6-га сакавіка 1921 г., прыведзенай у кнізе Сібіракова—„Сун-Ят-Сэн“.

яшчэ далёка ня выканала сваёй задачы, што яна ажыцьцявіла адмоўную частку працы, нічога не зрабіўшы ў яе станоўчай часьці. З моманту спыненьня вялікае эўропэйскай вайны, сусьветнае становішча рэзка зьмянілася; погляды ўсяго сьвету цяпер кінуты на Далёкі Ўсход, асабліва на Кітай. Строга кажучы, сярод усіх краёў Далёкага Ўсходу толькі Сыам і Японія зьяўляюцца зусім незалежнымі. У чым-жа справа? Пасьля зьвяржэньня монархіі і ўстановы рэспубліканскага строю на тэрыторыі, залюдненай пяцьма расамі (кітайцамі, манчжурамі, монголамі, магомэтанамі і тыбэтцамі), зьявілася вялікая колькасьць рэакцыйных і рэлігійных элемэнтаў. *Аснова памылкі ляжыць тут*... У палітычных адносінах разьмеркаваньне гэткае: Манчжурыя знаходзіцца ў сфэры японскага ўплыву, Монголія—расійскага, Тыбэт—здабытак Англіі. Гэтыя расы ня маюць моцы для самаабароны, але яны маглі-б аб'яднацца з кітайцамі, каб утварыць адзіную дзяржаву. *Кітайцаў налічваецца да 400 мільёнаў, калі яны ня могуць утварыць адзіную нацыю, адзіную дзяржаву, то гэта іх няслава;* апрача гэтага доваду, што нават правядзеньне першага прынцыпу фактычна намі ня скончана, што мы павінны доўга змагацца, каб цалком ажыцьцявіць свае задачы. Мы ўстановім адзіную Кітайскую рэспубліку для таго, каб усе нацыі—манчжуры, монголы, тыбэтцы і магомэтане з кітайцамі—утварылі адзіную моцную нацыю. Далей, як ідэал, выстаўляюцца П. А. З. Ш., дзе таксама шмат нацый, але гэтыя Злучаныя Штаты зьяўляюцца прыкладам адзінай нацыі. Трэба адзначыць і назву Кітаю—„Рэспубліка 5-х рас“ і замяніць яго назвай „Чун-Хуа“ (кітайскі—у шырокім сэнсе гэтага слова). Неабходнай адзнакай „нацыяналізму“ па Суну зьяўляецца ўсеагульнае выбарнае права.

Збоку гэтая програма можа паказацца вялікагаспадарчай, але гэта ня так. Сун мае на ўвазе пад „нацыяналізмам“ не „галеньне ўсіх пад адзін грэбень“, а культурнае і палітычнае самаазначэньне засяляючых Кітай нацый, ураўненьне ўсіх засяляючых Кітай народаў у правах. Лёзунг, такім чынам, зьлічвае векавы расавы антагонізм у Кітаі, бязумоўна рэволюцыйны.

Аб рэформах Сун кажа сьціслa і конкрэтна. „Для рэалізацыі гэтае ідэі неабходна перш за ўсё ажыцьцявіць усе чатыры пункты простага, выбарнага права: выбарнае права, права рэфэрэндуму, права ініцыятывы, і права водзыву“.

Соцыялізм?

У адносінах да соцыялізму Сун дае цікавую аграрную програму, якая мае на ўвазе пропорцыянальны падзел зямлі, нешта нагадваючае наш С. Р. Што датычыць другое важнейшае часткі проблемы, часткі, якая датыкаецца працы і капіталу,—яна чытэльнага выразу ў Суна не атрымала. Дый як магла яна выліцца ў яго ў пекную сыстэму, калі капіталізм у Кітаі зьяўленьне параўнальна маладое, і ад дачыненьня да сучаснае рачаіснасьці (яна нагадвае становішча рэчаў у Расіі, прыкладна, 60—80 г.г.) стаць соцыялістым-марксыстым Сун напэўна ня мог.

### „Канстытуцыя пяцёх відаў“.

У гэтым лёзунгу — ідэя Суна аб дзяржаўнай перабудове Кітаю. Сыстэма Суна—складаная. Заместа звычайных трохступянёвых канстытуцый, Сун прапаноўвае проэкт пяцёхступянёвай. Мімаходам ён дае рэзкую крытыку існуючых эўропэйскіх канстытуцый. „Звычайная канстытуцыя будуецца на ўладзе судзейскай, адміністрацыйнай, законадаўчай—кажа Сун,—я прапаную канстытуцыю пяцёхступянёвую.

Канстытуцыя ступеняў (улады):

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Улада законадаўчая | Улада судзейская | Улада адміністрацыйная ці выканаўчая | Улада пакараньня | Улада праверкі вед |

Па Суну такая канстытуцыя—лепшы спосаб унутранага выздараўленьня краіны, „яна ёсьць наш аўтомобіль, наша сумбарына і наш самалёт“.

Сун дае падрабязную схэму пабудовы ўлады па „пяцёхступянёвай“ канстытуцыі, якую мы прыводзім.




Бясспрэчна, выходзячы з вопыту нашага Кастрычніка, сунаўская сыстэма зьяўляецца старой. Адзінай правіловай сыстэмай дзяржаўнае пабудовы краіны, скінуўшай з сябе ўціск капіталізму, зьяўляецца, бязу-

моўна, сыстэма савецкая. Але ня Суну, бязумоўна, можна было, пры ўсёй яго гэніяльнасьці й пылаючай рэволюцыйнасьці, дамысьліцца да гэтага: сьвядомасьць вялікага байца азначалася асабістым кітайскім існаваньнем і з яго досыць і тых скэптычных адносін, якія ён выяўляе да дэмакратычных конституцый Эўропы. Бо яму пасьля бяспраўнага Кітаю любая „дэмократычная“ краіна сьвету павінна была прадстаўляцца запраўднай абяцанай зямлёй; але Сун нязвычайны чалавек, і яго востры погляд пранікае „ў корань спраў“ у Эўропе. Не яго, бязумоўна, віна, што прыдуманая ім, як рэцэпт для Кітаю, „пяцёхступянёвая конституцыя“, гэта „сумбарына, самалёт і аўтомобіль“, якія павінны былі імчаць Кітай да лепшае будучыны, на справе—габінэтны плян, які, бязумоўна, калі-б праводзіўся ў жыцьцё, чаканых рэзультатаў Суну ня даў-бы. Гэта яго заслугі, як рэволюцыянэра, ніколькі не ўмяншае, як не ўмяншае заслуг нашых народавольцаў іх ідэолёгічная неразьбярыха: бясконца адданы гэроізм у тэрорыстычнай барацьбе і ліст Ал. III назаўтра пасьля 1-га сакавіка 1881 г. Усякай гародніне свой час.

### Сун і СССР.

Была яшчэ адна акалічнасьць, якая некалькі халадзіла адносіны вялікага кітайскага барацьбіта да СССР: гэта факт прызнаньня намі як паўднёвага, так і паўночнага кітайскага ўраду. Але гэты холад трымаўся ня доўга. Сун рэволюцыйным пачуцьцём зразумеў, што гэтак лепш і для Кітаю й для СССР, зразумеў, што сымпатыі вялікае савецкае краіны, цалком на баку Паўднёвага Кітаю. І з свайго боку Сун-Ят-Сэн заўсёды ўяўляў вялізарны інтарэс да рэволюцыі ў Расіі, заўсёды падкрэсьліваючы, што расійскі вопыт мае вялізарную каштоўнасьць для Кітаю, што Кітаю патрэбна пераймаць спосабы рэволюцыі ў Расіі. У значнай меры Суну мы павінны тэй вялізарнай популярнасьцю, якой СССР карыстаецца ў шырокіх працоўных сялянскіх і інтэлігенцкіх масах Кітаю. Сьмерць Леніна знашла сабе ў Кітаі водгук, ня многім уступаючы таму, які яна знашла ў СССР [1]). „Многія газэты—з смуткам констатаваў на другі дзень корэспондэнт аднае ангельскае газэты, — як відаць, лічаць сьмерць Леніна больш значным здарэньнем, чым нават утварэньне працоўнага ўраду ў Англіі“. Правілова ацаніць усё значэньне гэтае заявы можна толькі тады, калі прыпамятаем, якую ролю на працягу многіх дзесяткаў год іграла Вялікабрытанія ў жыцьці Кітаю, і якія надзеі павінна была, натуральна, узбуджаць перамога ангельскае працоўнае партыі. Той водгук, які знашла вестка аб сьмерці Леніна на старонках кітайскіх газэт, ёсьць усё-ж кволае рэха пачуцьцяў і настрояў Кітаю наогул, а тым больш—перадавога Кітаю. Каб пераканацца ў гэтым, трэба было прысутнічаць у актавай салі Пекінскага унівэрсытэту на мітынгу студэнцкае фэдэра-

1) Цыт. з кніжкі Івіна—„Кітай і Сав. Саюз“, стар. 24.

цыі, пачуць гарачыя прамовы шматлікавых прамоўцаў як студэнтаў, так і профэсароў, ці перакінуцца на конгрэс нацыянальнае партыі ў Кантоне, куды зьехаліся дэлегаты ўсіх канцоў вялікае краіны. І толькі тады, калі мы будзем карыстацца хаця-б часткай вялікага непэрыодычнага друку, які выдаецца гурткамі моладзі ў сотнях вялікіх і малых гарадоў, можна будзе даць большы ці меншы праўдзівы малюнак таго, як адгукнуўся малады Кітай, які ўвасабляе сабою надзеі чвэрці жыхарства зямное кулі, на вестку аб неадменнай страце, адчуванай жыхарствам. Але ўжо й цяпер на падставе таго, што даводзілася назіраць у Пекіне, як „на падставе вестак, якія паступалі з другіх цэнтраў, можна судзіць аб тым, як высока стаіць аўторытэт Савецкае Расіі і яе правадыра ў вачох кітайскае грамадзкасьці“.

Памёр „Вялікі Сун“ і яго апошнім наказам, які ён пакінуў Го-Мін-Дан'у і ўсім змагаючымся масам поўмільярднага Кітаю, было: „Працягвайце справу вызваленьня Кітаю, якому я ахвяраваў усё жыцьцё. Орыентуйцеся на Савецкі Саюз,—гэта наш адзіны бескарысны сябра, сапраўдны сябра ўціснутых і эксплёатуемых народаў усяго сьвету“. І наказ правадыра цалком з пашанай захавае яго партыя, падхопіць увесь Кітай, які стогне пад пятою імпэрыялістых свае і чужых краін. „500 сяброў партыі Го-Мін-Дан'у прынесьлі клятву перад портрэтам Суна з пашанай хаваць яго наказы, давесьці справу нацыянальнага вызваленьня Кітаю да канца“, чытаем мы ў адным з апошніх нумароў „Праўды“. Гэта парадоксальна на наш сучасны погляд, але характэрна і натуральна для Кітаю. Рэволюцыйны Кітай вырас,—гэта відаць з таго журботнага рэха, якое разьнеслася па ўсім вялікім Кітаі ў сувязі з сьмерцю „Бацькі кітайскае рэволюцыі“. Яго сьмерць — сьмерць павергнутага прэзыдэнта Поўдня ў абставінах урачыстасьці рэакцыі амаль ва ўсім Кітаі—аплакваецца ўва ўсёй краіне, усюды грандыёзныя мітынгі, прэса занята толькі Сунам, а ўрад маўчыць і нават „робіць вясёлы твар у дрэннай гульні“. Гэта надзвычайна паказальна для потэнцыяльнай энэргіі кітайскае рэволюцыі.

Сун памёр, але жыве Го-Мін-Дан, жыве сун-ят-сэнізм!

Яны справу свайго настаўніка і правадыра давядуць да канца.

1925 г.

# ЛІТАРАТУРНЫЯ ПОГЛЯДЫ Й ГУСТ СУЧАСНАЕ НЯМЕЧЧЫНЫ

**Эўг. Барычэўскі**

I

Перад вайною Эўропа жыла як-бы адным літаратурным жыцьцём. Літаратурная плынь, паўстаўшая ў аднэй краіне, хутка пашыралася ў другіх. Гэтак пашырыліся па ўсёй Эўропе паўстаўшы ў Францыі сымболізм і паўстаўшы ў Італіі футурызм.

Гэтае адзінства літаратурнага жыцьця вайна парушыла, і яно яшчэ й цяпер не адноўлена. У розных краінах, у зьвязку з асаблівасьцямі іх экономічнага і псыхолёгічнага ўкладу, паўстаюць свае літаратурныя рухі, якія ня выходзяць за межы аднае нацыянальнае літаратуры.

Калі літаратурнае жыцьцё сучаснае Францыі адзначаецца мноствам дробных і вельмі нядоўгавечных літаратурных школ, дык для Нямеччыны, наадварот, паказальнай зьяўляецца адна плынь, адначасна мастацкая, літаратурная і філёзофская, вядомая пад імем экспрэсыянізму.

Экспрэсыянізм ёсьць ня толькі літаратурная і мастацкая школа, але й сьветагляд. Пісаліся нават кнігі аб экспрэсыяніцкай *культуры*. Спрадвечнае імкненьне нямецкіх поэтаў да філёзофіі, якое ў свой час гэтак яскрава адбілася ў творчасьці Шыльлера і Новаліса, застаецца паказальным для іх і ў сучасныя дні.

Што-ж такое экспрэсыянізм? Спачатку гэта новая плынь усьвядоміла сябе ў галіне малярства і часткова скульптуры. З гэтае прычыны экспрэсыянізм зьявіўся перш за ўсё, як тэорыя вобразнага мастацтва, тэорыя вельмі выразная і вельмі рэволюцыйная ў мастацкім сэнсе. Згодна думкі экспрэсыяністых, вобразнае мастацтва пры сваім паўстаньні мела на воку толькі карысныя задачы: мэта першабытнага мастацтва складалася з таго, каб занатаваць, і гэтым самым вывучыць, тыя зьявішчы надворнага сьвету, з якімі даводзілася мець справу ў адвечнай барацьбе за існаваньне. Магчыма, іменна з гэтае прычыны першабытнаму мастаку лепей за ўсё ўдавалася намаляваньне зьвяроў, на якіх ён хадзіў на паляваньне і рухі іх, якія яму трэ' было памагчымасьці лепей выўчыць. Але гэта задача карысная. Чыста мастацкая-ж задача малярства—выклікаць ня зьвязаныя з практычным жыцьцём эмоцыі пры дапамозе сродкаў, уласьцівых гэтаму мастацтву, г. зн. лініі і хварбы. Але ўлада надворнага сьвету

нагэтулькі моцная, што вобразны мастак да гэтых часоў ня вызваліўся ад натуралізму, які зьвязвае мастацтва. Малярства будучага будзе гэтак сама вольна ад надворнага сьвету, як музыка. Яно зробіцца зрокавай музыкай і музыкай ліній і хварбы і зусім ня будзе лічыць патрэбным адбіваць надворны сьвет. Сьпісваю малярскую тэорыю экспрэсыянізму вельмі схэматычна і высоўваю толькі адну найбольш вострую і паказальную для гэтай тэорыі думку.

Тэорыя экспрэсыянізму антынатуралістычна. „Экспрэсыянізм—піша аб ім Фр. Гюбнэр—сьветапагляд утопічны. Ён робіць чалавека асяродкам стварэньня, каб той па сваім жаданьні запоўніў пустату хварбамі, лініямі, гукамі, дзьвярамі, сваім богам і ўласным „я“. У романе Густава Мэйрынка „Голем“ адзін гэрой, разьбяр каменяў, прызнаецца: „Доўгія гады я сьлепа аддаваўся прынцыпу, нібыта патрэбна выўчаць надворную прыроду дзеля таго, каб ствараць мастацкі твор. Толькі ў тую ноч... расплюшчыўся мой унутраны зрок:ісьціннае сузіраньне з заплюшчанымі вачмі, зьнікаючае, як толькі яны расплюшчваюцца,—вось дар, якім хваляцца ўсе мастакі, але ў сапраўднасьці недасяжны і аднаму з цэлага мільёну“. У галіне вобразных мастацтваў сэнс гэтае тэорыі хай сабе далёка небясспрэчны, але ясны. Куды цяжэй высьвятліць, што такое экспрэсыянізм у літаратуры. Літаратурны экспрэсыянізм ня зьвязаны з якімі-небудзь новымі формамі. Ён яднае мастакоў на грунце аднаго вядомага зьместу. „Мы ведаем,—піша адзін экспрэсыяністы,—што наша выступленьне прыводзіць у рух гэткія сілы ў нас, для якіх ня створым граматыкі“. Другі экспрэсыяністы заяўляе: „Мастацтва ня ёсьць уменьне; там, дзе пачынаецца ўменьне—мастацтва канчаецца. Форма гэта—толькі стыхійнае і беспасрэднае выражэньне пачуцьця. Шлях экспрэсыянізму—шлях ад формалізму, ад эстэтызму да жывое творчасьці, ад клясыцызму—да суб‘ектывізму“. У прадмове к антолёгіі сучаснае нямецкае поэзіі Курт Пінтус імкнецца азначыць тое, што аб‘ядноае поэтаў-экспрэсыяністых, пры ўсіх іх індывідуальных асаблівасьцях, у вадну групу. „Гэта агульнае—піша ён—ёсьць інтэнсыўнасьць і радыкалізм пачуцьця, праконаньняў, выражэньня, формы. І гэта інтэнсыўнасьць, гэты радыкалізм зноў прымушае поэтаў змагацца са старым чалавецтвам аджываючай эпохі і палка падрыхтоўваць і вымагаць *новага лепшага чалавецтва*“. „Сапраўдны поэта—піша экспрэсыяністы Рубінэр—выяўляе сабою жывую катастрофу. Усякая ідэя ёсьць катастрофа, уся эволюцыя складзена з катастроф... Сэнс актывістычнай творчасьці заключаецца ў тым, каб руйнаваньнем усяго застыглага паставіць чалавека ў жахлівы сьвет духу“. Літаратурным маніфэстам экспрэсыянізму, калі карыстацца гэтым аблюбаваным у нашыя часы словам, зьяўляецца пэўная філёзофія—фізёзофія, прысьвечаная высьвятленьню духу культурнае эпохі, якую мы перажываем. Галоўнай і адзінай тэмай экспрэсыяніцкай філёзофіі зьяўляецца ўнутраны чалавек, у вядомым сэнсе антынатуралістычны чалавек,—чалавек, які жадае вызваліць сваё ўнут-

ранае жыцьцё ад ланцугоў, што прычапляе яму абкружаючая яго культура, гэтая другая прырода, чалавек, які ўсёй істотай ідзе супроць тых умоўных поглядаў на адносіны між людзьмі, на сям'ю, вобчаства, дзяржаву, якія з гэткай упартасьцю і з гэткай катэгорычнасьцю прычэпліваюцца надворным сьветам. А з надворным сьветам, згодна думкі экспрэсыяністых, справа ня добрая. Хоць экспрэсыянізм паўстаў у 1911 годзе, але ён радзіўся з пачуцьцём катастрофічнасьці нашае эпохі, пачуцьцём, якое не замедліла спраўдзіцца. Жахі сусьветнае разьні нікім ня былі адбіты з гэткай узрушаючай сілай, як поэтамі экспрэсыянізму. Абараняемы экспрэсыянізмам унутраны чалавек паўстаў супроць вайны, супроць неабходнасьці забіваць дургіх людзей. Так пацыфізм зрабіўся аднэй з асноўных ідэй экспрэсыянізму. Экспрэсыянізм пачаў, разумецца, як філёзофія новага ўнутранага чалавека—чалавека, які кліча да новага братэрства, да новых прасьветленых форм чалавечага жыцьця. Экспрэсыянізм вырас з адчаю і хацеў цераз муку весьці да прасьвятленьня. „Той, хто сьлёзы пазнаў, знае існасьць рэчаў", піша Франц Вэрфэль. На гэтым шляху экспрэсыянізм спаткаўся з найвялікшым поэтам мукі, які быў у сусьветнай літаратуры, з Дастаеўскім. Гэтак расійскі пісьменьнік быў абвешчан духоўным правадыром нямецкага імпрэсыянізму. Дастаеўскага часта называюць поэтам душэўнага хаосу. Экспрэсыянізм увесь у хаосе. Унутраны чалавек экспрэсыяністых павінен сам выявіць і перамагчы той душэўны хаос, які ён носіць у сабе. Ён адвяргае ўсё тое станоўкае, што дае надворны сьвет, адвяргае ўсё, зьвязанае з азначаным укладам, пераемнасьцю, традыцыяй. Унутраны чалавек экспрэсыяністых—антыгістарычны. З гэтае прычыны ўвесь рух як быццам дзейнічае ў пустаце, ахвярован на філёзофскую потэтыку, потэтыку потэнцыянальна вельмі актывісцкую, але ня здолеўшую выйсьці за межы літаратруры. З соцыялёгічнага пункту погляду экспрэсыянізм зьявіўся адбіткам душэўнага жыцьця інтэлігэнцыі, якая адштырхнулася ад капіталізму, але не знашла ніякіх рэальных шляхоў да таго новага жыцьця, к якому яна гэтак палка і ўсё-ж такі няплодна імкнулася.

Экспрэсыянізм зьявіўся філёзофіяй, якая ўзрасла на глебе азначанага настрою, вельмі экстатычнага, амаль істэрычнага, каб ён мог быць доўгім. Ня дзіва, што цяпер наглядаецца моцная рэакцыя супроць гэтае плыні, якая цалком абхапіла розум і сэрца літаратурнай Нямеччыны на некалькі год. Наглядаецца імкненьне да клясыцызму. Людвік фон Бэрталанфі ў артыкуле „Экспрэсыянізм і клясыцызм" тлумачыць даны пералом гэтак: „Экспрэсыянізм — кажа ён — ёсьць сьвет як хаос. Жахлівыя сусьветныя зьявішчы апошніх 10 год прымусілі чалавека аднесьціся да разумнасьці сусьветнага процэсу няпэўна; толькі ва ўнутраным сьвеце, толькі ў адцягненым сымболе знаходзіў мастак той супакой, якога ня мог яму даць об'ектыўны сьвет. Эскпрэсыянізм быў паталёгічным мастацкім нашрубаваньнем сябе; але вось мы зноў імкнемся да яснасьці і супакою. Мы ў роспачы ад сьвету і шукалі ратунку ў ірацыянальных вы-

шэйшых сілах; але вось мы зноў хочам адшукаць сябе ў сьвеце, хочам праверыць разумнасьць сьвету. У нас саміх сьвет зрабіўся хаосам, і мы хочам у сабе саміх зноў зрабіць яго зграбным космосам. Экспрэсыянізм спадзяваўся адшукаць зусім новы сьвет, зусім новыя адносіны да сьвету. Гэта было вар'яцтвам". Сам тон гэтых меркаваньняў Бэрталанфі кажа аб патрэбе перайсьці ад гістарычнага экспрэсыянізму да гармонічнае яснасьці і роўнавагі клясыцызму. Але ня ён адзін прызнае, што экспрэсыянізм — ужо ўчарашні дзень нямецкае філёзофіі і мастацтва. Падобна таму як прарочы тон прадказаньняў Шпэнглера аб захадзе Эўропы, гэтак і вера ў тое, што ратунак у экспрэсыянізьме, аб якім яшчэ гэтак нядаўна друкаваліся дзесяткі кніг і брошур, цяпер выклікае ўсьмешку. Экспрэсыянізм пакінуў пасьля сябе некалькі кніжок, у якіх даў узрушаюча-вострае перажываньне эпохі, дакумантаў эпохі, кніг мастацка-прыгожых і незалежна ад гістарычных умоў, якія іх выклікалі. Але нарэшце лёс экспрэсыянізму, як і лёс кожнае літаратурнае плыні, уступіць сваё месца другім. Для грамадзка-палітычнага жыцьця экспрэсыяністыя далі меней, чымся маглі-б даць, калі прыняць пад увагу той мотыў бунту, які зьяўляўся для іх гэтак паказальным. За выключэньнем Эрнэста Толера, які прыняў удзел у барацьбе за савецкую баварскую рэспубліку і які сядзіць цяпер у турме Нідэршэнфэльд, усе экспрэсыяністыя выявілі сябе толькі казаньнем пацыфізму.

Адначасна з экспрэсыянізмам у Нямеччыне даволі значна пашырыўся дадаізм — літаратурная плынь, якая паўстала ў Швайцарыі й пашырылася ў Францыі й Нямеччыне. Калі экспрэсыянізм шукае ратунку ад адчаю, да якога прывяла Эўропу сусьветная вайна, у напружаньні ідэалістычнай патэтыкі, то дадаізм шукае выхаду ў адмаўленьні ўсялякага сэнсу чалавецкага жыцьця, у свайго роду тэорэтычным цынізьме. Слова „дада" нічога не азначае; бяссэнснае слова ўзята для назвы гэтае плыні таму, што плынь адвяргае наогул сэнс і пераходзіць на бок усяго бяссэнснага. Адны з асноўных палажэньняў гэтае плыні гавораць: „Чалавек сур'ёзны ёсьць сапраўдны й тыпічны ідыёта". „Дада ня любіць інтэлекту. Дада ня любіць памяці. Дада — ідыёта". Пісаць больш пра тэорыю дадаізму мабыць залішне. Пададзеныя мною дадавістычныя адраканьні гавораць самі за сябе. Тэорыя дадаізму ёсьць даведзены да апошняе мяжы нігілізм. У Расіі літаратурная школа нічэвокаў хацела стварыць расійскі дадаізм, але посьпеху ня мела. У Савецкай Расіі для яго разьвіцьця ня было адпаведных соцыялёгічных умоў. З футурыстымі дадаістых зьбліжае проблема так званае заразумовае мовы.

II

У пачатку свайго нарысу я адзначаў тую цесную сувязь між навукай і філёзофіяй, якая складае асаблівую рысу нямецкае культуры. Калі нямецкія поэты заўсёды імкнуліся да філёзофіі, то ў цяперашнія часы

нямецкая філёзофія з свайго боку бліжэй падышла да літаратуры, чымся яна была калі-небудзь. Калі старое пакаленьне філёзофаў працавала над тэорыяй пазнаньня, углыблялася з галавою ў тлумачэньне Канта і стаяла даволі далёка ад літаратурнага мастацкага жыцьця эпохі, закопваючыся ў свой лёгіка-гносэолёгічны сьвет, то новае пакаленьне, наадварот, уважліва сочыць за новымі рухамі і імкнецца ўсьвядоміць іх філёзофскі. Калі для старога пакаленьня паказальны Гусэрль, Шуппе ці Наторп, то новае пакаленьне філёзофаў знаходзіцца пад уплывам Юр'я Зімэля й створанага ім стылю філёзофскага essays. Заместа ёмістых сыстэм, заместа вялізных дасьледваньняў, разьлічаных на некалькі кніжок, немцы любяць цяпер нарысы, essays, без прызвычаенай нямецкай цяжкаважнасьці, але адмечаныя пячаткай індывідуальнасьці, пячаткай свайго своеўнага стылю, сваёй інтэлектуальнай манеры. У сучаснай Нямеччыне існуе асобны стыль адначасна і суб'ектыўнага й навуковага літаратурна-філёзофскага нарысу на тэмы самыя рознастайныя, самыя нечаканыя і актуальныя. Гэтак сама другі лірычна-філёзофскі жанр, жанр кароткага асабістага афорызму, то глыбокадумнага, то толькі дасьціпнага, часамі эмоцыянальнага й лірычнага, — жанр створаны Ніцшэ, — мае ў сучаснай Нямеччыне сваіх прадоўжнікаў. Штогодна зьяўляюцца кнігі, напісаныя ў гэтым жанры, створаным французамі, але атрымаўшым у Нямеччыне новае й бліскучае разьвіцьцё. Значэньне Ніцшэ трэба шукаць, зразумела, не ў яго вучэньні аб надчалавеку, не ў яго іморамуме. Ніцшыянства ў тым сэнсе, у якім гэтае слова ўжывалася ў канцы 19 і ў пачатку 20 стагодзьдзя, цяпер наўрад ці можна знайсьці, ласьне ў якасьці анахронізму. Галоўнай заслугай Ніцшэ застаецца стварэньне не існаваўшага да яго лірычна-філёзофскага стылю і новага літаратурнага жанру — лірычнага афорызму, які зьяўляецца гэткай-жа натуральнай формай для выражэньня інтымнага жыцьця мысьлячага чалавека, як верш для выражэньня інтымнага жыцьця чалавека адчуваючага.

Зразумела, прадстаўнікі новае, якіх я называў, літаратурнае філёзофіі, філёзофіі лірычнай і вобразнай, маюць большы круг чытачоў, чым яго мелі і маюць прадстаўнікі школьна-акадэмічнай філёзофіі. Гэткага тыпу філёзофы, крытыкі сучаснае культуры, шукальнікі, мудрацы, казальнікі робяцца моднымі на год-два і хутка зьмяняюць адзін другога. Гэтак на зьмену нарабіўшага шуму Шпэнглеру прышоў Тэадор Лесінг, аўтар вострай і скэптычнай кніжкі „Гісторыя, як асмысьленьне бяссэнснага“. Больш тонкі чым Шпэнглер, але літаратурна менш бліскучы, ён карыстаецца, зразумела, менш шырокім, але мабыць больш глыбокім уплывам. Адзначу яшчэ Кайзэрлінга, прыхільніка індускага магізму, аўтара кніжкі „Падарожны дзеньнік філёзофа“ і „Філёзофія, як мастацтва“; а гэтак сама Поля Эрнста, супроцьстаўляючага індустрыяльнай культуры Захаду, заснаваную на беспасрэдных зносінах з прыродаю, земляробскую культуру Кітаю. Калі ня мыляюся, у цяперашні час слова належыць Эмілю

Лука, на якім, дзеля яго паказальнасьці для літаратурных поглядаў і густу сучаснае Нямеччыны, я прыпынюся крыху больш падрабязна. Яго галоўная кніжка „Першапачатковае дабро чалавецтва“ ёсьць у значным стопні філёзофская аналёгія мастака й паасобна поэты. Эміль Лука адначасна — і гэта вельмі цікава для сучаснае Нямеччыны — літаратар і філёзоф, аўтар некалькіх романаў і 3 (ня лічачы брошур) філёзофскіх прац: „Тры стопні эротыкі“, „Граніцы душы“ і названая вышэй.

Асаблівымі рысамі сучаснае культуры Эміль Лука лічыць, паперш, абстрактнасьць, мысьленьне разуменьнямі, рыса характарызуючая сучасную душу, падругое, прынцып падзелу працы, характарызуючы нашае штодзеннае жыцьцё. „Нашае жыцьцё організавана гэтак, што кожны з нас выпаўняе ў сваім кутку кожны дзень адну і тую працу. Адзін лічыць, другі піша паперы, трэці глядзіць у мікроскоп, чацьверты вядзе судовыя процэсы, пяты гаворыць палітычныя прамовы і г. д.“ Чым больш у чалавека сапраўднай чалавечнасьці, тым больш ён мучыцца ад гэткага парадку рэчаў. Нішто не адвяргае гэтак моцна гэты прынцып надзелу працы, як мастацтва, бо мастак павінен быць успрымаючай жыцьцё ў цэлым асобай. Праўда, без абстракцыі і без падзелу працы чалавек наогул ня можа існаваць. Але яны павінны быць толькі дапаможнымі сродкамі. „Рассудак,— піша Эміль Лука,—павінен цягнуць плуг, каб узышло насеньне; але сэнс сяўбы ва ўраджаі, а не ў вале, які цягне плуг“. Вялікая задача сучаснага чалавека—зрабіцца зноў беспасрэдна сузіраючым пасьля таго, як рацыяналізм на працягу стагодзьдзяў пустошыў яго душу. Пачуцьці геніяльна сузіраючага мастака больш каштоўны ад рассудку. Трэба зноў знайсьці першастковую, конкрэтную, жывую, беспасрэдную і цэльную сьвядомасьць чалавецтва, спустошаную абстракцыяй і спэцыялізацыяй. Геніяльны мастак у супроцьлегласьць толькі таленавітаму бліжэй да прымітыўнага чалавека выдаленых часоў, чымся да сярэдняга чалавека нашых дзён. Ён уладае даўно згубленай вострасьцю ўспрыманьня, ненавідзіць абстракцыі, імкнучыся ажыцьцявіць уяўленьні найвысокай усеагульнасьці ў адзіным, жывым і конкрэтным зданьні. Ён знаходзіцца ў беспасрэдных эмоцыянальных адносінах да ўсяго, з чым сустракаецца. Гэта моц пачуцьця мае і адваротны і адмоўны бакі. Нямернасьць у асалодзе і ў пале, і надыходзячы пасьля гэтага заняпад вельмі часта наглядаецца ў жыцьці сапраўдных мастакоў. Прырода накіроўвае думку першабытнага чалавека ня ў бок абстракцыі, а ў бок жывых мітаў, якія зьвязваюць яго з прыродай у вадно жывое цэлае. „Чалавеку эпохі міту ўласціва якраз беспасрэдна асалода зыкамі, якія ён вымаўляе; ён любіць прыгожа сычачыя зыкі і ўхіляецца ад дрэнна сычачых. Некаторыя звароты мовы раджаюць рыфмы або ствараюць якую-небудзь другую зыкавую гармонію. Як мова першабытнага чалавека ня ведае абстракцыі, гэтак ён ня ведае пазбытых зыкавай каштоўнасьці словаўтварэньняў. Таксама й поэта высока культурнага народу мае беспасрэдныя адносіны

*да мовы*. Ён любіць багатыя на фарбы, сакавітыя, зычныя словы, і ненавідзіць словы блядыя, вузкія, шэрыя, выкарыстаныя. Рыфма, якая для практычнага чалавека і чалавека навукі здаецца чымсь-та сьмешным, дзяцінын, робіць на яго глыбокатаемнае ўражаньне. Схаваны ў мове рытм для яго жывы і сапраўдны, ён імкнецца наколькі магчыма ўзмацніць яго. Яго выразы зьмяняюцца ў вершы, яго пэрыоды самі вядуць яго да ўнутранае роўнавагі, недаступнай нават для самага лепшага толькі пісьменьніка. Як для першабытнага чалавека, гэтак і для сапраўднага мастака азначаныя зыкавыя злучэньні маюць асаблівую каштоўнасьць, рэфрэнш, часта складзеныя не з паўтораў бяссэнсных складоў, для яго напоўнены значэньнем. Поэта, якому не хапала-б зыкавага пачуцьця гаворкі, быў-бы занадта выдалены ад першапачатковае мовы, быў-бы зусім чужым пачуцьцёваму і конкрэтнаму, бо мова ў яе гучэньні ёсьць найважнейшае і старэйшае багацьце чалавецтва, якое ня можа зьнікнуць, покі ня зьмерла мастацтва інстыктыўнае, цьвітучае, жывое. Поэта—ахоўца гэтага першапачатковага дабра чалавецтва. Вобразы яго выабражэньня для яго ня ілюзіі, яшчэ менш сьвядомая самамана, як азначае об'ект мастацтва адзін сучасны эстэтык (Конрад Лянге), яны для яго напоўнены жыцьцём. Як і першабытный чалавек, мастак ня можа адлучыць сапраўднае ад выабражаемага; гэта справа навукі і яе гордасьць адлучаць тое, што адбываецца, ад суб'ектыўнага. Толькі трывіяльны талент мае з самага пачатку пачуцьцё, што ён нешта вытварае. З талентам, у розьніцу ад гэнія, нічога не адбываецца, яго не даведваюцца зданьні, ён сам усё робіць. У гэтым сузіраньні, у гэтай здольнасьці пакінуць быць сабою і аддацца ўсім зданьням і вобразам жыцьця корань і тэатральнага мастацтва і яго вышэйшага дасяганьня—трагэдыі, у якой гэрой на вачох бязмоўных гледачоў мучыцца і ўмірае за нас, адчыняючы і асьвечваючы сваёй сьмерцю нашы душы. Сапраўдная поэзія, як і сапраўдны міт, ня могуць быць зразумелы эпохамі рацыяналізму, бо няма большых супроцьлегласьцяй, чымся трагічны чалавек, мітычна сузіраючы і адчуваючы, і разумны чалавек, які спакарыў сябе рассудку. Асноўная ідэя кнігі Эміля Лука ў тым, што між далёкім мінулым челавецтва, эпохай лірычнае творчасьці, і будучым чалавецтва, якое павінна быць жыцьцём у міту, ляжыць доўгі пэрыод рассудку. Эміль Лука хоча пакінуць мост ад далёкага мінулага к далёкаму будучаму. Зьвяном, якое зьвязвае гэтыя дзьве эпохі, зьяўляецца мастак, ня толькі ахоўца першапачатковых багацьцяў, але й весьнік будучых багацьцяў чалавецтва. Барацьба за міт—гэтак азначыў крытык Поль Фэхрэр—сэнс імкненьняў Эміля Лука.

Уся сучасная нямецкая філёзофія імкнецца высьветліць для сябе гэтае ўнутраное самапачуцьцё сучаснага чалавека і яго далейшыя часы. У гэтым пытаньні між філёзофамі згоднасьці няма. Для Эміля Лука мэтай сучаснага чалавецтва павінна быць абуджэньне здольнасьці мітыч-

нага ўспрыманьня і зданьні сьвету, зварот да згубленага чалавецтвам першапачатковага багацьця. Да іх, па яго думцы, нас прыбліжаюць тры каштоўнасьці духу: каханьне, прырода і мастацтва. Толькі гэтыя тры каштоўнасьці чалавецкага жыцьця адбудоўваюць адзінства асабовага з чалавечным, чалавечнага з сусьветным. Можа здавацца, што для нямецкага чытача думкі Эміля Лука пазбыты навізны: і Шыльлер, і Новаліс, і Гэльдэрлінк, і Ніцшэ лічылі сучаснага чалавека пазбытым адзінства і беспасрэднасьці, і яны шлях чалавецкага разьвіцьця ўяўлялі сьпіральлю, зварачаючай людзей да згубленага адзінства з прыродай. Калі, ня гледзячы на адсутнасьць сапраўднае навізны і орыгінальнасьці, Эміль Лука мае такі вялізны посьпех, то гэта трэба тлумачыць тым, што яго кніжкі, напісаныя моваю вобразнай і эмоцыяльнай, пановаму адбіваюць той круг думак, які застаецца важным і асноўным для сучаснае Нямеччыны.

## III

Вялізная цікавасьць немцаў да літаратуры адчуваецца і ўва ўпартым шуканьні навуковых мэтодаў вывучэньня поэтычнай творчасьці. І ў гэтай галіне думкі немцаў даволі пэсымістычны. Навуковае вывучэньне літаратуры, згодна іх думкі, яшчэ толькі пачалося вобмацкам, і далейшыя шляхі яго застаюцца цьмянымі. Літаратуразнаўства, піша Гэрбэрг Левандоўскі ў артыкуле „Разуменьне асаблівасьцяй формы ў лірычным творы“ ўяўляла сабою спачатку чыста гістарычную дысцыпліну, якая мела справу амаль выключна з іменьнямі і датамі, і толькі шмат пазьней узяла сабе задачу зразуменьня поэты і яго твораў. Тады мастацкі твор быў высунуты на першы плян. Паўстала суб'ектывістычнае і імпрэсыяніцкае літаратуразнаўства, лепшым прадстаўніком якога ў Нямеччыне зьяўляецца Фрыдрых Гундольф, аўтар 2 каштоўных кніжок аб Гётэ і аб Сьцяпане Георге. Утончаны мастацкі падход да літаратуры, уласьціва імпрэсыяніцкай крытыцы, памог ёй высьветліць шмат якія асаблівасьці стылю дасьледуемых ёю пісьменьнікаў, але адначасна выявіўся і адмоўны бок гэтага мэтоду: адсутнасьць азначаных прынцыпаў, якія ляжалі-б у аснове досьледаў, апэляцыя да аднае толькі мастацкае праніклівасьці і ўражлівасьці, адчыняючая прастору сваволі рознаму модэрнізаваньню і суб'ектызаваньню дасьледуемага пісьменьніка.

Найбольш яскрава адбіў імкненьне нямецкага літаратуразнаўства знайсьці больш об'ектыўную глебу для досьледаў Оскар Вальцэль. Ён зьвярнуў увагу на тое, што родная сястра гісторыі літаратуры, гісторыя вобразных мастацтваў, з навуковага боку стаіць куды вышэй гісторыі літаратуры, бо, дзякуючы клясычным працам Гільдэбрандта і асабліва Вэльфліна, у ёй занатаваны тыя формальныя прынцыпы, з пункту гляду якіх павінна быць высьветлена, што робіць вобразны мастак з матэрыялам свайго мастацтва. Гісторыя літаратуры да гэтых часоў не загатавала яшчэ гэтых асноўных прынцыпаў поэтычнае формы. Яна яшчэ ня

мела свайго Вэльфліна. Па думцы Левандоўскага, гэтыя асноўныя прынцыпы ўдасца занатаваць толькі тады, калі гісторыкі літаратуры ўжывуць мэтод *параўнаўчага* вывучэньня поэтычных твораў. Сам ён папрабаваў ужыць гэты мэтод параўнаўчага вывучэньня наступным чынам: ён сабраў 40 вершаў, апісваючых вечар. Вершы належалі розным эпохам, ахопліваючы два апошнія стагодзьдзі. Супастаўленьне гэтых вершаў і імкненьне занатаваць між імі розьніцу прывяло Левандоўскага да занатаваньня некаторых прынцыпаў поэтычнае формы, якія памагаюць даць параўнаўчую характарыстыку дасьледуемых твораў. Па думцы Левандоўскага, толькі мэтод параўнаньня поэтычных твораў дасьць магчымасьць адзначыць асаблівасьці поэтычнае формы ў дакладных навуковых тэрмінах і стварыць аб'яднаную асноўнымі прынцыпамі сынтэтычную гісторыю літаратуры. Аднак, усё гэта толькі нясьмелыя спробы. І належачае Вальцэлю параўнаньне гісторыі мастацтва з гісторыяй літаратуры не на карысьць апошняй захоўвае сваю сілу. Гэта заметна і па спробах марксысцкага вывучэньня літаратуры. У той час, як па гісторыі вобразнага мастацтва за апошнія годы зьявілася некалькі грунтоўных марксысцкіх прац (кніжкі Гаўзэнштэйна, Лю-Мэртэна і інш.), у галіне літаратуры ўжываньне гэтага мэтоду ня рухаецца наперад. Прычыну гэтага трэба шукаць у тым, што соцыялёгічнае дасьледаваньне літаратуры павінна апірацца на стылістычны аналіз, мэтодолёгія якога зьяўляецца ў немцаў, якія прывыклі к адцягненафілёзофскаму падыходу да літаратуры, ня вельмі даўно пастаўленым заданьнем.

IV

Поруч з імкненьнем знайсьці прынцыпы для вывучэньня мастацкага вершу ў цэлым, мы бачым у Нямеччыне таксама й цікавасьць да асобных бакоў поэтычнае формы, і паасобна да востра пастаўленага амаль скрозь пытаньня аб вершаскладаньні. З часу Опіца, айца нямецкае поэтыкі, вершаскладаньнем, уласьцівым нямецкай мове, лічыцца тонічнае вершаскладаньне. Сучасная поэтыка парушыла асновы, закладзеныя Опіцам. Поэта Э. Рэйнахэр вызначае існасьць тонічнай сыстэмы ў наступных 5 пунктах:

1. Тонічная тэорыя адрозьнівае толькі націскныя моцныя і ненаціскныя слабыя склады; яна зусім ня прымае пад увагу склады, якія маюць сярэднюю сілу гуку.

2. Гэтая тэорыя адыходзіць ад прэдпасылкі, што кожны склад або заўсёды націскны, або заўсёды ненаціскны.

3. Дзеля таго, што націскі выпадаюць на галосныя, то за зычнымі ў будове вершу гэтая тэорыя не прызнае ніякага значэньня.

4. Гэтая мэтрыка лічыцца толькі з цьвёрда вызначаным адзінствам. Яна лічыцца толькі з атомамі, якія групуе згодна азначаных правіл.

5. Гэта тэорыя ня высоўвае ніякага другога ідэалу рытмічнае дасканаласьці, апрача выкананьня вельмі аднастайных мэтрычных правіл.

Аўтар гэтых пяці пунктаў лічыць відавочным, што існуюць склады сярэдняй сілы гучэньня, што адзін і той-жа склад у вадным і тым-жа слове можа часам мець націск, а часам ня мець, што зычныя для разьвітага рытмічна слуху зьяўляюцца велічынёй, якую нельга абыходзіць, што пры атамістычным разглядзе элемэнтаў вершу губляецца пачуцьцё яго духоўнай каштоўнасьці. Лічачы тонічную тэорыю вершаскладаньня стараватай, Рэйнахэр адначасна прызнаецца, што калі-б яму давялося выкладаць вершаскладаньне, дык ён пачаў-бы з тонічнае тэорыі вершаскладаньня і вучыў-бы ёй практычна на прыкладах. Бо лепей,—кажа ён,—пачаць з вельмі вузкай тэорыі, але якая ўжо апіраецца на дасьледжаныя факты, чымся з вельмі шырокай тэорыі. У сьвеце,—кажа ён,—мусіць няма ніводнае вуліцы, якая-б вяла проста на ўсход ці на захад, ці на поўнач, ці на поўдзень. І ўсё-ж такі мы пачынаем вывучэньне прасторы з гэтых адвольных, невялікага ліку зусім азначатых кірункаў. Тэорыя тонічнага вершаскладаньня застаецца для Рэйнахэра тэй самай элемэнтарнай, хоць і грубаватай тэорыяй, якой трэба ўпаўне аўладаць паперш, чымся пераходзіць да больш складаных поглядаў. Мы разглядаем верш,—піша ён,—з двох стопняў: на ніжэйшым стопні мы стаім з Опіцам, на вышэйшым—мы ад яго адыходзім. Становячыся на гэты вышэйшы стопень, Рэйнахэр адзначае, што рух вершу знаходзіцца пад бязупынным уплывам так званага зьместу. Зьмест—гэта тое, у чым адбіваюцца нашае пачуцьцё і адносіны. На гэты зьмест у сваю чаргу ўплывае і мэтр. Вестка аб сьмерці, выказаная хорэямі, робіць іншае ўражаньне, чымся тая-ж вестка, выказаная анапэстамі. Усе элемэнты поэтычнага твору знаходзяцца ў жывым узаемадзеяньні, вывучэньне іх у іх асобнасьці ня мае сэнсу. У мастацтве кожная паасобнасьць атрымоўвае сваё значэньне толькі ў сваіх адносінах да цэлага. Ствараючы вершы, поэта павінен лічыцца з неабходнасьцю павольнага ці, наадварот, больш шпаркага іх чытаньня ў залежнасьці ад ахварбоўваючага іх пачуцьця і ў залежнасьці ад іх месца ў цэлым організьме мастацкага твору. Ён інакш упарадкуецца з галоснымі або зычнымі, у залежнасьці ад таго, ці зьвязан даны верш з паніжэньнем голасу або, наадварот, з выразнасьцю і цьвёрдасьцю яго вымаўленьня. Вялізны ўплыў на разьмер вершу маюць знакі прыпынку ў вершы, значэньні якіх да гэтых часоў яшчэ не дасьледжаны. З знакамі прыпынку зьвязана лёгічная будова вершу ў яго адносінах да цэлага, і гэта яго лёгічнае значэньне робіць мацнейшы ўплыў і на рытмічны рух.

## V

Адрозьніваючай рысай літаратурнае Нямеччыны здаўна зьяўляецца шырыня яе інтарэсаў. Вайна не зрабіла Нямеччыну з гэтага боку вузкашовіністычнай. Нямецкія мастакі-экспрэсыяністыя лічылі сваімі настаўнікамі французаў Сэзана, Гогэна, Пікасо, пісьменьнікі-экспрэсыяністыя стварылі культ Дастаеўскага. Колькасьць кніжок, брошур і артыкулаў,

прысьвечаных Дастаеўскаму ў эпоху разьвіцьця экспрэсыянізму, была гэткай вялікай, што ня ўступала літаратуры аб Гётэ. У даныя часы падрыхтоўваецца да друку кніга на тэму „Дастаеўскі ў нямецкай літаратуры“, якая мае на мэце абагуліць вывучэньне Дастаеўскага ў нямецкай літаратуры.

Наогул, калі ў галіне малярства немцы апошняе эпохі, ня гледзячы на політыку, працягвалі вучыцца ў французаў, то ў галіне літаратуры асаблівую цікавасьць выклікае Расія. Колькасьць кніг, перакладзеных з расійскае мовы, вялізна, хоць у якасных адносінах гэтыя пераклады ўступаюць перакладам з другіх Эўропэйскіх моў. У справе азнаямленьня немцаў з расійскай літаратурай вялікія заслугі мае памёршы ў мінулым годзе Аляксандар Эліасбэрг, жыхар Менску, які атрымаў у Менску сярэднюю асьвету і які большую частку свайго жыцьця правёў у Мюнхэне. А. Эліасбэрг памёр на 46 годзе свайго жыцьця.

У Нямеччыне мастацтва перакладу стаіць вельмі высока, і гэта тлумачыцца тым характэрным імкненьнем не замыкацца ў межах свае нацыянальнае літаратуры, якое робіць Нямеччыну ўсёўбіраючым у сябе асяродкам сусьветнага літаратурнага жыцьця.

## НОВЫЯ ПЛЫНІ Ў СУЧАСНАЙ МУЗЫЦЫ

**Ю. Дрэйзін**

Яшчэ да цяперашняга часу існуе вялікая розьніца паміж поглядамі на такія мастацтвы, як літаратура, малярства, разьбярства, будаўніцтва, з аднаго боку, і музыка—з другога. Існуе й вялікая розьніца ў адносінах людзей да першых і апошняга. Здаецца, што ўсе ўжо згодны з тым, што літаратура й вобразныя мастацтвы могуць адбіваць і сапраўды адбіваюць у сваіх творах сучасную ім эпоху, сучаснае ім жыцьцё з усімі яго імкненьнямі, думкамі, жаданьнямі, настроямі, дадатнымі бакамі й хібамі і нават з рэальнымі фактамі ці ў галіне быту, ці ў галіне грамадзкіх альбо палітычных адносін. І гэта зразумела, бо і літаратура і вобразныя мастацтвы опэруюць зразумелымі для ўсіх элемэнтамі сваіх твораў, літаратура—словамі й паняцьцямі, а вобразныя мастацтвы—вобразамі, бачнымі чалавечаму воку.

З музыкаю справа зусім іншая. Элемэнтам музыкі ёсьць гук, тон, нешта нябачнае, няўхвытнае, неазначанае. Прагучэў тон, пранёсься ў паветры й зьнік бясьсьледна. Музыка ёсьць мастацтва найменей зразумелае з усіх мастацтваў. Пытаньне аб тым, ці можа музыка што-небудзь выражаць альбо рысаваць, зьяўляецца і да цяперашняга часу неразьвязаным. Існуюць погляды, што музыка ня можа нічога ні рысаваць, ні выражаць, што гэта й не зьяўляецца і не павінна быць мэтаю музыкі. Музыка мае свае мэты, і гэтыя мэты чыста музыкальныя, тональныя; музыка мае сваё ўласнае хараство, і гэтае хараство ёсьць чыста музыкальнае, замкнёнае толькі ў тэй ці іншай комбінацыі таноў рознай вышыні, сілы і тэмбру. Яшчэ ў 1854 годзе выдатны венскі пісьменьнік і крытык Эдуард Ганелік надрукаваў вельмі цікавую кнігу Wom Musikalisch—Schönen, у якой ён праводзіў з вялікаю дасьціпнасьцю й ведаю справы гэтыя погляды. Ён раўнаваў музыку з будаўніцтвам. Музыка, яго зданьнем, ёсьць гукавае будаўніцтва і, як гукавае, будайніцтва плыннае, бягучае. „Калі нас,—пісаў Ганелік,—запытаюць, што можа быць выражана ўсім гэтым матэрыялам, то мы адкажам: музычныя думкі. Музычная думка, што цалкам зрабілася зьяўленьнем, ёсьць ужо нешта самастойнае, прыгожае; яна—мэта сама для сябе, але зусім ня сродак альбо матэрыял дзеля рысаваньня пачуцьцяў і думак. Зьмест музыкі—бягучыя гукавыя хвалі“. Раўнаваў Ганелік музыку й з калейдоскопам. „Кожны з нас у часы дзяцінства праўдападобна лю-

баваўся ігрою зьменных колераў і фігур калейдоскопу. Такі калейдоскоп, толькі на нязьмерна вышэйшай ідэальнейшай ступені, прадстаўляе музыка". Калі гэта так, то ясна, што музыка ня толькі ня мае мэты, але й ня можа адбіваць у сабе ніякіх бакоў сваёй эпохі.

Такіх поглядаў на зьмест музыкі могуць трымацца й людзі з агульным матэрыялістычным сьветапоглядам. Але вось, да такіх-жа поглядаў даходзяць людзі і зусім іншага настрою, людзі са сьветапоглядам ідэалістычнага характару. Музыка,—кажуць яны,—узьнікае з такіх глыбінь чалавечага духу, што яна ня мае ніякай сувязі з сучаснай ёй эпохаю. Яна адбівае ў сабе толькі асабісты настрой, асабістыя думкі, жаданьні, імкненьні творцы. Дый сапраўды, ці можа быць якая-небудзь сувязь паміж ноктурнам Шопэна і тымі палітычнымі ці грамадзкімі адносінамі, якія існавалі ў тыя часы, калі Шопэн тварыў гэты ноктурн? Альбо, што ёсьць супольнага паміж Карнавалем Шумана й барацьбою кляс у яго часы?

З такімі поглядамі на музыку трэба весьці няўстанную й рашачую барацьбу. Музыка ёсьць такі-ж продукт чалавечага гэнія, г. ё. такі-ж продукт працы чалавечых мазгоў і ўсёй яго нэрвовай сыстэмы, як і ўсе іншыя мастацтвы і ўсе навукі. Дзеля гэтага музыка падлягае ў сваім зьмесьце й формах і ў сваім разьвіцьці тым-жа гістарычным фактарам, якім падлягаюць і ўсе іншыя бакі чалавечага жыцьця.

Для нас ужо азбучнай ісьцінай зрабіўся той погляд, што падставаю гістарычнага разьвіцьця зьяўляецца экономіка. Усе іншыя бакі чалавечага жыцьця і продукты чалавечае дзейнасьці ёсьць толькі надбудовы на экономічнай падставе. Сярод гэтых надбудоў ёсьць і музыка. Можа быць, што музыка ёсьць найвышэйшая, найапошнейшая надбудова, але ўсё-ж такі надбудова і, значыцца, залежыць ад экономічнай падставы, а таксама ад тых надбудоў, якія беспасрэдна вынікаюць з экономічнай падставы і знаходзяцца паміж ёю і музыкай, г. ё. ад грамадзкіх і палітычных адносін. І ноктурн Шопэна, і ўся яго творчасьць ёсьць плач польскага арыстократа аб гібелі арыстократычнай Польшчы, Польшчы графаў Патоцкіх, князёў Радзівілаў і г. д. І Карнаваль Шумана ёсьць музыка, у якой адбіваецца рэволюцыйны настрой дробнай буржуазіі ў вялікую эпоху рэволюцыі 1848 году.

Музыка, як і ўсе іншыя мастацтвы, адбівае ў сабе эпоху з яе экономічнымі, грамадзкімі і палітычнымі адносінамі, з настроем, жаданьнямі, пачуцьцямі пануючай у гэтую эпоху клясы, з агульным станам жыцьцёвасьці й разьвіцьця альбо заняпаду. Аднак, на доказах правільнасьці гэтага погляду на музыку мы застанаўлівацца ня можам, бо тэма гэтага артыкулу іншая. Я хацеў толькі паказаць той пункт погляду, з якога трэба глядзець на музыку наогул і які дасьць нам магчымасьць зразумець сучасную музыку, яе зьмест, агульны характар і формы.

Апошнія два-тры дзесяцігодзьдзі перад агульна-эўропэйскай вайной былі эпохаю найвышэйшай ступені разьвіцьця капіталістычнай формы

гаспадаркі. Але, па закону дыалектычнага разьвіцьця „буржуазія сама сабе гатуе магільшчыка“ у асобе пролетарыяту. І ўсе супярэчнасьці капіталістычнага ладу дасягнулі найвышэйшага свайго выражэньня. З аднаго боку, бязьмежныя багацьці, з другога—убоства; з аднаго боку, пагоня за ўсё новымі й новымі раскашаваньнямі, з другога--голад і холад. Грамадзянства жыло на вулькане. Такі стан рэчаў адбіўся і ў пануючых настроях. Анархія вырабу адбілася ў анархіі настрояў, пачуцьцяў, імкненьняў. Мы бачым індывідуалізм,—гэтае дзіця капіталістычнага ладу, бачым, як ён дасягае зэніту ў творах апостола індывідуалізму, філёзофа Ніцшэ. Мы бачым няўпэўненасьць у заўтрашнім дні, нейкія неазначаныя ваганьні, страх, адсутнасьць спакою. Мы бачым расчараваньне ў жыцьці, у рэзультатах эўропэйскай культуры, шуканьне чагось новага, нуду жыцьця, taedium vitae. Мы бачым поўную адсутнасьць вышэйшых ідэалаў, мэт, здаровых імкненьняў. Мы бачым атэізм адных прадстаўнікоў капіталістычнай клясы, і ў той-жа час—містыцызм другіх.

Як-жа ўсё гэтае адбілася ў мастацтве наогул і ў музыцы паасобна? Капіталістычны лад хіліўся да свайго заняпаду, а разам з ладам—і яго пануючая кляса. Такая кляса ня можа разьвіваць мастацтва, бо яна ня мае ідэалаў; і дзеля таго ня можа даць мастацтву зьместу, неабходнага для яго разьвіцьця. І вось агалашаецца лёзунг: „Мастацтва дзеля мастацтва“, які сьведчыць толькі аб адсутнасьці ў буржуазным мастацтве апошняга часу зьместу. Такія выдатныя марксысцкія эстэтыкі, як Пляханаў і Луначарскі [1]) досыць выясьнілі, што лёзунг „мастацтва дзеля мастацтва“ ёсьць лёзунг заняпаднае клясы, якая ідзе да сваёй гібелі, якая ня мае ў сабе жыцьця й ня можа напоўніць гэтым жыцьцём свайго мастацтва. І вось мы бачым, як разьвіваюцца ўсё новыя й новыя формы мастацтва, бачым шалёную пагоню за гэтымі новымі формамі, бо новага зьместу няма, няма адкуль яго ўзяць. Гэта ёсьць адна з прычын і адзін з бакоў вядомага ўсім дэкадэнцтва й футурызму, і ўсіх нязьлічаных буйных і дробных кірункаў, што вынікаюць з футурызму і прылягаюць да яго. Шалёны ў сваёй шыбкасьці бег капіталістычнага разьвіцьця выклікнуў шалёны бег разьвіцьця мастацтва, але толькі яго формы, бо зьместу няма. Усё зрабілася дазволена, абы было новае: неазначаныя, расплыўчывыя рытмы, альбо й поўная адсутнасьць іх, нябывалыя, нячуваныя дагэтуль гармоніі, альбо поўная адсутнасьць іх, адсутнасьць зьмены кансонансаў і дысонансаў, што дагэтуль давала музыцы яе прыгожасьць. І ў той-жа час „я, мая асоба“ сярод усяго, „я“—цэнтр сьвету, мае пачуцьці, мае жаданьні—закон жыцьця, закон мастацтва. Адсюль імпрэсыянізм у малярстве, адсюль імпрэсыянізм у музыцы, на чале якога стаіць, можа быць, і генiяльны Дэбюссі. Запэўна, імкненьне да самаазначэньня асабістасьці ёсьць імкненьне законнае ў сваёй аснове, і імпрэсыянізм мае

[1]) Гл. Плеханов—Книга об искусстве. Луначарский—Искусство и революция.

ў сабе здаровае зярно, але толькі зярно. Яго-ж перавялічэньні, даведзеныя да крайніх граніц, ёсьць перавялічаны, даведзены да тых-жа крайніх граніц, але маючы ў сваёй аснове здаровае зярно, індывідуалізм. Побач з гэтым мы спасьцерагаем і іншыя цікавыя зьяўленьні. Расчараваньне ў капіталістычнай культуры, даведзенай да абсурду, выклікае свайго роду рэакцыю, кліч: назад, да старажытных часоў, да барбарызму. Можа быць гэты барбарызм дасьць нешта новае. Але й тут мы бачым перавялічэньне: з аднаго боку, мы назіраем крайнюю барбарызацыю, як выдумку амэрыканскага композытара Кауэльля, які вымысьліў новую ігру на фортэп'яне „лакцямі", з другога—містыцызм, на чале якога стаіць, можа быць, таксама гэніяльны Скрабін.

Анархія, крайні індывідуалізм, пагоня за новым дзеля новага, адсутнасьць зьместу і ідэалаў,—вось найболей характэрныя рысы і найболей характэрныя зьяўленьні мастацкага разьвіцьця апошніх часоў капіталістычнай эпохі.

Але канец яе пачаўся. Ударыў гром кастрычнікавай рэволюцыі, паблутаў усе карты, перавярнуў усё дагары сподам. Што было падсподам—высунулася ўгору, а што было ўгары—лягло падспод. Пануючаю зрабілася новая кляса, кляса пролетарыяту і працоўнага сялянства. Што-ж новага прынесла альбо павінна прынесьці з сабою вялікая рэволюцыя для мастацтва? Новы лад, новыя адносіны экономічныя, грамадзкія і політычныя павінны адбіцца ў мастацтве наогул і ў музыцы паасобку. Павінна нарадзіцца новая культура і, як частка яе, новая музыка. Якія рысы будуць галоўнейшымі рысамі гэтае новае культуры, гэтае новае музыкі? Ясна, што гэтыя рысы павінны быць поўнай процілегласьцю рысам культуры занядпадкай капіталістычнай эпохі. Замест анархіі—стройная організацыя, замест крайняга індывідуалізму—колектывізм у сувязі з поўным і ўсебаковым разьвіцьцём асабістасьці, замест пагоні за новым дзеля новага—утварэньне новае культуры, новае музыкі, патрэбнае для гэтага ўсебаковага разьвіцьця асабістасьці сярод колектыўнага жыцьця і працы, замест адсутнасьці зьместу і ідэалаў—новы бязьмежны ў сваім багацьці зьмест і новыя высокія ідэалы.

Але ці бачны ўжо гэты ўплыў рэволюцыі на сучасную музыку? Ці бачны ўжо ў музыцы рэзультаты вялікага перавароту?

Калі ў іншых мастацтвах, опэруючых элемэнтамі для ўсіх зразумелымі, у літаратуры, малярстве, разьбярстве, будаўніцтве (асабліва ў літаратуры) новы стан рэчаў ужо знашоў сваё адбіцьцё, хоць дагэтуль і не зьявілася яшчэ твораў адэкватных вялікасьці перавароту, то ў музыцы мы ня бачым яшчэ нічога падобнага. Музыку пераварот як быццам зусім не закрануў. Гэтае зьяўленьне, з першага погляду, дзіўнае, аднак, зусім натуральнае і зразумелае, бо мае шмат прычын.

Ужо даўно многія выдатныя тэорэтыкі марксызму, пачынаючы з самага Маркса, паказвалі, што надбудовы ня зьнікаюць адразу са зьнішчэнь-

нем і зьменаю экономічных асноў. Наадварот, яны існуюць і нават у сваю чаргу робяць уплыў на ўтварыўшыя іх прычыны. Да ліку такіх надбудоў належаць так званыя ідэолёгіі, да якіх адносіцца бязумоўна й музыка, якая адбівае ў сябе пануючы настрой грамадзянства і ў сваю чаргу зволька выклікаць гэты настрой у людзей сваім уплывам на іх пачуцьці. А „дзеля таго, што ідэолёгічная форма заўсёды мае пэўную нярухлівасьць, то, зразумела, політычны пераворот ня можа азначаць такога-ж момантальнага перавароту ідэолёгічнага" (Луначарский. Искусство и революцыя. Выд. „Новая Москва" 1924 г. Стр. 14). Калі гэта верна адносна да ўсіх форм ідэолёгіі наогул, то з музыкаю справа яшчэ горшая. Ужо неаднокраць гісторыкі музыкі заўважвалі, што музыка заўсёды спазьняецца ў сваім разьвіцьці і зьменах параўнальна з іншымі бакамі культуры. Галоўная прычына гэтага спазьненьня ёсьць неазначальнасьць музыкі, яе няўявытнасьць, труднасьць адбіць у бягучых і зьнікаючых гуках рэальныя і доўга існуючыя факты. Мы бачым гэтае, напрыклад, у гісторыі Вялікай Францускай Рэволюцыі, якая не ўтварыла ў галіне музыкі нічога адэкватна вялікага, і толькі ў канцы гэтае рэволюцыі, у эпоху консульства, г. ё. у эпоху поўнае рэакцыі, далёка ад Францыі жыўшы Бэтховэн, утварыў сваю гэніяльную гэроічную сымфонію.

Трэба мець на ўвазе і тую акалічнасьць, што ўсе композытары, творчасьць якіх прадстаўляла расійскую музыку да рэволюцыі, належаць да паміжклясавай групы інтэлігэнцыі. Ужо з 50-х гадоў XIX стагодзьдзя на першы плян у разьвіцьці грамадзкае мысьлі, у навуцы й мастацтве выступае грамадзкая група, якая вядома была пад назовай „разночинной интеллигенции". На месцы абшарнікаў-дваран Глінкі, Вярстоўскага зьяўляюцца, з аднаго боку, жыд па пахаджэньню А. Г. Рубінштэйн, з другога— сябры „новае рускае музычнае школы", гурток, вядомы пад назваю „могучая кучка" (Балакіраў, Мусоргскі, Кюі, Барадын, Рымскі-Карсакоў). А потым зьяўляюцца Чайкоўскі і Рымскі-Карсакоў, які аддзяліўся ад „магучай кучкі", і ў сваім музычным разьвіцьці пашоў іншым, уласным шляхам. Хоць Чайкоўскі і Рымскі па сваім пахаджэньні былі дваране, але абшарнікамі яны ніколі ня былі, і ў іх музыцы адбіліся настроі не дваран-абшарнікаў, але той-жа самай „разночинной интеллигенции". Сваёй творчасьцю яны зрабілі вялікі ўплыў на творчасьць усіх наступных расійскіх композытараў аж да цяперашнага часу. І ўсе расійскія композытары пасьля Чайкоўскага і Рымскага зьяўляюцца іх альбо пераймальнікамі, альбо эпігонамі.

Такімі-ж прадстаўнікамі „разночинной интеллигенции" зьяўляюцца і бадай што ўсе новыя маладыя расійскія композытары, выступіўшыя на шлях композытарскай дзейнасьці беспасрэдна перад рэволюцыяй, альбо ў часы рэволюцыі, Стравінскі, Пракоф'еў, Мяскоўскі, Раславец і інш. А інтэлігэнцыя, як вядома, сваімі гістарычнымі карэньнямі зьвязана з клясаю буржуазіі. Гэтым чынам цяперашнія музычныя дзеячы, якія працуюць

на композытарскім шляху, неразрыўна злучаны з мінулым у дзьвюх адносінах—грамадзкіх і музычных. І творчасьць іх носіць на сабе адбіцьцё клясавага пахаджэньня, з аднаго боку, і ўплыву Чайкоўскага-Рымскага— з другога.

Аб музыцы рачавіста рэволюцыйнай, аб музыцы „адэкватнай" рэволюцыі магчыма будзе гаварыць толькі тады, калі зьявіцца новая інтэлігэнцыя, інтэлігэнцыя рабоча-сялянская, узросшая й выхаваная сярод бур рэволюцыі і вышаўшая з нетр пролетарскае клясы. Новая пануючая кляса, узяўшая ўладу ў свае рукі,—кляса маладая. Яна да гэтага часу адарвана была ад навукі й мастацтва. Процэс прысваеньня ўсіх дасягненьняў чалавечай культуры—процэс павольны. Новая кляса нясе ў сабе валікія магчымасьці, і для мастацтва яна найперш за ўсё нясе вялікія ідэалы і вялікі зьмест. І ня можа быць сумненьня ў тым, што мы знаходзімся напярэдадні буйнага росквіту мастацтва, мастацтва нябачанага й нячуванага дагэтуль, мастацтва, якое будзе мець зусім новы зьмест і зусім новыя формы. І ўжо маюцца некаторыя адзнакі гэтага будучага мастацтва. Але іх мала, вельмі мала, і „ton, gui fait la musigue" робяць дагэтуль не пролетарскія композытары, а композытары, якія вышлі з нетр „разночинной интеллигенции".

Я ня буду зварочвацца да прароцтваў аб тым, як іменна, у якім кірунку будзе ісьці далейшае разьвіцьцё музыкі ў нас у СССР. Але перад тым, як перайсьці да характарыстыкі працы паасобных цяперашніх музычных дзеячоў, трэба адзначыць адну вельмі важную акалічнасьць. Адзін з сучасных музычных пісьменьнікаў (Сабанееў) піша: „Музыка, як і ўсякая праява чалавечае дзейнасьці, ёсьць галіна вырабу. Як і ва ўсіх іншых галінах, мы зацікаўлены тут у тым, каб пролетарскія масы *паступова, з бегам часу,* мелі тут найбольш кваліфікаваную, найбольш дасканалую тэхнічна продукцыю. Пасьлядоўны марксысты будзе заўсёды ворагам усякага саматужніцтва, усякага аматарства: яго стаўка—на вышэйшую кваліфікацыю, на вышэйшыя формы вырабу. Як у галіне прамысловасьці марксысты будзе прыхільнікам інтэнсіфікаваных форм вырабу, а ня дробнага саматужніцтва, так і ў галіне мастацтва" (Музыкальная культура № 1. Артыкул Сабанеева „Сучасная музыка", стр. 13).

Думка, выказаная Сабанеевым, зусім правіловая. І вынікі з гэтае думкі наступныя. Шмат стагодзьдзяў чалавецтва працавала над тэхнічнымі дасягненьнямі ў музыцы. Пад тэхнічнымі дасягненьнямі я разумею ня толькі тэхніку вырабу музычных інструмантаў і тэхніку ігры на іх, але й тыя законы, на якіх будуюцца музычныя творы, якія ў сваю чаргу заснованы на фізычных дасьледзінах законаў гуку, г. ё. музычная навука (тэорыя, гармонія, контрапункт і г. д.). На гэтых законах, на вывучэньні музычных навук, пабудавана ўся музыка да цяперашняга часу. Тыя композытары, якія, хочучы лічыцца новатарамі, адкідаюць з пагардаю старую гармонію і ўтвараюць новую, у гэтай сваёй пагардзе паступаюць няшчыра,

бо сваёй новай гармоніі яны не маглі-б утварыць, каб перад тым ня былі выхаваны і вытрэніраваны на старой, тым болей, што новыя гармоніі музычных новатараў апошніх часоў непараўнальна складнейшыя і непараўнальна меней зразумелыя для звычайнага слухача, чым старыя. Гэта ня значыць, што старая гармонія не павінна разьвівацца, а павінна вечна заставацца ў сваім нязьменным відзе. Яна разьвівалася, будзе разьвівацца, і былі часы, калі яе зусім ня было. Але гістарычнае разьвіцьцё йдзе дыалектычным шляхам. Ї ўсякая новая фаза ў гэтым разьвіцьці ўзьнікае з фазы папярэдняе. Гэткім чынам, тэхнічныя дасягненьні ў музыцы ня скора яшчэ зьнікнуць, а будуць толькі разьвівацца далей. А разам з гэтым ня скора зьнікне і пабудаваная на гэтых дасягненьнях старая музыка. А можа быць... можа быць яна й зусім ня зьнікне, бо на працягу стагодзьдзяў яна ўтварыла шмат прыгожага. Ї як у цяперашні час мы можам любавацца Вэнэрай Мілёскай альбо Аполёнам Бэльвэдэрскім, так і мы, і будучае чалавецтва будзе чэрпаць асалоду ў няўмірушчых творах Баха, Бэтховэна, Шумана, Вагнэра і г. д. побач з творамі новых часоў. Гэтую думку прыгожа выразіў проф. Кузьняцоў у сваёй прадмове да кнігі: „История русской музыкі в исследованиях и материалах“. Т. I: „Добрае ў старым—новае. Гэты пышны афорызм Мэндэльсона павінен стаяць на чале ўсякае гісторыі культуры, у тым ліку і гісторыі музычнае. Але з істотнаю папраўкай: старое—там, дзе яно не памірае, жыве ўжо не пастарому, але неяк іначай, у іншых, адноўленых формах. Романтыкі, паміж іх і Мэндэльсон, варочаліся да Сабастыяна Баха, але, варочаючыся, выцягалі з яго як быццам іншага Баха, болей складанага, болей патэтычнага, чым ён гучэў у пачатку XVIII стагодзьдзя. Так і старадаўнія нетры зямлі адчыняюць свае багацьці, каб даваць матэрыял для новага будаваньня жыцьця. Ніхто не адмаўляецца ад нафты толькі дзеля таго, што яна ўтварылася раней ад нас. Ня будзем-жа мы адмаўляцца і ад мастацкіх твораў—толькі дзеля таго, што яны нарадзіліся перад намі, адбілі іншыя ўмовы быцьця. Пазнаўшы іх і зашоўшы іх жыцьцяздольнымі, мы прымусім іх жыць іншым, нявыпрабаваным праз іх жыцьцём“.

Такім чынам, сучасная музыка ў СССР ёсьць у сваіх галоўнейшых зьяўленьнях працягам папярэдняга ходу яе разьвіцьця з некаторымі адзнакамі новае музыкі. У гэтым разьвіцьці мы зноў такі будзем адрозьніваць два бакі—тэхнічныя дасягненьні, разумеючы пад імі разьвіцьцё музычнае навукі, і музыку саму па сабе, музычныя творы. У гэтым парадку мы й будзем разглядаць, што робіцца ў цяперашнія часы ў галіне музыкі.

Найперш за ўсё зварачаюць на сябе ўвагу вынаходкі проф. Г. Конюса адносна да формы музычных твораў. Ужо болей чымся 25 год працуе проф. Конюс над проблемаю музычнае формы, над пытаньнем аб тым, ці падлягаюць формы музычных твораў якімсь нязьменным

законам. Ён аналізаваў каля 1000 музычных твораў з боку іх формы і прышоў да вельмі цікавых рэзультатаў.

Пытаньне аб музычнай форме ня новае, і проф. Конюс мае сваіх папярэднікаў. Калі склад музыкі, яе гармонія, заснованы на пэўных законах, калі з другога боку, музыка, як было ўжо гаворана ў пачатку гэтага артыкулу, ёсьць толькі продукт дзейнасьці нашых мазгоў, то і ўсе іншыя бакі яе, у тым ліку і форма музычных твораў, павінны падлягаць якім-небудзь законам. Інтуіцыйна некаторыя мысьліцелі заўважылі ўжо даўно гэтую акалічнасьць. З будаўніцтвам раўнавалі музыку ня толькі Ганелік, але й Гётэ і Шлегэль. Апошні называў музыку растаяўшым будаўніцтвам, а будаўніцтва—замерзлаю музыкаю. (Саккетти Л. Эстетика. Т. I стр. 289, пр. 6). І некаторыя законы будаўніцтва дарэчы могуць быць прыкладзены да музыкі, бо, як кажа вядомы музычны гісторык Саккетті, велічыня ў прасторы падобна да працяжнасьці ў часе. Паміж гэтых законаў існуюць законы сымэтрыі і пропорцыянальнасьці. Як праяўляецца сымэтрыя ў музыцы? Музычная фраза, складаючаяся з гукаў аднолькавае працяжнасьці, падобна па зробленаму праз яе ўражаньню да бачнага цалкам правіловага прадмету. Музычная фраза, якая дзеліцца на дзьве ўзаемнаадпавядаючыя палавіны, выяўляе гукавую сымэтрыю. Можна давесьці, што й закон пропорцыянальнасьці таксама дзее ў музыцы. Гэты закон магчыма прыблізна выразіць у наступных лікавых адносінах:

1 : 2 : 3 : 5 : 8 : 13 і г. д.

Першыя чатыры з гэтых лікаў паказваюць адносіны лікаў гукавых ваганьняў, складаючых мажорны акорд. У галіне ліній гэты закон пропорцыянальнасьці выяўляецца, як закон залатога сячэньня (aurea sectio). Залатое сячэньне дзеліць прадмет на дзьве часьці, з якіх меншая адносіцца да большай так, як большая да цэлай. Адольф Куляк паказаў, што лік тактаў, з якіх складаюцца часьці некаторых узоравых твораў Гайдна і Моцарта, знаходзіцца ў пропорцыянальных адносінах, альбо ў адносінах залатога сячэньня. Так, у першай часьці Allegro сымфоніі Моцарта „Юпітэр“ 120 тактаў, у другой 193, а цэлае складаецца з 313 тактаў. Adagio сымфоніі B-dur Бэтховэна дзеліцца на 40 і 64 такты, дзяленьне сымфоніі C-moll прадстаўляе ледзь нязначныя адхіленьні ад строгасьці закону (Саккетти. Эстетика. Т. I. Стр 256-257).

Проф. Конюс яшчэ не апублікаваў поўнасьцю свае дасьледваньні аб музычных формах. У часопісу „Музыкальная культура“, № 1, надрукаваны толькі вельмі кароткі конспэкт, альбо тэзісы яго тэорыі. Але наколькі магчыма бачыць з гэтага конспэкту, а таксама з полемікі паміж ім і Сабанеевым, надрукованай у 2 і 3 нумары „Музыкальнай Культуры“, тэорыя Конюса замыкаецца ў сваіх галоўных рысах у наступным.

Музычны твор ёсьць сапраўды гукавая будова, і музыка наогул, такім чынам, сапраўды падобна да будаўніцтва. Музычныя творы падлягаюць дзеля гэтага мераньню, але, разумеецца, не ў прасторы, а ў часе. І як

існуюць у прасторавых мераньнях так званыя каардынаты, так у музычных мераньнях існуюць часовыя каардынаты. Дзеля гэтага ўвесь свой мэтод праф. Конюс называе мэтра-тэктонічным. Музычны твор ёсьць „приведенный в звучание участок времени“. Адзінкаю мераньня ў музыцы зьяўляецца такт. З простых, звычайных тактаў складаюцца такты вышэйшага парадку. Гэтыя такты вышэйшага парадку ў адносінах свайго разьмяшчэньня падлягаюць адзінаму закону: закону адбітых велічынь. Гэты закон выяўляецца ў *простай* падобнасьці, напр.: двохтакт—трохтакт—чатырохтакт,—адбітак: двохтакт—трохтакт—чатырохтакт; у процілеглай падобнасьці: двохтакт—трохтакт—чатырохтакт,—адбітак: чатырохтакт—трохтакт—двохтакт; у мешанай падобнасьці: двохтакт—трохтакт—чатырохтакт,—адбітак: чатырохтакт—двохтакт—трохтакт; альбо: 2—3—4,—адбітак: 2—4—3 і т. д. Законамернасьць у адбіцьці велічынь ёсьць уласьцівасьць музыкі, органічна ёй належная. Прысутнасьць гэтае законамернасьці наглядаецца як у творы, узятым у яго цэласьці, так і ў любой найдрабнейшай паасобнай яго часьціне. Прынцып роўнавагі ляжыць, гэткім чынам, у аснове музычнага будаўніцтва. У кожным музычным творы маецца строга разьмеркаваная сыстэма мэтрычна-пульсуючых акцэнтаў, складаючая тэктонічны касьцяк яго. Гэты касьцяк музычнага організму пакрыты гукавым насьцілам. Расчляненьне музычнага твору павінна рабіцца выключна ў пунктах злучэньня яго паасобных частак, г. ё. тактаў вышэйшага парадку. Усякі музычны твор, ці народнае, ці індывідуальнае творчасьці, мае свае часовыя каардынаты, якія выяўляюць найсуровейшую суразьмернасьць яго частак. Вось у найагульнейшых рысах тэорыя праф. Конюса.

Калі думаеш аб гэтай тэорыі, то мімаволі зараз вынікаюць два пытаньні: 1) якую карысьць для музыкі прынясе з сабою гэтая тэорыя, калі нават яна правіловая? 2) ці ня зьнішчыць такая мэханічна-матэматычная тэорыя лёт творчай фантазіі композытара, усуне яго ў цесныя рамы мэханічна-матэматычных вылічэньняў, пераверне музыку з найпоэтычнейшага мастацтва ў сухую навуку? І гэтыя пытаньні зачапіў праф. Конюс і даў на іх адказ. Папершае, як-бы мы не разьвязалі пастаўленыя вышэй пытаньні, але, калі тэорыя праф. Конюса правіловая, калі яна выкладае сапраўды існуючыя ў музыцы законы прыроды, то змаганьне з ёю будзе бязумоўна дарэмнае, бо, як кажа сам праф. Конюс, „прынесеныя пазнаньнем новых ісьцін карысьці не патрабуюць тлумачэньняў, бо новыя ісьціны заўсёды адваёўваюць позыцыі, быўшыя раней пад уладаю аблуд“. А падругое, вынаходка праф. Конюса, калі яна правіловая, прынясе музыцы такую-ж карысьць, якую дае будаўніцтву веда законаў будаўніцтва і якую дае літаратуры веда законаў мовы, этымолёгіі і сынтаксу. І як веда законаў будаўніцтва ня зьвязвае лёту творчай фантазіі будаўнічага, як веда граматыкі ня зьвязвае свабоды творчасьці поэты ці пісьменьніка, так і веда новых законаў музыкі, законаў музычных форм, музычнага

будаўніцтва ня зьвяжа свабоднага лёту творчай фантазіі композытара. Тэорыя Конюса і ёсьць музычны сынтакс. І як Гомэр пісаў свае прыгожыя гэкзамэтры на дзіўнай старагрэцкай мове, ня ведаючы грэцкага сынтаксу, але мімаволі, інтуіцыйна, бесьсьвядома спаўняючы яго законы, так і вялікія композытары пісалі свае прыгожыя музычныя творы, ня ведаючы музычнага сынтаксу, але мімаволі, інтуіцыйна, бессьвядома спаўняючы яго законы. І як сынтакс мовы будуецца на дасьледваньнях фактычных зьяўленьняў гэтае мовы, так і проф. Конюс утварыў сваю тэорыю на дасьледваньнях і аналізе каля 1000 музычных твораў, ад Орлянда Лясо да нашых дзён, г. ё. ад XVI да XX стагодзьдзя ўключна. І пры сьвятле яго тэорыі, музычныя творы ня толькі нічога ня страцяць ад сваіх чараў, але „даўно знаёмыя творы музычнага будаўніцтва будуць зьзяць новым сьлепячым бляскам, і мы ў поўнай меры ўспрымем у сябе пранікаючы мастацкі твор эстэтызм“. Будзем чакаць зьяўленьня ў друку цікавае працы проф. Конюса, якая можа ўтварыць пераварот у музыцы й пачаць сабою новую эпоху ў музычным разьвіцьці.

Другое вельмі цікавае навуковае музычнае пытаньне, канчаткова яшчэ не разьвязанае, але зноў выплыўшае ў апошнія часы, ёсьць пытаньне аб сувязі паміж колерам і гукам. І гэтае пытаньне ня новае. Займаліся ім вучоныя яшчэ ў канцы XVIII і ў пачатку XIX стагодзьдзя. Вядома, што ў некаторых композытараў тоны былі злучаны з колерам, г. ё. ім ясна здавалася, што кожны тон мае такую ці іншую каляровую ахварбоўку. Такімі былі Бэрліоз, Ліст, Вагнэр, а ў Расіі—Рымскі-Корсакаў. У сваіх успамінах аб Рымскім-Корсакаве музычны пісьменьнік Ястрабцаў апавядае: „Я пазнаў адну вельмі цікавую акалічнасьць, што тыя ці іншыя тональнасьці, апрача іх чыста гукавой розьніцы, у суб'ектыўным прадстаўленьні Корсакава заўсёды малююцца ахварбаванымі ў той ці іншы колер альбо, праўдзівей, водцень таго ці іншага колеру, як, напр.: E-dur здаецца яму ахварбаваным у цёмна-сіні, шафіравы колер; H-dur мае характар яшчэ пахмурнейшы; гэта як-быццам цёмна-сіні са сталёвым альбо нават шэра-сьвінцовым адлівам. A-dur, наадварот, мае водцень ясную, веснавую, рожавую. D-dur—„гэта ўжо дзень“. F-dur—колер зялёны, а Cis-moll, мае водцень барвяную, троху злавесную, трагічную“ (В. В. Ястребцев. Мои воспоминания о Н. А. Римском-Корсакове. Вып. 1. Стр. 86). Аб сувязі паміж гукамі й колерамі ў прадстаўленьнях Р.-Корсакава Ястрабцаў апавядае і ў іншых мясцох сваіх цікавых успамінаў. Вядома таксама, што й композытар Скрабін цікавіўся пытаньнем аб сувязі паміж гукам і колерам і рабіў спробу ўвесьці „каляровую музыку“ ў сваім „Промэтэі“ (ёсьць у яго нават у партытуры радок Luce дзеля „каляровай музыкі“). Але пакуль гэтае пытаньне ня зробіцца прадметам настойлівых дасьледваньняў навукі, пакуль да разьвязваньня сувязі паміж гукам і колерам будуць ісьці шляхам інтуіцыі, нічога, напэўна, ня выйдзе. З вельмі цікавым артыкулам, чыста навуковым, выступіў па гэ-

тым пытаньні В. А. Дасманаў. Сутнасьць справы наступная (Музыкальная Новь. 1924 г. № 10).

Як вядома, спэктральная гама пачынаецца кармінна-чырвоным колерам з даўжынёю хвалі ў 760 мільмікронаў (мікрон=0,001 міліметра, мільмікрон=0,001 мікрона). Колеры далей ідуць у такім парадку: чырвоны, оранжавы, жоўты, зялёны, блакітны, сіні і фіялетавы. Даўжыня хвалі апошняга колеру—399 мільмікронаў. Такім чынам, „найніжэйшым“ колерам будзе кармінна-чырвоны, а „найвышэйшым“—фіялетавы. Але колеры ў спэктры пераходзяць бязупынна адзін у другі і дзеля гэтага дакладна мяжы (адносна да даўжыні хваль) паміж ім правесьці немагчыма. Атрымліваецца нешта падобнае да таго, што ў музыцы называюць „glissando“. Але прыблізна мы ўсё-ткі можам правесьці межы колераў. Такімі межамі будуць:

| | даўжыні хваль | |
|---|---|---|
| | ад | да |
| Кармінна-чырвоны . . . | 760 мільмікр. | 720 мільмікр. |
| Чырвоны . . . . | 729 „ | 680 „ |
| Оранжавы . . . . | 680 „ | 634 „ |
| Жоўты . . . . . | 634 „ | 572 „ |
| Зялёны . . . . . | 572 „ | 530 „ |
| Блакітны . . . . | 530 „ | 500 „ |
| Сіні . . . . . | 500 „ | 475 „ |
| Фіялетавы . . . . | 475 „ | 400 „ |

Цяпер возьмем гукавую гаму. Меркаю гуку ў акустыцы зьяўляецца нота la з лікам ваганьняў 435 у сэкунду. Адносіны паміж сумежнымі тонамі—1,12, а паміж паўтонамі—1,06. Ведаючы гэтае, мы можам напісаць лікі ваганьняў для гамы do-мажор у наступным відзе:

| | |
|---|---|
| Do . . . . . . . . | 272 ваганьняў. |
| Re . . . . . . . . | 308 „ |
| Mi . . . . . . . . | 344 „ |
| Fa . . . . . . . . | 362 „ |
| Sol . . . . . . . . | 398 „ |
| La . . . . . . . . | 435 „ |
| Si . . . . . . . . | 507 „ |
| Do . . . . . . . . | 544 „ |

Мы можам выразіць гукавую гаму таксама і ў даўжынях хваль, карыстаючыся формулаю:

$$l = \frac{c}{n},$$

дзе l—даўжыня хвалі, c—шыбкасьць ваганьня, а n—лік ваганьняў у сэкунду. Шпаркасьць гуку азначана Гэльмгольцам і раўняецца 33.000 сан-

тымэтраў, лік ваганьняў для кожнага тону do-мажорнае гамы нам вядомы і загэтым нам лёгка знайсьці даўжыні хваль для першае актавы. Яны будуць наступныя:

| | | |
|---|---|---|
| $Do^1$ | 1350 | сант. |
| $Re^1$ | 1206 | „ |
| $Mi^1$ | 1082 | „ |
| $Fa^1$ | 1020 | „ |
| $Sol^1$ | 886 | „ |
| $La^1$ | 758 | „ |
| $Si^1$ | 696 | „ |
| $Do^2$ | 665 | „ |

Калі цяпер мы возьмем для кармінна-чырвонага колеру даўжынёю хвалі 758 мільмікронаў, для чырвонага—696 і для оранжавага—665, што ня будзе пярэчыць нашай першай табліцы, дык убачым, што кармінна-чырвонаму колеру адпавядае нота $la^1$, чырвонаму—$si^1$ і оранжаваму—$do^2$, бо даўжыні іх хваль будуць адносіцца паміж сабою, як $\frac{758 \text{ мільмікр.}}{758 \text{ сант.}} = \frac{1}{10.000.000}$. Калі-ж мы напішам гаму la-minor натуральную, пачынаючы ад $la^1$ і канчаючы $la^2$, то адпаведнасьць будзе і ў іншых нотах:

| Тоны | Даўжыня хваль | Колеры | Даўжыня хваль |
|---|---|---|---|
| $la^1$ | 758 сант. | К.-ч. | 758 мільмікр. |
| $si^1$ | 696 „ | Ч. | 696 „ |
| $do^2$ | 665 „ | О. | 665 „ |
| $re^2$ | 603 „ | Ж. | 603 „ |
| $mi^2$ | 541 „ | З. | 541 „ |
| $fa^2$ | 510 „ | Б. | 510 „ |
| $sol^2$ | 443 „ | С. | 443 „ |
| $sol\#^2$ | 411 „ | Ф. | 411 „ |

Такім чынам, спэктральная гама адпавядае гаме la-minor гармонічнай, калі выключыць сіні колер, г. ё. $sol^2$, альбо la-min. натуральнай, калі выключыць фіялетавы колер, г. ё. $sol\#^2$. Але мы маем яшчэ адзін асноўны колер, якога няма сярод колераў спэктру, гэта—пурпуравы. Даўжыня яго хвалі прыблізна 379 мільмікр. Гэта й будзе тое $la^2$, якого нам не хапала да поўнае октавы. Далей, мы можам знайсьці даўжыню хваль і для поўтонаў як гукавой, так і спэктральнай гамы. Поўтоны ў апошняй будуць цёмна-чырвоны паміж кармінна-чырвоным і чырвоным (729 мільмікр.) цёмна-жоўты (634 мільмікр.) паміж оранжавым і жоўтым, жоўта-зялёны (572 мільмікр.) паміж жоўтым і зялёным, цёмна-блакітны (475) паміж

блакітным і сінім; фіялетавы колер відавочна будзе поўтонам паміж сінім і пурпуравым. О ўся хроматычная гама будзе мець наступны від:

| Колеры | К.-ч. | Ц.-ч. | Ч. | О. | Ц.-ж. | Ж. | Ж.-з. | З. | Б. | Ц.-б. | С. | Ф. | П. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Даўж. хваль | 758 | 729 | 696 | 665 | 634 | 603 | 572 | 541 | 510 | 475 | 443 | 411 | 379 | міль-мікр. |
| Гукі . . | la$^{1}$ | si.$^{1}$ | si $\natural^{1}$ | do$^{2}$ | do $\sharp^{2}$ | re$^{2}$ | re $\sharp^{2}$ | mi$^{2}$ | fa$^{2}$ | fa $\sharp^{2}$ | sol$^{2}$ | sol $\sharp^{2}$ | la$^{2}$ | |
| Даўж. хваль | 758 | 729 | 696 | 665 | 634 | 603 | 572 | 541 | 510 | 475 | 443 | 411 | 379 | сэнт. |

Усё гэта вельмі цікавыя вылічэньні, але які іх рэальны вынік і як фізычна магчыма вытлумачыць зьяўленьне сынопсіі, г. ё. каляровага слуху, альбо злучэньня ў прадстаўленьні гука з колерам? Дасманаў прапануе наступную гіпотэзу.

Як вядома з акустыкі, пры гучэньні якога-небузь цела, на фоне асноўнага ваганьня робіцца яшчэ цэлы рад іншых слабейшых ваганьняў, якія выклікаюць адначасна з асноўным тонам рад прыгукаў, маючых назву обэртонаў. Гэльмгольцу з дапамогаю яго рэзонатараў удалося чуць да 16 обэртонаў, лікі ваганьняў якіх адносяцца да асноўнага ваганьня N, як 2 N, 3 N, 4 N..... 16 N, і, значыцца, даўжыні іх хваль адносяцца да даўжыні асноўнае хвалі „1“, як $\frac{1}{2}$, $\frac{1}{3}$, $\frac{1}{4}$......$\frac{1}{16}$. Але ці значыць гэтае, што на 16 обэртоне ўсё і скончыцца? Па закону захаваньня энэргіі гэтага не павінна быць, і обэртоны павінны пайсьці далей. Зьяўляюцца обэртоны з даўжынёю хвалі $\frac{1}{17}$, $\frac{1}{18}$... і г. д., яны робяцца такімі маленькімі, што выходзяць з граніц гуку і выклікаюць ваганьні ўжо ў эфіры. Урэшце $\frac{1}{10.000.000}$ выклікае ўжо ваганьне каляровае, якое адпавядае данаму гукавому. Гэткім чынам, сынаптычны колер ёсьць, хоць і вельмі далёкі, але ўсё-ткі обэртон адпаведнага гуку, які хоць і слаба, але ўсё-ж такі раздражняе сеткавіцу нашага вока і гэтым выклікае слабае адчуваньне данага колеру.

Калі мы будзем ужываць каляровыя ваганьні, як мастацтва без вобразаў, дык будзем мець тое, што цяпер называюць каляроваю музыкаю. З колераў магчыма весьці мэлёдыю, браць акорды і г. д. Калі каляровая музыка будзе адначасна з гукавою, як гэта й думаў Скрабін, то магчыма будзе даны колер падстроіць да данага гуку, і тады каляровая музыка будзе йсьці згодна з гукавою. Але як гэтае ажыцьцявіць практычна, Дасманаў пакуль што ня кажа і толькі абяцае агаласіць у недалёкай будучыне.

Будзем чакаць. Зьяўленьне сынопсіі ёсьць рэальны факт, і дзеля гэтага проблема сувязі паміж колерам і гукам ёсьць вельмі важная й цікавая проблема. Развязана яна можа быць толькі шляхам навукі, і калі

яна сапраўды будзе канчаткова разьвязана, то перад намі адчыняцца зусім новыя і вельмі шырокія пэрспэктывы новага мастацтва.

Я ня буду доўга затрымоўвацца над „рэформаю", якую прапануе ўвесьці ў музыку А. Аўраамаў. Гэтая рэформа належыць да таго, што я называў „новае дзеля новага". У першым нумары „Музыкальнае культуры" Аўраамаў выступіў з вельмі прэтэнцыозным, але й вельмі туманным і няясным артыкулам аб сваёй рэформе. „Низвержение существующего строя" ў музыцы ўжо пачалося, так пачынае свой артыкул Аўраамаў, і гэтае „низвержение" робіць ён, Аўраамаў. Сутнасьць справы ў тым, што роўнамерная тэмпэрацыя музычных інструмантаў (асабліва фортэп'яна), уведзеная І. С. Бахам, павінна быць зьніштожана і на яе месца ўведзена тэмпэрацыя няроўнамерная [1]). Зданьнем Аўраамава Бах сваёю тэмпэрацыяй і канчатковаю ўстановаю тональнасьцяй мажору й мінору зьвязаў разьвіцьцё музыкі на 200 год, а ён, Аўраамаў, гэтыя ланцугі цяпер разьвязвае. Але справа стаіць якраз наадварот: не тэмпэрацыя Баха ўтварыла мажор і мінор, а існаваньне мажору й мінору перад Бахам зрабіла неабходнасьць тэмпэрацыі. Мажор і мінор існуюць ужо ў творах Орлянда Ляссо й Палестрыны, і выніклі яны з народнае песьні. Нават славутая сярэднявяковая песьня L'homme armè мае ясна выражаны f-dur. Аўраамаў сваю „рэформу" прыкрывае... Марксам і прыводзіць яго словы: усякае зьяўленьне дзеяньнем уласных сіл зварочваецца ў сваю процілегласьць. Адсюль і вынік: роўнамерная тэмпэрацыя павінна зьвярнуцца ў няроўнамерную альбо ў адсутнасьць усякай тэмпэрацыі, (калі гэта магчыма). Калі з слоў Маркса магчыма рабіць такія вынікі, то магчыма зрабіць і такі вынік: здаровы сэнс з бегам часу павінен зьвярнуцца ў адсутнасьць усякага сэнсу. Але, урэшце, будзем і тут чакаць. Аўраамаў робіць „опыты" з дзяржаўным оркестрам старажытных рускіх інструмантаў, а таксама з духавымі інструмантамі ваеннага й сымфонічнага оркестраў і з фортэп'янавым ансамблем. Будзем чакаць яго, як ён кажа, „ультрахроматычнай" музыкі.

---

[1]) „Калі йсьці ўперад па зусім чыстым квартам, па вялікім ці малым тэрцыям і т. п., дык ніколі немагчыма дасягнуць октавы першага, выходнага тону; наадварот, кожная з наступных квінт, кварт, тэрцый адсоўвае нас ад гэтага выходнага тону. Для музычнай практыкі неабходны тыя адхіленьні ад першапачатковае чыстаты інтэрвалаў, зьмены чыстага квінтовага азначэньня, якія й называюцца тэмпэратурамі. Тэмпэруючы строй фортэп'яна, трэба зьніжаць некаторыя інтэрвалы, іншыя-ж—падвышаць супроць іх натуральнае чыстаты. Немагчыма крануць толькі октаву, бо нашае вуха ня зносіць ні малейшай яе зьмены. З усіх дагэтуль устаноўленых і наогул магчымых тэмпэратур найлепшая, здаецца, ёсьць, так званая, уроўнаважана-роўнамерная, цяпер агульнаўжываная. Па ёй октава дзеліцца на 12 зусім роўных часьцін. Няроўнамерная тэмпэратура зрабілася цяпер успамінаньнем далёкага былога. Як сьведчаць старыя тэорэтыкі—Марпург, Гэйніхэн і інш.,—некаторыя тональнасьці (напр., h-dur, as-dur, cis-dur) бадай што зусім ня ўжываліся да Баха". Гл. Геника.—„Очерки истории музыки". Т. 1. Стр. 120-121, Гл. таксама Риман.—Музыкальный словарь. Артыкулы. Определение тонов и темперация.

Што тычыцца працуючых у цяперашнія часы новых композытараў, я буду гаварыць толькі аб галоўнейшых з іх, якія даюць „ton, qui fait la musique“, а іменна, аб Стравінскім, Пракоф‘еве, Мяскоўскім і Раслаўцу.

Усе гэтыя композытары, пры ўсім сваім новатарстве, пры ўсёй сваёй орыгінальнасьці і бязумоўнай талентнасьці і самастойнасьці, выяўляюць уплыў на іх творчасьць папярэдніх композытараў. У адных выпадках чуецца ўплыў Чайкоўскага, у іншых Мусоргскага і Рымскага-Корсакава, а з заходніх—Шумана, Вагнэра, Дэбюссі і скандынаваў—Грыга й Зындынга. Наадварот, уплыву грамадзянскіх і палітычных здарэньняў, якія ад быліся ў апошнія 7-8 год на абшары былой Расіі, у творчасьці названых композытараў, як ужо гаворана было вышэй, яшчэ ня чуецца, апроч Раслаўца. Калі мы й бачым часам імкненьне да монумэнтальнасьці, вялізарнасьці, то гэтае імкненьне немагчыма яшчэ аднесьці на рахунак уплыву новых грамадзянскіх і палітычных адносін, бо такія імкненьні існавалі ўжо даўно, і мы можам паказаць шмат монумэнтальных і вялізарных твораў у папярэднія ня толькі дзесяцёхгодзьдзі, але й стагодзьдзі (некаторыя творы Вагнэра, Бэрліоза, Бэтховэна, нават старога І. С. Баха, нават композытараў XVI стаг.—Орлянда Ляссо і Палестрыны).

Ігар Стравінскі працуе, галоўным чынам, у Францыі, дзе ён, яго заданьнем, відавочна знаходзіць лепшыя ўмовы і лепшую глебу дзеля сваёй працы. Але ў большасьці сваіх твораў ён застаецца рускім нацыяналістым ужо па сюжэтах гэтых твораў. Галоўнымі творамі Стравінскага зьяўляюцца сцэнічныя творы, балеты „Жар-птица“, „Петрушка“, хорэодрама „Весна священная“. Апроч таго, Стравінскі напісаў шмат оркестравых рэчаў, романсаў, хораў. Ува ўсёй сваёй творчасьці Стравінскі выяўляе ўплыў двох майстроў: Мусоргскага і Рымскага-Корсакава, у якога ён і вучыўся (кароткі жыцьцяпіс Стравінскага можна знайсьці ў „Русской музыкальной газете“, 1913 г., № 3. Артыкул аб Стравінскім Б. Тюнеева). З прычыны гэтых двох уплываў і кідаюцца ў вочы, найперш за ўсё, два бакі ў творчасьці Стравінскага: праўдзівасьць, шчырасьць музычнай мовы, рэалізм, які часам сваёю бязьлітасьцю надае страх слухачу (Мусоргскі), майстэрства, яснасьць музычнага малюнку, багацьце гармоніі, надзвычайна мастацкая оркестроўка (Рымскі-Корсакаў). Нястрыманы лёт творчай фантазіі Стравінскага ў яго балетах-байках, і тут композытар разгортвае ўсё сваё майстэрства і ўмее на сваёй гукавай палітры знаходзіць хварбы, якія адпавядаюць поэтычнасьці і фантастычнасьці сюжэту, у чым быў такі майстар і яго настаўнік Рымскі. А часам композытар хоча йграць, бавіцца сваім гукавым майстэрствам і піша оркестравую фантазію „Фейерверк“ (дзеля якойсь урачыстасьці ў сям‘і Рымскага), у якой дае такія надзвычайныя злучэньні оркестравых хварб, што за гэтым творам так і засталася назова „піротэхнічнага“. Орыгінальны сюжэт хорэодрамы „Весна священная“. Аўтар выводзіць на сцэну старадаўніх славян

яшчэ прадгістарычнай эпохі, эпохі поўнае ўлады пантэістычнага паганства, эпохі поўбарбарства, калі чалавек ёсьць яшчэ частка прыроды і адчувае гэтую сваю сувязь, сваё злучэньне з прыродаю, з зямлёю. І да такога зьместу, які яшчэ ніколі не апрацоўваўся ў музыцы, композытар утварыў адпаведную музыку, музыку ляпідарную, цяжкую, якая робіць на слухача вельмі моцнае ўражаньне. Але гэтая музыка ня ёсьць тым зьвярненьнем да барбарства ў музыцы, аб якім я гаварыў вышэй. Каб утварыць такую музыку, як „Весна священная“, трэба быць поўным гаспадаром у краіне гармоніі і оркестравых хварб і ня толькі быць гаспадаром, але й карыстацца сваім майстэрствам. Стравінскі, аднак, не адкрывае новых шляхаў у музыцы, ён выкарыстоўвае толькі тое, што было зроблена яго папярэднікамі, але выяўляе пры гэтым вялікую талентнасьць і поўную самастойнасьць. Трэба адзначыць, што Стравінскі мае цяпер усяго 42 гады. Талент яго знаходзіцца ў стане поўнага росквіту і дзеля гэтага ад яго магчыма чакаць яшчэ шмат першарадных твораў[1]).

Уплыў Стравінскага адчуваецца на творчасьці другога з цяперяшніх композытараў, Пракоф‘ева, які разам з Стравінскім усё больш і больш заваёўвае сымпатыі ў заходняй Эўропе[2]), і ён, як і Стравінскі, у поўнай меры ўладае ўсімі сродкамі музычнага выражэньня, і ён—поўны гаспадар у краіне гармоніі і оркестравых хварб. Гэта надзвычайна талентны композытар, якога некаторыя называюць нават гэніяльным. Працуе ён пераважна ў галіне інструмантальнай музыкі (сымфоніі, фортэп‘янавыя і скрыпічныя концэрты, „Сарказмы“, „Мимолетности“, фортэп‘янавыя сонаты і шмат інш.). Што найболей паражае ў яго творчасьці—гэта здароўе, якое адчуваецца ў кожнай ноце яго твораў. Пракоф‘еў любіць жыцьцё, у яго няма й ценю расслабленьня, нуды й расчараваньня ў жыцьці, як водгукаў настрою апошніх год трухлеючага капіталістычнага ладу. З гэтага пункту погляду можа быць і правы Жыляеў (гл. яго арт. у цытаваным ужо сборніку проф. Кузнецова—История русской музыкі), што ў творчасьці Пракоф‘ева адбіваецца нашая вялікая эпоха, патрабуючая ад чалавека такога здароўя, такой жыцьцёвасьці, бадзёрасьці і веры ў сябе й чалавека наогул. І які гэта поэта гукаў! Бесканцова прыгожы ў сваім лёце музычных фантазій, ён ня ведае тэхнічных труднасьцяй і як быццам іграе гукамі. Так, ён любіць жыцьцё, любіць яго барацьбу, любіць чалавека й верыць у яго і адчувае ў сабе частку гэтай аграмаднай жыцьцёвай колектыўнасьці, якую можна назваць прыродаю ў найвышэй-

---

[1]) Да такіх першарадных твораў Стравінскага можна аднесьці яго апошні балет „Свадебка“, у якім увесь оркестр складаецца з чатырох фортэп‘янаў і ўдарных інструмантаў (ксылёфон, літаўры, антычныя цымбалы і інш.) і які тым ня меней робіць аграмаднае ўражаньне, як сьведчыць францускі музычны крытык Roland Manuel (Гл. „Современная музыка“, сакавік 1924 г.).

[2]) Гл. адозвы аб яго творы „Семеро их“ у францускіх газэтах.—„Современная музыка“, 1924 г. № 6 стр. 120-121).

шым і найагульнейшым сэнсе гэтага слова, прыродаю, у якой дзеюць стыхыйныя сілы. І як Стравінскі, Пракоф'еў жадае зьвярнуцца да гэтых стыхійных сіл. І ён сапраўды зварочваецца да іх і, як і Стравінскі, піша балет з сюжэтам з жыцьця скіфаў—„Ала“ і „Лольлий“, дзе зноў мы маем першабытную эпоху, калі чалавек ёсьць толькі частка прыроды, калі дзейнасьць стыхыйных сіл прыроды ня спыняецца й не зьмяняецца сродкамі штучнае цывілізацыі.

Якія-ж чыста музычныя ўплывы выяўляюцца ў творчасьці Пракоф'ева? Мне здаецца, што, апроч Стравінскага, найболей ясна адчуваюцца ўплывы, з аднаго боку, Мусоргскага, з другога—скандынаваў Грыга й Зындыча. Трэба адзначыць у творах Пракоф'ева надзвычайна мастацкую тэматычную распрацоўку, у чым немагчыма ня бачыць уплыву Бэтховэна. Некаторыя гатовы назваць яго нават нэо-клясыкам. Часам спатыкаецца і ўплыў Чайкоўскага, асабліва ў мэлёдычных зваротах. Але ўсе гэтыя ўплывы ніколькі не зьмяншаюць самабытнасьці й сілы творчасьці Пракоф'ева. Гэтая самабытнасьць і сіла, у злучэньні з гэніяльным майстэрствам у галіне гармоніі, оркестроўкі і музычнае формы,—вось галоўныя рысы, у якіх прадстаўляецца нам гэты выдатны, а можа быць і найвыдатнейшы композытар нашага часу. Ён яшчэ малады, мае толькі 35 год, талент яго яшчэ не дашоў да поўнага свайго росквіту, і многа, вельмі многа магчыма чакаць ад яго ў будучыне. Але ўжо й цяпер адчуваецца, што ў асобе Пракоф'ева мы маем вялікага композытара сучаснасьці, і не дарэмна наш Беларускі дзяржаўны музычны тэхнікум свой гістарычны цыкль камэрных концэртаў скончыў прыгожым скрыпічным концэртам Пракоф'ева.

Мяскоўскі, профэсар Маскоўскае консэрваторыі, композытар пераважна сымфонічны, хоць ёсьць у яго і творы ў іншых формах інструмантальнае музыкі, а таксама і для пяяньня. Калі думаеш аб музыцы Мяскоўскага, хочацца паставіць пытаньне: якую музыку трэба называць сучаснаю, ці тую, якая толькі ўтвараецца ў цяперашні час, безадносна да яе зьместу, ці тую, якая адпавядае настроям цяперашняга часу, адбівае ў сябе пануючыя імкненьні эпохі, альбо, калі гэтага няма, то прынамсі не супярэчыць рэзка гэтым настроям і імкненьням. Здаецца, што сучаснаю музыкаю правільней было-б называць музыку апошняга роду. З гэтага пункту погляду музыка Мяскоўскага, пры ўсёй яе талентнасьці і цікавасьці, музыка ня сучасная, а музыка ўміраючай на нашых вачох эпохі, і, калі я ўспамінаю аб ёй, дык дзеля таго, што творы Мяскоўскага карыстаюцца вялікім посьпехам сярод тых музычных і грамадзянскіх кругоў, якія робіць музычнае „общественное мнение“. Мяскоўскі ў сваёй творчасьці—крайні індывідуалісты. Яго асабістасьць, яе перажываньні, часам поўныя трагізму, адзіноцтва гэтай асабістасьці і бязупынны самааналіз у гэтым адзіноцтве,—вось альфа і омэга творчасьці Мяскоўскага. Можа быць гэты самааналіз гэніяльны, можа быць у разуменьні сваёй псыхо-

лёгіі Мяскоўскі, як кажуць некаторыя, роўны Дастаеўскаму, можа быць гэты самааналіз вельмі цікавы з псыхолёгічнага пункту погляду, але ўсё гэтае ня сучаснае. Калі Мяскоўскі зьвяртаецца да знадворнага, акружаючага яго сьвету, то толькі дзеля таго, каб адзначыць свае адносіны да яго, а сам па сабе гэты акружаючы яго сьвет яго ня цікавіць. Відавочна (бо Мяскоўскі бязумоўна шчыры ў сваіх творах, і гэтая шчырасьць адчуваецца бадай-што ў кожнай яго ноце), Мяскоўскі перажыў, а можа быць і перажывае яшчэ й цяпер нейкую ўнутраную барацьбу. А рэзультат гэтае барацьбы і рэзультат адзіноцтва асабістасьці зусім смутны: у цэнтры жыцьця—сьмерць, сьмерць—аснова жыцьця, жыцьцё адных вынікае з сьмерці іншых, і найважнейшаю проблемаю людзтва ёсьць не проблема жыцьця, не будаўніцтва жыцьця, а проблема сьмерці. Гэтая проблема, гэтае праклятае пытаньне Мяскоўскі ілюструе сярэднявяковаю тэмаю царкоўнай песьні Dies irae, якая вельмі часта спатыкаецца і распрацоўваецца ў творах Мяскоўскага. З чыста музычнага боку Мяскоўскі ўладае ўсім тым, што патрабуецца для выдатнага композытара: правільнасьць формы, орыгінальная гармонізацыя і оркестроўка (хоць далёка й не такая орыгінальная, як у Пракоф'ева і Стравінскага). Але гэты композытар меней зразумелы, чым Пракоф'еў і Стравінскі. Дзеля чаго? Адказ адзін: калі Пракоф'еў і Стравінскі мала адбіваюць альбо й зусім не адбіваюць у сваёй творчасьці эпоху, то затое яны й не супярэчаць ёй, а Мяскоўскі сваім крайнім індывідуалізмам супярэчыць, і дзеля гэтага, як чужы для нас цяпер Ніцшэ са сваім індывідуалізмам, так будзе чужы й Мяскоўскі. Вось дзеля чаго музыка Пракоф'ева і Стравінскага болей зразумелая для сучаснага слухача, чым музыка Мяскоўскага, хоць першая і болей складаная, чым другая. Надбудовы на экономічнай падставе выяўляюць сваю сілу...

На творчасьці Раслаўца я хацеў-бы затрымацца даўжэй, чым на творчасьці папярэдніх композытараў,—і гэта дзеля таго, што ў творчасьці Раслаўца мы, можа быць, маем музыку будучага, маем, можа быць, адбіцьцё, якое пачынаецца ў музыцы новае эпохі грамадзянскага жыцьця. Яно толькі пачынаецца, гэтае адбіцьцё, але й новая эпоха таксама толькі пачынаецца, і мы жывем толькі ў пераходным пэрыодзе паміж старым і новым. Аб музыцы Раслаўца існуюць розныя зданьні,—адны яе выхваляюць, другія шалёна лаюць, але індыфэрэнтных няма, і гэтая акалічнасьць ужо сьведчыць аб многім. Музыка Раслаўца можа быць названа зусім новаю, але ня ў тым сэнсе, у якім мы называем новаю музыку Стравінскага, Пракоф'ева і Мяскоўскага. Музыка Раслаўца заснована на новых законах „музычных гучэньняў“, на новай організацыі гармоніі. І гэтыя новыя законы праводзяцца ў музыцы Раслаўца з „жалезнай“ няўмольнасьцю. У яго музыцы няма і цені анархіі, а ёсьць поўная і суровая організаванасьць. Якія-ж гэта новыя музычныя законы? Каб лепей зразумець, у чым тут справа, аддадзім лепей слова самому Раслаўцу і

паслухаем, як ён сам гаворыць аб сваіх музычных імкненьнях. Вось яго музычнае credo.

„Уперад ад сучаснае гукавое анархіі імпрэсыянізму і экспрэсыянізму, якая зацягнула музычнае мастацтва ў тупік, уперад да творчага шуканьня і сьвядомасьці новых законаў музычнага мысьленьня, новай гукавой лёгікі, новай, яснай і дакладанай, сыстэмы арганізацыі гуку. Гэта не рахітычны „нэо-клясыцызм“, які ціха сьсе дзьвюх матак—„учора“ і „сёньня“,—спрабоўваючы, гэткім чынам, знайсьці „сынтэз мінулага з цяперашнім“. Гэта таксама не „барбарызм“ эўропэйскае музыкі, апісьваючы прызначаны круг ад Дэбюссі да мурына. Гэта новая й сталая сыстэма новага гукапогляду і гукаўспрыманьня, узрастаючая на глебе новага адчуваньня і ўспрыманьня сьвету, народжаная новаю эпохай. Дзеля ўзгадаванай ідэалістычнаю эстэтыкаю анархіі ўсе гэтыя словы—сыстэма, дакладнасьць, арганізацыя—запэўна „жупелы“. У сваім сьляпым блуканьні па цёмных нетрах „ітуіцыі“ і іншага „трансцэндэнталізму“ гэтая эстэтыка зусім забылася на тую простую і ясную для ўсіх відушчых ісьціну, што толькі на грунце якой-небудзь сыстэмы, пляну, прынцыпу і можа разьвіцца наогул нешта органічнае, а тым больш праўдзівае, моцнае, здаровае мастацтва. Усё клясычнае музычнае мастацтва магло ўзрасьці і ўзрасло толькі на грунце яснай і дакладнай сыстэмы (мажорна-мінорнай тональнай сыстэмы арганізацыі гуку) і без яе невыабражальна. Кажуць: калі дадзена сыстэма, значыцца, руху мастацтва наперад—канец. Глупства! Мастацтва Баха, Моцарта й Бэтховэна, якія атрымалі ад сваіх дзядоў гатовую сыстэму і якія яе разьвілі далей, ёсьць бліскучы доказ пустаты такіх гутарак. Мастацтва не анархія, а вышэйшы чынна-выражаны арганізацыйны прынцып, уласьцівы толькі чалавеку, рэальна пацьвярджаючы яго ўладу над прыродаю і яго канцовую перамогу над яе цёмнымі стыхіямі“ (Современная музыка. Сакавік 1924 г.).

Якая-ж гэта новая сыстэма „арганізацыі гуку“ і як Раславец дашоў да яе? Аб гэтым я дазволю сабе прывесьці яшчэ адну вялікую вынятку з артыкулу Раслаўца аб самім сабе:

„Магутнае ўнутранае пабуджэньне, а зусім не жаданьне „орыгінальнічаць“, як гэта яшчэ й дагэтуль здаецца некаторым нячуйным людзям прымусіла мяне парваць са школьнымі традыцыямі й школьнаю тэхнікай і кінуцца па шляху самастойнага шуканьня новых форм. І вось, у напружнай працы праз цэлы год мне ўдалося інтуіцыйна напасьці на рад гармонічных прыёмаў, даўшых, у выніку іх прыстасаваньня гучнасьці, блізкія да тых, аб якіх я стала марыў у сваіх музычных марах, і якія нават ад часу да часу прарываліся ў маіх школьных працах 1909-1911 год.

У вясну 1913 г. мне прыадкрылася тая заслона, за якою потым, пасьля 6 год упартае творчае працы (прыблізна, да 1919 г.), я канчаткова знашоў сваю індывідуальную тэхніку, якая дала мне поўны прастор для выражэньня маёй мастацкай асабістасьці.

Вынікам маіх першапачатковых шуканьняў зьявіліся першыя opus'ы— 1-я скрыпічная соната і романсы, напісаныя ў вясну 1913 г. і ў тымжа годзе надрукованыя. Аналізуючы цяпер іх гармонічную структуру, я ясна бачу, як мая музычная сьвядомасьць ішла па шляху намацаньня нейкіх самастойных гукавых комплексаў, свайго роду „сынтэтычных акордаў", з якіх павінен быў нарадзіцца ўвесь гармонічны плян твору. Гэтыя „сынтэтакорды", меўшыя ў сабе ад 6 да 8 і больш гукаў, з якіх лёгка будуецца большасьць існуючых у старой гармонічнай сыстэме акордаў, відавочна павінны былі ўзяць на сябе ў агульнаконструкцыйным пляне композыцыі ня толькі знадворна-гукахварбовую ролю, але і ўнутраную ролю заступнікаў тональнасьці... У рэзультаце ўсяго ў мяне, прыблізна, каля канца 1919 г., зьявілася ўжо поўная сьвядомасьць... новай сыстэмы організацыі гуку (Современная музыка. Лістапад-сьнежань 1924 г.).

Усё гэтае ня вельмі ясна, але, з аднаго боку, Раславец абяцае агаласіць падробна свае тэорэтычныя погляды, а з другога—вынікі гэтых поглядаў магчыма бачыць і чуць у яго музычных творах. Пасьля 1919 г. ён напісаў: 2-і, 3-і і 4-ы струнныя квартэты, 1-ю сымфонію, 1-ю сонату для віолёнчэлі і фортэп'яна і Frois danses для скрыпкі з фортэп'янам. Ува ўсіх гэтых творах адчуваецца поўная свабода, упэўненасьць і радасьць творчасьці. Адчуваецца і, як я ўжо казаў вышэй, „організаванасьць" яго музыкі, у якой адкрытыя праз яго законы праводзяцца з „жалезнай няўмольнасьцю".

Раславец—сын простага селяніна, можа быць, беларус па паходжаньні, нарадзіўся ў 1880 г. ў поўкраінскім-поўбеларускім мястэчку Душатын былой Чарнігаўскай губэрні. Дзяцінства сваё ён пражыў на вёсцы, як звычайны сялянскі хлопчык: дапамагаў старэйшым у полі, на сенажаці, пасьвіў жывёлу і т. п., а з 12-га году ўжо жыў уласнаю працаю. Ён агалашае сябе марксыстым і сапраўды трымаецца рэалістычных поглядаў на сутнасьць і паходжаньне мастацтва, адхіляючы ідэалістычныя тэорыі аб „боскім" паходжаньні мастацтва і натхненьня і т. п. „Для мяне", піша ён, „марксыстага, падобныя разважаньні зьяўляюцца нічым іншым, як „благоглупостями" старой тэорыі ідэалістычнай эстэтыкі аб „боскасьці" натхненьня, аб „творчым трансе", калі чыясь рука водзіць рукою композытара па аркушы нотнае паперы... Я ведаю, што творчы акт—гэта ня нейкі містычны „транс", ня „боскі нахад", але момант найвышэйшага напружаньня чалавечага інтэлекту, які імкнецца „бесьсьвядомае" (падсьвядомае) перавесьці ў форму сьвядомага".

Працуюць у цяперашні час яшчэ многія dii minores музычнага Олімпу (Сабанееў, Шырынскі, Аляксандраў, Нячаеў, Палавінкін, Протапопаў, Шэншын, Юрасоўскі і інш.), але на іх я затрымоўвацца ўжо ня буду, дый ніякіх новых цячэньняў у сучаснай музыцы яны не прадстаўляюць. Усе яны людзі бязумоўна талентныя,—хто больш, хто менш,—але новых шляхоў не адчыняюць, а йдуць па шляхох сваіх папярэднікаў, бо усё-ж такі яны... dii minores.

Вышэй я гаварыў аб існуючых ужо некаторых азнаках пачынаючагася адбіцьця ў сучаснай музыцы нашай вялікай эпохі. У гэтых адносінах, апрача таго што сказана было аб Раслаўцу і часткова аб Пракоф'еве, я-б хацеў адзначыць яшчэ пачынаючыся рух да колектывізму ў музыцы. Я разумею ня існуючы ў Маскве оркестр без кіраўніка (Пэрсымфанс[1]), але тыя харавыя аб'яднаньні сярод працоўных мас, якія разьвінаюцца ўсё больш і больш у гарадох. Асабліва бачна гэта ў Маскве. Запэўна, гэтыя аб'яднаньні ўтвараюцца рабочымі клюбамі, якія організуюць сапраўдныя масавыя выступленьні. Працуюць харавыя композытары, паміж якімі асабліва выдзяляюцца сваёю талентнасьцю Кастальскі й Васільлеў-Буглай. У часе VI зьезду профсаюзаў 16-га лістапада мінулага году маскоўскія профсаюзы дэмонстравалі перад членамі зьезду свае мастацкія дасягненьні. Паміж іншым, мэталістыя выставілі хор з 200 чалавек, швальнікі—хор з 250 чалавек. А розных меншых гурткоў харавых і інструмантальных у Маскве, як і ў іншых гарадох, існуе нязьлічонае мноства.

У нас, на Беларусі, справа з музыкаю стаіць кепска. Праца йдзе пакуль што толькі па зьбіраньні і гармонізацыі народнае песьні[2]). Няма слоў, зьбіраньне й гармонізацыя народнае песьні—справа вельмі важная, але адна народная песьня яшчэ ня ўтварае ўсёй музыкі. Павінны зьявіцца нацыянальныя беларускія композытары, якія-б утварылі гэтую музыку, хоць-бы на грунце тае-ж народнае песьні. А дзеля гэтага патрэбна ўтварэньне тае музычнае атмосфэры, сярод якой толькі й могуць выявіцца музычныя таленты і чынна працаваць на карысьць роднае музычнае культуры. Гэтая музычная атмосфэра ўтвараецца існаваньнем такіх музычных установ, якія зьяўляюцца цэнтрамі, адкуль разыходзяцца ўва ўсе бакі праменьні музычнага разьвіцьця і якія даюць композытарам магчымасьць бачыць і чуць ажыцьцяўленьне іхніх музычных намераў. Утвараецца музычная атмосфэра, апроч таго, распаўсюджаньнем знаёмства з музыкаю сярод самых шырокіх мас грамадзянства. Рэальна: неабходна ўтварэньне дзяржаўнае беларускае опэры, дзяржаўнага сымфонічнага оркестру, дзяржаўнага камернага ансамблю, неабходна павялічэньне ліку музычных школ і, у першую чаргу,—утварэньне дзяржаўнае консэрваторыі, неабходна ўзмацненьне выкладаньня музыкі ў школах агульнага адукаваньня (Соцвыху) і ўвядзеньне яе, хоць-бы ў невялічкіх разьмерах, у школах профтэхнічных, утварэньне харавых аб'яднаньняў як па гарадох, так і па вёсках. Усё гэтае—справа Інбелкультуры, яго мастацкай сэкцыі. А пакуль што новых плыняў у музыцы ў нас на Беларусі ня маецца, бо наогул і самай музыкі бадай што ня маецца.

---

[1]) Адзіная кіруючая воля кіраўніка оркэстру не супярэчыць колектывізму, як адсутнасьць гэтага кіраўніка яшчэ не абазначае сапраўднага колектывізму. Калі правадыром нашае рэволюцыі быў геніяльны Ленін, гэта ня значыць, што гэтую рэволюцыю зрабіў адзін Ленін.

[2]) У гэтай галіне шмат працуе Менскі муз. тэхнікум у асобе сваіх профэсароў Прохарава і Аладава.

# ПЫТАНЬНІ КІНО-МАСТАЦТВА

**Хрысанф Хэрсонскі**

## I

### Драматургія, як мэтод кіно-мастацтва.

Разьвіцьцё кіно-мастацтва азначаецца ўзбагачэньнем яго матэрыялу, потым—разьвіцьцём сродкаў і мэтодаў афармленьня гэтага матэрыялу і, урэшце,—удасканаленьнем спосабаў і мэтодаў перадачы кіно-твору глядзельніку (дэмонстрацыі).

Што зьяўляецца „матэрыялам" кіно-мастацтва?

Асноўны матэрыял кіно гэта—фотографія прыроды, рэчы, чалавека. Пры гэтым прырода і рэч, і чалавек могуць быць засьпеты зьнячэўку кіно-апаратам у іх натуральным стане, а могуць быць показаны і ўмоўна. Чалавек—ігрой актора, прырода, абстава і рэчы—штучнай бутафорыяй, апрача таго, усе яны могуць быць пераданы рысункам (мультыплікацыя, малярства). Матэрыялам кіно таксама зьяўляецца й слова ў умоўнай перадачы—шляхам літаратурным (надпісы) і шляхам гукавога аднаўленьня (фонограф-грамофон і спробы сынхроністычнага запісу на плёнку).

Якія сродкі афармленьня гэтага матэрыялу?

Яны азначаюцца тэхнікай кіно і разьвінаюцца ў беспасрэднай залежнасьці ад удасканаленьня гэтай тэхнікі. Тэхнічны струмант кіно складаецца з некалькіх пасьлядоўных частак і мае рознастайныя ўспаможныя прыладзьдзі. Шлях прахаджэньня матэрыялу скрозь гэты струмант, які апрацоўвае і перадае яго глядзельніку,—таксама складаны. Ён пачынаецца ў зьнімальным кіно-апараце. Тут разьвіцьцё сродкаў афармленьня кіно-матэрыялу залежыць ад удасканальваньня тэхнікі кінозьнімкі (зьнімка падзеленага на часткі натуральнага руху, зьнімка скрозь рознастайныя об'ектывы і з рознастайнай хуткасьцю, зьнімка пры дапамозе павялічальных, крывых шкел і люстар, падвойная і складаная „экспозыцыя", оптычныя „трюкі" і інш.). Да гэтага-ж трэба далучыць—„дыафрагму", „наплыў", зьнімкі па-за фокусам і інш. Да гэтага-ж я залічаю тэхніку асьвятленьня (у тым ліку асьвятленьне „псыхолёгічнае", аб ім выказваюцца цікавыя думкі ў апошні час). Да гэтага-ж трэба залічыць зьнімку з такога пункту, які рухаецца, зьнімку розных „плянаў" і розных ракурсаў і наогул усё, што з дапамогай кінематографічнага

вока ўзбагачае наш штодзенны фізыолёгічны зрок нагляданьнямі і ўражаньнямі, якія выводзяць нас з прызвычаенага амбежаванага пункту зроку. Затым, афармленьне зьнятага матэрыялу робіцца шляхам лябораторнай апрацоўкі плёнкі (розныя прыёмы праяўленьня і друкаваньня, віражы і інш.).

Нарэшце, агульнае афармленьне адбываецца ў час комбінаваньня монтажу і ў далейшым залежыць ад тэхнікі проэкцыі і яе ўспаможных сродкаў, да якіх належыць, паміж іншым, таксама й музыкальная псыхолёгічная ілюстрацыя або гукавая імітацыя.

Я не бяруся ў гэтай нататцы даць кінематографічную энцыклёпэдыю, мне зараз важна толькі ўстанавіць маю схэму групоўкі ўсяго, што мы наглядаем у кіно,—групоўкі на 1) матэрыял, 2) сродкі яго афармленьня й дэмонстрацыі і, урэшце, 3) вытлумачыць пытаньне, што-ж зьяўляецца асноўным *мэтодам* кіно-мастатцтва, як я яго разумею.

Калі праглядаеш штодзенна рознастайныя кіно-стужкі розных рэжысэраў, то робіцца відавочным, што мэтод сваёй працы яны разумеюць парознаму.

Некаторыя ўсю сваю працу падпарадкуюць эстэтыцы матэрыялу, яны захапляюцца хараством сваёй натуры, і ў ёй месьцяць усю мэту сваёй працы. Другія цалком захоплены вынаходкай орыгінальных сродкаў афармленьня матэрыялу, і мэтодам іх працы зьяўўляецца імкненьне даць чыста глядзельную „трюковую“ занятнасьць, у іх руках стужка робіцца кунсткамэрай орыгінальных эфэктаў, і яны лічаць сваю працу пасьпешнай, калі яна ашаламляе і зьдзіўляе глядзельніка. Гэта—эстэты формы, як такой.

Гэтыя два кірункі характэрны для першапачатковага пэрыоду разьвіцьця кіно-мастацтва, для пэрыоду награмаджэньня сродкаў кінематографіі, для падрыхтоўчай школы яе мастацтва. Але яны яшчэ ня здужалі апанаваць пытаньнямі кіно мастацтва ў цэлым, яны яшчэ не ствараюць мэтодаў клясычнага кіно-твору. Яны занятыя драбніцамі і падпарадкуюць цэлае гэтым драбніцам.

Але ўжо ёсьць кіно-стужкі, якія падводзяць нас і да органічнага мастацтва кіно, да яго клясыцызму. У гэтым стасунку найбольшае на мяне ўражаньне зрабілі ў розны час—„Жабрачка з Стамбулу“, „Дзіця цырку“, „Амэрыка“, „Мой хлопчык“, Грыфіта і з расійскіх—„Чырвоныя чарцяняты“ Пэрэсьціані.

Чым-жа ў аснове яны адрозьніваюцца ад соцень другіх кіно-стужак?

Перш за ўсё тым, што яны зьяўляюцца *кіно-п'есамі*, больш тонка распрацаванымі драматургічна. Значыцца, сваймі сцэнарыямі? Калі хочаце—так. Але, галоўным чынам, тым, што гэтыя сцэнарыі ня толькі добра ўложаны сцэнарыстымі і ўложаны чула—пристасавальна да кіно, а тым, што іх рэжысэры пастаноўшчыкі разам з тым і добрыя кінодраматургі; тым, што ў гэтых стужках памагчымасьці ўсе дэталі пада-

браны і афармлены драматургічна для кіно-п'есы ў яе цэлым. Усе драбніцы не выпадковы, усе эфэкты прыгожыя не самі па сабе, а тым, што даны кожная на сваім месцы, гледзячы па ходу драматургічнага разьвіцьця п'есы. І пастаноўшчыкі ўнікалі ўсяго лішняга, хаця бяз сумненьня маглі яго эфэктоўна награмазьдзіць колькі хочаш для глядзельнай занятнасьці. Але яны лічылі за лепшае тонкую псыхолёгічную пабудову п'есы. У гэтым—правіловы мэтод кіно-мастацтва.

Нам ужо няцікавы, скажам, „наплыў“, як оптычны „трюк“, сам па сабе. Але дзе, у якое танчэйшае псыхолёгічнае адценьне п'есы яго зьмясьціць? Наплыўныя „ўспаміны“ зьяўляюцца ўжо грубым шаблёнам, і вось, напрыклад, Грыфіт у стужцы „Амэрыка“ ўжо адмаўляецца ад яго, замяняючы яго простай зьменай сцэн, якія разьдзелены адна ад аднэй прамежкам простага зацямненьня. Такія ўмоўныя прыёмы ня трэба груба штампаваць, а трэба шукаць тонкага стылю, г. ё. пры натузе кінематографічнага мысьленьня й выабражэньня, знаходзіць адценьні, суадносіны, выказы і вобразы, якія-б адказвалі глыбока ўразумеламу псыхолёгічнаму заданьню кожнага данага моманту п'есы. І складаць гэтыя вобразы ў органічна-мастацкі-суцэльную кіно-п'есу. Нашыя-ж рэжысэры досыць часта захапляюцца выпадковымі, асобнымі ўдалымі момантамі і пачынаюць „круціць“ па „натхненьні“ опэратара ці актора і сваім, ня лічачыся з п'есай. Так затануў у рассыпаючымся матэрыяле Пратазанаў з сваёй „Аэлітай“, так навярцеў „занятны“ горб да тэмы Асеева Куляшоў у „Прыгодах Веста“, так перабірае мерку орыгінальнічаньнем Вертаў.

(Але я бараню Вертава за тыя месцы яго прац, дзе ён паказаў сябе цікавым і таленавітым кіно-драматургам. І вось у гэтым яго пасьпех і яго будучына).

Кожны прыём, кожная дэталь, кожны „трюк“ павінны быць перш за ўсё апраўданы драматургічна. Я ўжо аднойчы зазначаў прыклад дасканалай работы ў гэтым стасунку ў стужцы „Дзіця цырку“. Успомніце, напрыклад, як дасканала рэжысэр Клейн перадае сцэну пісьма Джэкі да сваёй маткі. Тут дано гэткае драматургічнае заданьне: Джэкі кінуў хату, уцёк упрочкі і прыстаў да бадзячага цырку; ён закінуты да новых і чужых людзей, яго шлях ляжыць у невядомую будучыну, і ён, бездапаможны, у гэту хвіліну ўспамінае пра любімую матулю і гутарыць з ёй. Як ставіць гэту сцэну рэжысэр? Джэкі сядзіць на версе едучага фургону; дзіцянё калыша, як трэсачку на хвалях; побач з ім упяршыню зьяўляецца ў стужцы нэгр; наўкола—мрок ночы, і толькі ліхтарык, які мігціць і калышацца, асьвятляе дзьве постаці і, галоўным чынам, вочы Джэкі,—у іх сконцэнтравана ўся яго ігра ў гэты момант. У гэтай сцэне акторы амаль ня рухаюцца, а ў той-жа час якая ў ёй унутраная дынаміка, дасягнутая некалькімі вернымі рысамі рэжысэра! І пасьля яе, закончыўшы гэтак драматычна ранейшы сантымэнтальна-гумарыстычны ўступ да п'есы,

можна распачаць цэлую Одысэю прыгод Джэкі,—глядзельнік зусім падрыхтованы, што і было патрэбна па п'есе.

Пры жаданьні-ж даць, чаго-б гэта ні каштавала, эфэкт, ня лічачыся з яго псыхолёгічным значэньнем у даны момант п'есы, выходзяць скандальныя конфузы накшталт, прыкладам, таго згубнага эфэкту, які зрабіў Бальлюзек у сваёй „Легэндзе аб Дзявочай вежы", калі на агульным чорна-бела-шэрым колеры стужкі раптам з шыі, з-пад адцятай галавы льлецца ярка-чырвоная хварбаваная кроў. Мы зарагаталі-б, калі-б гэты эпатыруючы „эфэкт" ня выклікаў агіды, а паводле-ж п'есы трэба было якраз даць глыбокі драматычны настрой і выклікаць спачуваньне да гэтага самага скаранага.

Пры такім грубым абыходжаньні з „эфэктамі", яны могуць дзейнічаць якраз адваротна таму, што трэба па п'есе. Трагічны эфэкт можа абярнуцца ў сваю процілегласьць—у комічны, спосаб выкліканьня спачуцьця—у выкліканьне агіды, спосаб напружаньня дзеяньня—у яго расхалоджаньне (шмат што ў „Весьце") і г. д.

Паясьняючы сваю думку, я не магу ня ўспомніць яшчэ пра адзін надзенны прыклад—гэта пра працу нашых перамонтажораў з замежнымі стужкамі. З замежных „сумненных", гэтак сама як і бяз сумненьня шкодных стужак робяцца мэханічна „агітацыйныя савецкія" стужкі, зусім ня дбаючы аб здаровым сэнсе гэтых п'ес. Гэтак, чынныя асобы раптам пачынаюць гаварыць няпраўдападобныя монолёгі, якія выклікаюць толькі сьмех. Напрыклад, у стужцы аб Індыі ангельскі лёрд раптам кажа прамову аб пажаданасьці рэволюцыі ў Індыі, якая зьняволена імпэрыялістычным крывавым гвалтам, або Джэкі Куган пачынае заклікаць на дапамогу бездаглядным і хваліць МОНО й Савецкую ўладу. Здараецца і так, што гарачыя рэволюцыйныя думкі цэнзара акторы выказваюць з самым кіслым выразам твару або фліртуючы. Як можна ім даць веры? Здараецца і так, што ўся п'еса перакройваецца нанова гэтак непраўдападобна, што нічога, апрача недарэчнасьці і *адваротнай агітацыі* яна не дае. Бываюць і сумна-гумарыстычныя камэдзі (кур'ёзы): гэтак, напрыклад, у вадну стужку, якая ўся была пабудована на тым, што адна жанчына не аддаецца мужчыне, цэнзары, перамонтажоры ўставілі подпіс, што яна аддалася, тлумачачы гэта тым, што цяпер „у нас вольная любоў" і няма чаго з-за аднаго пацалунку „канитель разводить". Але што тады сталася, які грубы вышаў фальш з усіх намаганьняў аўтара, з яго п'есы, з ігры актораў, з рэжысэрскага аформленьня і інш., і інш., калі раптам, наперакор усяму іх трыманьню, няпрыступная гэроіня „слова за слова" і зацяжарыла"... Гэта дрэнны анэкдот. Але сур'ёзная бяда! Усе гэтыя выпадковыя прыклады выяўляюць *фальшывы мэтод* перамонтажораў. Мэтод барбарскі. І, можа, ён лепш за ўсё даводзіць, што ў кіно-стужцы важны не ўсялякія эфэкты самі па сабе ці ідэолёгія сама па сабе, а што патрэбна, перш за ўсё, органічна-пабудованая композыцыя п'есы з рэзна-

стайных тонка-падабраных дэталяў. (Дарэчы, можа з „Аэліты“ затым і ня вышла кіно-п‘есы, што яна загадзя была разьлічана на гэткі-ж перамонтаж у адворотны ідэолёгічны бок?)

Трэба перамонтыроўваць замежныя стужкі *ў драматургічнай лябараторыі*, у абставінах, якія-б забясьпечвалі асьцярожнасьць, уважнасьць, удумлівасьць,—гэта спэцыяльная задача асаблівых спэцыялістых, і яны павінны быць ня толькі політычна пісьменнымі, але пісьменнымі й літаратурна і асабліва драматургічна. І яны павінны быць не няздольнымі. Інакш мы з кіно робім сапраўды „паганую порнографію мастацтва“. З культурнай справы робім барбарства.

Гэты ня лішні прыклад пацьвярджае яшчэ раз сказанае:

— Асноўным мэтодам кіно-мастацтва павінна быць кіно-драматургія, патрабаваньнем якой трэба цалком падпарадкаваць увесь матэрыял і ўсе сродкі, і ўсе вымудры кіно.

Гэта становіць перад намі шэраг вельмі сур‘ёзных і ў значнай меры яшчэ новых пытаньняў: аб мэтодолёгіі пабудаваньня сцэнарыя, аб мэтодолёгіі мастацкага асьвятленьня, зьнімкі і апрацоўкі плёнкі, аб мэтодолёгіі дэмонстрацыі стужкі, ня кажучы ўжо аб монтажы, аб пастановачных мэтодах рэжысэра і аб акторскай ігры, якая павінна быць ня толькі фотогэнічна, але павінна падпарадкавацца тонкім законам трыманьня ў залежнасьці ад драматургічнага „амплуа“ па композыцыі данай п‘есы...

## II

## „Амплуа“ актора.

Часта мы наглядаем такую недарэчнасьць, што кіно-стужка ў сваёй ідэолёгіі робіць на глядзельніка вельмі нятрывалае, няпэўнае ўражаньне, ня гледзячы на самыя добрыя ідэолёгічныя намеры сцэнарыстага і рэжысэра. Прычына гэтых недарэчнасьцяй знаходзіцца ня *толькі* ў утароплёнасьці некаторых перад тэй грамадзка-політычнай ідэолёгіяй, якую некаторыя аўтары днём з ліхтаром шукаюць. Ім, зразумела, перш за ўсё патрэбна агульная грамадзка-політычная пісьменнасьць і свая цьвёрдая сьвядомасьць. Але яшчэ тут патрэбна і пісьменнасьць драматургічная— у прыватнасьці ў умеласьці кіраваць ігрой актораў.

Досыць часты такія выпадкі, калі грамадзка адмоўныя тыпы выстаўлены ў стужцы гэтак, што глядзельнік пранікаецца да іх спачуцьцём. І, наадварот,—ідэолёгічныя гэроі ня робяць пераканаўчага ўражаньня. Характар таго ці іншага жыцьцёвага тыпу ня глыбака прамацваецца і не дасканала аднаўляецца.

У чым тут справа?

Чынная асоба ў кіно перадае глядзельніку сваю характарыстыку трыма сродкамі: 1) надпісамі; 2) псыхолёгіяй свайго твару, знадворнай тыповасьцю, праз якія расчыняецца глядзельніку ўнутраная істотнасьць чалавека; 3) трыманьнем,—сваёй „рольлю“ ў ходзе дзеяньня.

Самым прымітыўным і павярхоўным сродкам зьяўляюцца надпісы. Іх, як спосаб характарыстыкі дзейнай асобы, ужывалі самыя неспрактыкованыя, маладыя сцэнарыстыя і рэжысэры на першапачатковай ступені разьвіцьця кіно-мастацтва. На надпісы ўскладаюцца надмерныя надзеі неспрактыкованымі аўтарамі і зараз. Але адны надпісы, самі па сабе, зьяўляюцца толькі мэханічным прыёмам, рэклямнай наклейкай, пачэпленай на шыю артыстаму. Напрыклад, нашыя перамонтажоры, перакройваючы ідэолёгію буржуазных стужак, вымушаны былі натужна карыстацца гэтым мэханічным гвалтоўным спосабам.

Глядзельнік вельмі хутка бачыць розьніцу і супярэчнасьці паміж наклейкай і тым да чаго яна прычэплена, глядзельнік ня верыць наклейцы, калі яна не супадае з псыхолёгічным уражаньнем ад чыннай асобы і з ходам дзеяньня п'есы. Надпісамі наогул трэба карыстацца надзвычайна асьцярожна і ў меру. А галоўнае—трэба, каб надпісы зусім супадалі *органічна* з самой п'есай, падпарадкаваліся ёй, бо ў сапраўднасьці сама п'еса непараўнальна *красамоўней* за ўсялякія надпісы. Надпісы ня могуць гвалтоўна падпарадкаваць сабе ўражаньне ад п'есы, і наадварот, сама п'еса лёгка нішчыць уражаньне ад супярэчных ёй надпісаў. Барацьба далёка ня роўная. У гэтай спрэчцы ўражаньні глядзельніка заўсёды будуць мацней якраз ад п'есы. Лёгіка праконаньня будзе на яе баку.

Цікавую навіну ў карыстаньні надпісамі ўвёў І. Перэсьціані ў стужцы „Тры жыцьці". Ён дадаў да кожнае „наклейкі" сваю ўвагу ў дужках такім чынам, што гэтыя ўвагі значна пашыраюць і паглыбляюць значэньне звычайнага надпісу. Напрыклад (успамінаю па ўражаньні, тэкст ня зусім дакладны, але прыём у аснове такі),—надпіс „Цётка (хадзячая газэта—самы пашыраны тып тыфліскіх цётак)", або другі надпіс: „паненкі (гарадзкі сад, флірт, спатканьні ў альтанцы... о, сантымэнтальныя гімназысткі Тыфлісу...)", ці яшчэ надпіс: „ён зноў спаткаў яе (мары маладога купца)" і г. д.

Гэты прыём надпісаў з увагамі дае рэжысэру выгодную магчымасьць перадаць глядзельніку ня толькі ход унутранага дзеяньня выведзеных тыпаў, але й крытычныя адносіны да іх самога рэжысэра, яго ідэолёгічны замысел,—дае сродак ня толькі паказаць быт, але й *выкрыць*, расчыніць яго крытычна. У той-жа час гэтыя надпісы зьвязваюць кожную чынную асобу з цэлым грамадзянскім асяродзьдзем, павялічваюць грамадзкі, соцыяльны рэзонанс і фон кожнага эпізоду, набліжваючы, такім чынам, шмат якія дэталі дзеяньня да грамадзкіх і бытавых асацыяцый глядзельніка й да яго сьвядомасьці,—абагульняюць „выпадкі" ў сыстэму органічных зьяўленьняў і працэсаў жыцьця.

Другім і больш пераканаўчым сродкам, які глыбей і вярней характарызуе чынных асоб, зьяўляецца псыхолёгічная асоба — тып актора, яго портрэт з мімікай. У ім канечная ўмова пераканаўчасьці для глядзельніка.

Каб стварыць гэтую пераканаўчасьць, у актора ёсьць два спосабы, у рэжысэра два—разьвязаньні. Першы спосаб у тым, каб актору йграць самога сябе. Свой натуральны жыцьцёвы тып, з адкрытым тварам, з беспасрэднасьцю мімікі й рухаў, выяўляць у ролі. Дзеля гэтага патрэбна, каб псыхолёгічны тып самога актора супадаў з характарам і тыпам тэй ролі, якую ён выконвае. Такі падбор выканаўцаў мэтадычна праводзяць пераважна амэрыканскія рэжысэры. Яны ствараюць з актораў кіно-„ўзоры чалавечай пароды“, якія і ў жыцьці зьяўляюцца амаль тым самым, каго йграюць на экране. Шмат якія з гэтых актораў імкнуцца толькі да таго, каб і ў жыцьці й на экране быць да канца самым сабой, выявіць свае *жыцьцёвыя* уласьцівасьці й здольнасьці. Гэта, зразумела, ня нішчыць у іх і артыстызму ў мастацтве выяўляць самых сябе.

Пры гэтым неабходна ня толькі драматургічнае супаданьне выгляду актора-чалавека з тыпам, якога ён выконвае (даныя для „палюбоўніка“ або „маралістага“, для тыпа „злачынцы“ або „жартаўніка“ і да т. п.), але яшчэ больш неабходна супаданьне нацыянальных і соцыяльных (клясавых) іх тыпаў. Гэроіня з інстытуту „благородных девиц“ ніяк ня можа іграць з адкрытым тварам гэроіню сялянку.

Руф Роллан ня можа іграць сібірачку-сялянку, дзяўчыну-партызанку з „Чырвонага газу“, хоць драматургічнае, г.-ё. формальнае трыманьне абедзьвюх можа быць адным і тым самым. Хахлова з майстэрні Куляшова ніяк ня можа з сваім тварам і мімікай іграць Вірынэю і г.д., і г. д. У гэтым стасунку мы натыкаемся на супярэчнасьці, якія проста самі кідаюцца ў вочы, і на фальш у шмат якіх савецкіх стужках, дзе пад сялянскія й рабочыя тыпы *падрабляюцца* апашы й апашкі, паненкі й богэма з розных студый! Дзеля таго маюць рацыю тыя рэжысэры, якія ўважаюць за лепшае браць не профэсыяналаў-актораў, а тыповых натуршчыкаў з жыцьця, з асяродзьдзя, супадаючага беспасрэдна і органічна з заданьнямі тэмы п'есы. (У гэтым адборы ёсьць і другі станоўчы бок, а іменна: залучэньне ў кіно новых сваіх, клясавых працаўнікоў—маладых сіл з рабочых і сялян—для ўтварэньня свайго кіно).

Аднак, адным толькі адборам адпаведных натуршчыкаў з жыцьця абмяжоўвацца нельга. Рэжысэр, які працуе ў галіне ўмоўнага, тэатралізованага кіно (у процілегласьць мэтоду „Кіно-Вока“ Вертава), рэжысэр, які наогул мае справу з акторам, а не без актора, вымушаны трэніраваць сваіх актораў і штучна іх выхоўваць, гэтак сама, як і мастацка-штучна аформліваць іх у час зьнімкі. Пры гэтым актору й рэжысэру прыходзяць на ўспамогу шмат якія ўмоўныя прыёмы й сродкі, каторыя аформліваюць натуру актора, часамі так дасканала, што прост не пазнаць. Вопратка, грым, пераймальная імітацыя мімікі й рухаў могуць быць гэткімі мастацкімі, што актор ужо не з адкрытым тварам, а ў „масцы“ здолее выконваць ролі й зусім неадпаведныя яго жыцьцёвым асабістым даным. Тут актору прыходзіць на ўспамогу наглядальнасьць, здольнасьць

„пераўвасабленьня“ („перевоплощения“) і ўмеласьць рэжысэра й опэратара „паказаць“ актора-натуршчыка ў якім-небудзь асабіста выбраным выглядзе. Мастацкая штучнасьць можа, не бяз посьпеху для ўмоўнага, тэатралізованага кіно, імітаваць і падмяняць натуральнасьць.

У канчатковым падрахунку, так ці йначай, глядзельнік кіно мае справу не з чалавекам-натуршчыкам беспасрэдна, а з яго фотографіяй, з яго ўмоўным адбіткам на экране. Гэты адбітак, як мы бачылі, можна стварыць рознымі способамі. Натуршчык у кіно можа быць вельмі розны па сваёй прыродзе. Але ўсе вымудры яго, пры дапамозе рэжысэра й опэратара, маюць сваёй адзінай першай мэтай стварыць на экране *адбітак*—той ці іншы псыхолёгічны, нацыянальны і соцыяльны (клясавы) тып.

Пры гэтым вялікае значэньне маюць, яшчэ нікім не азначаныя дакладна, законы фотогэнічнасьці. Кіно часамі „жартуе“ і робіць нечаканыя падарункі. Чалавечыя твары, якія ў жыцьці маюць сваё хараство, характэрнасьць, тыповасьць, часамі зусім усё гэта трацяць на экране, калі пройдуць скрозь апрацоўваючыя іх шкелцы кіно-апаратаў (зьнімальнага і проэкцыйнага) і скрозь хімію плёнкі. І наадварот, іншыя твары, няпрыметныя ў жыцьці, даюць вельмі характэрныя й цікавыя адбіткі на экране. Так што робіцца яшчэ больш ясным, што ў сутнасьці *матэрыялам кіно-мастацтва зьяўляецца не чалавек, рэч і прырода ў іх натуральным стане, а іх фотографія, якая рухаецца і якая адкінута на экран.* Іменна з гэтым матэрыялам—з фотографіяй—і прыходзіцца працаваць рэжысэру, опэратару, сцэнарыстаму, дэкоратару, актору.

Гэта паказвае, між іншым, і на тое, што ўся навуковая падрыхтоўка кіно-актора павінна быць шчыльна злучана з процэсамі зьнімкі і проэкцыі. Кіно-школа бяз злучэньня тэорыі з практыкай, без праверкі кожнага выпадку на экране—такая кіно-школа ня здолее выпрацаваць спэца кіно-актора.

Знаходжваньню акторам і рэжысэрам тыповага псыхолёгічнага твару і постаці для кожнай ролі дапамагае, як я ўжо адзначыў, бязупыннае нагляданьне ў жыцьці. Шуканьні прыкладаў, дэталяў і ўзораў няўхільна павінны выходзіць далёка за межы невялікага жыцьцёвага куточку, у якім акторы самі жывуць з дня ў дзень, павінны выходзіць з меж кіно-студыі і фабрыкі ў усе рознастайныя ўмовы сярод самай гушчы жыцьця. Пры гэтым на дапамогу нашай наглядальнасьці і памяці прыходзіць вока фото і кіно-апарата. Рэжысэр і акторы добра зробяць, калі для кожнай працы будуць мець рознастайны падбор старанна сабраных у колекцыю фотографій характэрных тыпаў і сцэн з жыцьця.

Вернемся цяпер да вытворчай працы,—пераходзім да процэсу стварэньня кіно-п‘есы. Калі рэжысэрам і акторамі знойдзены й аформлены псыхолёгічныя тыпы для кожнай ролі, пачынаецца трэцяя, адзначаная

мною ў пачатку стадыя паглыбленьня характарыстыкі чыннай асобы. Дэтальная распрацоўка *трыманьня* кожнага актора.

Я маю на ўвазе ня толькі асноўнае трыманьне „ролі“ згодна кампозыцыі фабулы п‘есы, але й *тыя, што вынікаюць адсюль, дэтальныя асаблівыя драматургічныя абавязкі і ўласьцівасьці* кожнай ролі, кожнага амплуа. Іменна тут трэба паглыбіць рэжысэрскі падыход да актора. Трэба ўнікнуць такіх недарэчнасьцяй, калі гэрой наперакор сваім учынкам ня выклікае цьвёрдага спачуваньня, калі адмоўны тып нечакана выклікае ў глядзельніка сымпатыю, калі комічнае „не даходзіць“ да глядзельніка, калі зблутваюцца бытавыя супроцьстаўленьні, і ідэолёгія п‘есы не даводзіцца да яснага, пераканаўчага беспасрэднага ажыцьцяўленьня ва ўсіх сваіх праявах.

Для характарыстыкі тыпаў мала адных учынкаў, трэба ведаць як асабіста, розна ад іншых тыпаў, гэтыя ўчынкі *зьдзейсьніваюцца* кожным тыпам. Характары розьняцца нават ня столькі ўчынкамі, колькі рознымі процэсамі іх зьдзейсьненьня.

Здараецца так, што „и скрипки есть у нас, и музыканты есть“, а выкананьня музычнага твору ня выходзіць. Неабходна дакладна ведаць, як оркестраваць мэлёдыю ў дапасаваньні да асабістых, выключных уласьцівасьцяй кожнага струманту.

Ролю гэтых струмантаў у кіно йграюць драматургічныя амплуа. Кампозыцыя кіно-п‘есы цалком залежыць ад іх. Адным беспасрэдным пачуцьцём, тэмпэрамантам і энтузыязмам тут многа ня зробіш. Мэлёдыя патрабуе вельмі стараннага *тэхнічнага* выкананьня.

У чым-жа месьцяцца законы трыманьня драматургічнага амплуа?

Некаторым наводзячым матэрыялам можа нам паслужыць малавядомая брошура Мэерхольда, Бебутава і Аксёнава аб амплуа тэатральнага актора. У ёй якраз амплуа актора разглядаецца з пункту погляду яго драматургічнага трыманьня. (Аўтары назвалі гэтае трыманьне *сцэнічнымі функцыямі,* але гэта ня зусім дакладна).

Возьмем прыклады з гэтай брошуры:

*Закаханы* „першы“—актыўнае перамаганьне любоўных перашкод у пляне лірычным (Ромэо, Альмавіва, Калаф); „другі“—перамаганьне любоўных перашкод у пляне этычным (Парсыфаль, Ціхан—„Гроза“, Трэплеў, Алёша Карамазаў).

*Жартаўнік (выдумшчык)* „першы“—ігра ня згубнымі, перашкодамі, ім-жа самым створанымі (Хлестакоў, Пятрушка); „другі“—ігра перашкодамі, ня ім створанымі (Еліходаў, Санчо-Панса, Тартарэн, Лепорэлло, Расплюеў).

*Злачынца й баламут (інтрыган)* „першы“—ігра згубнымі перашкодамі, ім-жа створанымі (Яго, Франц Моор, Сальеры, кароль Клаўды—„Гамлет“); „другі“—ігра згубнымі перашкодамі, ня ім створанымі (Сьмердзякоў, Загарэцкі).

*Хвалько-ваяка (капітан)*. Ускладненьне ў разьвіцьці дзеяньня прысваеньнем неўласьцівых сцэнічных функцый, напрыклад, гэроя (Фальстаф, Скалазуб).

*Кумэднік (клоун), блазан (шут), дурань, дзівак (эксцэнтрык)*. Наўмыснае затрыманьне дзеяньня разьбіваньнем сцэнічнай формы (вывядзеньнем яе з пляну).

*Гэрой* „першы"—перамаганьне трагічных перашкод у пляне патэтыкі *(алёгізм)* (Эдып, Кароль Моор, Отэлло, Брут); „другі"—перамаганьне драматычных перашкод у пляне самааданасьці, лёгічным (Лаэрт, Вяршынін, Зьміцер Карамазаў).

Гэтыя некалькі прыкладаў, спрэчныя самі па сабе (яны больш-менш праўдзівыя для ідэалістычнага, романтычнага тэатральнага сьветапогляду, і некаторыя прыклады і азначэньні Мэерхольда не падойдуць для матэрыялістычнага, рэалістычнага сьветапогляду), усё-ж паказваюць нам на цікавае вышукваньне ў галіне спробы дакладнага азначэньня асаблівасьцяй кожнага амплуа.

У кожнай кіно-п'есе неабходна свая драматургічная законамернасьць. Так, напрыклад, разгледзім драму.

У драме неабходны наступныя ўмовы:

Адзінае палкае імкненьне гэроя.

Дзеяньне месьціцца ў тым, што дзейная натура стыкаецца з перашкодамі да свайго імкненьня і адначасна—з абставінамі, якія распальваюць яе палкае імкненьне. Дзеяньне разьвіваецца ў бязупыннай драматургічнай барацьбе. Усе астатнія чынныя асобы падзяляюцца на дзьве групы: адны дапамагаюць гэрою драмы, другія—яму перашкаджаюць. У дзеяньні могуць удзельнічаць і граць вялікую ролю й неажыўленыя прадметы, і „трюкі", і ўстаўныя эпізоды,—яны тож падзяляюцца на два такіх самых лягэры. Чым яскравей цэнтральная лінія барацьбы, тым шырэй могуць быць разьвінуты пабочныя адгаліненьні. Усе пабочныя абставіны і ўсе „трюкі" павінны ўліваць энэргію ў асноўнае рэчышча барацьбы і ўзмацняць яе плынь, калі-ж яны адхіляюцца ў бок, то захалоджваюць драму і тармозяць дзеяньне. Нарастаньне дзеяньня дасягаецца паступовым увядзеньнем усё большых перашкод, усе больш небясьпечных для гэроя становішчаў, і ў той-жа час—усё больш моцнымі дзеяньнямі з яго боку.

Возьмем, для прыкладу, шырока-вядомую кіно-працаўнікам стужку „Жабрачка з Стамбулу".

На нашыя вочы, пачынаючы ад лірычнага настрою, паступова і ўсё нарастаючы разьвінаецца пачуцьцё Зары, даходзячы да такой ступені, калі ўжо ніякія перашкоды ня страшаць. Рэшта дзейных асоб уводзіцца паступова (і строга па чарзе) з двух лягэраў—з таго, што перашкаджае, і з таго, што дапамагае. Калі новыя людзі і моманты кінематографічнай „перабіўкі" ўкліньваюцца ў асноўнае дзеяньне, то яны пастаўлены гэтак, што толькі ўзмацняюць спачуваньне да асноўнай тэмы, *актывізуюць* яе,

а не зьяўляюцца адцягненьнем. Згадайце сцэну з кінжалам, які пераходзіць у час бойкі з рук у рукі, і перабіваючыя гэту сцэну моманты скачкі коняй па пустыні, калі, здаецца, так і падагнаў-бы коняй,—гэтак увесь захапляешся дынамікай скачкі. Таму гэтыя сцэны асабліва яскрава адчуваюцца глядзельнікам. Таксама, як сцэны ў тэй-жа сёмай частцы, калі Зары накідваецца кошкай на служку шэйха, і потым псыхолёгічны „трюк“: калі глядзельнік чакае, што зьверху па сходах выйдзе ёй насустрач афіцэр, а выходзіць увесь у крыві перамогшы шэйх—забойца гэроя,—здаецца, усё прапала, але за шэйхам выходзіць афіцэр. Такое чаргаваньне перашкод і перамог яскрава ўзмацняе дзеяньне.

Але пры гэтым вельмі істотна, як іменна трымаюць сябе чынныя асобы ў час усіх гэтых стычак. Якімі іменна псыхолёгічнымі сцэнічнымі спосабамі розныя „тыпы“ чынных асоб будуць розна змагацца з перашкодамі, іграць з імі і ўдзельнічаць з свайго боку ў адзіным стрыжні разьвіцьця п‘есы.

Жабрачка Зары ў данай п‘есы з лірычнай дзяўчыны вырастае ў гэроіню. Сьпярша яна дзейнічае, як закаханая: перамагае любоўныя перашкоды ў пляне этычным і лірычным, потым—як гэроіня: перамагае драматычныя перашкоды ў пляне самаадданасьці і, урэшце,—у пляне патэтычнага актыўнага дзеяньня. Шэйх дзейнічае, як злачынца,—ігра згубнымі перашкодамі, ім-жа самым створанымі. Абодва артыстыя граюць дакладна адпаведна свайму амплуа, і дзеля таго яны гэтак яскравы, азначаны, выразны ў сваім выконаньні. Але ўявеце сабе, што вышла-б, калі-б Прысцыла Дзін у першай частцы праяўляла патэтыку, а ў канцы стужкі дзейнічала з выразам лірычным. Учынкі, уся фабула маглі застацца тымі-ж самымі, але пры няўмелым абыходжаньні з характарыстыкай драматургічнага трыманьня акторы маглі-б зусім зруйнаваць композыцыю п‘есы. Гэтак часта і здараецца.

Прыкладам нявыразнага драматургічнага трыманьня можа служыць роля афіцэра ў тэй-жа стужцы. Хто ён?

Дзейнічае, як гэрой, а трымае сябе пры гэтым, як лірычна закаханы. Атрымліваецца няпэўны, нявыразны, неяскравы вобраз.

Возьмем другі прыклад: ролю Ойрата ў „Даліне сьлёз“. Паводле фабулы і ўчынкаў—ён гэрой, а між тым ці атрымалі вы адпаведнае ўражаньне ад выкананьня гэтай ролі Цітавым? У мяне стварылася ўражаньне, што тут актор у ролі Ойрата пазбаўлен сапраўднай запальнасьці дзеяньня, пазбаўлен гэроічнага сур‘ёзнага напружаньня, а робіць свае гэроічныя ўчынкі больш жартуючы, як вясёлы, блазнуючы, „жартаўнік“ (ігра перашкодамі).

Самае сур‘ёзнае ў гэтым тое, што акторы й рэжысэры, часамі парушаючы дакладнае драматургічнае трыманьне, патрэбнае для той ці іншай ролі, уносяць непаразуменьні і тым расхістваюць грунтоўна ня толькі драматургічную композыцыю п‘есы, але й яе ідэолёгію.

Найбольш яскравы прыклад такога становішча—гэта груба перамонтыраваныя намі замежныя буржуазныя стужкі, у тым выглядзе, у якім яны зьяўляюцца, нанова сьпечаныя, глядзельніку. Тут усьцяж бывае гэтак, што глядзельнік паведамляецца, скажам, што даная чынная асоба—злачынца, і праўда, у п'есе (асабліва пры некаторай натузе перамонтажораў) ён робіць злачынныя, на наш соцыяльны погляд, гідкія ўчынкі. Але воляй замежнага рэжысэра ён іх робіць у пляне часамі гэроя, часамі палюбоўніка і г. д. і дзеля таго набывае самым *процэсам* свайго трыманьня, псыхолёгічным сваім трыманьнем спагаду глядзельніка. І глядзельнік ужо ня ўспрымае, яго як „злачынцу“,—уражаньне глядзельніка падпарадкаваецца псыхолёгічнаму трыманьню, тонкім мацкам драматургіі, а ня голай схэме фабулы. У гэтым вось і месьціцца трагічная перашкода перамонтажораў—як моцна ні перарабі пасвойму фабулу, як ні сцамантуй яе сваімі надпісамі—усё роўна на глядзельніка, на яго ўражаньні больш за ўсё будзе ўплываць тонкая тканіна акторскага выконаньня, і іменна ня столькі голы бок учынкаў дзейнай асобы, колькі псыхолёгічная характарыстыка *процэсаў* гэтых учынкаў.

Калі мы імкнемся выявіць на экране характэрныя тыпы сучаснага нам грамадзянства, проціставіць адны, соцыяльна станоўчыя, гэроічныя тыпы другім, соцыяльна адмоўным,—то мы павінны не абмяжоўвацца толькі пабудовай сюжэту і падборам адпаведных тыпаў, але й паглыбіцца ў самыя тонкасьці і характэрныя асаблівасьці трыманьня тых і іншых. Пры гэтым трэба зьвяртаць сваю ўвагу ня толькі на асноўныя апорныя сутычкі ў дзейным разьвіцьці сюжэту, але й на самыя тонкія дэталі, адценьні, суадносіны, вобразы. Так, каб ідэолёгічны зьмест быў цалком асыміляваны, прасякнуты мастацкім аформленьнем выконаньня.

Тонкасьці законамернага драматургічнага амплуа чынных асоб маюць тут сваё значэньне.

Пытаньне гэта вышэй толькі закранута, толькі назначана мною. Адноска на брошуру Мэерхольда дае толькі некаторы наводзячы матэрыял,—у кіно шмат якія з тэатральных азначэньняў і мэтодаў трэба пераглядзець.

*Нашым кіно-акторам трэба пановаму выпрацоўваць псыхолёгію і тэхніку тыповых амплуа, апіраючыся не на рамантыку тэатру, а на рэалістычны і клясавы падход к тыпам, характэрным зьяўленьням і дыалектычным процэсам самога сучаснага жыцьця.*

Але ня трэба забывацца на тое, што агульныя законы драматургіі кіруюць ня толькі тэатрам, але і ўсялякай кіно-п'есай. Мы павінны выпрацаваць свой струмантар кіно-мастацтва; але ня можам зусім абыйсьціся без драматургічнага струмантара.

Зразумела кожнаму, што сцэнарыстыя й рэжысэры няўхільна зьяўляюцца драматургамі. Задачай гэтай нататкі было показаць, што таксама драматургамі павінны быць і акторы ў усіх прыёмах і дэталях сваёй

ігры. „Амплуа“ актора пры выкананьні ім сваёй дакладнай ролі ў агульнай композыцыі п‘есы залежыць ня толькі ад натуральных жыцьцёвых даных актора, але й яшчэ больш павінна залежаць ад драматургічнай композыцыі п‘есы, якае дыктуе актору свае асаблівыя канечныя патрабаваньні законамернасьці кожнай рыскі яго трыманьня. Аднак-жа, у канчатковым падрахунку ня твор у цэлым, ня п‘еса, ня кіно-стужка існуюць для актора, а актор суцэльна павінен быць падпарадкаваны п‘есе, як адна з скрыпак падпарадкавана ўсяму выконаньню оркестрам сымфоніі. Гэта агульнае правіла.

Я чую пярэчаньні:—гэтае правіла мае выключэньні ў індывідуальных акторскіх стужках, якія натужна культывіруе Амэрыка. Там, прынамсі, галоўныя акторы—„звезды“—іграюць самых сябе, а п‘есы і мэтод рэжысэра прыстасоўваюцца да іх. Але-ж, калі, скажам, композытар піша концэрт для рояля з оркестрам, ён гэтак-жа сама мае на ўвазе ўсе характэрныя адзнакі і ўласьцівасьці гукаў рояля і другіх, што таварышаць яму, струмантаў. І сцэнарысты, і рэжысэр у кіно робяць у „індывідуальных“ выпадках гэтак сама. Зьмяняецца толькі парадак працы: адзін або некалькі псыхолёгічных тыпаў, адно або некалькі амплуа даны ім раней, як абавязковая ўмова, перш чым пабудавана ўся п‘еса.

Амплуа актора, як я гэта разумею,—яго абавязкі, яго ўмоўныя функцыі ў кожным моманце ігры і ў кожнай ролі ў яе цэлым,—гэта драматургічнае амплуа застаецца няўхільнай умовай. Ці дано яно самым акторам („звездой“) сцэнарыстаму і рэжысэру, ці наадварот, апошнімі прычэплена актору,—у канчатковым рахунку ад гэтага нашыя агульныя драматургічныя законы не зьмяняюцца. Усё роўна, ці будзе артысты выконваць іх, выходзячы беспасрэдна ад сваёй натуры ці ад умоўнага штучнага адбітку нададзенага яму тыпу,—усё роўна ён будзе іх выконваць. Усё роўна сцэнары і композыцыя выконваньня кіно-п‘есы толькі пры захаваньні гэтых законаў набудуць досыць моцны *тэхнічны касьцяк*, на якім толькі й можна пабудаваць трывалы драматургічны фундамант для ідэолёгіі п‘есы.

Дагэтуль я гаварыў пра актора-спэца, які працуе ў умоўным тэатралізованым кіно. Можа паказаная законамернасьць зусім неабавязкова для мімавольных натуршчыкаў, зьнятых зьнячэўку „Кіно-Вокам“, схопленых на плёнку ў адзін момант з самога жыцьця?

Абавязкова й для іх! Яны ня ведаюць свайго драматургічнага амплуа, не культывіруюць яго, ня ўлічваюць самі для паказу кожнага свайго руху, мімікі „твару“, характэрнасьці псыхолёгічнага трыманьня і інш. Так, яны гэтага ня ведаюць і не выяўляюць сьвядома. Яны-жа не драматургі. Але ў „Кіно-Воку“ за іх гэта ведае монтажор і опэратар. Ніякай сэрыі, ніякай шырокай разьведкі „Кіно-Вока“ нельга пабудаваць без захоўваньня (быць можа інтуіцыйнага) тэй-жа самай законамернасьці.

Вертаў *выбірае* тыпы і характэрныя выразы, з якіх лепіць... таксама кіно-п'есу. У гэтым вось „Кіно-Вока“ і розьніцца *па форме* ад простай хронікі. У яго разьведцы аб працы ленінцаў-піонэраў можна дакладна знайсьці і „злачынцаў“ (курачых табаку і разводзячых сухоты), і піонэраў, выконваючых функцыі „гэрояў“, і „жартаўнікоў“, уносячых комічны элемэнт, і г. д. Калі-б асобныя чынныя асобы „Кіно-Вока“ ня выконвалі бесьсьвядома для самых сябе тых ці іншых драматургічных амплуа, то Вертаў ня здолеў-бы разгарнуць лёгічна ніводнай соцыяльнай тэмы ў сваіх разьведках.

Калі Вертаў не рэжысэр, то ён усё-ткі няўхільна драматург. Іначай яго „Кіно-Вока“ рассыпалася-б на асобныя, бяз усякага зьвязку эпізоды хронікі,—ня здолела-б абхапіць ніводнага жыцьцёвага грамадзкага зьяўленьня ў яго складаным процэсе, у яго цэлым грамадзкім значэньні з сваім ідэолёгічным заданьнем, барацьбой і разьвязаньнем. Паколькі-ж Вертаў гэтага дасягае, патолькі ў яго композыцыі ёсьць таксама законамернасьць драматургічнага трыманьня яго мімавольных „чынных асоб“.

Такім чынам,—ці дано характэрнае амплуа актору ў яго беспасрэдных жыцьцёвых уласьцівасьцях, ці яно задана яму сцэнарыстым і рэжысэрам, як задача,—усё роўна амплуа актора замыкаецца ў законамернасьць драматургіі. Яе трэба вывучаць і выкарыстоўваць. Парушаючы яе, мы няўхільна дапусьцім недарэчнасьці ня толькі формальныя, але і ідэолёгічныя.

Мэтодам формы кіно-мастацтва кіруе кіно-драматургія.

Ці не зьяўляецца гэта мая тэорыя формальнай гвалтоўнай опэрацыяй над бытавым матэрыялам, які дае само жыцьцё? Ня ўдумаўшыся, можна запярэчыць, высоўваючы тое меркаваньне, што наша-ж задача выяўляць само жыцьцё, а ня штучныя п'есы, да яшчэ нібы запазычаныя па форме з тэатру.

І гэта пярэчаньне несправядлівае. Калі разгледзець уважна само жыцьцё, які хочаш яго кавалк, які хочаш процэс яго дыалектычнага руху барацьбы і разьвіцьця, то робіцца відавочным, што іменна з самага жыцьця, з самых рэальных фактаў, з нашага досьледу і нагляданьняў узьніклі законы для драматургіі. Драматургія ёсьць толькі ўсяго адбітак у люстры законаў жыцьця. Законамернасьць самога жыцьця азначае сабою драматургічную законамернасьць. Твор мастацтва па-за гэтай законамернасьцю дае толькі бязладзьдзе, ману, брэд.

# АЛЕСЬ ГУРЛО

*(Біографічны нарыс).*

Алесь Гурло радзіўся 31 студзеня па нов. ст. 1892 г. Бацькаўшчына—Капыль на Случчыне. Бацькі займаліся земляробствам. Бацька, апроч таго, меў вэтэрынарную адукацыю. Дзіцячыя годы былі атулены шчырай бацькаўскай ласкай і чулымі адносінамі. У бацькоў Алеся Гурло былі яшчэ два сыны і дзьве дачкі. Як вядзецца, на 7 годзе жыцьця Алесь Гурло пачаў навучаньне ў школе і ў 1908 годзе скончыў Капыльскую 2-х клясавую школу. Вучыўся—не сказаць каб вельмі добра, асабліва ленаваўся пазнаваць матэматычныя веды і ня меў нахілу да чарцяжоў. Часьцей заглядваў на бібліотэчныя паліцы. Яшчэ на школьнай лаўцы ім былі прачытаны бадай што ўсе расійскія клясыкі; асабліва любіў Пушкіна. Гогаля і Тургенева. У школьным жыцьці Алесю Гурло надта спрыяў і пасьля дапамагаў кніжкамі настаўнік А. Ляшчынскі.

Пасьля сканчэньня школы бацька надта клапаціўся, а настаўнікі шчыра раілі залічыць Алеся Гурло ў настаўніцкую сэмінарыю ў Нясьвіжы. Але раптам захварэла маці і хутка памерла. Гэтае здарэньне разбурыла ўсе надзеі і ўнесла бязладзьдзе ў жыцьцё хаты. Бацька запіў, а на Алеся Гурло, як старэйшага ў сям'і, лёг увесь цяжар гаспадарскае працы і догляд за малодшымі братамі і сёстрамі. Але і ў гэтай роспачы не хацелася аняхаяцца, пагразнуць у балоце будзёншчыны, не хацелася марна траціць час тады, калі пачалі афармляцца погляды на жыцьцё, калі стаў сталець розум, і вось увесь вольны час Алесь Гурло аддаваў кніжцы. Капыль у той час пачаў „інтэлігэніцца“. Маладое пакаленьне, якога не кранула хваля рэволюцыі 1905 году, пачало пераймаць ад старэйшых, разам з рэволюцыйнымі ідэямі, нахілы да самаадукацыі. Старое пакаленьне пачало перадаваць у спадчыну свае традыцыі, а то і прымаць у свае гурткі маладых хлапцоў. Вядома, і Алеся Гурло цягнула ў гэтыя гурткі, пацягнула да грамадзкае працы. Тады час быў трывожны, хвалі рэволюцыі не суніmaліся, адгалоскі яе, не зважаючы на вялікія атрады конных і пешых стражнікаў, якія запаўнялі Капыль, прабіваліся напаверх. Шмат арыштаў рабілася, але гэта не палохала, а наадварот, больш прыдавала адвагі. Першую забароненую кніжку, якую давялося чытаць Алесю Гурло, ён ўзяў з рук бацькі, у якога калі-ні-калі зьбіраліся яго сябры і чыталі, нешта гаварылі, а яго не дапушчалі да стала. А гэты раз бацька ахвотна даў, але



**Алесь Гурло**

(да пятнаццацігадовага юбілею яго літаратурнай дзейнасьці)

папярэдзіў, каб ён нікому не даваў і нічога не казаў. Гэта было першае хрышчэньне. З цягам часу, а гэта было ўжо ў 1909 годзе, Алесь Гурло знаёміцца з выдатнымі рэволюцыйнымі дзеячамі Капыля—Станілевічам, Жылуновічам, Зьмітрам Чарнушэвічам, Рыгорам Чарнушэвічам, Рыгорам Шкурынскім, з бібліотэкі якіх браў кніжкі, але ў грамаду іх не ўваходзіў.

Ведаючы, што Цішка Гартны ўжо піша і друкуецца ў беларускай газэце „Наша Ніва", Алесь Гурло, як маючы нахіл пісаць, гэтаму зайздросьціў, і вось, неяк зашоў да яго Хведар Чарнушэвіч—равесьнік і сусед Алеся Гурло, які прачытаў свае беларускія вершы і падахвоціў Гурло што-небудзь напісаць пабеларуску, каб разам послаць. Праўда. гэта было зроблена, і ў № 52 „Нашае Нівы" за 1909 год быў надрукован жарт у прозе—„Ласун". З гэтага часу пачынаецца літаратурны шлях Алеся Гурло. Праз некаторы час Алесь Гурло пачынае друкавацца і парасійску ў кіеўскай часопісі „Агні".

Разам з гэтым, адчыняюцца шыршыя горызонты і для грамадзкай працы. У гэтым-жа годзе Алесь Гурло ўваходзіць у рэволюцыйны гурток на роўных правох з памянёнымі вышэй таварышамі, а разам з ім уваходзяць Лагіновіч, Хведар Чарнушэвіч, Рабіновіч, а ў хуткім часе прыяжджае ў Капыль Шантыр, і вось, агульнымі сіламі ў 1910-11 г. г. яны пачынаюць выдаваць раней рукапісную часопісь „Заря" на расійскай мове, пасьля—„Голас Нізу", а праз некаторы час—„Нашу Думку"—на мове беларускай, якія перадрукоўваюць на гэктографе і распаўсюджваюць.

У Капылі не хапае стравы для здаваленьня духоўных патрэб, і ў канцы 1911 году Алесь Гурло разам з Станілевічам, які перад гэтым ледзьве ўгаварыў бацьку Алеся Гурло, едуць у Ленінград. Спачатку няпрыхільна спаткаў Алеся Гурло гэты вялізарны горад,—даводзілася сумаваць па сям'і і па бацькаўшчыне, ня было сілы змагацца за ўласнае жыцьцё. Але патроху ён паласкавеў, а Алесь Гурло прызвычаіўся да жыцьця, падшукаў працу на заводзе „Вулкан", пазнаёміўся з многімі добрымі таварышамі, а галоўнае—здабыў магчымасьці духоўнага жыцьця.

У гэты час Алесь Гурло загонаў літэратурнае нівы не пакідае і піша ў новыя часопісіі і газэты. Друкуе нізку вершаў у „Маладой Беларусі", часамі ў „Правде", уваходзіць у аб'яднаньне маладых пісьменьнікаў, на чале якога стаяў Чапыгін, бывае часта на сходках беларусоў у Эпімаха-Шыпілы і Іваноўскага.

Жыцьцё наогул пачынала ўваходзіць у належную каляіну, але надышла пара салдатчыны, якая чорнай плямай лягла на тыя, здавалася, ясныя горызонты. Перад прызывам Алеся Гурло давялося ўбачыць ізноў Капыль, але не надоўга. У лістападзе 1913 году ён пападае ў Кронштадт, як матрос Балтыцкага флёту. Штотдзенныя муштры, пакорнасьць начальству—усё гэта было такім моральным цяжарам, якога, здавалася, не перанесьці! Але мінула пара страяўшчыны, і Алеся Гурло залічаюць у машынную школу, дзе яму давялося крыху вальней уздыхнуць і ізноў

узяцца за кніжку і за напільнік, да якога да гэтага часу наламаў руку. І гэтак вучыўся і працаваў Алесь Гурло аж да 1915 году, а пасьля намучанага і навучанага са званьнем машыннага унтэр-афіцэра Алеся Гурло пасылаюць раней на выспу Юссарэ ў Фінскай затоцы, а пасьля—на карабель „Забіяку“ і на палітае крывёю мора працягваць вайну.

Гэтая пара жыцьця ня толькі спыніла была творчы дух, а нават адварачвала ад самога жыцьця. Адно, што толькі падтрымлівала сілы, Алеся Гурло—гэта шчырае братэрства матроскай сям'і ды вечная бурлівасьць мора. У 1915 годзе памёр бацька Алеся Гурло, братоў стрэў яго лёс, а з сёстрамі на доўгі час была перарвана сувязь. Усё гэта прымушала Алеся Гурло несьці цяжкую моральную пакуту.

Надышла Лютаўская рэволюцыя 1917 году; на яе барыкадах Алесю Гурло давялося быць выпадкова пры праезьдзе з Капыля праз Ленінград у Рэвель. Чынны ўдзел давялося браць якраз у Рэвелі, куды ён трапіў к самаму пачатку. Рэволюцыя вярнула сілы, напоўніла Алеся Гурло новай верай. Шмат раз Алесь Гурло абіраецца на адпаведныя пасады. Пасьля быў пасланы ў Ленінград у Унівэрсытэт салдат рэспубліканцаў, дзе спадзяваўся застацца, каб працягнуць асьвету; тады-ж давялося яму быць пры абароне подступаў да Ленінграду ад Карнілава. Бойкі за аўладаньне Рыскай затокай прымусілі Алеся Гурло вярнуцца ў флёт.

У Кастрычнікавую рэволюцыю Алесь Гурло браў чынны ўдзел у барыкадных бойках у Ленінградзе. Займаў адпаведныя выбарныя пасады ў войску, а ў пачатку 1918 г. быў пасланы, як член эвакуацыйнай комісіі, з Гэльсынгфорсу ў Ніжні-Ноўгарад і на Волгу, дзе 2-га ліпня таго-ж году быў паранены. Праляжаўшы 11 месяцаў у шпіталі, Алесь Гурло паступае на службу ў Ніжагародзкі Ваена-морскі Порт. У 1922 годзе Народным Камісарыятам Асьветы Беларусі быў адазваны ў Менск.

У 1924 годзе Алесь Гурло выдаў зборнік вершаў „Барвенак“ і залічыўся ў аб'яднаньне беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк“. У пачатку 1925 году адбылося 15-годзьдзе літаратурнай дзейнасьці Алеся Гурло.

# КНІГАПІС.

**„У віры жыцьця“.** *Апавяданьні М. Зарэцкі. Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі. Менск—1925 г.*

М. Зарэцкі, як пісьменьнік, выгадаваўся на шпальтах газэты „Савецкая Беларусь“ за апошнія тры гады. Усе яго апавяданьні, раней чым друкавацца паасобным зборнікам, праходзілі праз фільму памянёнай штодзеннай газэты. Ужо з першага апавяданьня чытачы нашай газэты зьвярнулі ўвагу на новы самародны талент, а за ўвесь час друкаваньня яго апавяданьняў у газэце М. Зарэцкі зрабіўся популярным беларускім пісьменьнікам. Ён зрабіўся популярным дзеля таго, што ўсе яго апавяданьні малююць сучаснасьць, заштрыхоўваюць пералом нашай псыхікі, пераход рубяжу дзьвюх эпох.

Гэты пераход пранізвае ўсе апавяданьні М. Зарэцкага. На гэтым фоне праходзяць жывыя людзі, іх унутраная барацьба.

Пры маляваньні новага быту, пры ўдалых псыхолёгічных аналізах размаітай галярэі тыпаў, самі сабою, бяз штучнай надуманасьці, зьяўляюцца розныя проблемы новага жыцьця. Гэтых проблем у большасьці аўтар не вырашае ў сваіх творах: яны вырашаюцца самі сабою пастолькі, паколькі ідзе наперад само новае жыцьцё; яны, гэтыя проблемы, вырашаюцца ў такой меры, у якой выкоўваецца-гартуецца тое новае, што прынесла нам на чырвонаармейскіх штыхох кастрычнікавая рэволюцыя.

Часам бывае так, што проблема, выяўленая ў адным з апавяданьняў, застаецца адчыненым, як-бы запытаньнем у чытача. Аўтар дае толькі жыцьцёвы факт-запытаньне, а далей— няхай сабе чытач робіць свае вывады, няхай над гэтым падумае. Аднак, цяжка ў такіх выпадках чытачу, якога непакоіць невырашанае пытаньне. Тут-жа спаміж радкоў адчуваецца ўсьмешка аўтара з яго-ж адказам: гэта проблема будзе вырашана самім жыцьцём, яго паступовым, дынамічным імкненьнем наперад.

З размаітых проблем новага жыцьця аўтар болей усяго спыняецца на пытаньні аб адносінах паміж мужчынай і кабетай у размаітых фазах гэтага пытаньня („Ворагі“, „Бель“, „Мар'я“, „На маладое“): каханьне на канве новага жыцьця, пры розных соцыяльных становішчах кахаючыхся.

Вясковая, загнаная векавой цемрай кабета, дзякуючы новым абставінам, робіцца сьвядомым грамадзкім („Ганулям“).

Вельмі тонкі і мастацкі аналіз пераломy поглядаў на рэлігію аўтар дае ў апавяданьні „Спакуса“.

Цэлая сэрыя новых людзей, робячых пералом старога і будуючых новае, праходзіць ва ўсіх апавяданьнях М. Зарэцкага. Суцэльна ахвяраваў аўтар такім гэроям апавяданьні: „У віры жыцьця“, „Цішка Бабыль“, „Чаплюк“ і інш. Тут проблемы вырашаныя, ясныя. Людзі выгартаваныя ранейшым да-рэволюцыйным жыцьцём, выкаваныя на кавадле розных соцыяльных умоў, прыгнечаныя багатымі, уваходзяць у новую эпоху будаўніцтва, як-бы ў адчыненую браму. Ім ламацца ня прыходзіцца. Яны

даўно да гэтага падрыхтованы клясавым інстынктам працоўных.

Гэты клясавы інстынкт вытварае свой асаблівы чалавечы гонар у сялян-беднякоў ня толькі ў межах Савецкай рэспублікі, дзе ў гэтым кірунку будзяць цёмныя сялянскія масы і асьведамляюць іх ува ўсіх галінах жыцьця, але і ў тых забітых, загнаных сялян, якія жывуць пад панскім уціскам. Пан стараецца ўсімі спосабамі выбіць з пачуцьця сялян, з сэрца „хлопа" і „хама" ўсё чалавечае.

У апавяданьні „Адкупіўся" стары пан Бажэлка выказвае такі погляд:

„Што яму (мужыку) трэба? Пад'есьці... Толькі пад'есьці—і больш нічога... Чаго—гэта ня важна. Абы бруха напхаць... Пачуцьцё, імкненьне ў яго адно: гэта—есьці. Ну, піць яшчэ, з бабай паляжаць... Да ўсяго іншага ён ня здольны. Гэта, што вы тут размалёўваеце аб яго пачуцьцях, аб душы яго, аб парываньнях,—усё гэта ні больш ні менш, як дзіцячае прызнаньне"...

Да гэтага-ж пана Бажэлкі прывялі мужыка, які чатыры дні ўкраў з панскага лесу. Пан падараваў „проступ" селяніну тады, калі селянін пацалаваў яго ў брудныя боты. Гэтым пан Бажэлка на факце хацеў даказаць пану Ржочыцкаму, што селянін і быдла—адно й тое самае.

Селянін такім чынам „адкупіўся" ад кары, хочучы выратаваць бедную сям'ю сваю ад голаду.

У мастацкай форме аўтар апавядае далей мукі селяніна за свой стоптаны чалавечы гонар. Селянін нарэшце ня вытрываў і павесіўся.

У маляваньні быту аўтар далёк ад тэндэнцыйнасьці і аднабокасьці, што відаць з усіх яго апавяданьняў. Аўтар зусім не хавае ад чытачоў тых жудасьцяй эпохі грамадзянскай барацьбы і выяўленьня цемры вясковай, якія мелі месца ў нас („Ноччу", „У Саўках" і г. д.).

Што тычыцца мовы і стылю М. Зарэцкага, дык у гэтым кірунку ў аўтара неадшліфованасьці не адчуваецца. Вось прыклад:

„У Саўках чорная, густая, што дзёгаць, ноч распаўзлася па хмызьняку. Заляпіла ўсе шчылінкі, усё ў адну цемру зьліла. Равы патуліліся, схаваліся ў воўне арэшніку. Нешта ў сябе затаілі таемнае, страшнае і ждуць—падсьцерагаюць, гатовыя праглынуць у сваё чорна-аксамітавае нутро. Маўчаць... Ды і ўсё навокал маўчыць у нейкім чакаючым напружаньні. Быццам во-во нешта здарыцца дзікае, страшэннае!!!

Такую настраёва-поэтыцкую раму М. Зарэцкі дае глухой ночы, калі бандыты чакаюць на дарозе ў лесе валаснога з грашмі, каб яго забіць.

Вобразы вырываюцца з-пад пяра аўтара ня вымучаныя, прыгожыя і музычныя:

„Ціха, лагодна патрусілася з неба. Потым завіхрылася маладым, жвавым карагодам. У дзівосных, адчайных скоках замітусілася, быццам хацела падражніцца, пашкуматаць, трохі счарнейшую старую зямлю.

І ўрэшце ўзьляглася—цяжка, пухка, пластом ваты; захінула, сьціснула ў мякка-ўпартых абнімках.

Бель... Першая бель-прывітаньне доўгачаканай гасьцюхі-зімы...

Весела, радасна спатыкаць першы сьнег!"

Такі маленькі кавалак простай і мілай поэзіі ў прозе робіць куды большае ўражаньне на чытача, чымся цэлы зборнік завумных вершаў з выкрутасамі, штучнымі вобразамі.

„У віры жыцьця" ня толькі зьмяншае голад беларускай прозы, але зьяўляецца багатым укладам у нашай літаратуры.

**З. Б.**

**Анатолі Вольны.** *Два. Повесьць. Дзярж. Выдавецтва Беларусі. Менск, 1925 год, ст. 67, тыраж—6000 экз.*

Сюжэт повесьці, узяты з часоў окупацыі Беларусі польскімі панамі,

з тых часоў, калі беларускае сялянства вяло жорсткую партызанскую барацьбу з апанаваўшымі нашу краіну польскімі атрадамі. Малюнак гэтае барацьбы і дадзен у повесьці.

Сюжэт повесьці вельмі просты і вузкі. Чарада адважных учынкаў партызанскага атамана Мухі і яго сяброў на фоне агульнага абурэньня сялян проці зьдзекаў бела-польскіх банд. Але разгорнуты сюжэт досыць мастацкі, і повесьць чытаецца з цікавасьцю. Некаторыя моманты захапляюць чытача, напружваюць яго ўвагу. З гэтага боку вартасьць твору яшчэ павялічвае агульная жыцьцёвасьць сюжэту, блізкасьць яго да чытача-беларуса.

Але ёсьць у композыцыі твору (з боку тэматычнага) і значныя няхваткі. Папершае, няма агульнае, праз усю повесьць праведзенае інтрыгі. Повесьць нібы складаецца з пасобных інцыдэнтаў, якія ня зьвязаны адно з адным агульнай думкай, агульнай мэтай. Гэта дрэнна адбіваецца на ўражаньні чытача, зьмяншае яскравасьць гэтага ўражаньня.

Часам сустракаюцца штучныя дапасаваньні фактаў, што чытачу кідаецца ў вочы. Напрыклад: паранены Муха ляжыць у аднаго чыноўніка. Польскі атрад, шукаючы Муху, пад'яжджае да мястэчка. У гэтае самае мястэчка пашоў чыноўнік. Ну, і каля мястэчка яны абавязкова сустракаюцца, атрад узнае, дзе Муха, і г. д. Або другі прыклад: пераапранутыя польскія салдаты ідуць у лес, каб знайсьці лягэр партызанаў. У гэты час хлопчыку Сьцёпку, які быў у лягэры, абавязкова трэ' было адыйсьціся ад лягэру, спаткаць іх і прывесьці да сваіх.

І такіх выпадкаў нямала. Апроч таго даюць сябе адчуваць ненатуральнасьці і нелёгічнасьці, якіх таксама не бракуе ў повесьці. Вось хоць-бы сабе той момант, калі Муха арудуе з гарматай. Гармату (трохдзюймоўку) вязуць па лясной сьцежцы. Вядзе сам Муха, без орудыйнага начальніка. Становяць гармату ў лесе і адтуль страляюць. Усё гэта—штукі немагчымыя ў вайскавой практыцы. Або ўзяць польскіх салдат. Яны такія трусы, што ўцякаюць ад безаружнага хлапца, валяцца ад аднаго толькі ўяўленьня, што ў іх стралялі і г. д. Тут проста—шарж, які, трэба сказаць, не адпавядае агульнаму тону повесьці і дысонуе. Вельмі ненатуральна апісан расстрэл партызанаў. Тут і варта расстаўлена ўсьцяж па дарозе, куды вядуць расстрэльваць трох партызанаў. Тут і ксёндз, і іншая цэрэмонія. Такая ўрачыстасьць не магла мець месца ў часе вайны.

Цяпер аб формальным баку повесьці. Повесьць напісана наогул лёгкім, мастацкі-простым стылем. Дынамічная адрыўчатасьць і, разам з тым, вытрыманая эпічнасьць стылю якраз адпавядаюць агульнай композыцыі твору. Дзе-ні-дзе пратачваецца сьвежая сакавітая вобразнасьць, якая прыемна аздабляе стыль, надае твору жывасьць і хараство.

Але і тут ёсьць няхваткі. Часам рэжа вуха стылістычная нявытрыманасьць, прыкрыя пераскокі, як, напр., у пачатку повесьці, у першых трох абзацах. Ладнага ёсьць няўдалых выразаў: часам шаблённых, часам неўласьцівых беларускай мове, а часам проста недарэчных. Напрыклад:

... На якой падставе ты ўцёк з палону?.. (ст. 15).

... стары ўжо ня меў сілы крануцца, б'ючыся аб падлогу падстрэленай птушкай... (ст. 33).

... уважліва падняліся... (ст. 13).

... з журбою на атмаш... (ст. 20—два разы).

... зноў, бачыць, некалькі шальных куль заселі ў яго грудзі... (ст. 22. Бачыць той, у чые грудзі заселі кулі).

... крыкі і страляніна *мітульной павісьлі* над вёскай... (ст. 33).

І такіх выразаў нямала. Але што горш за ўсё, дык гэта лексіка твору. Беларуская мова пакутуе, як больш і ня трэба. На кожным кроку дзеяпрыметнікі (рабіўшым, пашоўшых,

выбегшым, застаўшаяся, раскідаючыяся, упутаўшагася і інщыя). На кожным кроку русыцызмы (кубарам, ня гэтак-то лёгка, рыскалі, ухарскі, патускнелі, сьвярлілі, зжаўся, сплюнуў, вузда, гураган, балуецца і г. д.). Часам сустракаецца няправільнае ўжываньне беларускіх слоў (канава, што шла воддаль шляху—заместа „побач са шляхам"; рукі дагары—заместа, „ўгару" і інш.). Ёсьць трохі няўдалых нэолёгізмаў (под страхам *карнасьці*, *уласьціваручна*, *бязудзельна* —у сэнсе расійскага „безучастно" і інш.).

Урэшце колькі слоў аб агульнай вартасьці твору. Повесьць „Два" бязумоўна мае вялікае значэньне. Гэта якраз тое, чаго патрабуе наша сучасная моладзь, тое, што ў сучаснай літаратурнай клясыфікацыі звычай называецца „рэволюцыйнай романтыкай". Даючы гэроічныя малюнкі партызаншчыны, повесьць абуджае ў маладога чытача рэволюцыйны ўздым, клясавую ненавісьць, баявую адвагу. І з гэтага боку повесьць напэўна саслужыць вялікую соцыяльна-ідэолёгічную службу.

Шкода толькі, што аўтар мала зьвярнуў увагі на сувязь дзеі, якая разгортваецца ў повесьці, з эпохай. І таму партызаншчына, як пэўны гістарычна-рэволюцыйны момант, у повесьці выдае неяк адарванай ад агульнай завірухі, ад таго вялікага й шырокага, што рабілася ў той час. Нават Чырвонай арміі, якой фактычна дапамагаў партызанскі рух, у повесьці зусім ня відаць. Нібы й ня было гэтай арміі, нібы й ня было сапраўднай клясавай вайны, а толькі так сабе: польскія атрады нішчылі вёскі, а сяляне на іх памсьціліся за гэта. Такая адарванасьць ад эпохі бязумоўна шкодзіць твору, зьмяншае яго вартасьць.

**Зарэцкі.**

**„Крок за крокам"**. *Тарас Гушча (Якуб Колас). Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі, Менск 1925 г.*

Гэта—невялічкі зборнік апавяданьняў („Васіль Чурыла", „Бунт", „Наталька, „Джон і Муха", Малады дубок", „На жалезнай дарозе"), напісаных аўтарам у розныя часы.

На надзвычайна лірычным фоне „крок за крокам" разгортваюцца абразкі сялянскага быту ад рэволюцыі 1905 году да рэволюцыі 1917 г.

Мастацкі псыхолёгічны аналіз душы селяніна ў некаторых яе пералівах, трагізм залежнасьці ад пана і падпанкаў, грубая сіла царскай улады—вось галоўныя рысы гэтых апавяданьняў.

Нават і „бунт" сялянскі вышаў ня бунтам, у праўдзівым сэнсе гэтага слова, а нейкай ідыліяй сялянскай спакоры.

Мяккасьць і кволасьць тонаў—характэрна для пэндзаля Я. Коласа. Ад усяго зборнічку аддае спакойным смуткам. Пранікнешся гэтым смуткам—і перад чытачом паўстае ўва ўсёй жудасьці жыцьцё-быцьцё нашай вёскі да рэволюцыі.

Аднак, адчуваецца, што аўтар зрабіў спэцыяльны падбор сваіх пэрсонажаў—пакорлівых і ціхіх сялян. Аўтар як-бы наўмысьля не малюе людзей з моцнымі характарамі, не малюе вяскоўцаў, якія яшчэ ў 1905 годзе выступалі ў барацьбе супроць паноў, поўныя яўнага гневу, ахопленыя пажарышчам помсты і барацьбы, з ярка ўзбуджанай клясавай ненавісьцю супроць паноў. Такіх сялянскіх тыпаў у Я. Коласа няма, што, на наш погляд, зьяўляецца прабелам гэтай кніжкі.

**С. П.**

**Валеріян Поліщук**. „*Эвропа на вулкані*". *Надзвичайна поема. Видавництво Наркомосвіти УСРР і ЦККП(б)У. Червоний Шлях. Харків 1925.*

Вось што напісана самым аўтарам на вокладцы кніжкі.

„Надзвычайная поэма, зроблена ў нябывалым для поэм стылю на аснове гістарычных і фантастычных даных у новых дынамічных рытмах, мясцамі тэлеграфнаю моваю і тэмпам кіно з

адозвамі, радыёграмамі і інш. На сюжэт з сучаснага сусьветнага жыцьця, дзе выяўлена волатаўская барацьба пролетарыяту з капіталам і кіраўнічая тут роля Комінтэрну; на грунце вобразнай канвы праходзяць дзеячы пролетарскай рэволюцыі: Ленін, Троцкі, Зіноўеў, Мануільскі, Ракоўскі і інш., а таксама францускія комуністыя: Вальян Котур'е, Суворын, Рапопорт, Кашэн, згоднік Фросар, ворагі працоўных: Пуанкарэ, Людэндорф, Мантэньяк, шпіён Зоба, Жамб, Пэрэ, Тэнежэ і інш. Апрача таго, у поэме яркімі рысамі замалёваны падзеі ў Руры, рэволюцыя ў Нямеччыне, падзеі на Украіне, у Расіі, у Амэрыцы, у Японіі, у Польшчы і іншых краінах. Паказаны на ляту вучоны Кугно з яго вынаходам прадбачыць земляздрыгі, Піліпенка, Гербаль, Лейтэс, Вон-Марк, Палішчук, Мазурэнка, Галубовіч і інш. Нарэшце ў поэме апавядаецца аб розных прыгодах і навуковыя вынаходкі, аб сланох опортунізму Рапопорта, аб трох усьмешках і ляпас Пуанкарэ, аб гузіках з крыві, аб анэкдотычнай люлечцы Мануільскага, пра сон Зобі Зьвера гр. і Ахіў, Японскі земляздрыг 1923 году, перасяленьне францускага пролетарыяту ў СССР (Лувр у Харкаве) і загібель пад вадою тэрыторыі цяперашняй Францыі, затапленьне ў Парыжы Амэрыканскага дэсанту, гібель польскай шляхты, разьвіцьцё Саюзу Савецкіх Рэспублік і багата іншага".

Поэма ахапляе сабою кнігу ў 124 старонкі вялікага формату. Яна ў супраўднасьці асьляпляе сваёй орыгінальнасьцю, віртуознасьцю стылю, формы і сюжэту.

У той час, калі ў працягу вякоў пісаліся розныя утопіі на соцыялістычным грунце, гэтыя утопіі аддаляліся на доўгія годы—на соткі і тысячы год. Утопіі ранейшых аўтараў часткова спраўдзіліся ў СССР. В. Палішчук робіць далейшую дарысоўку гэтай супраўднасьці ў розных капіталістычных дзяржавах зямлі. Сродкамі поэтыцкай фантазіі, на грунце гістарычных падзей сучаснасьці, поэта робіць спробу дамалёўкі эпілёгу гэтых падзей па ўсёй Эўропе. Эўропа знаходзіцца на вулькане. Гэты вулькан робіць свае грандыёзныя выбухі, на фоне якіх выступаюць гістарычныя асобы нашай сучаснасьці.

Вельмі ўдалы ў поэме зарысоўкі сучасных гістарычных асоб (Л. Троцкі, Мануільскі і інш.). Мясцамі ёсьць лірычна-філёзофічныя паясы вершаў, якія раптам, неспадзявана перарываюцца гуморыстычна-дасьціпнымі малюнкамі (паездка Мануільскага і прабываньне яго ў Парыжы). Мясцамі перабіваецца тэмп поэмы адрыўкамі прозы, газэтным стылем наўмысьне зробленым, дзеля натуральнай перадачы палітычных настрояў сучаснасьці. Падзеі адрывачны і хутка мяняюцца, як на кіно-фільме.

Поэта імкнецца на казачным вогненным кані па розных дзяржавах Эўропы,—і вось як ён малюе яе ў сучасным выглядзе.

Стара, облисіла в перуках брехні
Облудлива розпусниця Європи
Республіка французького рантье
Трухлие днями жа паразитуе.
Уже беззубі щелепи не заховать
Під крашеним червоно ротом;
Уже безкровні груди, де нема чуття:
Даремно розпіраються
В гумованих півкулях—
Старая псина сморадом несе.
Але масажів, масажів трэба
І крові молодой з жил
Працюючої кляси.
Можліво молодісто хоч крапельку
піддасться.
І ось облисілий, так само, масажист
Та кровопуск Європи, Пуанкаре,
Знімае пуф на грудях
І тре старечими руками
Просохле місце без крові й молока.

Такім поэтыцкім пафосам пранікнута ўся поэма.

У гэтым і вызначаецца асаблівасьць поэзіі Палішчука наогул: там, дзе большасьць бачыць „газэтны матэрыял"—Палішчук вынаходзіць сутнасьць нашага бытаваньня, лятуцень-

няў нашай, можа блізкай будучыны. Сучасная „сухая“ політыка служыць аднаму з найлепшых поэтаў чырвонай Украіны вогнішчам невычарпаемага поэтычнага натхненьня.

Цікава, што некаторыя з гістарычных асоб сучаснасьці—з галоўных гэрояў поэмы—ужо зышлі з арэны політычных дзеяньняў, але ці ў гэтым можна знаходзіць фальш поэмы?—не. Галоўнае тое, што Эўропа—на вулькане рэволюцыйных падзей. Гэты вулькан перабудуе Эўропу, адновіць яе.

Поэма Палішчука—у розных пералівах сваіх форм, настрояў, жанру, вобразаў і фантазіі—чытаецца з вялікай цікавасьцю. Штодзенная політыка з шпальтаў газэт як-бы ператворана з праўдзівасьці ў казку-утопію, а з апошняй—зноў-жа ў праўдзівасьць.

Поэма канчаецца так:

Повстаньте-ж, прибиті капіталом,
Голодні юрми злидарів,
Гармати борні зарокотали
І день зі сходу зазорів!
Як повінь, лавами шугніте,
Щоб неври—спільні провода!
Повстаньте ви, підвалів діти,
Начинням праці завладать!
До Комуни світовоі
Рушай, прибій залізных рот,
Міжнародным, запеклым боем
Світ насильства побороть.

Поэма перасыпана размаітымі ўзорамі формы і рытмаў, якія патрабуюць спэцыяльнага разгляду. Мы на гэтым тут ня спыняемся. Скажам наогул, што ў шуканьні новых форм у поэтыцкай творчасьці як збоку сюжэтаў, так збоку рытмікі Палішчук шмат чаго дасягнуў.

**Б.**

**М. Азбукін**. *Географія Эўропы. Дзяржаўнае Выдавецтва. Масква—Ленінград. 1924 г. 396 старонак і карта Эўропы.*

Кніга Міколы Азбукіна даўно падгатаўлялася і даўно чакалася беларускай школай і паасобнымі зацікаўленымі грамадзянамі і, нарэшце, убачыла сьвет у 1925 годзе. Кніга выдадзена каштоўна і добра; зьмяшчае багата малюнкаў (116) і добрую сучасную карту Эўропы. Зьмест кнігі сьведчыць аб капашлівай, уважлівай працы аўтара, аб замілаваньні сваім прадметам, аб рознабокіх ведах: з фізычнай і політычнай географіі, з агульнай гісторыі і г. д.; дае каштоўны сучасны статыстычны матэрыял аб плошчы, насельніцтве, гандлі розных краін і гарадоў; дае матэрыял па соцыяльна-экономічных адносінах дзяржаў, нацый і станаў Эўропы і, гэткім чынам, выгодна адрозьнівае кнігу ад падобных падручнікаў па географіі.

Кніга носіць на сабе выразны адбітак сучаснага (мы-б сказалі, савецка-марксыцкага) падходу, ані ня губляючы ў навуковасьці і магчымай об'ектыўнасьці.

Кніга зьяўляецца бясспрэчным каштоўным укладам у навукова-прозаічную нашую літаратуру. Увагі нашыя могуць быць абмяжованы наступным.

Збоку мэтодолёгічнага самаўласьціва падзел на географічныя адзінкі, буйнейшыя і драбнейшыя, робіць крыху расплыўнае ўражаньне аб звыклых нам політычных адзінках. Так, агульную характарыстыку Ангельшчыны і ангельцаў мы знаходзім у апісаньні Паўднёва-ўсходняй Ангельшчыны; Францыі—у Паўночна-Францускай нізіне і г. д.; чытач часам блытаецца: аб чым ідзе гутарка? аб дзяржаве ўсёй ці аб частцы яе?

Троху нявытрымалым, нам здаецца, зьяўляецца і самы падзел на „абшары“: у аснову адных пакладзены выразна фізыка-географічныя асаблівасьці (Пірэнэйскі паўвостраў, Італія, Альпы і г. д.); у аснову другіх—хутчэй этнографічныя адзнакі, — Францускя старана, Германія, на што паказваюць і назвы. Тады да Германіі, панашаму, трэба было-б далучыць і сучасную Аўстрыю, бо з „географічнага“ боку між Голян-

дыяй і Саксоніяй ня болей агульнага, як між Аўстрыяй і Баварыяй. Канешне, географічныя адзінкі яшчэ не ўсталяваліся ў навуцы, і з гэтага боку плян аўтара застаецца цікавым. Трэба было-б крыху болей сказаць аб цыклёнах, аб іх шляхох па Эўропе, бо ад іх, галоўным чынам, залежыць клімат на нашым контынэнце.

Ня зусім правільна, панашаму, геолёгічная характарыстыка ўсходняе Эўропы,—што пласты земнай кары ляжаць роўна або няпрыметна нахілены. Справа ў тым, што пад ледавіковым пакрыцьцём залягаюць тут у большасьці палео і мэзозойскія адклады мора з мульдамі, басэйнамі і г. д., а яны-ж і складаюць тут „земную кару“; мусіць аўтар меў на ўвазе павярхоўныя пласты?

Паняцьце горсту, як „выпіраньня“, ня зусім дакладнае: ёсьць горсты, як астанцы кары земнай між правальлямі, грабэнамі і г. д. Што ангельская мова ёсьць адна з германскіх, досыць спрэчна, лепш аднесьці яе, як і народ, да самастойнай „англо-кельцкай“ групы.

Некалькі ўваг аб тэрмінах. Заместа „дарог“ сусьветных, лепш „шляхі“, бо дарогі больш конкрэтнае разуменьне. Заместа „жадасьць“ (46 ст.) ці ня лепей—прагавітасьць,сквапнасьць? Расьліны „мокралюбы“ лепей, як „мокралюбныя“ (гл. ботанічны слоўнік ІБК).

Ёсьць такія словы, як „мінэралаў“ „мінэрал“ (30 ст.) „затокаў“ (ніжэй—заток), якія сьведчаць, канешне, аб зразумелым недаглядзе: шкада, няма сьпісу абмылак! Гэтым-жа тлумачыцца і тое (123 ст.), што паангельску гаворать у ангельшчыне 5 проц.(?) Ня гледзячы на гэтыя драбязгі, кніга ёсьць найлепшым з вядомых нам падручнікаў па географіі сучаснай Эўропы для слухачоў тэхнікумаў настаўнікаў географіі ўсіх тыпаў школ.

**М. Грамыка.**

**А. В. Багдановіч.** „*Новая беларуская літаратура*“. *Выданьне Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства. Віцебск, 1925 г. 25 ст. малога формату.*

У такой маленькай кніжцы аўтар ахоплівае беларускае пісьменства ад часоў „Нашае Нівы“ да нашых дзён (20-х гадовы кругабег).

Ня гледзячы на такія маленькія разьмеры, аўтару ўдалося даць бадай што поўную характарыстыку кожнага з беларускіх пісьменьнікаў за апошнія дваццаць год.

Мала гаварыць і многа казаць— вось галоўная каштоўнасьць гэтай кніжачкі.

На вялікі жаль, кніжка мае заганы збоку выдавецтва: шмат корэктарскіх памылак і адсутнасьць беларускай літары „ў“.

**С.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

## У Інбелкульце.

О У сельска-гаспадарчай сэкцыі Інбелкульту заложаны тры падсэкцыі: лясная, па вывучэньні хатніх сельска-гаспадарчых рамёслаў і мэліарацыйная. Апрача гэтага, існуюць дзьве комісіі: па ўкладу сельска-гаспадарчай тэрмінолёгіі і па рэдагаваньні і апрацоўцы сельска-гаспадарчай літаратуры. Апошняя комісія абвясьціла конкурс на напісаньне 41 брошуры па сельскай гаспадарцы. Лясная падсэкцыя пачала распрацоўку тэрмінолёгіі па лясных навуках.

О У зьвязку з пераходам да Інбелкульту працы па ахове прадметаў старасьветчыны, прыроды і мастацтва, паднята пытаньне аб перадачы пад загад Інбелкульту ўсіх музэяў БССР.

О Мастацкая сэкцыя ІБК падзяляецца на тры падсэкцыі: тэатральную, вобразных мастацтваў і музычную.

З найбольш цікавых заданьняў, намечаных тэатральнай падсэкцыяй, заслугоўвае ўвагі драматургічны сэмінары, які рыхтуецца да організацыі з восені гэтага году. Распачата праца па палепшаньні пастановак у Бел. Дзярж. Тэатры з мастацкага боку і боку мовы. Зроблены захады да зьбіраньня, вывучэньня і гармонізацыі беларускай песьні, дзеля чаго намечаны профэсары пры музычным тэхнікуме Прохараў і Аладаў, адначасова запрошаны вядомыя гармонізатары беларускай песьні з Масквы і Ленінграду. Паложан пачатак сталай комісіі па апрацоўцы белар. мэлёдыі для інструкцыйнага выхаваньня.

У тэрмінолёгічную комісію мастацкай сэкцыі паступіла музычная тэрмінолёгія, апрацаваная Ю. Дрэйзіным.

Падсэкцыяй вобразных мастацтваў зроблены захады да напісаньня портрэтаў Ф. Скарыны. Рыхтуецца бюст Ф. Скарыны і памятная дошка, прысьвечаныя 400-годзьдзю беларускага друку і асобе Скарыны.

О Комісіяй Інбелкульту па вывучэньні рэволюцыйнага руху на Беларусі падрыхтоўваюцца да выданьня зборнікі: 1) „Беларусь у часы польскай окупацыі“; 2) альбом загінутых у часы рэволюцыі рэволюцыянэраў і дзеячоў; 3) 1905 г. на Беларусі.

О Літаратурнай сэкцыяй Інбелкульту пастаноўлена ў бліжэйшым часе прыступіць да практычнай працы па зьбіраньні народнай творчасьці па ўсіх кутках Беларусі праз пастаянную сетку корэспондэнтаў на мясцох.

Утворана часовая комісія для падбору матэрыялаў з беларускага прыгожага пісьменства для перакладу на жыдоўскую мову.

О Аддзелы і сэкцыі Інбелкульту ў апошні час заняты дзейнай падрыхтоўкай да прадстаячага скліканьня ў Менску ўсясьветнага конгрэсу беларускіх вучоных. На зьезд будуць запрошаны ўсе вучоныя, якія працуюць у галіне вывучэньня жыцьця і побыту ў Беларусі і яе насельнікаў. Зьезд мацьме скліканы ў восень бягучага году.

О У гэта лета Інбелкульт мае на ўвазе наладзіць навуковую экспэдыцыю з мэтай досьледу стаянкі першапачатковага чалавека на беразе

Дняпра каля Новага Быхава. На адно з пасяджэньняў гісторыка-археолёгічнай сэкцыі былі дастаўлены для агляду багатыя колекцыі знойдзеных на плошчы былой стаянкі рэчаў, якія перададзены ў Бел. Дзярж. Музэй.

О З Ленінграду пераехаў у Менск вядомы беларускі культурнік проф. Б. Эпімах-Шыпіла. Проф. Б. Эпімах-Шыпіла пераехаў у Менск для пастаяннай працы ў Інбелкульце, сябром якога ён лічыцца.

### У „Маладняку“.

О З 21 па 23 сакавіка г. г. у будынку ІБК адбываўся першы пленум Усебеларускага аб'яднаньня поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк“. У пленуме прымалі ўдзел: Цэнтральн. Бюро „Маладняка“ і прадстаўнікі ад філій „Маладняка“ — Маскоўскай, Віцебскай, Магілеўскай, Полацкай, Барысаўскай, Бабруйскай і Менскай,— агулам да 30 чалавек. Пленумам заслуханы шэраг дакладаў і вынесены па іх рэзолюцыі. Усе матэрыялы пленуму выданы асобным „Бюлетэнем“.

О У Клімавічах заложана філія „Маладняка“.

О У Гомлі заложана філія „Маладняка“.

О У нядзелю 26 красавіка ў клюбе імя „Карла Лібкнехта“ для комсамольцаў-гарбароў адбыўся вечар „Маладняка“.

О ЦБ „Маладняка“ пастанавіла выдаваць маладнякоўскую бібліотэчку паасобнымі невялічкімі кніжачкамі, якія-б каштавалі 10-15 капеек. У першую чаргу вызначана выдрукаваць 20 кніжачак на сродкі ЦБ „Маладняка“.

Будуць выходзіць з друку яны такім парадкам: 7 у маі, 7 у чэрвені і 6 у ліпні.

О Вядзецца падрыхтоўка да скліканьня зьезду „Маладняка“, на які будуць запрошаны прадстаўнікі літаратурных аб'яднаньняў Украіны, РСФСР і Закаўкаскай Фэдэрацыі. Зьезд адбудзецца ў пачатку чэрвеня.

У той-жа час чакаецца прыезд з Масквы Беларускай Дзярж. Студыі.

О Згодна пастановы ЦБ „Маладняка“ на нарадзе 24 красавіка, выяжджалі:

У Бабруйск, Гомель і Мазыр— т. т. Пушча і Чарнушэвіч, у Віцебск— т. Крапіва.

О Магілеўская філія „Маладняка“ рыхтуе да друку літаратурна-мастацкі альманах.

О Вышаў з друку зборнік апавяданьняў маладнякоўца М. Зарэцкага— „У віры жыцьця“, на 12 друкаваных аркушох.

### 15-гадовы юбілей літаратурнай працы Алеся Гурло.

22 сакавіка Менск адсьвяткаваў юбілей 15-гадовай літаратур. працы беларускага поэты - маладнякоўца Алеся Гурло. Урачыстасьць была наладжана Менскай філіяй „Маладняка“.

### Сярод пісьменьнікаў.

О Якуб Колас перарабляе драму „Антось Лата“. На бліжэйшыя часы ім намечана напісаць шэраг апавяданьняў і поэму „Рэволюцыя“. Ім-жа рыхтуецца да друку збор апавяданьняў у прозе „Казкі жыцьця“.

О Зьмітрок Бядуля апрацоўвае жыдоўска-беларускі й беларуска-жыдоўскі слоўнік і рыхтуе да друку зборнік новых апавяданьняў.

О Міхась Чарот скончыў сваю аповесьць „Сьвінапас“, якую думае выдаць асобным выданьнем у Дзяржаўным Выдавецтве.

О Цішкай Гартным напісан цыкль апавяданьняў „Чырвоная Краіна“.

### Тэатр і мастацтва.

О У г. Чэрыкаве мясцовымі аматарамі рыхтуецца да пастаноўкі п'еса па Гогалю „Маёвая ноч“ на беларускай мове.

О У Беларускім музычным тэхнікуме (Менск) адчыняецца опэрная кляса.

О Беларуская Дзяржаўная Студыя ў Маскве заарандавала будынак тэатру „Аквариум“, у якім з 20 краса-

віка аднаўляе сваю пастаноўку народнай п'есы „Цар Максімільян“ у пастаноўцы В. С. Смышляева. З 2-га мая пачынаюцца спэктаклі скончаных у бягучым годзе новых пастановак:

„Зруйнована цемра“—беларуская орыгінальная п'еса Шашалевіча ў пастаноўцы П. Пашкова, музыка А. Грэчанінава.

„Сон летняе ночы“—Шэксьпіра. Пастаноўка В. С. Смышляева, музыка Сокалава-Фёдарава.

Спэктакль аднаактовак: „Чорт і баба“—Аляхновіча; „Пільны вартаўнік“—Сэрвантэса; „Барыакскі цырульнік“ — М. Нэлль; „Гавань“ па апавяд. Гюі-дэ-Мопасана.

Вечар беларускай песьні пад кіраўніцтвам Равенскага і скокаў у пастаноўцы Лашчыліна.

Дэкоратыўнае абсталяваньне ўсіх пастановак—мастака Л. Нікіціна.

○ За тры месяцы 1925 г. Беларуская Дзяржаўная трупа пад кіраўніцтвам Галубка паставіла 42 спэктаклі.

27 спэктакляў было пастаўлена ў павеце, а 15—у горадзе.

З пачатку вясны трупа пакідае на ўсё лета Менск, параяжджаючы ў самыя глухія куткі Беларусі.

○ У Менск прышоў з Заходняй Беларусі вядомы беларускі композытар А. Грыневіч. У Менску А. Грыневіч прыме ўдзел у працы Інбелкульту і мае на ўвазе ў бліжэйшы час выдаць шэраг навукова-музычных і пэдагогічных прац.

**25-гадовы юбілей тэатральнай працы Е. Міровіча.**

26-га красавіка ў Бел. Дзярж. Тэатры адбылося ўшанаваньне мастацкага кіраўніка БДАТ—Е. А. Міровіча з прычыны 25-годзьдзя яго драматычнае і сцэнічнае працы. Пастаўлена была новая п'еса юбіляра „Каваль-ваявода“--фантазія ў пяцёх актах.

**Кіно-справа.**

○ Управа Бел. Дзярж. Кіно прымае захады да таго, каб прасунуць кіно ў вёску, у зьвязку з чым створан спэцыяльны аддзел „Кіно—вёсцы“. Да працы ў гэтым аддзеле намечана прыцягнуць ня толькі кіно-ўправы, а і акруговыя выканаўчыя комітэты, Наркомзем і коопэратывы.

**Выдавецкая справа.**

○ У выданьні Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі вышлі з друку першыя кнігі з сэрыі „Ленінская бібліотэка“ на беларускай мове. Выдадзеныя кніжкі носяць назвы: Ленін — Дзіцячая хвароба „лявізны“; Ленін — Аб коопэрацыі; Ленін —Аб рэлігіі.

○ Дзярж. Выд. Беларусі выдала романс „Сасонка“. Словы Янкі Купалы, музыка композытара Аладава.

○ ДВБ выдала чатыры зборнічкі апавяданьняў Якуба Коласа („Першыя крокі“; „Крок за крокам“; „У ціхай вадзе“ і „На рубяжы“).

○ Вышла з друку „Гісторыя Беларусі ў XIX і пачатку XX ст.“ — проф. У. М. Ігнатоўскага.

○ За пэрыод часу з 1 кастрычніка 1924 г. па 1 красавіка г.г. Дзяржаўным Выдавецтвам Беларусі выдадзена 56 выданьняў, з якіх на беларускай мове — 39, на расійскай — 7, на жыдоўскай—6 і на польскай мове—4. Агульны тыраж выданьняў — 690.000 экз.

**Краязнаўства.**

○ У Чэрыкаве заснавалася раённае краязнаўчае аддзяленьне; у сябры аддзяленьня ўвашло 33 асобы.

○ У Хоцімску заснавалася раённае краязнаўчае аддзяленьне, у склад якога колектыўна ўступілі ўсе настаўнікі раёну.

○ У Расьнянскім краязнаўчым аддзяленьні дасьледваецца побыт мясцовага жыхарства. Адначасова зьбіраюцца ўзоры мясцовых тканін.

○ Загадчыкам Касьцюковіцкае сямёхгодкі запісана 26 народных песень. Да слоў запісаны мэлёдыі на адзін голас.

○ Калінінскае акруговае краязнаўчае таварыства пасьля організацый-

нае працы (арганізацыя раённых аддзяленьняў) перашло на сталую програмную працу. Таварыствам у г. Клімавічах заложаны акруговы музэй. У гэты час праводзіцца цэнтралізацыя музэйных фондаў.

Сабраныя рэчы, галоўным чынам, складаюцца з рэчаў каменнага й жалезнага вякоў, рыцарскіх прылад і г.д. Маецца шмат старадаўніх малюнкаў і портрэтаў.

О Віцебскім акруговым таварыствам выдадзены кніжкі: „Беларуская архітэктура“, „Экономічны нарыс БССР“, „Беларускае мастацтва“ і „Беларуская літаратура“. Маецца на ўвазе ў гэтай сэрыі выдаць 12 кніжак. Выдадзены таксама „Беларуска-расійскі слоўнічак“, утрымоўваючы 2.000 карэнных слоў.

Друкуецца непэрыодычны орган таварыства „Віцебшчына“, у якім зьмешчаны мэтодолёгічныя й мэтодычныя працы, крыніцы па дасьледваньні Віцебшчыны, бібліографія, матэрыялы аб працы таварыства і г.д.

### У Заходняй Беларусі.

О 26 студзеня 1925 г. адбыўся ў Горадні першы за апошнія чатыры гады беларускі спэктакль. Пасьля ліквідацыі апошняй беларускай трупы ў 1921 г., горадзенцы ня бачылі на сваёй сцэне ніводнай беларускай п'есы.

Ставілася камэдыя Ф. Аляхновіча „Шчасьлівы муж“, пад рэжысурай старога артыстага Дашэўскага.

О У сакавіку м-цы г. г. споўнілася 15 гадавіна са дня пастаноўкі першага беларускага публічнага спэктаклю ў Вільні.

О У Вільні вышаў з друку першы нумар беларускай студэнцкай часопісі „Студэнцкая Думка“, на які, за адозву, зьмешчаную ў ім, польскай уладай наложаны арышт.

О Урадам Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні 25 сакавіка г.г. быў наладжаны ўрачысты вечар, ахвяраваны 400-гадоваму юбілею беларускага друку. Вечар адбыўся па програме:

1. Уступнае слова старшыні Бел. Нав. Т-ва—А. Луцкевіча; 2) прывітальныя прамовы; 3) даклад Б.Тарашкевіча—„Век Скарыны“; 4) даклад Ф. Станкевіча—„Жыцьцё і праца Ф. Скарыны“.

О Вышла ў сьвет кніжка аб Скарыне: „Доктар Францішак Скарына—першы беларускі друкар. 1525—1925“. Напісаў Ад. Станкевіч. Друкована коштам Бел. Нав. Т-ва ў Вільні. Кніжка невялічкага формату, мае 56 ст., з малюнкамі.

О Апублікованы ўжо вынікі сьпісу насяленьня Латвіі, які адбываўся 9-10 лютага г. г.

Нацыянальны склад насяленьня Латвіі прадстаўляецца гэтак:

палякаў—2,8 проц., немцаў—3,15 проц., беларусаў—4,19 проц., жыдоў—4,22 проц., расійцаў—5,5 проц., рэшта—латышы і інш.

Такім чынам, меншасьцяй у Латвіі налічваецца каля 20 проц. (19,86), або адна пятая частка. Сярод „меншасьцяй“ беларусы стаяць пасярэдзіне за расійцамі і жыдамі, але перавышаюць лічбу немцаў і палякаў.

У сувязі з гэтым на беларускія школы выдзелена з латвійскага бюджэту 113.169 латаў (або 5.658.450 латвійскіх рублёў).

# ХРОНІКА ЖЫДОЎСКАЙ КУЛЬТУРЫ

О Адначасова са зьездам беларускіх вучоных, якi склікаецца Інстытутам Беларускай Культуры, падрыхтоўваецца скліканьне ўсясьветнага зьезду жыдоўскіх вучоных, якi мацьме адбыцца ў восень бягучага году. На зьезд запрашаюцца прадстаўнікі жыдоўскай культуры, як Саюзу ССР так і заграніцы. Запрашаюцца выдатныя жыдоўскія вучоныя з Амэрыкі, Нямеччыны, Англіі, Францыі і інш. краін. На зьездзе будуць абгаварвацца пытаньні жыдоўскай гісторыі, экономікі і інш.

О Жыдоўскі аддзел Інбелкульту шырока разгарнуў грамадзкую працу. У аддзеле зорганізаваны комісіі—гістарычная, лінгвістычная і літаратурная. На чале комісіі стаяць: проф. І. Сосіс, проф. М. Вейнгэр і літаратаркрытык доктар Н. Ойсьлендэр. У сэкцыях адпаведных комісій працуе шэраг навуковых працаўнікоў.

Гістарычная сэкцыя зьбірае матэрыял па рэволюцыйным руху сярод жыдоўскіх рабочых з даўніх часоў. Сабраныя матэрыялы будуць выданы асобным зборнікам.

О Жыдоўскі аддзел Інбелкульту прыступіў да вярбоўкі корэспондэнтаў ва ўсіх гарадох, мястэчках і жыдоўскіх селішчах Беларусі. Праца гэтых корэспондэнтаў будзе ўтрымоўвацца ў зборы помнікаў жыдоўскай старасьветчыны, інформацыі пра выдатныя гістарычныя падзеі і інш.

О У гэтым годзе закладзен жыдоўскі аддзел Беларускага Дзяржаўнага Музэю. Аддзелам пачата праца па зьбіраньні помнікаў жыдоўскай старасьветчыны. У аддзел паступаюць экспонаты, якія па меры адборкі выстаўляюцца ў асобным памяшканьні Музэю.

О Мастаком М. Філіповічам зроблен цэлы шэраг зарысовак вельмі цікавых жыдоўскіх орнамэнтаў з намагільных помнікаў старых менскіх могілак.

О Дзесятая гадавіна са дня сьмерці жыдоўскага пісьменьніка І. Л. Перэца была адзначана па ўсіх гарадох і мястэчках Беларусі праз наладжаньне літаратурных вечароў з чыткай абраных твораў пісьменьніка. Да гадавіны (красавік) жыдоўскім выдавецтвам „Школа і кніга“ быў выдадзен зборнік лепшых твораў нябошчыка з характарыстыкай Перэца, як прадстаўніка жыдоўскай літаратуры першага дзесяцёхгодзьдзя XX-га веку і як прадстаўніка жыдоўскай рэволюцыйнай думкі.

О Вядомы жыдоўскі скульптар І. Чайкоў (Масква) апрацаваў модэль помніка загінутаму жыдоўскаму рэволюцыянэру Гіршу Лекерту.

Як вядома, Г. Лекерт у 1902 г. рабіў замах на жыцьцё Віленскага гэнэрал-губарнатара фон-Валя, за што быў павешаны. Мармурная дошка з адпаведным надпісам 11 чэрвеня 1922 г. была прыбіта на малым сквэры ў Менску.

Апрацаваная модэль выяўляе сымболічную фігуру тэрорыстага, кідаючага бомбу.

О Маскоўскі Жыдоўскі Дзяржаўны (камэрны) тэатр закончыў зімовы сэзон свае працы ў Маскве і на вясеньні пэрыод выехаў на Украіну,

дзе ў шэрагу гарадоў ідуць яго спэктаклі з надзвычайным посьпехам.

Па заканчэньні турнэ па Украіне, тэатр едзе ў Амэрыку, куды запрошан на гастролі.

О Жыдоўская Дзяржаўная Драматычная Студыя Беларусі ў Маскве, акрамя паказаных прац, як „У хэдэры", „Мэншн", мініатур і вялікай п'есы Мольера—„Скапэн",працуе над новай п'есай: „Ін поліш офн кэйт"— Пэрэца.

О З 1 мая ў Харкаве пачынае выходзіць трэцяя па ліку ў СССР жыдоўская газэта вялікага фармату— „Штэрн" (Зорка), якая прызначаецца да абслугоўваньня працоўных мас Украіны.

О Друкуецца і ў хуткім часе выйдзе першы нумар літаратурна-мастацкай і палітычна-навуковай двухмесячнай часопісі „Штэрн". У часопісі прымае ўдзел шэраг значных грамадзкіх і літаратурна-навуковых работнікаў. „Штэрн" зьяўляецца першай тоўстай жыдоўскай часопісьсю ў Беларусі.

О У Дзяржаўным Выдавецтве Беларусі выдана навуковая кніга профэсара М. Нікольскага „Пахаджэньне жыдоўскіх сьвят" у перакладзе на жыдоўскую мову. Кніга, як асьвятляючая жыдоўскую рэлігію з навукова-крытычнага пункту погляду, выяўляе сабою значную цікавасьць. Выдана кніжка добра і чыста. Пераклад зроблен добрай зразумелай мовай.

О Споўнілася другая гадавіна існаваньня жыдоўскай комсамольскай часопісі „Юнгвальд" (малады лясок). „Юнгвальд" — месячная часопісь. У кожным нумары зьмяшчаюцца літаратурна-мастацкія творы, асьвятляецца жыцьцё жыдоўскай рабочай моладзі, зьмяшчаюцца артыкулы выхаваўчага характару. Юбілей сьвяткаваўся па ўсіх гарадох БССР.

О ЦК ЛКСМБ выдае асобнай кніжкай на жыдоўскай мове пераклад апавяданьня маладнякоўца Анатоля Вольнага—„Два".Пераклад зроблен Х. Левіным.

Гэтак сама падрыхтоўваецца да выданьня літаратурны зборнік, зборнік жыдоўскіх песень, гісторыя Комсамола Беларусі і кніжка—„Правы рабочага-недалетка".

О Цэнтральнае праўленьне саюзу краўцоў Беларусі з вясны перашло поўнасьцю як у сваім дзелаводзтве, так і ў выдачы розных масавых саюзных дакумантаў на жыдоўскую мову. Адначасова гэта мерапрыемства праводзіцца ва ўсіх гарадох Беларусі, дзе толькі існуе аддзяленьне саюзу краўцоў.

Часопісь краўцоў „ЧырвонаяГолка" выходзіць дзесятым нумарам, стаўшы органам як краўцоў Беларусі, так і Украіны.

О У гэтым годзе адбываецца першы выпуск слухачоў Менскага Жыдоўскага Пэдагогічнага Тэхнікуму. Сканчае тэхнікум 25 слухачоў, якія накіроўваюцца на пэдагогічную працу ў акруговыя гарады і мястэчкі Беларусі.

О Са ўсяго ліку жыдоўскіх дзяцей Беларусі звыш 47 проц. вучацца на жыдоўскай мове. Акрамя гэтага, у пяцёх акругах маюцца жыдоўскія аддзяленьні пры вячэрніх партыйных школах. Існуюць два жыдоўскіх рабочых унівэрсытэты—у Менску і Бабруйску, 4 школы для ўзрослых, 5 вячэрніх школ для моладзі і 90 розных гурткоў на жыдоўскай мове. Для масавай працы на жыдоўскай мове ў гарадох Беларусі прыстасавана 7 клюбаў і 30 клюбаў для кустароў. Акрамя гэтых, маецца 17 зьмешаных клюбаў.

О Пры жыдоўскай газэце „Вэкер" пачаў выходзіць дадатак—газэта жыдоўскіх піонэраў „Піонэр-Вэкер". Вышаў ужо трэці нумар; пры газэце згуртованы значны лік дзяцей — дапісчыкаў.

# З КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ У СССР

## РСФСР

О У Комуністычнай Акадэміі заложана сэкцыя літаратуры і мастацтва пад старшынствам В. М. Фрычэ, пры ўдзеле: В. Палянскага, В. Ф. Пераверзева, Плятнёва, І. Карніцкага, Фёдарава-Давыдава, сакратара сэкцыі Д. А. Горбава і інш. Апрацаваны плян працы на бліжэйшы час: дасьледваньне формальнага, рэфлекслогічнага і фрэйдысцкага мэтодаў вывучэньня літаратуры і мастацтва.

О У працягу апошніх месяцаў адбыўся шэраг выканаўчых вечароў саюзу пісьменьнікаў — „панядзелкі саюзу“. І. Новікавым было зачытана новае апавяданьне — „Таварыш з Тулы“. На вечары кароткіх апавяданьняў чыталі А. Грын, Л. Гумілеўскі. Адбыўся вечар мастацкай чыткі Закушняка. У саюзе адбылося ўшанаваньне Н. Целяшава — 40 гадавіна літаратурнай дзейнасьці. Адбыўся вечар апавяданьняў П. Раманава. Н. Бромлей чытаў сваю п'есу — „Кароль квадратнай рэспублікі“. Саюз пісьменьнікаў у бліжэйшы час прыступае да выданьня штотыднёвай „Літаратурнай газэты“.

О У самым пачатку справаздачнага пэрыоду Вышэйшы літаратурна-мастацкі імя Валерыя Брусава інстытут страціў свайго закладчыка і першага рэктара В. Я. Брусава. Вырашэньне шэрагу паўстаўшых на чаргу арганізацыйных пытаньняў: выбары новага рэктара і праўленьня, утварэньне і праца ў „комісіі па ўвекавечаньні памяці В. Я. Брусова“, „гуртку сяброў Брусава“, правядзеньне сіламі інстытуту цэлага шэрагу вечароў памяці нябошчыка, — усё гэта да некаторай ступені адцягнула навуковых супрацоўнікаў інстытуту ад бягучай справы ў яго дасьледчых габінэтах і часткова спыніла дзейнасьць апошніх.

О Аднак, да гэтага часу ўсе надзвычайныя організацыйныя пытаньні ўжо вырашаны, і акадэмічнае жыцьцё інстытуту ўступіла ў нормальную каляіну.

У працягу 1924 вуч. году творы студэнтаў ВЛМІ былі надрукованы ў шэрагу літаратурных органаў („Красная новь“, „Октябрь“, „Перевал“, „Красная нива“, „Огонек“, „Прожектор“, Ленінградзкі альманах „Ковш“, „Звезда“ і інш.). Друкаваліся працы студэнтаў: Арцёма Вясёлага, Акульшына, Алтаузэна, Гэрбстмана, Гэршэнзона, Казлова, Галоднага, Каўрычава, Прыблуднага, Сьвятлова, Скорыкава, Наседкіна, Троіцкага, Фёдарава, Яснага і інш.

Дзяржаўнае Выдавецтва выпускае шэраг прац студэнтаў ВЛМІ на мовах нацыянальных меншасьцяй. Сярод іх адзначаем зборнікі Гэрда (воцкая мова) і Віктарава (чуваш. мова), а гэтак сама пераклады (Шэксьпіра і інш.) на беларускай мове, якія робяць т. Дубоўка і Гаўрук. Група „Перавал“ яднае кола маладых рабоча-сялянскіх пісьменьнікаў і поэтаў, ставячы перад сабой, галоўным чынам, вытворчыя заданьні. З гэтага боку галоўная ўвага сяброў групы зьвернута на апрацоўку пытаньняў мастацкага выразу і аформленьня сапраўднасьці. Вось чаму вечары „Перавалу“ ня носяць паказальна - літара-

турнага характару, бліжэй падходзячы да студыйнай працы.

Не замыкаючыся ў гуртковую працу, група імкнецца аб'яднаць у свае шэрагі маладняк пісьменьнікаў рабочых, комсамольцаў, сялян, не абмяжоўваючы сваіх сяброў асобымі дэклярацыямі мастацкай творчасьці.

Разам з тым група імкнецца згуртаваць у лік сваіх сяброў ужо здолеўшых выявіць сябе майстраў слова, найважнейшых крытыкаў і публіцыстых. Увесь час з пачатку існаваньня ў рабочай групе прымаў самы актыўны ўдзел т. А. Варонскі, літаратурную позыцыю якога цалком падтрымоўвае „Перавал".

**Украіна.**

О З 11 па 14 сакавіка адбыўся 1 Ўсеукраінскі зьезд „Гарту". На зьезьдзе прымала ўдзел каля 50 дэлегатаў. На вячэрнім пасяджэньні 11-га сакавіка зьезд віталі Агітпроп ЦК КП(б)У,ВАПП, Усебеларускае аб'яднаньне поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк", „Плуг", рэдакцыі газэт, часопісяй, рабкоры, Бюро Сэкцыі працаўнікоў друку і інш.

Зьезд праходзіў пры вялікім напружаньні і гарачых дыскусыях па пытаньням—пляцформы „Гарту", яго адносін да цэнтра пролетарскіх пісьменьнікаў, працы ў масах, розных напрамкаў у працы і г. д. Спрэчкі набылі асабліва востры напрамак па справаздачы ЦБ „Гарту" і дакладу „Рэволюцыя і мастацтва".

Ня гледзячы на пэўныя і сур'ёзныя закіды і выступленьні рабкораў, прадстаўнікаў ВАПП'у, „Забоя" (саюз пісьменьнікаў Данецкага басэйну), „Плугу"—зьезд „Гарту" ні наколькі не зьмяніў позыцыі організацыі, адмовіўся ад прыняцьця пляцформы „Октября", ня прызнаў сыстэмы аб'яднаньня ўва Ўсесаюзным маштабе (адстайваў сыстэму Наркамасьветы) і цалком ухваліў правіловую політыку ЦБ „Гарту".

У часе зьезду была адчынена выстаўка твораў гартаўцаў, якая складалася з 55 назваў.

О Надоечы адбылося першае выступленьне новаорганізаванай Суполкі пролетарскіх пісьменьнікаў „Молат" у клюбе комунальнікаў. Сябра бюро Харкаўскай групы тав. Кірыленка азнаёміў прысутных з заданьнямі і мэтай утварэньня „Молату". Суполка „Молат" стала на пляцформу „Октября" і ставіць сваёй мэтай найцясьнейшую сувязь з рабкорамі Украіны і працу сярод шырокіх мас Украіны.

О Новая організацыя рэволюцыйных пісьменьнікаў „Жовтень" пачынае шырока разгортваць сваю працу. Нядаўна была ўхвалена пляцформа „Жовтня", у аснову якой паложана пляцформа „Октября" з нязначнымі зьменамі. Організацыя далучылася да рэзолюцыі Першай Ўсесаюзнай конфэрэнцыі пролетпісьменьнікаў. „Жовтень" выдае альманах, матэрыял якога ўжо здадзен у ДВУ. Організацыя працуе ў контакце з „Плугам".

О Чарговы нумар часопісі „Життя й революція", які выдаецца ў Кіеве на кошт ДВУ зьмясьціў анкету „Шэўчэнка для рэволюцыйнай сучаснасьці". Рэдакцыя зьвярнулася да ўсіх найвыдатнейшых політычных, навуковых і мастацкіх дзеячоў з запрошаньнем адгукнуцца на анкету.

О 22 сакавіка адбылося сьвята 5-гадовага юбілею газэты „Селянська Правда". Урачыстасьць праведзена ў залі „Селянського Будынку". Ад імя ВУЦВК'а і ЦК КП(б)У вітаў газэту Пятроўскі.

О 25 сакавіка адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне 5-гадовага юбілею 1 Дзяржаўнага Тэатру для дзяцей (Харкаў).

О Аддзелам мастацтваў Галоўполітасьветы Украіны зацьверджан статут капэлы кабзароў. Капэле будзе выдана субсыдыя ў ліку 3.000 р. на год. Назва капэлы „Художня капела кобзарів".

О Праводзіцца падрыхтоўчая праца па украінізацыі Харкаўскай Дзяржаўнай Опэры, для чаго складзен каштарыс і апрацаваны плян. Рэпэртуар мае на ўвазе павялічыць новымі опэрамі на украінскай мове, з якіх 2 опэры яшчэ нідзе пастаўлены ня былі.

Склад Опэры будзе папоўнены новымі украінскімі артыстымі.

О Наркамасьветы Украіны на свой кошт камандыруе на Міжнародную Парыскую выстаўку 17 асоб з мэтай азнаямленьня з Заходня-эўропэйскім мастацтвам. Экскурсантамі зьяўляюцца прадстаўнікі ад „Плуга“, „Гарту“ „ВУАПП‘у“, ад тэатру ім. Франка, „Березоля“, тэатру ім. Міхалічэнкі, музыкі і мастакі ад адпаведных арганізацый.

О Украінскі поэта Сосюра В. пераклаў з расійскай мовы поэму Блока—„12“.

О Панч Пётра канчае пераапрацоўваць аповесьць „Золоті Тавра“, ім-жа здадзена да друку ў ДВУ—кніжка абраных твораў пад назвай „Солом‘яний дим“ і ў „Кнігоспілку“—кніжка пад назвай „У містечку Б“.

О Ніліпенка С. пераклаў шэраг апавяданьняў з беларускай мовы пісьменьніка Цішкі Гартнага.

О Сенченка здаў да друку ў ДВУ аповесьць „Інженіри“, якая зьяўляецца працягам тых разьдзелаў, якія былі выдрукаваны ў альманаху „квартали“. Ён-жа пераклаў аповесьць з расійскага „Красные Д‘яволята“.

О Усенка П. перакладае шэраг вершаў з беларускай мовы.

О Шмігельскі выдрукаваў дзьве поэмы ў „Чырвоным Шляху“. Працуе над вялікаю вершаванаю аповесьцю. Рыхтуе да друку першы зборнік сваіх вершаў.

О Тычына П. выдаў зборнік вершаў „Соняшні кларнети“ трэцім выданьнем.

О Украінскі композытар Яноўскі—падаў на разгляд музыку да опэры „Суламіф“.

О Композытар Угліцкі прыслаў з Нью-Іёрку першую частку музыкі да опэры „Вій“.

# ХРОНІКА ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА ЗАХАДУ.

## Нямеччына.

О Пад рэдакцыяй поэты Е. А. Рэйнгардта (E. A. Rheinhardt) выдавецтва Ліста (Paul List) у Лейпцыгу выдае сэрыю сусьветных клясычных романаў. Сэрыя гэта, носячы назву „Ерікоп“, мае на мэце выявіць соцыяльнае значэньне роману і ўзаемаадносіны роману з стварыўшым яго асяродзьдзем.

Заключны том сэрыі будзе ахвяраваны пытаньням „Да соцыолёгіі роману“ („Zur Sociologie des Romans“). У ліку выданых кніг—романы Стэндаля, Іммэрмана, Мэрэдыт і Тургенева („Отцы и Дети“ ў перакладзе W. Bergengruen і B. Frau K). У далейшы час маецца на мэце выдаць романы Штыфтэра, Флёбэра, Бальзака, Сэрвантэса і расійцаў Талстога, Дастаеўскага і Гогаля. Сэрыя выдаецца ўважліва, асобныя тамы ўтрымоўваюць артыкулы найзначнейшых нямецкіх пісьменьнікаў і крытыкаў.

О З ліку выданых за апошні час романаў і зборнікаў апавяданьняў адзначаюцца ніжэйшыя:

Захапляючы чытача роман напісаны В. Гэгэльерам (W. Hegeler) „Der Apfel der Elisabeth Hoff“—„Яблыка Альжбэты Гоф“—выданы Нямецкім Выдавецкім Таварыствам Штутгарт—Бэрлін.

О Шмат рэцэнзій выклікаў за сабою роман В. Баума (V. Baum)— „Карлік Улі“—„Ulle der zwerg“. Роман дае яскравы малюнак карліка і яго трагічнага жыцьця.

Цікавым зьяўляецца і роман Ф. Мэйер-Эккардта (Y. Meyer-Eckhardt) „Мэбля пана Бэртэлемі“—„Die Móbel der Herrn Berthelmy“ (выд. E. Dieder ichs'a—Jena) з эпохі Француcкай рэволюцыі. Аўтар малюе архіварыуса — сібарыта, захопленага клопатамі аб звароце яму рэквізаванай мэблі, дзякуючы чаму зусім не заўважае ні рэволюцыі, ні гістарычных падзей яго часу.

О Цікавую антолёгію сучасных нямецкіх поэтаў склаў A. Sergel „Saat und Esnter—„Пасеў і жніво“ (Deutsches Yerlagshaus Bongund C-o, Бэрлін—Лейпцыг). У антолёгію ўвашло каля 120 поэтаў, паказаных вершамі па іх уласным выбары. Хаця-ж антолёгія гэта зьяўляецца далёка няпоўнай, аднак, дае цікавую карціну нямецкай поэзіі.

О Вышла з друку багата ілюстраваная кніга пра індускае мастацтва, складзеная Крамрышам (Kramrisch) —„Асноўныя рысы індускага мастацтва“ („Grundzüge der indischen Kunst“), выд. Avalun Verlag у Гэлеране).

О У выдавецтве Dieterichsche Verlags buchhandlung (Лейпцыг) вышаў гэтэўскі альманах-штогоднік на 1925 г. пад рэдакцыяй К. Гэйнемана (Heinemann). Асабліва цікавымі ў гэтым томе зьяўляюцца: артыкул рэдактара Heinemann'а пра самыя выдатныя зьявішчы гэтэўскай літаратуры за мінулы год, апавяданьне E. Ebermayer'а, маючае тэмай сьмерць Шылера і артыкул A. Hünich'a пра Гэтэ і яго выдаўцаў.

О Цікавая кніжка пра Азію, у большасьці пра разгорнутыя там ваенныя падзеі ў часе вайны 1914-1918 г. г. напісана А. Фішарам (A. Fischer). Выдавецтва Deu tsche

Verlag sans ta lt. Штутгарт, Бэрлін, Лейпцыг) „Orient“. Аутар прымаў чынны ўдзел у вайсковых дзеях ў Азыяцкай Турцыі і пазьней, у выступленьні Джэмаля-пашы супроць ангельцаў. У кнізе даецца жывая карціна сучаснай Азіі.

О У канцы сьнежня мінулага году сканаў швайцарскі пісьменьнік Carl Spittler—Кароль Шпітлер, атрымаўшы ў 1919 г. нобэлеўскую прэмію. Галоўны твор Шпітлера—эпічная поэма „Алімпійская вясна“ „Der Olimpische Frühling“. Агульна вядомым зьяўляецца і яго першая поэма „Prometheus und Epimetheus“ і роман „Imago“. Перад сьмерцю Шпітлер выдрукаваў сваю новую поэму „Prometheus der Dulger“.

О Кніжка І. Сталіна „Ленін і ленінізм“ вышла ў перакладзе на нямецкую мову ў Венскім выдавецтве Verlag für Literatur und Politik—I. Stalin „Lenin und Leninism“.

**Францыя.**

О У сярэдзіне красавіка г. г. ў Парыжы адчынілася міжнародная мастацка-прамысловая выстаўка, на якой у спэцыяльна пабудованым павільёне прадстаўлена мастацкая прамысловасьць СССР. Грунтоўным заданьнем павільёну СССР зьяўляецца выяўленьне новага побыту, адпаведна чаму на выстаўцы і разьмяркоўваюцца розныя напрамкі і бакі мастацкай прамысловасьці і культуры СССР.

У галоўным будынку прадстаўлены: кустарная прамысловасьць, фарфоравы завод, дэкорацыйны інстытут, мэбля, архітэктурныя проэкты, кераміка і інш. Побач з гэтым, у павільёне прадстаўлен шэраг нацыянальных куткоў, рабочы клюб і хата-чытальня: у гэтай-жа частцы павільёну прадстаўлены Дзярж. Выдавецтва, кніжкі прыватных выдавецтваў, рэволюцыйны плякат, паліграфічная вытворчасьць і інш. Нацыянальныя куткі—украінскі, беларускі, каўкаскі, бухарскі і інш.—адбіваюць у сабе нацыянальную самабытную мастацкую і кустарную прамысловасьць і культуру.

О Андрэ Брэтон (André Breton), адзін з тых, што стаіць на чале новай літаратурнай школы ва Францыі, выступаючай пад назвай „зьверхрэалізму“ (Surréalisme) нядаўна выдаў маніфэст („Manifeste du surréalisme“, выд. Sagittaire), у якім дае ніжэйшае тлумачэньне пра сваю школу.

„Зьверхрэалізм — гэта псыхічны аўтоматызм, пры дапамозе якога маецца на ўвазе выражаць альбо словам, пісьмом ці якім-небудзь іншым спосабам рэальную, фактычную дзейнасьць думкі. Дыктуемае думкай, пры поўнай адсутнасьці якога-небудзь контролю з боку развагі па-за ўсялякімі эстэтычнымі і моральнымі забабонамі“.

Зьверхрэалістыя проціваставляюць сябе рэалізму, на які глядзяць з агідай, позытывізму, дадызму, з якім, аднак, маюць шмат супольнага. Яны адмаўляюцца ад культуры, не прызнаюць існуючых літаратурных і філёзофскіх аўторытэтаў, як Франс, Вэрлен, Шэкспір, Флобэр, Бальзак, Сьпіноза, Платон, Віргілі і інш. Сваю кніжку Брэтон канчае аповесьцю „Poisson soluble“, якой ілюструе свае тэорэтычныя падставы.

О За 1924 г. часопісь „Revue de Paris“ выдрукавала шэраг романаў, якія карысталіся вялікім посьпехам; сярод гэтых романаў асабліва вызначаюцца: новы роман П'ера Бенуа „Puits de Iacob“ і выдрукаваны ў канцы году роман Ф. Морыяка (François Mauriac) „Dèsert de l'amur“.

У 1925 г. „Revue de Paris“ мае на ўвазе выдрукаваць романы ніжэйшых аўтараў—Анры дэ Рэнье „Divertissement provinciae“, Буайлева (Boylesve), Роні, (Rosny) (малодшы), Д'Эма (І D'Esma) Barbares“, Бойэ (І. Bojer). Будзе выдрукавана перапіска мадам де Сталь з графам O'Donnele і цэлы шэраг гісторыка-літаратурных і гістарычных твораў, у тым ліку артыкул Андрэ Моруа (Andre Maurois) пра Дызраэлі „Vie de Disraeli, vicomte Beaconsfield“.

О Вялікую ўвагу крытыкі і чытачоў зьвярнуў на сябе сваім романам „Etienne“ малады пісьменьнік Марсэль Арлан (Marsel Arland). У літаратурных колах лічылі, што вось за гэты роман будзе прысуджана прэмія Акадэміі Гонкураў. Роман—псіхолёгічны, напісаны з жарам і жвавасьцю; аднак прачуваецца ў ім ня зусім сталая рука мастака. Кніга вышла ў выд. Nonvelle Reveu française. У тым-жа выдавецтве вышла другая кніжка Арлана „La route obscure“, якая зьмяшчае ў сабе шэраг невялічкіх нататак на гістарычныя тэмы.

О Вялікую зацікаўленасьць у сучасны момант ва Францыі аддаюць францускаму пісьменьніку паловы мінулага сталецьця—Гобіно (Comte de Gobineau). З ліку досьледаў якія вышлі за апошні час, адзначаецца праца Морыса Ланга (Maurice Lange) Le Comte dc Gobineau; Don İuan et les Cousins d'İsis (выд. Mercure de France). Другая праца ўтрымоўвае шэраг новых дакумантаў і некалькі дагэтуль невядомых вершаў Гобіно. Выдавецтва B. Grasset выдала гэтак сама новае выданьне першага роману Гобіно „Le prisonnier chancesx“.

О Пра значную зацікаўленасьць, узьнікшую ў апошні час да творчасьці Мэрымэ, сьведчыць шэраг прац, якія зьявіліся адначасова ва Францыі, Швайцарыі і Англіі. Нядаўна ў Сорбоне чыталася дысэртацыя Pierre Trauhard П'ера Трагара пра Мэрымэ ў моладасьці. Эміль Анрыо (Emile Henriot) пасьвяціў гэтаму дакладу вялікі артыкул у „Temps“ (ад 30 сьнежня 1924 г). Трагар рэдагуе поўны збор твораў Мэрымэ, які рыхтуецца да выданьня.

О Са ўсіх твораў Анатолія Франса найбольшы лік выданьняў вытрымала „Чырвоная лілея“—398 выданьняў; затым ідуць „Таіс“—270 выд. і „Богі прагнуць“—259 выд.

О Выдавецтва „Librairie Larousse“ прыступіла да выданьня „Агульнай гісторыі народаў“, утрымоўваючай у сабе нарысы палітычнага, соцыяльнага і культурнага разьвіцьця шэрагу краін. Выданьне ўваходзіць у сэрыю „Collection in 4°“ і рэдагуецца Maxmie Petit, аўтарам шэрагу гістарычных прац. Да ўдзелу прыцягнуты вядомыя францускія гісторыкі, сябры Акадэміі Навук. Выданьне выходзіць пад загалоўкам „Histoire generale des peuples“.

**Чэха-Славакія.**

О І. Шторм выдаў кніжку „Савецкая Расія“, першае падрабязнае і об'ектыўнае апісаньне палітычнага, экономічнага і культурнага жыцьця СССР на чэскай мове (выдав. „Орбіс“).

О Выходзіць зборнік дакумантаў з архіваў СССР пра адносіны царскага ўраду да чэха-славацкага вызваленчага руху ў часы вайны, сабраныя і рэдагаваныя Яраславам Паноушкам. Большая частка гэтых дакумантаў, будучы выдрукавана ў газэце „Народни освободзени“ зрабіла моцнае ўраджаньне на чэскую палітычную грамадзкасьць, як яскравая ілюстрацыя глыбака-адмоўных адносін кіруючых колаў царскай Расіі да чэха-славацкай рэволюцыйнай барацьбы.

О Комуністычнае выдавецтва выдала два томы абраных твораў У. Леніна, у перакладзе на чэскую мову („Імпэрыялізм, як найноўшы этап капіталізму“ і артыкулы 1917 г.).

О Популярны комуністычны поэта Язэп Гора выдаў кнігі вершаў—„Бурная вясна“ і „Італія“.

О Яскравае зьявішча маладой славацкай поэзіі—зборнік лірыкі комуністычнага поэты Яна Роба Панічана—„Жыву, мару, адчуваю“.

*(Печ. и Рев.).*

*Рэдактар:* **Рэдакцыйная Колегія.** *Выдавец:* **Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.**

370

# ЗЬМЕСТ „ПОЛЫМЯ“ № 3.




Б. Д. В. № 92 Галоўліт 8417.

1-я Дзярж. друкарня. Зак. № 672 У ліку 2.000 экз.

1866°-36a